# Крыніца

2 (73)
2002
Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

# Крыніца

**№ 2** (73)
**2002**

Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

*Выдаецца са студзеня 1988 года*

**Заснавальнік:**
Саюз беларускіх пісьменнікаў

*Рэгістрацыйны нумар 630 ад 31 ліпеня 1996 года*





Выдаецца на беларускай мове
Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца
Пераносы асобных слоў зроблены паводле магчымасцей камп'ютэра



**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП, вул. Кісялёва, 11**
**e-mail:krynitsa@irex.minsk.by**

**Звaніце:**
**2-366-113, 2-366-142**



Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 12.02.2002. Фармат 60x84 1/16.
Папера афсетная № 1. Гарнітура «Peterburg». Афсетны друк.
Ум.друк.арк. 12,09. Тыраж 747 экз. Зак. 358.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.










# Уладзімір Арлоў

*У спакоі тваіх вачэй,*
*у смутку тваіх слёз,*
*у таемнасці тваіх слоў,*
*на дне твайго маўчання,*
*на ўзмежках спатканняў і расстаняў,*
*у плыні рэк і аўтастрадаў,*
*на вуліцы Ніжнепакроўскай у Полацку*
*і на берлінскай Unter den Linden,*
*на старонках старых фаліянтаў*
*і пад вокладкамі новых кніг,*
*у палёце птушак*
*і ў спевах марцовых катоў,*
*у вершах і некралогах,*
*у водары тваёй парфумы*
*і ў глыбінях твайго лона –*
*паўсюль сачу знакі таго,*
*што павінна здзейсніцца*
*ў гэтым стагоддзі,*
*паўсюль –*
*дзень пры дні –*
*сачу знакі*
*нашай Свабоды.*

*З табой:*

# *З Уладзімірам АРЛОВЫМ гутарыць Юры Станкевіч*

**Ю.Станкевіч**: Уладзімір, ты лёгкі на ногі і пабачыў свет. Пабываў у Еўропе, за акіянам. Што ты можаш сказаць пра гэты свет цяпер, калі прыйшла сталасць? Які ён, на твой погляд? Дасканалы? Можа — наадварот? Проста цярпімы?

**У.Арлоў**: Рызыкну сцвярджаць, што я пабачыў свет не толькі дзякуючы падарожжам у прасторы, але і ў выніку вандраванняў у часе. Маю на ўвазе як свой уласны шлях, пачаты ў радзільні, што месцілася на Верхнім замку ў Полацку, за сотню крокаў ад святой Сафіі, так і шлях маіх герояў, чые жыццёвыя маршруты пралеглі ў розных стагоддзях.

Адной з найістотнейшых высноваў, зробленых мною з гэтага досведу, стала перакананне, што з часоў антычнасці свет мяняўся толькі знешне. А вось чалавек, якога філосаф і паэт XVII ст. Мацей Казімір Сарбеўскі называў сімвалам свету (на той падставе, што ён утрымлівае ў сабе дасканаласць усяго існага), — гэты чалавек за некалькі тысячагоддзяў, на маю думку, ані не змяніўся. Адбываецца навукова-тэхнічны прагрэс, але прагрэсу маральнага не існуе. (Дарэчы, а ці існуе, у такім разе, нейкі поступ у літаратуры і мастацтве наогул? Ці існуе эстэтычны прагрэс? Так, узнікалі і заставаліся ў гісторыі новыя плыні, школы, стылі, формы, але хто насмеліцца сцвярджаць, што, напрыклад, Шэкспір перасягнуў Эсхіла, а Іосіф Бродскі — Гамера?)







Матрыца гісторыі зноў і зноў удрукоўвае ў рэчаіснасць розных эпох тыя ж спрадвечныя сітуацыі маральнага выбару: здрадзіць або захаваць вернасць; застацца, насуперак усяму, сабою або здратаваць уласную душу, спасылаючыся на абставіны; служыць незаконнай, няправеднай уладзе або супроцьстаяць ёй... Іншая рэч, што ў жыцці народаў і краін ёсць перыяды, калі ўзнікаюць варункі, спрыяльныя для выяўлення лепшых або горшых якасцяў чалавечае натуры. Напрыклад, гады гітлерызму ў Нямеччыне і сталінізму ў СССР. Тут можна знайсці пэўныя аналогіі са светам мікрабіялогіі: як вядома, існуюць мікраарганізмы, найпершай умоваю жыццядзейнасці якіх ёсць адсутнасць кіслароду.

Свет у маім разуменні — жорсткі і абсурдны. Я ніколі не належаў да тых, хто знаходзіў у ім усеагульную гармонію і суладнасць. На маю думку, дамінантай гэтага свету з'яўляецца хаос. Але я ведаю, прынамсі, два сродкі змагання з гэтым хаосам і абсурдам: каханне і творчасць.

**Ю.С**.: Творчасць... Але ж для некаторых значных і прагучаўшых у апошні час твораў замежнай літаратуры, у прыватнасці, французскага пісьменніка Мішэля Уэльбека, паўднёваафрыканскага Джозэфа Кутзэе, італьянскага Альда Новэ і г.д. характэрныя матывы крайняга песімізму. Нават расійскі кінарэжысёр А.Сакураў, аўтар знакамітага “Цяльца”, увогуле прама заявіў, што мэта яго дзейнасці — "...падрыхтоўка чалавецтва да смерці”. У чым, па-твойму, тут хвароба? Які дыягназ можна паставіць адпаведна гэтай літаратурнай сімптаматыцы? Хвароба цывілізацыі, свету? Тым больш што аналагічныя матывы ў нейкай ступені ўласцівыя і тваёй прозе?

**У.А.:** Я паспрачаўся б наконт залішне катэгарычнай, з майго гледзішча, характарыстыкі творчасці згаданых табой пісьменнікаў. Да прыкладу, такія навелы Альда Новэ *(Aldo Nove),* як “Маладыя пісьменнікі” альбо “Прывід з блакітнай п...й”, асабіста мною ўспрымаюцца зусім не як песімістычныя, а наадварот, як насычаныя (часам аж занадта) вітальнаю сілай. Гэтага, безумоўна, не скажаш пра раман “Знявага” *(“Disgrace”)* двойчы Букераўскага лаўрэата Джозэфа Майкла Кутзэе *(J.M. Coetzee)*. Але тут сюжэт густа замяшаны на тыпова паўднёваафрыканскіх расавых праблемах, на праблемах краіны, дзе белы

чалавек, разлічваючыся за доўгі перыяд свайго панавання, сапраўды не мае падстаў з аптымізмам глядзець у сваю будучыню.

А вось наконт ацэнкі рамана “Элементарныя часцінкі” Мішэля Уэльбэка *(Michel Houllebecq)* я з табой пагаджуся.

Відаць, тых чытачоў “Крыніцы”, якія не ведаюць разгляданага намі тэксту, варта хоць крыху пазнаёміць з яго зместам. Геніяльны біёлаг вынаходзіць сродак бясконцага паслядоўнага рэпрадукавання клеткі. У выніку любая жывая істота, на якім бы высокім узроўні развіцця яна ні стаяла, можа быць трансфармаваная ў падобную, але такую, што размнажаецца шляхам кланавання і праз гэта робіцца неўміручай.

Эпілог рамана напісаны ўжо ад імя прадстаўнікоў новае расы, эра якой у рамане Мішэля Уэльбэка пачынаецца ў 2029 годзе.

“Мы жывём, разарваўшы апошнія повязі з чалавецтвам. Паводле чалавечых меркаванняў, мы жывём шчасліва; мы і напраўду ўтаймавалі сілы, непераможныя ва ўяўленні людзей: эгаізм, гнеў, жорсткасць... Навука і мастацтва па-ранейшаму існуюць, але пагоня за Ісцінай і Прыгажосцю, якую ўжо не натхняе, як раней, бізун асабістага славалюбства, па сутнасці, не мае такога актуальнага характару. У людзей старадаўняй расы наш свет пакідае ўражанне раю. Зрэшты, часам і мы самі — праўда, у крыху гумарыстычным духу — называем сябе “багамі”, пра што людзі некалі так марылі”.

Відаць, варта працягнуць цытату, каб даведацца, якую характарыстыку даюць “удзячныя нашчадкі” сваім стваральнікам — чалавечай цывілізацыі.

“Гэты шматпакутны і подлы род, які не вельмі адрозніваецца ад малпаў, тым не меней, меў высакародныя надзеі. Хваравіты, абцяжараны супярэчнасцямі, прыхільнік індывідуалізму, задзірлівы, бязмежна эгаістычны, часам здольны на жудасныя выбухі гвалту, род гэты ўсё ж ніколі не пакідаў верыць у дабро і любоў... Цяпер, калі згасаюць яго апошнія прадстаўнікі, мы лічым дарэчным аддаць чалавецтву апошнюю даніну павагі...”

Калі казаць пра дыягназ, то такія творы, безумоўна, вырастаюць з крайняй разгубленасці чалавека ці, праўдзівей, інтэлектуала перад будучыняй, якая — у выніку імклівага і ў вельмі нязначнай ступені кантраляванага навукова-тэхнічнага поступу — робіцца абсалютна непрадказальнай. Дакладней, прадказальнай у эсхаталагічным сэнсе.

Што да маіх твораў, то яшчэ да з’яўлення рамана “Элементарныя часцінкі” не толькі ў перакладзе, але і ў арыгінале, я напісаў версэт “Спроба завершанага жыццяпісу”, дзе паспрабаваў вызначыць дату завяршэння свайго зямнога шляху. Справа, дарэчы, надзвычай небяспечная: гісторыя літаратуры ведае безліч прыкладаў, калі падобныя прадказанні збываліся. Выразна ўсведамляючы гэта, я выкарыстаў гістарычны шыфр, паведаміўшы цікаўнаму чытачу, што тое здарыцца ўлетку, “калі споўніцца тысяча гадоў князю Усяславу Чарадзею”. Дакладна тады ж, паводле Мішэля Уэльбэка, у народжаным яго ўяўленнем свеце з’явіўся першы прадстаўнік новай разумнай расы, створаны чалавекам “на свой вобраз і падабенства”.

Здаецца, мае прадказанне ўсё ж больш аптымістычнае.

**Ю.С.:** З творчасцю мы на нейкі час разабраліся. Ну, а такі сродак, па-твойму, як каханне? Хіба яно здольнае змагацца з хаосам? Тыя ж згаданыя намі аўтары даюць канкрэтны адказ. І ён, на жаль, негатыўны. І, на мой сціплы погляд, мы маем справу не толькі з апакаліптычным вынікам сексуальнай свабоды ў канцы мінулага стагоддзя, а ўвогуле з катастрофай свядомасці. Малпа, так бы мовіць, зноў становіцца малпай. Канчаткова. Ідэя ну, скажам, звышчалавека, што нават цікава, адрынута са зласлівым і радасным хіхіканнем. Ну, а каханне? Як, дарэчы, яго разглядаць? Як не зусім дасканалы варыянт размнажэння? А для жывой матэрыі важна толькі апошняе... І толькі.

**У.А.:** Ты хочаш сказаць, што прапанаваныя мною сродкі — не універсальныя. Не буду спрачацца. У некага ўжо само слова “каханне” выклікае алергію. Як, зрэшты, і “творчасць”. Але ж адсюль не вынікае, што гэтых стваральных і, як мне ўяўляецца, вечных (прынамсі, пакуль існуе чалавецтва) з’яў не існуе і што яны не прыносяць нам паратунку.

За сексуальную свабоду сучасная цывілізацыя атрымала свой Гран-пры ў выглядзе СНІДу. Гэтая хвароба як быццам пасланая Найвышэйшым розумам, каб нагадаць, што чалавек — не ўсемагутны, а слабы і разгублены.

Каханне як не зусім дасканалы варыянт размнажэння? Між іншым, адсутнасць дасканаласці — і ў каханні, і ў творчасці — нельга разумець адназначна, як хібу. На маю думку, геніяльныя літаратурныя творы якраз пазбаўлены дасканаласці. А дасканалыя не бываюць геніяльнымі. Ты адважышся сцвярджаць, што “Вайна і мір” ці “Злачынства і пакаранне” — дасканалыя раманы?

Для жывой матэрыі, відаць, сапраўды важнае толькі размнажэнне. А для матэрыі разумнай? Можна паспрабаваць уявіць дасканалую сістэму размнажэння: адпаведныя камп’ютэрныя праграмы, банк агульных звестак і банк спермы, падбор аптымальных варыянтаў і г.д. Так бы мовіць, пераходны перыяд да дасканаласці абсалютнай (маю на ўвазе новую цывілізацыю Мішэля Уэльбэка).

У такім разе, чаму б не разглядаць каханне як геніяльны сродак прадаўжэння чалавечага роду?

**Ю.С.:** Дарэчы, твая аповесць “Краявід з ментолавым пахам” кранала гэтую тэму, тэму кахання. Але, лічу, крытыка не вельмі заўважыла і разабралася ў тваёй аповесці. Я, напрыклад, апрача нязвыклай для беларускай літаратуры тэхнікі пісьма, пабудовы сюжэта, знайшоў у ёй амаль клінічнае апісанне так званага “ціхага полтэргейсту”. Бывае і такі. Можа, сам меў дачыненне да такой з’явы?

**У.А.:** Не, не меў, але зацягнутымі ў падобны таямнічы вір аказаліся ў свой час мае сябры. У Мінску сапраўды была (а, найверагодней, ёсць і цяпер) кватэра, дзе раз-пораз сама сабою пачынала гучаць музыка Шапэна і адбываліся (працягваюць адбывацца?) іншыя апісаныя ў аповесці падзеі, якія немагчыма вытлумачыць у сістэме каардынат матэрыялістычнага светаўяўлення. А таму ўдзельнікі і відавочцы зазвычай імкнуцца такія падзеі не заўважыць або як найхутчэй забыць.

Калі казаць пра сябе, то мой розум для ўспрымання падобных з’яў заўсёды адкрыты. Рэч, напэўна, у тым, што мая бабуля Аўгіння, несумнеўна, мела стасункі з трансцэндэнтальнымі сіламі. Пад уплывам бабулі і яе сястры Грыпіны, што ў 30-я гады наогул адседзела за знахарства немалы тэрмін, я і сам у дзяцінстве адважваўся на рызыкоўныя эксперыменты і адчуваў магутную прысутнасць Невытлумачальнага. Зрэшты, пра гэта можна прачытаць у эсэ “Мой радавод да пятага калена, або Спроба пазбегнуць выгнання”.

**Ю.С.:** Неяк ты, Валодзя, пры выпадковай сустрэчы папярэдзіў мяне “не надта ўлазіць” у рызыкоўныя (акультныя) тэмы. Размова была пра аповед “Знак да нападу”, які я перадусім надрукаваў у “ЛіМе”. І тут я з табой мушу быць згодны. Небяспечна. Хаця, урэшце, адкуль нам дакладна ведаць, хто з нас калі і як “завершыць свой зямны шлях” і г.д.? У мяне часам такое адчуванне, што ўсе мы нібы “адсечаныя” ад нечага значнага і важнага.

**У.А.:** Гэтае адчуванне знаёмае і мне. Часам яно ўскладняецца яшчэ і тым, што ў псіхалогіі завецца *déjà vu* (у перакладзе з французскай — тое, што ўжо бачыў). Нібыта рухаешся па коле з дакладна вызначаным дыяметрам, за якім — сцяна з непразрыстага шкла, кшталту таго, што было ў “Краявідзе з ментолавым пахам”. З таго боку адбываюцца надзвычай істотныя для нашага жыцця падзеі і працэсы. Сувязь з імі не назавеш аднавектарнай, аднак яны ўплываюць на нас у нязмерна большай ступені, чым наадварот. Нам застаецца давяраць інтуіцыі і рызыкаваць.

Можна казаць і пра іншы аспект праблемы. Пра “адсечанасць” беларусаў ад свайго нацыянальнага космасу. Мо якраз гэта ты і меў на ўвазе. Большасць грамадзян сучаснай Беларусі, па сутнасці, застаюцца з нашага гледзішча апатрыдамі на сваёй уласнай тэрыторыі. І выдатна пачуваюцца, магчыма, лічачы апатрыдамі нас...

**Ю.С.:** Па словах Васіля Сёмухі з інтэрв’ю газеце “Свабода” ад 18 красавіка г.г. — цытую: “нас з Рыгорам Барадуліным і Уладзімірам Арловым выспяткам выгналі з “Мастацкай літаратуры”, выключылі з выдавецкіх планаў...” Ведаю, што такія сітуацыі перажываюцца балюча. Восем год на адным месцы — і раптам... Можа, ёсць жаданне выказацца?

**У.А.:** Такія падзеі сапраўды пакідаюць пэўны эмацыйны след. Але калі Васіля Сёмуху і Рыгора Барадуліна звольнілі на той фармальнай падставе, што яны дасягнулі пенсійнага ўзросту (у выдавецтве засталіся, здаецца, не меней за дзесятак іншых пенсіянераў), то ў маім выпадку сітуацыя склалася інакш. Балючыя перажыванні я сапраўды зведаў, аднак раней, калі мы з

калегамі з нашай рэдакцыі серыйных выданняў яшчэ працавалі, але ўсе задуманыя і распачатыя намі выдавецкія праекты ўжо былі (пасля рэферэндуму 1995 г. і нядоўгай інерцыі) спыненыя. Гаворка ідзе пра серыі "Галасы беларускага замежжа", "Літаратурныя помнікі Беларусі", "З вякоў мінулых", "Святыя зямлі Беларускай"... Пералік гаворыць сам за сябе.

Мы працавалі фактычна "ў шафу", як часам літаратар мусіць пісаць "у стол". Тым не менш, нават у такіх умовах існаванне нашай рэдакцыі тагачаснаму кіраўніку Камітэта па друку ўяўлялася непажаданым. Мяне і яшчэ некалькіх супрацоўнікаў звольнілі, а рэдакцыю расфармавалі.

Душу грэе тое, што праца наша не пайшла намарна. Большасць падрыхтаваных у рэдакцыі і спісаных у архіў "небяспечных" кніг (зрэшты, для тых, хто імкнецца паставіць крыж на гістарычнай перспектыве беларусаў як самастойнага еўрапейскага народа, яны, гэтыя кнігі, сапраўды небяспечныя) ужо пабачыла свет у "Беларускім кнігазборы" ды іншых незалежных выдавецкіх структурах. Дапытліваму чытачу паведамляю некаторыя назвы: "Беларускія летапісы і хронікі", "Кастусь Каліноўскі. Творы. Дакументы", "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі"...

Варта адзначыць адну забаўную акалічнасць. Афіцыйнай прычынаю майго звальнення ў загадзе было названае скарачэнне штатаў, але ў Камітэце па друку мне паказалі паперу, дзе рука высокапастаўленага чыноўніка (назавём яго таварышам *Z.*) пакінула рэзалюцыю, якая павінна зацікавіць будучых даследчыкаў гісторыі і культуры Беларусі канца XX стагоддзя: *"Окончательно решить вопрос относительно сотрудников, занимающихся выпуском исторической и другой сомнительной литературы"*.

**Ю.С.:** Паколькі я цябе, Валодзя, найбольш паважаю і цаню як празаіка, то што можна чакаць ад цябе ў гэтым напрамку ў бліжэйшы час? Што менавіта — у агульных рысах, бо падрабязна і сам не люблю расказваць наперад.

**У.А.:** Тут праблема, відаць, не ў тым, люблю ці не люблю, а ў тонкіх тэхналогіях творчасці. Анансаванне яшчэ не напісанага сапраўды можа запаволіць, а нават і цалкам перакрэсліць працу. Асабіста ў мяне менавіта так і бывае. Мне ўяўляецца, што ў дадзеным выпадку мы маем, умоўна кажучы, дзве злучаныя ўзаемазалежныя энергетычныя ёмістасці, і страта энергіі ў адной (назавем яе вербальнай) непазбежна цягне за сабой змены ў другой. Дарэчы, ва ўсе часы гэта выдатна разумелі ці адчувалі літаратурныя мэтры. Нездарма ж, да прыкладу, Рамэн Ралан, ствараючы свайго "Кала Бруньёна", схаваўся ад усяго свету і прамовіў першае слова ўголас толькі тады, як паставіў апошнюю кропку.

Таму я, з твайго дазволу, скажу пра тое, што ўжо зроблена, але яшчэ не сустрэлася з чытачом. З 1994 года не выходзіла ў кніжным фармаце мая гістарычная проза. Напэўна, з гэтае прычыны з нейкім нязвыклым хваляваннем чакаю кнігу "Сны імператара", што ў серыі "Беларуская проза XX стагоддзя" выдае "Мастацкая літаратура". З'яўленне кнігі (між іншым, яна сабрала вялікую колькасць замоваў — болей за 4 тыс. экз.) можна было б разглядаць як знак таго, што пад ціскам працэсаў нацыянальнага самаўсведамлення, якія, насуперак сённяшняй сітуацыі (а часам і непасрэдна дзякуючы ёй), працягваюцца і набіраюць моцы, "Мастацкая літаратура" ўсё ж вернецца да сістэматычнага выдання "исторической и другой сомнительной литературы". Тым самым можа істотна палепшыцца і незайздроснае фінансаванне становішча "Мастацкай". Бо якраз кнігі з названых мною спыненых серый хутка разыходзіліся і займалі першыя месцы ў рэйтынгах чытацкай папулярнасці. Неабходна аднавіць і не менш папулярную серыю "Скарбы сусветнай літаратуры". Апошняя кніга з яе — "Боская камедыя" Дантэ Аліг'еры ў перакладзе Уладзіміра Скарынкіна — пабачыла свет ажно ў 1997 годзе.

Але вернемся да твайго пытання. Магу дадаць, што цыганская частка маёй крыві па-ранейшаму натхняе мяне на блізкія і далёкія вандроўкі, пасля якіх звычайна нараджаюцца падарожныя эсэ. Чытачы ведаюць іх па кнігах "Мой радавод да пятага калена" і "Божая кароўка зь Пятае авэню". Новыя тэксты гэтага жанру, магчыма, складуць трэцюю кнігу. Рабочая назва — "Задніца Еўропы". У аднайменным эсэ гаворка ідзе зусім не пра нашу краіну, аднак баюся, што выдаўцы ўсё адно палічаць назву занадта эпатажнай.

**Ю.С.:** Ты яшчэ даволі малады пісьменнік. Тым не менш,

у цябе ўжо неблагі літаратурны лёс: аўтар 20 кніг прозы, паэзіі, гістарычных нарысаў і эсэ, узнагароджаны медалём Ф.Скарыны, прэміяй імя У.Караткевіча, літаратурнай прэміяй імя Ф.Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтра і г.д. А што ты сам? Знайшоў свой Шлях, скажам так, ці пошукі яшчэ працягваюцца? Бо ўсё-ткі, як кажуць японцы ў сваім маральна-этычным кодэксе паводзін, "задавальненне адбываецца ад усведамлення дасягнутай мэты, а не ад набытых каштоўнасцяў..."

**У.А.:** Кніг ужо нават болей. Нядаўна ў Польшчы выйшаў зборнік маёй прозы *"Requiem dla piły motorowej"*. Аднак колькасць кніг — крытэрый надзвычай хісткі. Хрэстаматыйны прыклад — Максім Багдановіч з ягоным адзіным прыжыццёвым "Вянком".

Мяне ў гэтай сітуацыі суцяшае тое, што я маю і кнігі, і чытачоў. У маім архіве захоўваюцца болей за дзве сотні лістоў, атрыманых пасля першага выдання кнігі гістарычных эсэ "Таямніцы полацкай гісторыі". Зусім незнаёмыя мне людзі з Беларусі і васьмі іншых краінаў даслалі заўвагі, дакументы, успаміны — свае ці сваіх продкаў. Цяпер рыхтуецца да друку ўжо чацвёртае выданне "Таямніцаў". Неўзабаве з'явіцца трэцяе за тры гады выданне кнігі "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі", напісанай у сааўтарстве з Генадзем Сагановічам. Апрача ўсяго іншага, гэта сведчыць пра ўсё большую запатрабаванасць гістарычнай літаратуры. Зыходзячы з уласнага досведу, асмелюся выказаць думку, што нашага чытача сёння вабіць не столькі чыста мастацкая літаратура гістарычнай тэматыкі, як гістарычныя эсэ, дакументальныя або грунтоўна ўдакументаваныя творы. Чытач дасягнуў таго ўзросту, калі хоча пераканацца, што падзеі і асобы, якіх ён ведае з раманаў і аповесцяў, насамрэч адбываліся і існавалі, што яны — не плён фантазіі Уладзіміра Караткевіча, Кастуся Тарасава, Вольгі Іпатавай або твайго візаві.

Але сцвярджаць на гэтай падставе, што знойдзены свой Шлях (ты ж яго, відаць, не выпадкова пішаш з вялікай літары) было б проста наіўна. Ці варта пісьменніку наогул адказваць на такія пытанні, не баючыся падацца смешным? Пагатоў, калі яшчэ не ляжыш на Божай пасцелі. Ну, хіба што можна нешта сказаць у самых агульных рысах.



Шлях (з малой літары) знойдзены ў тым сэнсе, што я — перадусім літаратар, што я назаўсёды ўтруціўся ў гэтую гульню, што гэта сталася маім лёсам. Памятаецца, пасля з'яўлення першых кніжак самалюбства цешылася выслоўем Картасара: я гуляю ў пісьменніка, і гульня можа стацца смяротнаю.

Маральна-этычныя кодэксы японцаў мяне, шчыра кажучы, цікавяць мала. Ментальна мы пакуль застаёмся еўрапейцамі, хоць "золотая дремотная Азія" (пра якую, маючы на ўвазе Расію, пісаў Ясенін) і пагражае нашаму менталітэту праз экспансію сваёй квазікультуры і свайго набору ідэй, абсалютна непрымальных для нас, калі мы, вядома, не згодныя страціць саматоеснасць (зазначу ў дужках яшчэ тое, што я з вялікай трывогаю думаю пра лёс некаторых нашых суайчыннікаў і калег, якія спрабуюць стаць паслядоўнікамі ўсходніх філасофска-рэлігійных вучэнняў).

У пісьменніцкай працы прыярытэт для мяне — не дасягнутая мэта і не набытыя каштоўнасці, а сам працэс. Калісьці пра гэта бліскуча сказаў Алесь Разанаў: "Я — шлях і я той, хто па ім ідзе".

**Ю.С.:** Вядомы французскі філосаф-эсэіст Эміль Мішэль Чаран са здзіўленнем задаў неяк пытанне: "Дык што — гісторыя — гэта суцэльны здзек і ў яе няма ніякай мэты?", бо "ва ўсе часы людзі змагаліся і ахвяравалі сабой дзеля карысці свайго яўнага ці патэнцыйнага ворага: дзеячы Рэвалюцыі стараліся дзеля Банапарта, Банапарт — дзеля Бурбонаў, Бурбоны — дзеля Арлеанаў і г.д." Што ты як аўтар гістарычных нарысаў і эсэ можаш сказаць на гэты конт, у прыватнасці, кінуўшы вокам і на нашу сітуацыю?

**У.А.:** Калі разважаць у такім парадаксальна-скептычным рэчышчы, то атрымліваецца, што, напрыклад, Каліноўскі і яго паплечнікі аддалі жыццё дзеля карысці Мураўёва-вешальніка і зграі іншых русіфікатараў-шавіністаў, якія пасля задушэння паўстання 1863—1864 гадоў атрымалі неабмежаваныя магчымасці. У такім разе, стваральнікі Беларускай Народнай Рэспублікі дзейнічалі ў канчатковым выніку на карысць першага Прэзідэнта Беларусі. Абсалютна відавочна, што ён мусіць згадваць айцоў БНР не інакш, як з глыбокай павагай і ўдзячнасцю. Бо, каб не абвяшчэнне незалежнасці БНР, бальшавікі не

пайшлі б на ўтварэнне БССР, а значыць, не існавала б і сённяшняй Рэспублікі Беларусь з пасадаю яе прэзідэнта. А мы з табой, Юра, сядзелі б зараз не ў рэдакцыі беларускага часопіса, а дзе-небудзь на блок-посце пад Урус-Мартанам, чакаючы чачэнскае кулі.

У разважаннях Мішэля Чарана, безумоўна, прысутнічае свая логіка, але ягонае пытанне трэба запісаць у разрад чыста палемічных. Адзінае, з чым я пагаджуся, — з тым, што ў гісторыі няма мэты. Бо мэту можа мець толькі кіраваны працэс. А хто, скажы мне, кіруе гісторыяй? Усе спробы ператварыць яе ў паслухмяную нечай волі мадам скончаліся тым, што Кліо проста здзекавалася з іх з уласцівымі ёй вынаходлівасцю і жорсткасцю.

Тут можна, вядома, успомніць Арнольда Тойнбі, што ўяўляў рух гісторыі як няспынны дыялог паміж Логасам, або Найвышэйшым Розумам, і цывілізацыяй, калі народ або нацыя атрымліваюць Выклік і павінны даць на яго годны Адказ. Калі ж выклік зноў і зноў застаецца без адказу, нацыя сыходзіць з гістарычнай сцэны ў Лету. Надзвычай актуальна, як ты разумееш, для нашай сённяшняй сітуацыі, калі гістарычная перспектыва краіны пад пытаннем.

Аднак і паводле канцэпцыі Тойнбі мэта гістарычнага руху застаецца для чалавецтва непраяўленай...

Існуе безліч дэфініцыяў гісторыі. У антычнай старажытнасці яе называлі мацерай усіх навук і настаўніцай жыцця. Вось толькі вучні ў гэтай настаўніцы заўсёды былі непамятлівыя.

Напалеон аднойчы афарыстычна заўважыў, што гісторыя — гэта плоць часу. Вярнуўшыся бліжэй да літаратуры, можна згадаць Аляксандра Дзюма-старэйшага: "Гісторыя — цвік, на які я вешаю свае палотны".

Для мяне гісторыя — найперш уваскрашэнне. Уваскрашаючы падзеі нашай больш чым 1000-гадовай даўніны, мы абуджаем ад летаргічнага сну сваю гістарычную памяць, а разам з ёю і самі ўваскрасаем як нацыя, як частка еўрапейскай цывілізацыі.

Ёсць і такое азначэнне: гісторыя — кніга, якую пішуць пераможцы. Мне хочацца адрэдагаваць яго: гісторыя — кніга, якую трэба пісаць, каб перамагчы.



Я з аптымізмам гляджу ў мінулае. Часам у анкетах у графе "Краіна нараджэння" я пішу: "ВКЛ". Дарэчы, з гэтым скаротам мне ўдалося нават пераадолець некалькі сучасных дзяржаўных межаў.

**Ю.С.:** Што ж, магчыма, мы маем тут справу не з гісторыяй як такой, а з няздольнасцю яе прадукта — гома сапіенса — кіраваць працэсам свайго ж гістарычнага шляху. Дый нават пра сам Шлях... — тысячы версій будуць згаданы і аспрэчаны, перакручаны і зганьбаваны...

**У.А.:** І гэта яшчэ раз засведчыць, што гісторыя не мае мэты. Або што нам не дадзена яе спасцігнуць.

**Ю.С.:** На маю думку, у табе просіцца на волю талент сатырыка. Можа, паспрабуеш зрабіць што-небудзь у гэтым напрамку? Напісаць раман, аповесць?

**У.А.:** Тут табе ніякіх звестак выцыганіць не ўдасца. Прычыну я ўжо тлумачыў. Вось як гэты талент (калі ён ёсць) вырвецца на волю, у сэнсе на паперу, тады і пагаворым.

**Ю.С.:** У трох сказах — пра апошні пісьменніцкі з'езд...

**У.А.:** Мне, бадай, хопіць і двух. Расколоць Саюз пісьменнікаў або ператварыць яго ў структуру, цалкам падкантрольную ўладзе, не ўдалося. А праблема дачыненняў творцы і ўлады застаецца датуль, пакуль грамадства будзе несвабодным.

**Ю.С.:** Дарэчы, а як ты ставішся да тэндэнцыі рэзкага павелічэння колькасці сяброў Саюза пісьменнікаў Беларусі?

**У.А.:** Не сказаў бы, што гэтае колькаснае буянне забяспечанае рэзкімі зменамі ў літаратурнай сітуацыі, напрыклад, шырокім наступам таленавітай моладзі. Такая моладзь (і не толькі моладзь), бясспрэчна, ёсць, але якраз яна нярэдка ў Саюз і не точыцца. Скажам, адзін з нашых найцікавейшых сучасных празаікаў Вінцэсь Мудроў, пра якога піша ў сваёй кнізе, прысвечанай беларускай літаратуры ХХ стагоддзя, англійскі славіст і літаратуразнаўца Арнольд Макмілін.

Часам я перагортваю старонкі тэлефоннага даведніка СП і з лёгкім жахам сустракаю там дзесяткі абсалютна незнаёмых мне прозвішчаў нібыта калег, чый унёсак у айчынную літаратуру застаецца для мяне кнігаю за сямю пячаткамі.

Чую галасы апанентаў: маўляў, добра, калі ў "глыбінцы", у раёне ёсць хоць адзін "наш чалавек", літаратар. Напэў-

на, сапраўды добра. Не піша чалавек нічога, не друкуе, дык няхай сустракаецца з вучнямі, ладзіць нейкія імпрэзы, самой сваёй прысутнасцю нагадваючы культуртрэгерам, што тут — Беларусь. Суцяшаюся, што так і ёсць.

**Ю.С.:** Але ёсць тэндэнцыі больш трывожныя. З гэтай нагоды ўспамінаецца Пазаліні, які гаварыў пра ўварванне людзей са “зласлівымі тварыкамі гаспадаркоў”. На жаль, і некаторыя маладыя, прынятыя нядаўна ў Саюз, на маю думку, адпавядаюць гэтаму вызначэнню. А пісьменнікі, на мой сціплы погляд, у сувязі з кананічнай адарванасцю ад жыцця царквы, увогуле заняпадам хрысціянства, павінны ў некаторай ступені браць на сябе і функцыі святароў. Тым больш — у час татальнай “катастрофы свядомасці”, пра якую мы згадвалі вышэй.

**У.А.:** Святарскія функцыі літаратара... Ты ведаеш, я ўсё ж прыхільнік таго, каб царква была аддзеленая і ад дзяржавы, і ад літаратуры. Беларускім пісьменнікам і без таго хапае клопату. Пісьменнік у Польшчы, Літве ці, скажам, у якой-небудзь Францыі не адчувае на плячах такога цяжару ад сваёй місіі захавальніка мовы, культуры, нацыянальнай ідэі, урэшце, гістарычнай перспектывы краіны. Там усё гэта забяспечваецца і сталасцю нацыі, і адпаведнай палітыкай дзяржавы.

Любы крыху адукаваны чалавек чуў пра Карфаген. Але не кожны ведае, што карфагенцы мелі досыць спецыфічную культуру: стварылі, напрыклад, выдатныя агранамічныя трактаты, але чамусьці “забыліся” пра мастацкую літаратуру, якой у іх наогул не існавала. На маю думку, гэта непасрэдна спрычынілася да паразы Карфагена ў Пунічных войнах і таго, што вядомая пастанова рымскага сената аб разбурэнні горада-суперніка была паспяхова выканана (у чым я пару гадоў таму меў магчымасць пераканацца ўвачавідкі).

Дзякуй Богу, мы мастацкую літаратуру стварылі. Таму цяпер і ёсць на палітычнай мапе свету краіна Беларусь. А ўяві, што станецца, калі беларуская літаратура замаўчыць? Або калі ператворыцца ў мёртвую літаратуру?

**Ю.С.:** У амерыканскай прозе з’явіўся “Футуралагічны каляндар на XXI стагоддзе”, складзены прадстаўнікамі самых вядомых у свеце навуковых часопісаў. У ім, у прыватнасці, адзначана: ..."2050 год”. Ва ўсіх цывілізацыях, краінах свету кніжны фонд перайшоў у Інтэрнет, людзі перасталі наведваць бібліятэкі, якія сталі “музеямі кнігі”... Калі ты, Валодзя, у 2050 г. (чаго табе шчыра жадаю) зойдзеш раптам у такі музей, то кнігі якіх пісьменнікаў захочацца табе “патрымаць у руках”?

**У.А.:** Наконт 2050 года — мая шчырая падзяка. Як ты памятаеш, я называў іншую дату, але гэтая — таксама прымальная. Пагатоў, мой новы пашпарт сапраўдны да 25 жніўня 2053 года, г.зн. — дзякуй роднай уладзе — якраз да стагоддзя ўладальніка.

Што да музеяў кнігі, то яны ёсць і цяпер. Напрыклад, у Полацку, маім родным горадзе, — цудоўны музей-бібліятэка Сімяона Полацкага, магчыма, адзін з найлепшых музеяў такога кшталту ва ўсёй Еўропе. Такія музеі, спадзяюся, будуць і праз пяцьдзесят гадоў, але абавязкова будуць і бібліятэкі ў сучасным разуменні гэтага слова. І асабістыя, і публічныя. І, можа, найперш менавіта ў цывілізаваных краінах, да якіх будзе належаць Беларусь.

Бо адна рэч — выцягванне з Інтэрнета інфармацыі, і зусім іншая — маўклівае беспасярэдняе сумоўе з кнігаю ў яе традыцыйным аблічны. Тут кардынальна іншы ўзровень успрымання!

Але пытанне, як разумею, не пра гэта, а пра пісьменнікаў, да слова якіх я захачу звярнуцца праз паўстагоддзя. Сёння назаву імёны Хуліо Картасара і Хорхе Луіса Борхеса, Васіля Быкава і Міхаіла Булгакава, Уладзіміра Караткевіча і Габрыеля Гарсія Маркеса, Генры Мілера і Мілана Кундэры... Спіс можна доўжыць. А за пяцьдзесят гадоў ён яшчэ папоўніцца. Ты, Юра, напішаш новыя рэчы, я — таксама. Захочацца ж і сябе, любімага, пагартаць...

**Ю.С.:** Хоць я асабіста і не лічу, што Беларусь у 2050 годзе будзе “належаць да цывілізаваных краін” (увогуле — ці будзе яна?), твой стаічны аптымізм, у нейкай ступені, гасіць пачуццё вялікай трывогі. Дзякуй за гутарку.

**У.А.:** Дзякуй і табе, Юры. А што да аптымізму, дык, як кажа адзін мой герой, розніца паміж аптымістам і песімістам — толькі ў прапанаванай імі даце канца свету.

*Травень 2000 г.*

Уладзімір АРЛОЎ

# Ордэн Белай Мышы

У адной невялікай, паводле еўрапейскіх сумераў, канстытуцыйнай манархіі насельніцтва складалася з аднаго караля, аднаго прэм'ера, аднаго шэфа службы бяспекі, аднаго міністра паліцыі, аднаго пракурора... У гэтай краіне быў адзін крымінальнік, адзін палітвязень і адзін палітуцякач. Адзін генерал камандаваў адным палкоўнікам, адным маёрам і адным капітанам. На ўліку ў адзіным прафсаюзе стаялі адзін будаўнік і адзін падрыўнік, адзін прафесар і адзін студэнт, адзін акадэмік і адзін цалкам непісьменны грамадзянін. Такое становішча існавала абсалютна ва ўсіх сферах. У краіне меліся ў наяўнасці адзін алкаголік і адзін наркаман, адзін сутэнёр і адна прафесійная выляжанка, адзін хворы на СНІД і адзін хворы на пранцы. У суседстве з адзіным уладальнікам шыкоўнай вілы ў смеццевым кантэйнеры жыў адзін бесхацінец. Сярод этнічных меншыняў перапіс зафіксаваў аднаго габрэя, аднаго татарына, аднаго паляка, адну асобу каўказскай нацыянальнасці, аднаго расейца і аднаго албанца. Сексуальныя меншыні нічым не вылучаліся: на аднаго гомасексуаліста прыпадала адна лесбіянка. Адпаведныя службы трымалі на воку аднаго грамадзяніна, якога падазравалі ў педафіліі, а таксама аднаго таемнага заафіла. Гэткі самы баланс захоўваўся і сярод прадстаўнікоў творчых прафесій: краіну цалкам задавальнялі адзін кампазітар, адзін архітэктар, адзін мастак, адзін актор, адзін журналіст і адзін пісьменнік.

Варта зазначыць, што хадзілі глухія чуткі, нібыта ў гэтай краіне не заўжды ўсё было ўладкавана так дасканала. Да прыкладу, казалі, быццам калісьці ва ўніверсітэце некалькі прафесароў чыталі лекцыі некалькім студэнтам, якім аднойчы заманулася разам са сваімі выкладчыкамі зачыніцца ў аўдыторыі і скласці бунтоўніцкую петыцыю. Але гэта ўжо іншая гісторыя. А наша адбывалася ў краіне, дзе ўсіх, паўтараю, было па адным, і гэтую акалічнасць неаспрэчна засведчылі сакрэтныя рэляцыі, таемна праслуханыя размовы, зробленыя схаванай камерай здымкі, перлюстраваныя лісты ды іншыя пісьмовыя, аўдыё- і відэаматэрыялы, на аснове якіх аўтар і рэканструяваў падзеі.

Адзін раз на дзень з дакладам да караля з'яўляўся шэф службы бяспекі – невысокі таўстун з вусікамі і бародкай-эспаньёлкай, які больш нагадваў не чалавека сваёй суровай прафесіі, а лекара, што мае прыбытковую практыку і схільнасць да эпікурэйства.

З ранішняга даклада нязменна вынікала, што ў краіне пануе стабільнасць і адбываюцца выключна пазітыўныя працэсы. А менавіта: растуць аб'ёмы вытворчасці, адукацыйны ўзровень і спажыванне карысных для народа прадуктаў харчавання (у тым ліку алкаголю), а таксама няўхільна паўзе ўгору паказчык нараджальнасці, ад якой (што надзвычай важна ў справе стабільнасці) не адстае і смяротнасць.

Кароль зазвычай спыняў шэфа бяспекі, не даслухаўшы. Але аднаго разу даўні парадак быў парушаны.

Рэч у тым, што адзіны ў краіне ювелір нарэшце вырабіў на замову манарха адзіны ордэн, каб каралеўства займела і аднаго кавалера найвышэйшай дзяржаўнай узнагароды.

Узнагарода называлася ордэнам Белай Мышы 1-й ступені. Убачыць нешта незвычайнае ў такой назве мог толькі іншаземец, зусім не абазнаны ў мінуўшчыне гэтае краіны, бо ад школьных гадоў кожны яе грамадзянін ведаў, што мыш – старажытны сімвал тутэйшай дзяржаўнасці. Гістарычныя крыніцы сцвярджалі, што выява грызуна з вострай пыскаю і доўгім хвастом з'явілася на дзяржаўным гербе болей за пяцьсот гадоў таму, за часамі ўладарання аднаго з далёкіх і найвыбітнейшых продкаў цяперашняга манарха, які ўсе свае ўказы нязменна

завяршаў традыцыйнай формаю: "а таксама сядзець усім ціха, як мыш пад венікам". Адзінае, што змянілася ў дзяржаўным гербе за пяць стагоддзяў,— гэта колер. Старажытная шэрая мыш пакрысе святлела і ўжо ў мінулым стагоддзі набыла шляхетны белы колер, што ў геральдыцы, як вядома, адпавядае срэбру і азначае чысціню, дабро і незалежнасць.

Ордэн ляжаў перад каралём на пурпуровай ядвабнай падушачцы і вясёлкава ззяў усімі сваімі эмалямі і дыяментамі.

Кароль паводле завядзёнкі не даслухаў даклада, але не адправіў свайго візаві далей мацаваць бяспеку, а запытаўся, каго той бачыць кавалерам першай і адзінай дзяржаўнай узнагароды. Шэф галоўнай службы краіны колькі разоў пакратаў эспаньёлку, што магло азначаць лёгкую збянтэжанасць. Стары надзейны паплечнік манарха, пэўна ж, ведаў, хто заслугоўваў ордэна нязмерна больш за ўсіх астатніх, аднак вырашыў перамаўчаць.

А кароль або яшчэ не вызначыў найбольш заслужанага кандыдата, або сумняваўся, бо засяроджана праглядаў спіс сваіх падданых. У глыбокім одуме ён нават ссунуў сызвалоснік, і яго плех заблішчэў у промнях ранішняга сонца, хоць і не так зырка, як ордэн. Трэба, карыстаючыся момантам, зацеміць, што кароль, не ўважаючы на згаданы плех, быў чалавек яшчэ досыць малады, павабны і поўны сілаў. Ён рэгулярна гуляў у тэніс і, надзеўшы дзеля скідвання вагі бронекамізэльку, гойсаў наролікавых іртах вакол сваёй рэзідэнцыі.

Нарэшце кароль адарваў вочы ад паперы і ўголас падумаў:

— А што, калі мы ўзнагародзім нашага пісьменніка?

Шэф бяспекі зноў пакратаў бародку. Аднак цяпер сітуацыя набыла канкрэтнасць, якую ён любіў і ў якой пачуваўся, як вугор у росным ранішнім гаросе.

— Гэта выдатная кандыдатура, ваша вялікасць,— сказаў уладальнік эспаньёлкі.— Але...

Кароль ускінуў брыво і атрымаў цвёрды працяг:

— ... у нас у краіне няма ніводнага чытача.

— Сапраўды? – не даў веры манарх. Ён зноў палез у спіс і знайшоў там аднаго астролага, аднаго канібала, аднаго чарнасоценца і аднаго чукчу, а вось чытача сапраўды не было.



Але жыхары краіны нездарма лічылі, што каралеўскае меркаванне цяжка пахіснуць.

— А чаму ты думаеш,— пачуў шэф бяспекі,— што гэта істотна? Мы ж збіраемся ўзнагародзіць пісьменніка, а не чытача. І потым сам пісьменнік, пэўна ж, чытае свае творы. Прынамсі, у той час, калі іх піша.

Шэф бяспекі зірнуў на ордэн і зноў перамаўчаў.

— Сёння я запрашаю пісьменніка на вячэру,— сказаў кароль.

Увечары кароль і пісьменнік сядзелі адзін насупраць аднаго за вытанчана сервіраваным сталом. Яны былі прыкладна аднаго веку, дзесьці паміж сарака і пяцццюдзесяццю гадамі, у пары мужчынскага росквіту, але калі кароль меў каштанавы сызвалоснік, то пісьменнік – натуральную шыкоўную фрызуру такога ж колеру, хоць ужо і кранутую высакароднай сівізною.

У барокавым інтэр'еры залы для вячэраў з блізкімі гасцямі роўна гарэлі ў старадаўніх срэбных кандэлябрах вялікія свечкі з няўлоўным тонкім водарам. Камін дыхаў духмянай цеплынёю, а побач, на зграбнай мармуровай кансолі, чакаў свайго ўладальніка ордэн Белай Мышы.

Утульнасці дадавала і прысутнасць маладой прыгожай жанчыны, якая таксама сядзела за сталом, але не поруч з каралём і пісьменнікам, а воддаль – так, што магла і чуць размову, і губляць яе нітку, калі б гаспадар з госцем прыцішылі галасы. Густыя, кучаравыя агнёва-жарыя валасы жанчыны, якія вольна падалі на аголеныя плечы, дзівосным чынам спалучаліся з глыбокім аквамарынам вачэй, прыводзячы на памяць гераіняў Гофмана і Праспера Мерымэ. Кароль дыпламатычна называў жанчыну "гаспадыняй", і пра яе сапраўдны статус заставалася толькі здагадвацца, прымаючы пад увагу тую акалічнасць, што манарх ужо колькі гадоў быў удаўцом.

— Я спадзяюся, ты падаруеш мне свае апошнія кнігі,— сказаў кароль.

У звароце да пісьменніка на "ты" не было нічога абразлівага, бо кароль называў на "ты" ўсіх падданых, і да гэтага

даўно прывыклі, як прывыклі да традыцыйных летніх неўраджаяў і зімовае хлюпоты.

— Не, ваша вялікасць, не падарую,— адказаў пісьменнік, з асалодаю дапіваючы келіх бардоскага.

— Чаму? – непарушна пацікавіўся кароль і даў пахолку знак напоўніць пісьменніку келіх.

— Мае кнігі ўжо шмат гадоў не выходзілі,— адказаў пісьменнік, узняўшы келіх і па чарзе глянуўшы на манарха і жанчыну.

На языку ў караля, напэўна, круцілася пытанне, з якога часу пісьменнікавы рукапісы больш не ператвараюцца ў кнігі, але яго вялікасць быў надзелены дзяржаўнай мудрасцю, і таму ягоны суразмоўца пачуў іншыя словы.

— Але ты ўсё адно пісьменнік.

— Магчыма,— адказаў пісьменнік.— Бо я па-ранейшаму пішу. Пішу ў стол...

— Тым больш,— задаволена падхапіў кароль.— Так і павінен жыць сапраўдны пісьменнік. Як казалі рымляне: *Habent sua, fata libelli.* І кнігі маюць свой лёс. Я рады, што не памыліўся, і хачу падпісаць указ пра ўзнагароджанне цябе ордэнам Белай Мышы.

Апошнія словы кароль прамовіў урачыстым тонам і ўзняў свой келіх, чакаючы, што госць зробіць тое самае. Але пісьменнік чамусьці марудзіў.

— Хачу табе канфідэнцыйна прызнацца,— панізіў голас кароль,— што твае зласліўцы не драмалі. Падсунулі мне, разумееш, спіс насельніцтва, знайшлі фармальныя падставы...

— Я хацеў бы ведаць, якія,— цэдзячы віно, таксама прыцішана пацікавіўся пісьменнік.— Калі гэта, вядома, не таямніца.

— Якая таямніца! У спісе насельніцтва ў нас нібыта няма ніводнага чытача.

— Важкі аргумент,— сказаў пісьменнік, і ягоны голас афарбавала глыбока прыхаваная радасць. Зрэшты, гэта магло толькі здавацца.

Кароль зарагатаў, і смех гучаў цалкам шчыра.

— Аргумент... Ты – пісьменнік. Перад табой – Вечнасць.






Падлі нам віна.— Кароль павярнуўся да пахолка, які непрыкметна стаяў каля акна, ператвараючыся ў персанажа гістарычных сюжэтаў на старадаўніх барокавых шпалерах, якімі былі аздобленыя сцены.

Пахолак адклеіўся ад сцяны і наблізіўся да караля, потым – да ягонага госця, потым – да жаравалосай жанчыны, якая не брала ўдзелу ў гаворцы, але відавочна прыслухоўвалася да яе. Пісьменнік задуменна сачыў за прафесійнымі да аўтаматызму рухамі пахолка, пакуль не сустрэўся позіркам з уладальніцай дзівосных вачэй. Жанчына збянтэжана адвяла іх і ўтупілася ў талерку.

— А што, калі Вечнасць – не бясконцасць часу, а ягоная адсутнасць?.. – прамовіў пісьменнік, не адводзячы пагляду ад твару і напалову адкрытых грудзей жаравалосай.— Можа, Вечнасць вымяраецца толькі чалавечым жыццём?

Кароль кінуў у рот масліну.

— Ты варты ордэна ўжо за адны гэтыя словы.

— Але ж, ваша вялікасць, у спісе насамрэч няма ніводнага чытача.

— Ты мяне здзіўляеш, пісьменнік. У спісе няма... да прыкладу, няма ніводнага падданага. Дык што з гэтага вынікае?..

Манарху спадабаўся такі нечаканы ход, і ён пачаў развіваць сваю думку:

— Сярод жыхароў нашае краіны ёсць адзін кароль і адзін пісьменнік. У той самы час няма ніводнага падданага і ніводнага чытача. Якая выснова? А такая, што мы з табой у нечым роўныя. Ты ў нечым таксама кароль, а я ў нейкім сэнсе – пісьменнік. Прапаную за гэта выпіць.

— У вас выдатнае віно,— прыўзняў келіх пісьменнік.

Кароль таксама падняў свой келіх і, прымружыўшы вока, паглядзеў праз яго на суразмоўцу.

— Ты мусіш ведаць, што свет мяняецца ў залежнасці ад таго, якімі вачыма мы на яго глядзім. Цвярозае ўспрыманне – толькі адно з магчымых. Старажытныя германцы нездарма ўсе важныя пастановы абмяркоўвалі двойчы: на цвярозую галаву і – ніштавата прыняўшы.

— Не буду пярэчыць. Адзін мой знаёмы філосаф калісь-

ці казаў, што цвярозасць – гэта маці мяшчанства, а мастацтва і навуку нарадзілі п'яная блудніца з галодным аскетам.

— Выдатна сказана,— пагадзіўся з пісьменнікам кароль.— Я таксама меў знаёмага філосафа. Памятаю, аднойчы мы доўга гутарылі з ім пра жыццё і смерць. *Memento mori*... Але не будзем пра гэта перад галоўнай стравай каралеўскага стала.

Тут кароль упершыню загаварыў да жанчыны:

— Дарагая, распарадзіся падаваць гарачае.

Жаравалосая паднялася і прайшла па зале, пакінуўшы ручаінку пахаў вытанчанай парфумы. Гаспадыня цудоўных валасоў аказалася і гаспадыняю цудоўнай постаці, вабноты якой падкрэслівала шчыгульная сукенка з зялёнай адамашкі.

— Я не пачуў твайго адказу,— павярнуўся кароль да пісьменніка, позірк якога яшчэ праводзіў крутыя клубы жаравалосай і яе перацягнутую залатым паскам талію балерыны.

Але жанчына якраз зноў з'явілася ў зале, і ўслед двое пахолкаў урачыста ўнеслі і паставілі на стол вялізны срэбны спод з барановай смажанкаю пад чарнаслівам.

— Твой адказ...— нагадаў кароль, накладаючы сабе бараніны. У ягоных вачах запалілася шчырая ўсцеха гурмана.— Настойліва рэкамендую. Гэта традыцыйная страва нашае дынастыі. Ад таго часу, як каралеўскія войскі ў XVI стагоддзі дашчэнту разбілі арду нашага заклятага сябра, вялікага князя Івана Іванавіча, і захапілі ў палон яго самога і ўсіх ягоных бараноў. Злыя языкі кажуць, што пераможцы пакаштавалі тады смажаных кумпякоў самога Івана Іванавіча...

Пісьменнік падазрона прыгледзеўся да смажанкі і запіў свае першыя, яшчэ не смакавыя, а слыхавыя ўражанні віном.

— Здаецца,— загаварыў ён, кладучы на талерку некалькі чарнаслівін,— здаецца, хтосьці з французскіх класікаў пісаў, што чалавек – гэта тое, што ён есць. Стэндаль любіў яечню. Гофман ствараў свае вусцішныя апавяданні, прывязаўшы да носа кавалачак жытняга хлеба з кменам, каб увесь час чуць ягоны водар. А яшчэ ён пісаў на моцным падпітку, і чым болей піў, тым вышэй узлятала ягоная фантазія. Леў Талстой страшэнна любіў свежыя гуркі проста з ляхі. А расейскі мастак



Саўрасаў, памятаеце, ваша вялікасць, той, што намаляваў гракоў, якія прыляцелі, амаль нічога не еў, а толькі піў гарэлку і закусваў яе журавінамі...

— Кажуць, у нашай краіне гракі ўжо не лётаюць у вырай,— перапыніў гастранамічную тыраду кароль.

— Я таксама заўважыў,— пагадзіўся пісьменнік.

— І чым гэта тлумачаць? – У голасе ў караля нечакана прарэзалася нотка падазронасці.

— Думка арнітолагаў мне невядомая,— унікліва адказаў пісьменнік. Краем вока ён скасавурыўся на жанчыну і змеціў, што тая наструнена ловіць размову з усімі яе неспадзяванымі адценнямі і паваротамі.

— Пры чым тут арнітолагі! – уквелена тузануўся ў крэсле кароль.— Я хачу ведаць, чым гэта тлумачаць у вашым асяроддзі.

— Вы мяне крыху здзіўляеце, ваша вялікасць...

— Можаш не адказваць. Я выдатна ведаю гэтую показку. Гракі баяцца, што іх саб'юць на мяжы з зенітак альбо не пусцяць назад, калі яны будуць ляцець з выраю.

— Ваша вялікасць...

— Ну што, ваша пісьменніцкая мосць? Я ўзнагароджваю цябе найвышэйшым дзяржаўным ордэнам, а ты круцішся, як уюн на патэльні!

Ад шчокаў жаравалосай прыгажуні адхлынула кроў, і вострае пісьменнікава вока імгненна адзначыла гэтую акалічнасць. Верагодны кавалер ордэна Белай Мышы з'еў чарнаслівіну, каўтануў віна і загаварыў:

— У мяне ёсць чатыры правілы: не верыць, не баяцца, не прасіць і не дзячыць.

Кароль засяроджана жаваў. Было такое ўражанне, што разам з кавалкам бараніны ён хоча перажаваць і сваю ўкваленасць. І сапраўды, праглынуўшы мяса і запіўшы яго бургундскім, манарх загаварыў амаль зычліва:

— Мы, каралі, – вынятак з правілаў. Пісьменнікі, спадзяюся, таксама. А правілы, мой дарагі, бываюць і ў каралёў. Я, да прыкладу, мог узнагародзіць самога сябе, ды гэта не маё правіла. Рэкамендую келіх бажале.

— З прыемнасцю... Але факт застаецца фактам: я не маю ніводнага чытача, і ад гэтага нікуды не схаваешся.

— А ў мяне няма ніводнага падданага.

— Гэта розныя рэчы. Вы, ваша вялікасць, можаце выдаць указ і прызначыць сваімі падданымі ўсіх жыхароў краіны, апрача дыпламатычнага корпуса.

— Паслухай, пісьменнік... — Ад віна, сытнай ежы і камінавай цеплыні кароль трохі захмялеў і пачаў расцягваць словы.— З такім самым поспехам я мог бы прызначыць усіх нашых грамадзянаў тваімі чытачамі. Ды толькі ёсць справы, якія не вырашаюцца ўказамі. Сказаць, дзе я бачыў такіх падданых? Сапраўдны падданы ганарыцца сваім манархам. Ён называе ў гонар манарха дзяцей...

— Шмат у каго я бачыў вашы партрэты... — асцярожліва азваўся пісьменнік, які раз-пораз хутка пазіраў на відавочна ўстурбаваную ходам гаворкі жанчыну.

— Бачыў вашы партрэты... — перадражніў кароль.— *Res suis vocabulis nominare!* Называй рэчы сваімі імёнамі!

— Ваша вялікасць мае сантымент да лаціны...

— Выдаткі адукацыі! – адмахнуўся манарх. Ягоны твар наліўся чырванню, а язык канчаткова развязаўся.— Ты ведаеш, хто ўгаварыў мяне змяніць канстытуцыю? Змяніць, каб унесці туды артыкулы пра скасаванне смяротнага прысуду і пра тое, што ў нашай краіне знаходзіцца геаграфічны цэнтр кантынента? Гэты чалавек першы павесіў у кабінеце мой партрэт. А потым ён жа першы і здрадзіў мне. А перад тым, як уцячы па каналізацыі за мяжу, пакінуў ліст. Ты чуў, што ён там напісаў? Зрэшты, адкуль ты мог чуць! Мой першы прэм'ер-міністр пісаў, што ніколі не любіў мяне. Што ступень ягонае павагі ўжо даўно апусцілася ніжэй за калена. Ён пісаў, што калі б цэнтр кантынента і самога Сусвету знаходзіўся не проста ў маёй краіне, а непасрэдна ў маёй задніцы і нават калі б пра гэта сведчыла мая канстытуцыя, ён усё роўна не сеў бы са мной нават паср... на адным полі...

— Ваша вялікасць, тут жанчына...

— Дзе? А, яна... Яна ўсё ведае. Ну, і што ты скажаш, пісьменнік, пра гэты ліст?



— Пакідаючы сэнс на сумленні аўтара, скажу, што сфармулявана даволі хвостка. Адчуваецца стыль.

Пачуўшы апошнія словы, жанчына ледзь прыкметна здрыганулася.

— Вось-вось,— працягваў кароль.— Ты не здагадваешся, хто мог яму дапамагчы? Што гэта за стыліст?

Пісьменнік задуменна пасмоктваў віно і маўчаў. Але кароль, відаць, і не спадзяваўся нешта пачуць. Ён дажаваў маслінку, выплюнуў костачку на далонь і стрэліў ёю ў полымя каміна.

— Назавем рэчы сваімі імёнамі.— Голас манарха зноў гучаў спакойна, нібы нядаўні ўсплёск эмоцыяў быў проста тэатральнаю карцінкай.— Цябе ніхто не чытае, а мяне ніхто не любіць. Я прапаную выгодныя ўмовы. Тваім чытачом буду я...

— А я – вашым падданым?

— Не здагадаўся. Маім улюбёным пісьменнікам. Я мяркую, разам нам не будзе сумна. Будзем сустракацца вось тут, ля каміна. Ты кажаш, Вечнасць – гэта адсутнасць часу. А што ў такім разе смерць? Мой знаёмы філосаф лічыў, што смерць – нішто, але што мы, ну *там*, будзем адчуваць гэтае нішто. Карацей кажучы, ты згодны.

Кароль глынуў віна і загадаў падаваць дэсерт. Пахолак з абліччам шпалернага героя нячутна выйшаў.

— Ваша вялікасць...— загаварыў пісьменнік, нічым не выяўляючы свае згоды.

Кароль папераджальна падняў руку.

— Больш ні слова! З твайго дазволу, я на хвіліну адлучуся. Улічы яшчэ тую акалічнасць, што найвышэйшая дзяржаўная ўзнагарода дасць табе магчымасць выдаць свае кнігі.

Калі дзверы за манархам зачыніліся, пісьменнік цераз стол паслаў жанчыне красамоўны позірк, у якім адбівалася цэлая гама эмоцыяў – ад непрыхаванага захаплення да спадзявання на параду.

Жаравалосая неяк няпэўна пахітала галавою, што можна было трактаваць і як засцярогу, і як заахвочванне. Пасля гэтага маўклівага дыялога пісьменнік падняўся і, зрабіўшы некалькі крокаў, працягнуў ёй сваю візітоўку.

— Як вас завуць?

Ён хацеў сказаць штосьці яшчэ, але жанчына прыклала палец да вуснаў і, хутка схаваўшы візітоўку, паказала пісьменніку вачыма на ягонае крэсла. Той ледзьве паспеў сесці і ўзяць у рукі келіх, як у дзвярах з'явіўся гаспадар.

— А вось і я! – весела абвясціў ён, памахваючы мабільным тэлефонам.— Вы тут не сумавалі? Як справядліва казалі ў часы Тамаша Аквінскага, а таксама і значна пазней, *solus cum sola non cogitabuntur orare "Pater noster"**. Хоць вы мяне заражце, люблю лаціну. Яснасць думкі, чаканнасць фразы... А дзе, дарэчы, наш дэсерт?

Расчырванелы пахолак, намагаючыся не сустрэцца вачыма з гаспадаром, паставіў на стол садавіну і высокія крышталёвыя вазачкі з узбітымі вяршкамі.

— Пайшоў прэч! – загадаў кароль.— На кухню!

Ён уладкаваўся ў сваім крэсле, глынуў віна і працягваў, нібыта і не пакідаў залы:

— Той філосаф, з якім мы абмяркоўвалі праблемы жыцця і смерці, чамусьці лічыў, што смерць – субстанцыя сіняга колеру. А, бывала, ён наогул пачынаў гаварыць гатовымі афарызмамі. Як гэта?.. Нават перапраўляючыся цераз Стыкс, людзі баяцца патануць. Нядрэнна, га? А ты, пісьменнік, не баяўся б, праўда?

— Што вы хочаце гэтым сказаць, ваша вялікасць?

Пісьменнік не мог не бачыць, што ўсё аблічча жаравалосай выяўляла трывогу.

— Ды так, успомнілася... Аднойчы ён пайшоў з сябрам у лазню... Цікава, да чаго гэта на ноч успамінаюцца філосафы...

Кароль яшчэ раз адпіў з келіха і без прыкметнай сувязі з папярэднім прамовіў:

— Часам трэба стаць Кантам дзеля бюста якой-небудзь бландзінкі. Альбо Гегелем дзеля дупці якой-небудзь брунеткі.

Наступныя словы таксама сведчылі, што думка манарха рухалася пакручастым і цяжкавытлумачальным шляхам.

* Застаўшыся сам-насам, ён і яна не будуць чытаць "Ойча наш" (*лац.*).



— Скажы, пісьменнік, у цябе ёсць жонка?

— На жаль...

— На жаль, ёсць ці, на жаль, няма?

— Мне ўзгадваецца старая сентэнцыя. Дрэнная жонка – не прычына філасофіі. Дрэнная жонка – яе вынік. У мяне жонкі ніколі не было. Магчыма, таму, што я не філосаф.

— А як наконт дзяцей? Дзеці ў цябе ёсць?

— Напэўна, ёсць.

— Ах ты, стары сатыр! – ухвальна зарагатаў кароль.— Як гэта пісаў хтосьці з вашае братыі: ведае дам і верыць у іх прызначэнне.— І адразу, зноў парушаючы логіку размовы, пацікавіўся: — А ты выпадкова не заходзіў па дарозе сюды ў *WC*?

— Як мне памятаецца, не,— адказаў пісьменнік. Ён кінуў позірк на жанчыну і, заўважыўшы ў яе вачах вясёлыя агеньчыкі, заахвочана прадоўжыў:— А што, ваша вялікасць, там захоўваюцца нейкія дзяржаўныя таямніцы?

— Там з'явілася налепка. Уяві, што ты сеў на ачко, узняў вочы, а насупраць – твой партрэт з ідыёцкім надпісам: "Рукі прэч ад нашых дзяцей!" Плявацць я хацеў на іхніх дзяцей!

Кароль асушыў келіх віна, не прапаноўваючы зрабіць гэта і пісьменніку, але той самахоць узяў манарха за прыклад. Пасля пэўнай расслабленасці з жартоўнаю, як здавалася, пікіроўкаю атмасфера за сталом відочна змянілася, што пацвердзіў і голас караля, які, не ўважаючы на выпітае, загучаў цалкам цвяроза — цвёрда і нават жорстка.

— Значыцца, так. Рады паведаміць, што ў цябе з'явіўся чытач. Я папрасіў шэфа бяспекі пагледзець, што ты там пасіваў у стол. З гэтага вынікае, прынамсі, адно: фармальную прычыну тваіх сумневаў мы ліквідавалі. Прапаную выпіць за твайго чытача і твой ордэн!

Жанчына цалкам ператварылася ў слых.

Тым часам пісьменнік ані не сумеўся, а, наадварот, выглядаў нават чымсьці задаволеным.

— Магу прыняць прапанову толькі часткова.

Кароль ускінуў вочы і затрымаў келіх каля вуснаў.

— Я прадбачыў такое развіццё падзеяў, ваша вялікасць. У гэты момант мае рукапісы ўжо за мяжой. Пісьменнік можа не мець чытача, але мець адданага сябра.

— О! Адданы сябар – гэта бясцэнны капітал,— іранічна прамовіў манарх.— А ты, бачу, непапраўны аптыміст.

— Ваша вялікасць, уся розніца паміж аптымістам і песімістам — толькі ў прапанаванай імі даце канца свету.

— Няблага сказана. Зрэшты, гэта не мяняе сутнасці справы. Калі твае рукапісы сапраўды за мяжой, значыць, у цябе з'явіўся замежны чытач. Тым лепей. Выдатны доказ дасягненняў айчыннай літаратуры. Я падпішу ўказ пра тваё ўзнагароджанне сёння ж.

Пісьменнік па-ранейшаму выглядаў спакойным. Хваляванне выдавалі толькі крыху больш звычайнага падціснутыя вусны. Ён, відаць, зразумеў, што час для жартаў вычарпаны.

— Але я магу не з'явіцца на цырымонію ўганаравання. Будзе скандал.

— А мне да фені. Ды ніякага скандалу і не будзе. Наша газета надрукуе ўказ і паведамленне, што ўручэнне ордэна адбылося непасрэдна ў палацы. У цёплай, амаль сямейнай абстаноўцы. Ты сказаў спіч з падзякаю ўраду і асабіста каралю за клопат пра нацыянальную літаратуру. *Mundus vult decipi, ergo decipiatur.* Свет хоча быць падманутым, дык няхай падманваецца. Пра тое, што не паспеў я выйсці адліць, як ты пачаў не без поспеху клеіць маю жанчыну, я загадаю не пісаць...

Келіх у руках у жаравалосай затрымцеў, і колькі кропель праліліся на белы настольнік, стварыўшы на ім мудрагелісты відарыс, што нагадваў нейкае знаёмае сузор'е.

— Вось яна, удзячнасць падданых! – з удаванай скрухаю прамовіў кароль.— Я лічыў *яе* найлепшым доказам таго, што жанчыны маёй краіны – найпрыгажэйшыя ў свеце. Яе вейкі былі для мяне крыламі вачэй, а вусны – сцежкаю ў Эдэм. Я называў яе ўвасабленнем жаноцкасці і вернасці. Аказалася ж, што па сумяшчальніцтве — гэта ўвасабленне здрады. Падыдзі сюды...






Жаравалосая прыгажуня наблізілася да манарха, аднак спынілася за плячыма ў пісьменніка.

Але кароль як быццам ужо забыўся пра яе існаванне. Ён пакалупаўся срэбнай лыжачкай у вазачцы з вяршкамі і загаварыў пра іншае:

— Ты не ўлічыў аднаго, пісьменнік. Калі я казаў пра вашае падабенства з каралямі, я ані не крывіў душой. Але мы, каралі, маем справу з рэальнымі людзьмі. А вы, пісьменнікі,— з народжанымі вашаю фантазіяй фантомамі. А нейкі ёлуп яшчэ назваў вас інжынерамі чалавечых душ. Гэта мы – інжынеры чалавечых душ. Мне было забаўна назіраць, як ты спрабуеш выслізнуць... Але я высакародны і літасцівы манарх. Апрача ордэна, я ўзнагароджваю цябе яшчэ і гэтай жанчынаю. Забярэш яе з сабой. У жылах яе продкаў не было блакітнае крыві, але трахаецца яна, як каралева. А калі згадаць нашу нябожчыцу каралеву,— кароль тэатральна ўзвёў вочы ўгору,— то непараўнальна лепей...

Пісьменнік падняўся.

— Я не дазволю казаць пра жанчыну ў такім тоне!

— Спакойна, пісьменнік,— стомлена прамовіў кароль.— Ты ж не хочаш, каб заўтра ў сталічнай каналізацыі знайшлі свежанькі труп маладой прыгажуні. Пагатоў, калі яна трахаецца, як каралева,— з відочным задавальненнем паўтарыў ён.— Вось бачыш, не хочаш. І я цябе разумею. Такія экземпляры – наш нацыянальны скарб.

Жанчына прыціснулася да пісьменніка. Той абняў яе за дрыготкія адкрытыя плечы.

— Мне няма чаго сказаць вам, ваша вялікасць. Апрача таго, што... Вы ведаеце, кнігі, як і дзеці, нараджаюцца ў пісьменнікаў ад жанчын. Мы можам ісці?

— Ідзі і памятай, што ты, як адзіны наш пісьменнік і адзіны кавалер ордэна Белай Мышы,— заўсёды пад маёй апекаю і абаронай.

— А яна? – пісьменнік узяў жанчыну за руку.

— А яна – пад тваёй. Ты ж моцны. У нечым ты амаль роўны каралю. Але ёсць і розніца. Кароль можа паклапаціцца пра пісьменніка лепей, чым пісьменнік — пра караля. Ты памя-

таеш, што адказаў іспанскі кароль на пытанне французскага калегі пра тое, як маецца Сервантэс?.. Ідзіце з Богам.

Застаўшыся адзін, манарх з хвіліну пасядзеў у задуменні, потым са смакам з'еў персік і выклікаў да сябе шэфа службы бяспекі.

Чалавек з аблічам сямейнага доктара-эпікурэйца ўжо чакаў за дзвярыма. Ён паставіў каля каміна дзве скураныя валізкі, выцягнуў нататнік і падрыхтаваўся да нечарговага даклада, ды кароль рухам рукі спыніў яго.

— Пісьменнік жыве адзін?

— Але.

— Гэта добра. Калі чалавек пазбаўлены сямейнае мітусні, ён засяроджваецца на вечных праблемах. Дарэчы, цырымонія ўзнагароджання ўжо адбылася. Заўтра ў газеце з'явіцца паведамленне. Пісьменнік выступіў з удзячнай прамоваю.

— Не зрабіць гэтага было б вяршыняю няўдзячнасці,— імгненна знайшоў патрэбны тон шэф бяспекі.

— Пагатоў, атрымаўшы дадатак да ордэна ў выглядзе былой каралеўскай наложніцы. Зрэшты, табе ўжо далажылі. Сядай.

Кароль наліў суразмоўніку келіх віна і падсунуў талерку.

— Дзе рукапісы?

Шэф бяспекі, перажоўваючы кавалак халоднай бараніны, паказаў вачыма на прынесеныя ім пульхныя валізкі.

— Праблемаў з сябрам не ўзнікала?

— Мы душэўна пагаварылі, і я выправіў яго да пісьменніка за пяць хвілінаў да таго, як патэлефанаваў пра вашае запрашэнне. Пісака, вядома, адразу насцярожыўся, і праз гадзіну сябар сеў у таксоўку з дзвюма гэтымі валізкамі. Адзінае, што там кодавыя замкі. З эстэтычных меркаванняў я вырашыў іх не чапаць. Можаце зрабіць дэфларацыю ўласнымі рукамі.

— А што, нельга было спытаць код?

— Мы не паспелі,— крыху занепакоіўся шэф бяспекі.

— Што значыць, не паспелі? — падазрона запытаўся кароль.



— Працавалі ў цэйтноце,— унікліва сказаў уладальнік бародкі-эспаньёлкі і асцярожліва змяніў тэму.— Ваша вялікасць, істотная акалічнасць: пісьменнік не прызнаваў камп'ютэра і заўсёды пісаў простай шарыкавай асадкай.

— Мне заўсёды падабаліся людзі кансерватыўнага складу,— заўважыў кароль.— Іх лепей разумееш. З імі меней клопату. Але ў свеце няма дасканаласці. Гэтыя людзі абцяжараныя сваімі старамоднымі ўяўленнямі. Таму клопату хапае. Якія варыянты развіцця сюжэта ты прапануеш?

Шэф бяспекі вырваў з нататніка спісаны з абодвух бакоў аркуш. Кароль прабег яго вачыма і незадаволена зморшчыўся.

— Ты ператаміўся. Першае абсалютна непрымальнае. І другое. І трэцяе. Папаўзуць чуткі. Пункт чатыры... Ты што, зусім з'ехаў з глузду? Сёння я вешаю табе на грудзі ордэн, а заўтра ты сам... Дарэчы, я падпісаў таемны ўказ. Насамрэч ордэн атрымаеш ты.

Начальнік бяспекі з неўласцівым яму, здавалася б, спрытам спружыніста ўскочыў і па-вайсковаму выцягнуўся.

Ордэн Белай Мышы па-ранейшаму ляжаў на ядвабнай падушачцы, пераліваючыся дыяментамі, якія ад пошугаў агню ў каміне набывалі чырвоны колер. Кароль падняўся ўслед за сваім позним госцем і прышпіліў яму ўзнагароду насупроць сэрца.

— Ну, а цяпер скажы, ты хочаш заўтра ўчыніць суіцыд?

Манарх сеў і перагарнуў аркуш з прапановамі.

— Ужо лепей... А што?.. Стары добры сродак, выпрабаваны на філосафе. Толькі не проста доўгатэрміновая камандзіроўка, а — творчая. Творчая доўгатэрміновая камандзіроўка. Берлін, Рым, Парыж... Што там яшчэ?.. У паведамленні для прэсы абавязкова падкрэсліць: за кошт дзяржавы. І гэта — святая праўда.

— Калі будзем выпраўляць, ваша вялікасць?

Адказ у караля ўжо быў гатовы:

— Мяркую, аптымальны час — сённяшняя ноч.— Манарх глянуў на старадаўні насценны гадзіннік з двума амурамі.— Скажам, а першай. Аформіш ад'езд уласнаручна.

— Жанчына?

— Каб яму не было сумна...

— А вы дазволіце?..

— Ах ты, стары грахаводнік!

— Ваша вялікасць, хіба не вы казалі, што грахі – гэта ўчынкі, якія прыемна ўспамінаць?

— Яна ж будзе яшчэ цёпленькая ад ягоных абдымкаў...

— У гэтым ёсць свой шарм. За адным разам пакажам пісьменніку цікавае кіно. Так бы мовіць, на дарожку...

Апошнія словы каралю чамусьці не спадабаліся. Ён дэманстрацыйна зірнуў на гадзіннік. Залатыя стрэлкі-алебарды рыхтаваліся сустрэцца на лічбе *XII*.

Пачуўшы, як ад палаца ад'ехаў "мерседэс" шэфа бяспекі, кароль загадаў неадкладна выклікаць міністра паліцыі.

Галоўны паліцыянт краіны быў поўнаю супрацьлегласцю шэфа бяспекі: высокі, падхорцісты і да бляску выгалены. Кароль сардэчна павітаўся з ім за руку, пасадзіў госця за стол і напоўніў келіхі.

— Не, нічога не здарылася,— адказаў манарх на запытальны позірк. Проста захацелася пасядзець з чалавекам, якому давяраеш, нібы самому сабе. У краіне такіх двое: ты і начальнік службы бяспекі. Ён толькі што пайшоў. Дзяржаўныя справы... Засталася пара нюансаў, якія мы не паспелі абмеркаваць. Я не затрымаю цябе. Праз гадзіну будзеш абдымаць сваю здобную жоначку або каго захочаш. А пакуль узбадзёрся старым добрым бургундскім. Бараніна, праўда, астыла.

Міністр паліцыі акуратна асушыў келіх, прамакнуў вусны сурвэткаю і агледзеў стол.

— Рэкамендую ласінай каўбаскі,— сказаў кароль.

Галоўны паліцыянт пасунуў да сябе талерку і са смакам узяўся закусваць. Тым часам кароль падсеў да бюро ў стылі ампір і пачаў хутка пісаць. Праз колькі хвілінаў на пакладзеным перад ім аркушы начальнік паліцыі прачытаў: "Сёння табе не давядзецца спаць. Паступілі надзвычай дакладныя звесткі, што блізу гадзіны ночы ў сталіцы будзе здзейсненае дзёрзкае і цынічнае забойства. Пра астатняе пагаворым у палацавым парку. Сцены маюць вушы і ў каралеўскіх рэзідэнцыях".






Міністр наліў сабе келіх бургундскага, засяроджана выпіў і ўстаў. Кароль узяў яго пад руку і ўжо ў дзвярах дадаў да напісанага:

— У адных людзях жыве Бог, у другіх – д'ябал, а ў некаторых — адно глісты і мікробы.

Вярнуўшыся праз чвэрць гадзіны ў залу, кароль наліў сабе віна, але піць не стаў. Ён падышоў да дзвюх прынесеных шэфам бяспекі скураных валізак, узважыў іх у руках і выбраў больш пакоўную. Паклаў яе на камінную дошку, трохі пакруціў колцы замкоў і, упэўніўшыся ў іхняй надзейнасці, дастаў з шуфляды бюро вялікі паляўнічы нож. Праверыўшы ягоную вастрыню, кароль застаўся задаволены і ўвагнаў джала ў валізку. Нож акуратна разрэзаў светла-брунатную скуру па перыметры.

Валізка была наладаваная простымі папяровымі тэчкамі на тасёмках. Кароль пасунуў да каміна сваё цяжкое, абабітае зялёным аксамітам крэсла, паставіў на камінавую дошку келіх з віном і паклаў на калені верхнюю тэчку. Ён не спяшаючыся развязаў белыя тасёмкі, але раптам ускочыў і з лютасцю шпурнуў тэчку ў камін. З наступнай тэчкаю ўсё паўтарылася. Другую валізку ён распаласаваў нажом крыж-накрыж і рвануў скуру рукой. Вынік быў той самы.

У гэтым месцы крыніцы, якімі карыстаўся аўтар, пачынаюць пярэчыць адна адной, прычым розначытанні набываюць настолькі прынцыповы характар, што змушаюць падаць абодва варыянты.

Паводле першага, у тэчках ляжала некранутая чыстая папера. Паводле другога, папера ў тэчках таксама ўяўляла сабой белую неруш, але пасярод кожнага верхняга аркуша было каліграфічным почыркам выведзена: "А вось табе х..."

Прааналізаваўшы ўсе звесткі, чытач можа самастойна выбраць найбольш верагодны працяг.

Уладзімір АРЛОЎ

# СЕТКА КААРДЫНАТ

Які ён розны і шматаблічны, Уладзімір Арлоў! Ягоныя кнігі, калі паставіць іх па гадах выдання на адну паліцу, уражваюць сваёй featнафарматнасцю, непадабенствам паліграфічнай якасці, сціпласцю або, наадварот, раскошай афармлення, прастатой мовы і нечаканай яе вытанчанасцю. Грунтоўная “Таямніца Полацкай гісторыі”, багата ілюстраваная “У пошуках украдзенага скарбу”, шырокафарматная “Адкуль наш род” і — мініяцюрна-кішанёвыя “Там, за дзвярыма”, “Фауна сноў”. Назвы таксама ледзь не супрацьлеглыя па форме: ад строга навуковай “Дзесяць вякоў беларускай гісторыі” (сумесна з Генадзем Сагановічам) і да займальна-папулярнай “Рандэву на манеўрах”, ад дакументальнай “Еўфрасіння Полацкая” і да аўтабіяграфічнай “Мой радавод да пятага калена”, ад постмадэрнісцкай “Рэквіем для бензапілы” і да эсэістычна-іранічнай “Божая кароўка зь Пятай авэню”. Наўрад ці Арлоў свядома дамагаўся гэтага эфекту, хутчэй за ўсё, проста ён шукаў дакладныя словы, якія адпавядалі б задуме, а яны нечакана, мусіць, і для самога аўтара стварылі ў выніку разгалінаваную сетку каардынат ягонай творчасці, дзе ўсё ўзаемазвязана з усім.

Гэта — сувязь “вертыкалі” і “гарызанталі” — мусіць, асаблівасць усіх пісьменнікаў, якія пішуць на гістарычную тэму. Варта прыгадаць Уладзіміра Першага (Караткевіча). Хоць бы таму, што імя Уладзіміра Другога (Арлова) натуральна ставіцца за імем славутага яго папярэдніка, успрымаецца і ацэньваецца міжволі на яго фоне, нешта губляе ў гэтым супастаўленні, а нешта набывае. Уладзімір





Уладзімір АРЛОЎ

Караткевіч аднолькава геніяльны ва ўсіх жанрах — ад гатычнага рамана да эсэ пра сучаснасць, ад гераічнай балады да сяброўскага шаржу, ад мастацкай літаратуры да кінасцэнарыяў і тэатральнай драматургіі. Уладзімір Арлоў таксама амаль аднолькава таленавіты (пра геніяльнасць пры жыцці пісьменніка можна гаварыць хіба толькі ў тостах) у самых розных жанрах — ад падарожнага нарыса да вострасюжэтнай навелы, ад улёткі, якая сапраўды “лётае” па свеце часам прыпісваецца вядомым рускім цёзкам па прозвішчы, да навукова-папулярнай гісторыі, ад “вершаў у прозе” да дэтэктыўных росшукаў у лабірынтах беларускай мінуўшчыны. Мінулае, сучаснасць і будучыня ў яго творах цесна пераплеценыя, і цяжка сказаць адназначна, што галоўнае, а што другараднае, якое паняцце вядучае, а якое вядомае. Дзесяць вякоў беларускай гісторыі ўбіраюць у сябе надзвычай багаты і стракаты матэрыял, вымушаючы пісьменніка да пошуку адпаведных формы, жанру і стылявой манеры, каб увасобіць усю яе шматпланавасць і шматузроўневасць.

Нацыянальная сітуацыя патрабуе ад беларускага пісьменніка быць швяцом, жняцом і на дудзе іграцом, зменліва-пластычным Пратэем, які лёгка пераўвасабляецца з празаіка ў паэта, з пісьменніка ў навукоўца, з кніжніка ў агітатара. Але ўсё гэта вонкавыя прыкметы індывідуальнага таленту Арлова. Ужо ў апавяданнях, якія з’яўляліся ў друку адно за адным, а пазней увайшлі ў зборнік “Рандэву на манеўрах”, у самой іх танальнасці было нешта асаблівае, што вылучала аўтара нават на фоне яго літаратурнага настаўніка і куміра юнацтва — Караткевіча. Іншы тэмперамент, іншае светаадчуванне, іншае пакаленне. Пакаленне, якое было ў захапленні ад рамантычнай асобы Караткевіча і ад яго буйнамаштабнай задумы і міжволі спрабавала паўтарыць непаўторнае. І дагэтуль спрабуе. У творах Арлова на гістарычную тэму няма свядомай гіпербалізацыі, уласцівай карнавальнай свядомасці і культуры беларускага барока, такога караткевічаўскага, што паўтарыць яго немагчыма.

Творы Арлова — вядома, на фоне папярэдняй традыцыі гістарычнай прозы — стрымана-лапідарныя, лаканічныя, графічна-строгія: па сюжэце, інтанацыі, пафасу. Нават жанр аповесці, на які Арлоў зрэдку адважваўся (і, падобна, гэта яму

давалася не так лёгка), больш нагадвае разгорнутую навелу з займальным сюжэтам і нечаканай развязкай. На жанр рамана ён не замахваўся, калі не лічыць своеасаблівымі раманамі яго "гісторыі" — свайго радаводу, Полацкага княства, Беларусі. З'ява, знаёмая з часоў Чэхава, які прыйшоў у літаратуру пасля Талстога і Дастаеўскага. Той, хто ўсур'ёз мераўся ростам з Талстым, пісаў, адпаведна, тоўстыя і вадзяністыя раманы, як Бабарыкін ці Мельнікаў-Пячэрскі. У сучаснай беларускай гістарычнай прозе такіх Бабарыкіных-Пячэрскіх хапае.

Пасля таго, як гістарычная панарама маштабна ўзноўлена, застаецца шмат працы для вывучэння буйнога плана падзей. Дэталі і падрабязнасці, сэнсавыя канатацыі і нюансы часта кажуць куды больш пра мінулае, чым лёсаносныя падзеі. Для Арлова ёсць гісторыя падзей, а ёсць гісторыя людзей, і апошняя яго цікавіць больш. Такая гісторыя, населеная рэальнымі і прыдуманымі гістарычнымі персанажамі, нам бліжэй, чым абязлюдзелая прастора мінулага. Яна дазваляе адчуць чалавечы змест паўзабытых падзей, якія больш нагадваюць цьмяныя ўспаміны пра нешта такое, пра што цяжка пэўна сказаць, было яно на самай справе ці яго не было наогул. Для "беспрыпыннай Беларусі" мае каштоўнасць усё, што яшчэ не скінута народам у няпамяць і што "засталося // Унукам з прадзедаў жыцця". Купалаўскі запавет збіраць "зярно к зярняці, былое ў думках ускрашаць" быў ацэнены менавіта Арловым належным чынам. Вядома ж, каб "сеўбу новую пачаць".

Вельмі часта прадметам мастацкага даследавання ў Арлова становіцца тое, што адбываецца пасля падзеі, калі больш выразна выступаюць вынікі, усё тое, што намі будзе ўспрымацца як магістральная лінія нацыянальнага развіцця, як скразная трансцэндэнтальная плынь гісторыі.

У апавяданні "Каля Дзікага Поля" ўзнаўляецца эпізод пасля чарговай сутычкі ўсходніх славян з татарамі, у якой, паводле версіі аўтара, мог удзельнічаць і магчымы аўтар "Слова аб паходзе Ігаравым". У дадатак да вядомых канцэпцый Дзмітрыя Ліхачова і Алжаса Сулейменава (паводле версіі аднаго, аўтарам "Слова" быў русіч, паводле версіі другога — продак кіпчакоў-казахаў) прапануюцца свае аргументы наконт аўтарства геніяльнага твора, які сёння лічыцца асобнымі даследчыкамі геніяльнай падробкай. Маўляў, узнікла гістарычная патрэба ў паказе гераічнага мінулага Старажытнай Русі, а адказам на гэтае запатрабаванне стаў твор-падробка. Пры гэтым не ўлічваецца элементарная ў мастацкай творчасці ўмова — феномен генія, які здольны на стагоддзі апярэджваць нашы ўяўленні і веды пра свет і сябе, і бідавочна перабольшваецца роля гістарычнай неабходнасці. Геній — гэта і ёсць адказ Бога на нашы пытанні. Апавяданне Арлова можа таксама служыць аргументам на карысць сапраўднасці "Слова": адкуль мог чэх, яшчэ адзін магчымы, паводле сумніўнай версіі Эдварда Кінана, аўтар, ведаць пра князя Усяслава Чарадзея, пра Нямігу, а тым больш пра рэчку Улу, пра якую не кожны сучасны беларус чуў? А самае галоўнае — напісаць пра ўсё гэта з такім пранізлівым лірызмам!

Спробы першаснага асэнсавання падзеі, якая адбылася падчас захопу рускім войскам Полацка, тым больш убачанай вачыма чалавека збоку, абсалютна не зацікаўленага ў аб'ектыўнасці асвятлення, зроблены ў апавяданні "Пішу вам у Масковію". Шараговаму ўдзельніку падзей, які спрабуе пераадолець вузкія межы імперскага мыслення, не па сабе ад думкі, што руская ўлада неасцярожна закранула цэлы пласт быцця, які можа неўзабаве абрынуцца на галовы ўдзельнікаў паходу Івана Жахлівага, па прынцыпе бумеранга, закону ўсеагульнай сувязі ўсяго з усім. Асабліва занепакоіла Аляксея, аўтара "граматы з магістрацкага архіва", спроба "гасудара" вывесці новую пароду людзей ("якія да штодзённых стратаў прылюдных і здзекаў таемных з істоты чалавечае прывычныя будуць, і да таго, што жыццё людское меней за медны грош каштуе"). Гэтае апавяданне, як і апавяданне "Міласць князя Гераніма", мае шмат агульнага з жанрам гістарычнага даследавання — накшталт таго, вобразныя, раманічныя магчымасці якога выдатна выявіў Мікола Ермаловіч.

Акрамя мастацка-чалавечага боку, у гэтых творах шмат спасылак на летапісы і іншыя чыста навуковыя даныя, якія лішні раз пераконваюць, што перад намі — не фантазія аўтара, а вынік яго развагі і аналізу. Але самае галоўнае тое, што

гістарычныя навелы Арлова ўзнаўляюць недаступны для многіх сучаснікаў узровень духоўнага разумення гісторыі, нацыянальнай і сусветнай. Менавіта гэта ўражвае ў яго апавяданнях "Пакуль не згасла свечка", "Пяць мужчын у леснічоўцы", "Рандэву на манеўрах", у аповесцях "Дзень, калі ўпала страла", "Час чумы", "Сны імператара". Эпіцэнтр гістарычных падзей, на якім былі столькі часу засяроджаны позіркі аналітыкаў, у творах Арлова прыкметна змясціўся на перыферыю, і ў выніку выявілася: тое, што знаходзілася на ўскрайку гістарычнай свядомасці, і ёсць сапраўдны эпіцэнтр, бо не Меч вырашае лёс цывілізацыі, а Дух, — ісціна даўняя, відавочная, якая, аднак, увесь час патрабуе напамінку пра сябе, пацвярджэння і актуалізацыі.

Вертыкальная вось каардынат гістарычнага існавання, якая спачатку будавалася Арловым па лініі ад мінулага да сучаснасці, неўзабаве дапоўнілася лініяй, якую празаік вёў ад сучаснасці ў мінулае. Так узнік цыкл апавяданняў-даследаванняў, якія ўсё больш нагадвалі разняволенае эсэ, падарожжа па гістарычнай прасторы на працягу дзесяцігоддзяў і стагоддзяў, і якія набылі вядомасць пад назвай "Мой радавод да пятага калена". Перад намі ўжо прыкметна іншы Арлоў, які жыве і актыўна дзейнічае ў сучаснай "гарызанталі", што дапамагае ўбачыць яго творчасць як своеасаблівую, свядома выбудаваную і грунтоўна прадуманую сістэму каардынатаў, дзе кожны твор, сюжэт, вобраз, дэталь займаюць сваё месца. У якасці гісторыка Арлоў пераканаўся ў дакладнасці ісціны, што застаецца толькі напісанае летапісцамі, гісторыкамі, пісьменнікамі, а ў якасці мастака слова ён упэўнены, што жыццё багацей за любое ўяўленне і што многае застаецца па-за ўвагай сучаснікаў, а без шматлікіх падрабязнасцей прыватнага жыцця чалавека немагчыма па-сапраўднаму адчуць містэрыю быцця.

Гэты творчы прынцып у падыходзе да сваёй мастакоўскай задачы выдатна прадэманстраваны ва ўжо хрэстаматыйным творы "Незалежнасць — гэта..." Што такое ідэя незалежнасці, само гэтае паняцце? Дэфініцыя ў слоўніку мала што дае ўяўленню, а вось нагляднае, карціннае тлумачэнне, каментарый мастака слова, таленавітага і сумленнага, разумнага і дасведчанага чалавека, які ўпэўнена вядзе сваю лінію досведу, што такое мастацкая літаратура ў жыцці нацыі і як яна ўплывае на станаўленне асобы, на высписванне яе гістарычнай і нацыянальнай самасвядомасці, стакроць узбагачае змест гэтага паняцця, цэнтральнага ў іерархіі духоўных каштоўнасцей чалавецтва і ўсё яшчэ перыферыйнага ў свядомасці беларусаў. Той жа творчы, метадалагічны, кажучы лексікай вучоных, прынцып ляжыць у аснове пісьменніцкай працы Уладзіміра Арлова. Гісторыя ў яго навукова-папулярных кнігах — гэта гісторыя і падзей, і людзей, а ў апошнія часы ўсё часцей — і ідэй, якія паступова, хоць нам часам здаецца, што залішне марудна, авалодваюць думкамі сучаснікаў. Гісторыя сучаснасці ў яго шматлікіх эсэ, якія ўвайшлі ў кнігу "Божая кароўка зь Пятай авэню", апавяданнях і аповесцях "Рэквіем для бензапілы" прадстаўлена як грунтоўна распрацаваная, падрабязна, дэталёва прапісаная панарама сучасных падзей, у цэнтры якіх заўсёды — аўтарскае "Я" з яго выразнай пазіцыяй, гуманістычна-іранічнымі адносінамі да паказу, скрухай, лірыкай, роздумам, непаўторным арлоўскім горкім сарказмам у адносінах да такой недасканалай чалавечай прыроды, не здольнай узвысіцца над хадой часу і над сабой.

На самым перакрыжаванні арлоўскай "вертыкалі" і "гарызанталі" знаходзяцца ягоныя вершы ў прозе, напісаныя, на першы погляд, як бы толькі для самога сябе, своеасаблівыя ўрыўкі з інтымнага дзённіка. Тут ёсць згадкі пра жорны, якія смяюцца "галасам маці", спяваюць "галасам бабы Аўгінні", лаюцца "галасам дзеда Максіма", пра першае каханне, калі лірычны герой зрабіўся відушчым і ў той жа час не пазбавіўся слепаты, авалодаў сутнасцю слоў, але яны выйшлі з-пад яго ўлады, прагне сустрэчы з самім сабой, адчуваючы тым часам, як "кожны новы дзень аддаляе мяне ад мяне", пра незабыўнае адчуванне сябе ў вялікім свеце, "дзе сустракаюцца раўналегласці, дзе знікае і нараджаецца час, дзе будучыня была, а мінулае яшчэ будзе", "дзе мяне не будзе" і "дзе мяне не было". Самы вялікі страх пісьменніка — што ён не паспее даць наймення *красцы*, што пачуе аднойчы вешчае слова, але не зможа перадаць яго таму, хто чакае "майго голасу, нібы паратунку". Уладзіміра

Арлова захапляе і палохае шматгранная логіка жыцця, якая ніяк не ўпісваецца ў круг мастакоўскага жадання ўсё назваць словам, ператварыць у вобраз, укласці ў сюжэт, трансфармаваць у вялікую думку. Ён назаўсёды заварожаны містэрыяй зямнога быцця, у якой удзельнічае, якую ў той жа час назірае збоку, аб якой імкнецца распавесці іншым. І не толькі сваім сучаснікам альбо будучым чытачам, але, здаецца, і тым, каго ўжо няма. Хто пражыў свой век ды так і не дачакаўся запаветнага слова. Гэта напаўняе яго голас бясконцай скрухай, у якой зіхціць іскрынкамі, як шэрань у месяцовую ноч, незабыўная арлоўская іронія, дзіця вялікай іроніі гісторыі.

**Міхась ТЫЧЫНА**

# ПРЫЦЕМКІ ІДЭАЛАЎ

*1. Сон Фаўна.* Уладзімір Арлоў у сучаснай беларускай літаратуры, безумоўна, адзін з тых нешматлікіх таленавітых аўтараў, з-пад пяра якіх выходзяць у свет творы самых разнаітых жанраў: ад гістарычнай прозы да паэтычных, інтымна-лірычных. Але імя літаратара Арлова аточана, гэтак бы мовіць, "змовай маўчання" — сам ён на адным з публічных выступленняў скардзіўся на тое, што, акрамя інвектываў ад гістарычных артадоксаў, такіх абвінавачванняў, як "здраднік" і "пасобнік паліцаяў", — за кнігу "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі", іншай крытыкі ў свой бок ён дагэтуль не пачуў. Крыху больш сур’ёзныя крытыкі пра яго амаль не пішуць, з тае простае прычыны, што пакуль не з’явіўся аўтар, які мог бы лепш за яго прэзентаваць сучасную беларускую літаратуру. Так нашы продкі калісьці цярпліва пакланяліся драўляным ёлупам у чаканні, калі ж, нарэшце, прыйдзе хто і навучыць сапраўднаму манатэізму, каб скінуць нямодных паганскіх божышчаў у Дзвіну і Днепр, як якую каравую парадыгму аджылага і несучаснага дыскурсу. Між тым Уладзімір Арлоў, як і кожны амбітны пісьменнік, — фігура складаная і супярэчлівая, і пагадзіцца з вышэйсказаным можна толькі, калі не чытаць яго твораў з належнай увагай і пільнасцю. Спалучэнне амплуа журналіста, паэта і гісторыка ў адной асобе, якое, на першы погляд, можа здавацца вельмі карысным, бо дапамагае адкрыць у літаратуры новыя магчымасці – напрыклад, хто, як не журналіст, ведае, якой гістарычнай аповесцю ашаламіць прагнага да сенсацый чытача, які чытае ад нуды, — пры больш пільным разглядзе выклікае шматлікія пытанні. А ці не атрымаў ён сваё месца на беларускім Парнасе так, як спартсмен-шматборац — па суме набраных ачкоў? Застаецца ўражанне гульні, не зусім зразумелай не пасвечанаму, падобнай да маніпуляцыяў ілюзіяніста, які адцягвае ўвагу гледачоў ад таго края стала, на якім нешта павінна адбывацца. Слава першапраходніка, першаадкрывальніка амаль што страчанай спадчыны павінна б кампенсаваць пагрэшнасці гістарычныя, таксама як злоўжыванне літаратурнымі штампамі і клішэ эпохі савецкага рамантызму (сацрэалізму) – нацыянальнай заангажаванасцю, як у тыя часы, калі літаратура павінна была падабацца не за мастацкую прыгажосць твора, але за тое, што яна ***правільная***. Уладзімір Арлоў апынуўся ў памежным стане — паміж савецкай і (дай Бог, каб такая ўрэшце была) постсавецкай беларускай літаратурай, як старажытнагрэчаскі фаўн быў нечым сярэднім паміж жывёлінай і чалавекам (альбо як пушкінскі Варанцоў "паміж мілордам, купцом, мудрацом і г.д..."). Няма сэнсу яго ў гэтым абвінавачваць – стан "памежнасці" даўно ўжо стаў "агульным месцам" літаратуры апошняга дзесяцігоддзя – задача ў тым, каб вызначыць яго заганы і перавагі, каб прадухіліць магчымыя памылкі будучых маладых літаратараў.

У зборніку апавяданняў "Дзень, калі ўпала страла" (1988) кожны з герояў Уладзіміра Арлова – натхнёны змагар за гуманістычныя ідэалы, ад князя Вітаўта і да паўстанца з атрада Каліноўскага; не выклікае сумневу і постаць вялікага пакутніка за ідэалы гуманізму і матэрыялізму Казіміра Лышчынскага,

аўтара трактата "Аб неіснаванні Бога" — фігуры, папулярнай у часы дамінавання дыямата, аднаго з нешматлікіх вальнадумцаў у гісторыіі беларускай думкі. Прайшоў час, папулярнасць набылі іншыя героі, і Уладзімір Арлоў звярнуў сваю ўвагу на факты і падзеі, якія раней замоўчваліся па прычынах ідэалагічнага характару – так ён стаў пісаць пра дзейнасць ордэна езуітаў на Беларусі. Гэтая тэма, у якой больш міфаў, чым верагодных крыніц, як найбольш адпавядала гісторыку-журналісту Арлову. Зборнік апавяданняў "Дзень, калі ўпала страла" не так перапоўнены "сенсацыйнымі" матэрыяламі (як, напрыклад, "Таямніцы Полацкай гісторыі") – відаць, тады яшчэ працавала тупая савецкая цэнзура, ці пісьменнік па маладосці быў яшчэ больш-менш сціплы, за выключэннем, праўда, таго цікавага факта, што царазабойца Ігнацій Грынявіцкі чытаў у ложку кнігу Яна Баршчэўскага (дарэчы, былога выхаванца езуіцкага калегіума) "Шляхціц Завальня, альбо Беларусь у фантастычных апавяданнях". У 1998 годзе Уладзімір Арлоў апублікаваў артыкул пад назвай "Таямніцы полацкіх езуітаў", дзе ён залез не толькі пад падушку, але і ў думкі свайму герою, таксама гістарычнай асобе – генералу ордэна Габрыелю Груберу:

*У 1805 годзе пецярбургская рэзідэнцыя Таварыства Ісуса загарэлася. Афіцыйнае паведамленне сцвярджала, што езуіцкі генерал задыхнуўся ў дыме. Магчыма, у свае апошнія хвіліны Грубер успомніў даўнюю мару: стварыць у Полацку універсітэт – другі пасля Віленскага на землях былога Вялікага княства Літоўскага.* ("Народная воля". Ліпень 1998.)

Такі вось утылітарны падыход да слуг Божых – спадчына яшчэ савецкіх часоў: з паршывай авечкі — хоць поўсці клок, хай, маўляў, цемрашалы дбаюць пра народную адукацыю. Досыць какетлівыя ўзаемаадносіны са светам звышнатуральным — для Арлова не рэдкасць. Вось у паэтычным зборніку "Фауна сноў" у вершы "Бабачка з Пятай авеню" паэт звяртаецца да насякомага са словамі:

*Кім была ты ў мінулым жыцці?*
*Паслушніцай Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра?*
*Ці шасцікласніцай, закатаванай у ліфце маньякам?*



Падобная асацыяцыя сексуальнага гвалту з рэлігійнымі практыкамі ў адным радку сведчыць аб падсвядомым імкненні травестыцыі збэшчвання сакральнага. Яркім прыкладам гэткай з'явы ў літаратуры быў маркіз дэ Сад, у рамане якога "120 дзён Садома" можна спаткаць апісанне ліберцінскай групы, дзе былі жанчына, біскуп, індык і дзіця, і групе гэтай у рамане наканавана было здзяйсняць сексуальныя фантазіі маркіза-вычварэнца. Але, магчыма, гэта неразуменне таго факта, што калі маладая дзяўчына ахвяруе сваё жыццё Богу, у гэтым неабавязкова прысутнічае гвалт над прыродай, бо жыццё ў свеце сакрум можа нават часам даць пэўную душэўную сатысфакцыю, незразумелую на ўзроўні прафана.

Але Арлоў – творца, і таму, як творца, дазваляе сабе ўсё, што раней было забаронена савецкай цэнзурай, якая, дарэчы, усё і забараняла. Арлоў-гісторык – хранікёр бясконцай пераходнай эпохі, калі старая гісторыя (літаратура, этыка, рэлігія, эстэтыка, ПДР, Статут ВКЛ, БССР, БНР, ГПУ, ПТВ) як бы скончылася, але як бы надалей і існуе, а новая ўжо пачалася, але яшчэ не атрымала адпаведнай фармоўкі. Таму ён лепшы ў лірычнай паэзіі – той сферы мастацтва, дзе няма ніякіх эстэтычных канонаў, акрамя тых, што стварае ўласна творчая свядомасць – душа паэта. Але і тут, у сферы інтымнага, якую, падобна славутаму расійскаму парадаксалісту мінулага стагоддзя В. Розанаву, імкнецца пашырыць У. Арлоў, паэт выступае ў сацыяльнай ролі грамадскага дзеяча: "*...Марскі смак жаночага лона...*" ("Крыніца". № 37.)

Беларусь не мае выхаду да мора, і тым беларусам, якія мора ніколі не бачылі, Арлоў, прынамсі, дае агульнае ўражанне пра ягоны смак — смак лона. Тым не менш, чытачы павінныя быць удзячныя за каштоўную інфармацыю. Хаця сумнеўна, што ўсе жаночыя лоны маюць аднолькавы смак, бо грудкі маюць розны пах: *Сёння грудкі не пахлі нічым – напэўна, таму, што гэта былі не твае грудкі* ("Ранішні верш пра твае грудкі"). Таму лепш чытачам усё ж такі з'ездзіць да сапраўднага мора, бо раптам прыкры досвед з недасканалым эквівалентам марскога смаку можа даць ілжывае ўражанне аб самім моры. І займацца каханнем у айчынных вадаёмах, як апісана ў вершы

“Фауна сноў” з аднайменнага зборніка, не так бяспечна – можна параніцца аб бітае шкло.

У некаторых вершах Уладзіміру Арлову ўдалося дасягнуць небывалага сінтэзу лірыка-эратычнасці з гісторыка-рамантычнасцю, што іх прыемна вылучае ў асобны жанр у айчыннай літаратуры і дазваляе параўнаць з такімі сусветнымі шэдэўрамі, як вершы Х. Картасара і паэма А. Піначэта “Забіць Прэзідэнта”. *А ўвечары, пагасіўшы кандэлябр, ён будзе любіць яе да дзьмухаўцовай бязважкасці* (“Нявеста паўстанцкага камісара”).

У "Снах імператара" імператар Напалеон кахаецца з невядомай беларускай патрыёткай, якая за гэта патрабуе адмены прыгоннага права і аднаўлення ВКЛ у межах 1380 года. (Чаму не адкрыцца філіялу Сарбоны ў Полацку? Ці стварэння афшорнай зоны ў Берасці?) А ў апавяданні "Каханак імператрыцы" — амурныя прыгоды захопніцы беларускай зямлі Кацярыны II. Захавае аўтар той рамантычна-цнатлівы тон у апісанні інтымнага жыцця каранаваных каханкаў ці возьме больш жорсткую натуралістычную ноту накшталт "раскручанага" Павіча? — Чаму ж не?

*2.Арлоў і "Беркут"*

Вядома, як цяжка знайсці спонсараў на выданне кнігі, ды яшчэ не зусім лаяльнаму ўладам аўтару. Але вось – знак новага часу! Аказваецца, можна – вось незалежнасць! Прадпрымальнік з Сургута Анатоль Селівончык ахвяраваў грошы на выданне кнігі У. Арлова "Крыж Ефрасінні Полацкай". А пасля стаў удзельнікам вядомага скандалу, звязанага з хуліганскімі дзеяннямі вайскова-спартыўнага клуба "Беркут" у сваёй уласнай вёсцы, дзе яго "выхаванцы" здзекаваліся з яго аднавяскоўцаў і ўзнялі расійскі трыкалёр над будынкам сельсавета. Вядома, у арсенале сургуцкіх баевікоў не было крыжа Ефрасінні Полацкай. І справа не ў тым, хто каго падставіў і якія інтэнцыі былі ў вынаходлівага мецэната (вынаходлівага ў тым сэнсе, як можна цікава і карысна правесці адпачынак і патраціць лішнія грошы – ці "ў вайну" пагуляць, ці пісьменнікам ахвяраваць), а ў тым, што Уладзімір Арлоў пачаў публічна апраўдваць свайго спонсара. Што рабіць! Гуманістычныя ідэалы, выхаваныя ў нас яшчэ савецкай школай, пакуль не даюць нам успрыняць чалавека ва ўсёй яго экзістэнцыяльнай (бо буржуазнай) супярэчлівасці і ліберцінскай адвольнасці.







Можа, калісьці і ў нас народзіцца паэт, здольны, як Жан Жэнэ, праспяваць гімн здрадніцтву як вытанчанаму мастацкаму акту абсалютна свабоднага індывіда, а пакуль нам застаецца толькі задаволіцца цытатай сусветна прызнанага майстра белетрыстыкі:

*...Ён любіў шпану, бо паважаў сілу і пагарджаў слабымі... Задача гэтага блатнога войска – сеяць страх (і бязладдзе), яно, як здавалася, практычна здзяйсняла мару любога злодзея: рабілася такой формай улады, якую ў ідэале імкнуліся ўстанавіць у кожнай турме, калі кожны злодзей і кожны забойца атрымоўвалі прызнанне і цаніліся менавіта за сваю рэпутацыю злодзея і забойцы. Але якая радасць бачыць свой фотаздымак з падпісаным імем, думаць, што твае дружкі зайздросцяць тваёй славе, аплочанай гадамі зняволення, а часта і коштам жыцця, бо тады кожнае злачынства – рабаванне ці забойства — ператвараецца ў твор высокага мастацтва, бо ад яго, нават самага нязначнага, як толькі яно выплывае на паверхню, залежаць вашы жыццё і слава.* (Жан Жэнэ "Урачыстасць пахавання").

Вядома, асобнаму паэту цяжка дагадзіць адначасова ўсім радыкальным крытыкам, чалавек – гэта істота недасканалая і таму здольныя як на памылкі, так і на геніяльныя азарэнні. Лёгка папракнуць аўтара, што там ён надта разняволены, а там – замала радыкальны, нейкі “палавіністы”. Зрэшты, не памыляецца той, хто нічога не робіць, а Арлоў робіць аж зашмат, нібы які тытан эпохі Адраджэння, і гэта таму, што ў нармальнай краіне нармальныя гісторыкі нармальна і сумленна даследуюць айчынную гісторыю, а нармальныя (ці ненармальныя) літаратары пішуць прозу ці паэзію, якая грунтуецца на гістарычных фактах. У нармальнай краіне нармальныя палітыкі робяць нармальную знешнюю і ўнутраную палітыку, і тыя ж паэты і празаікі пішуць таксама нешта, што абапіраецца на рэчаіснасць. Але дзе яна, "нармальная" краіна?

**Дзмітрый СЕРАБРАКОЎ**

Уладзімір АРЛОЎ

# КАЛІ АЖЫВАЕ ГІСТОРЫЯ...

*...Пісаць – значыць пакінуць іншым клопат пра завершанасць твайго слова...*
**(Р.Барт.)**

Гісторык і пісьменнік К.Тарасаў упэўнены, што "суцэльнасць беларускай гісторыі можна прасачыць толькі праз прызму трагічнасці. Мы былі народам, абраным ці асуджаным (можа, праз геаграфічнае становішча) на неадступнае выпрабаванне пакутамі. Мы вытрымалі іх. Наш галоўны гістарычны вопыт – мужнае цярпенне няўдач".

Сённяшні дзень "дарue" беларусам таксама нямала выпрабаванняў. Неабходнасць захаваць незалежнасць, выратаваць родную мову ў значнай ступені абумоўлівае ўзнаўленне цікавасці да нацыянальнай мінуўшчыны, абуджэнне праз гісторыю свядомасці і годнасці беларусаў. Прыкметнымі якасцямі гістарычнай прозы апошніх дзесяцігоддзяў становяцца ўвага да найбольш яркіх і аддаленых старонак і герояў ранейшых часоў, разбурэнне стэрэатыпаў, сацыялагізатарскага схематызму, імкненне да дэталізацыі, да мікрааналізу побач з шырокім ахопам рэальных падзей. Час і лёс, а перадусім — барацьба з бяспамяцтвам, змаганне з небыццём, духоўнай смерцю складаюць цэнтральныя матывы паэтычнага свету Л.Дайнекі, В.Іпатавай, В.Чаропкі, У.Арлова. Больш падрабязна спынімся на адметнасцях вобразна-паэтычнай сістэмы гістарычных твораў апошняга з пералічаных аўтараў. Здаецца, У.Арлоў (1953) на справе даводзіць слушнасць думкі Р.Барта: "Па апошняму рахунку, ідэал паэзіі – дакапацца не да сэнсу слоў, а да сэнсу саміх рэчаў". Пераканаемся ў гэтым праз зварот да тэкстаў самога пісьменніка.





Уладзімір АРЛОЎ

Як кожны самастойны тып мастацкай структуры, гістарычнае апавяданне адрозніваецца пэўнай праблемна-зместавай скіраванасцю і спецыфічнай фармальна-паэтычнай арганізацыяй. Справа ў тым, што, незалежна ад аб'ёму, мастацкі твор кожным элементам сваёй цэласнай структуры даносіць непаўторны паэтычны свет творцы, нараджае характэрную эмацыянальную танальнасць, якая надае адметны адбітак і пранізвае сабой не толькі ідэйна-вобразны змест твора, але і кампазіцыю, гукавы лад, сінтаксіс і г.д. Аповед пра мінулае разам з дакументальнасцю асновы, гістарычнымі героямі і каларытам, адноснай, бо нельга не заўважыць, аб'ектыўнасцю падачы матэрыялу, сюжэтнасцю яго, яшчэ раз даказвае, што кожны жанр характарызуецца ўласнымі нормамі, законамі існавання, код якіх нясе ў сабе іх паэтыка.

Адна з істотных адзнак паэтыкі ў малой прозе У.Арлова выяўляецца праз праблему апавядальніка. Многія творы аўтара па сваёй форме ўяўляюць персаніфікаванае апавяданне, споведзь або нават хроніку, грамату, маналог, запавет, якія абцяжарваюцца разгорнутым сюжэтам, або адметны шматгалосы, блізкі да драматычнага па поліфанічнасці ідэй і калізій празаічны жанр. Некаторыя апавяданні вылучаюцца сказавай формай выкладання, прыёмамі вуснага маўлення, што ствараюць асаблівую атмасферу даверу, пераконваюць у дакладнасці пададзеных фактаў, а ў структуры афармляюцца праз сюжэтна-кампазіцыйную раскаванасць.

Асабліва паказальны ў свабодзе выяўлення "Я" апавядальніка "Маналог святога Пётры". Адухаўленне драўлянай скульптуры апостала, абмалёўка музейным экспанатам уласнага партрэта робяць яго размову з уяўнымі слухачамі асабліва інтрыгуючай, незвычайнай. Арыентацыя на тое, што яго з увагай слухаюць, падкрэсліваецца даволі частымі зваротамі да суразмоўцы, ужываннем выразаў кшталту "выбачайце, шаноўныя", "скажу вам", "вы ўжо даруйце", "вы не ўяўляеце", "зірніце", "пагледзімо" і інш.

Сваю адмысловую паказку пра перажытае некалі святы Пётра звязвае з патрэбамі сучаснага дня, з неабходнасцю заха-

ваць гістарычную памяць. Адсюль — крыху ўсхваляваны тон апавядання, выкарыстанне выклічнікаў, у пэўнай ступені — паэтычнай інтанацыі. Як, да прыкладу, у гэтым сінтаксічным перыядзе: "О, чаму ніхто не клаў у мае драўляныя вусны Слова! Колькі маглі б яны распавесці вам, шаноўныя дбайцы, аб роднай гісторыі!"

Выражаную маральна-этычную скіраванасць мае і апавяданне-ліст "Пакуль не згасла свечка", напісанае з турмы Незабытоўскім да свайго пляменніка Ежы. Ён арыштаваны за тое, што "напісаў нейкія крамольныя кнігі", выявіў "зацятую варожасць да манархіі і любоў да рэспублікі"(с.238). Падчас перадачы сваіх прыгод мастацкі герой робіць шматлікія экскурсы ва ўласна перажытае, звязанае з рэальнымі гістарычнымі фактамі. Іншы раз ліст перабіваецца па той ці іншай прычыне. Сярод іх – забыццё, выкліканае хваробай, звязаныя з ёй трызненні, адкрыццё сваёй нацыянальнай прыналежнасці, роднай мовы, народа, "без якога чалавек падобны да матылька, якога нясе вецер..." (с.252). У творы шмат разваг, згадак пра канкрэтных гістарычных асоб. Напрыклад, сялянскага паэта Марцінкевіча, для якога "світка... бліжэй да душы, чым сурдут" (с.251).

Маналагічная форма кампазіцыі — і ў грамаце з магістрацкага архіва "Пішу вам у Масковію". Тут захоўваюцца традыцыйныя элементы эпісталярнага жанру, які істотна дапаўняецца аповедам героя-русіна пра места Полацкае і яго людзей, крывавага цара Івана Васільевіча, пра тое, як "нашыя ваяводы зямлю Мсціслаўскую плюндравалі ды наваколле Воршы і Дуброўны палілі" (с.123). Ствараецца ўражанне, што такая вялікая колькасць дат, гістарычных асоб, канкрэтнай інфармацыі залішняя нават для жанру граматы. Вуснамі свайго героя аўтар звяртаецца і да светаўяўлення старажытных беларусаў, перадае іх звычаі і вераванні, паглыбляецца ў асаблівасці народнага характару, узровень асветы, разважае пра выраджэнне чалавечага ў людзях, здольных "за катаў сваіх маліцца" (с.144) і вельмі падобных на нас сучасных. Такая праблемная і інфармацыйная абцяжаранасць зацягвае сюжэт, перанасычае кампазіцыю твора, хоць нельга не адзначыць і не захапіцца яго высокай ідэйнай задумай, гуманістычным пафасам.







Словамі з ліста-запавету нарадавольца Ігната Грынявіцкага пачынаецца апавяданне "Далёка да вясны". Урывак з яго агучыцца аўтарам яшчэ раз, прыкладна ў сярэдзіне твора. Фальсіфікацыя дакумента, да якой даволі часта звяртаюцца сучасныя пісьменнікі-гісторыкі, у гэтым выпадку не выклікае пачуцця нязгоды, асаблівага пярэчання, бо думкі, выкладзеныя героем, адпавядаюць яго ўяўленням, падмацоўваюцца канкрэтнымі ўчынкамі, складаюць праграму яго дзеянняў, усё далейшае развіццё падзей, іх трагічны фінал. "Аляксандр павінен памерці. Ён памрэ, а разам з ім памрэм і мы, яго ворагі і забойцы" (с.279).

Асноўная сюжэтная лінія апавядання прыкметна дынамічная. І гэта нягледзячы на тое, што яна дапаўняецца дадатковай, звязанай з нядаўняй паездкай Грынявіцкага дадому, лініяй і ўспамінамі пра сястру, бацьку. Арганічна ўплецены ў галоўную канву дзеяння, гэты дапаможны сюжэтна-кампазіцыйны ход дазваляе шмат зразумець у паводзінах героя, адчуць яго душу. "Журлівы голас бацькавай скрыпкі"(с.290), што іграе паланез, прысвечаны Касцюшку, успрымаецца напачатку як сумнае блаславенне на ўчынак дзеля "здратаванай, укрыжаванай Радзімы" (с.290), а пасля смяротэльнага ранення – як не менш сумнае развітанне з жыццём. У трагічным па танальнасці апавяданні гэтае журботнае гучанне музыкі, маючы канкрэтныя межы пачатку і канца, толькі ўзмацняе драматычныя акорды дзеяння. Успрымаючы спакойную рашучасць Грынявіцкага як гістарычную неабходнасць, міжволі пагаджаешся з развагамі Незабытоўскага з апавядання "Пакуль не згасла свечка": "Герой – не той, хто зрабіў больш, чым іншыя. Герой – той, хто зрабіў усё, што мог" (с.250).

З падзеямі замаху на Аляксандра І звязана паданне беластоцкага беларуса М.Гайдука "Галава царазабойцы", якое тэматычна пераклікаецца з нагаданым апавяданнем У.Арлова. Але калі першы падае падзеі ўжо пасля выканання задуманага нарадавольцамі, то другі спыняецца пераважна на падрыхтоўцы і здзяйсненні самой акцыі. Яднае ж гэтыя адрозныя ў жанрава-стылёвых адносінах творы прысутнасць духу радзімы героя. Чытач мае магчымасць адчуць вальналюбства той геаграфічнай прасторы, якая нарадзіла і выхавала Грынявіцкага. Ге-

рой У.Арлова памятае, увесь час чуе ўрачыстую і мінорную мелодыю і не скараецца ворагу, нават у непрытомны перадсмяротны час. Дастаўленая да бацькоў для апазнання галава царазабойцы, пераўвасабляючыся адпаведна легендарна-фантастычным законам у вогненную кулю, да гэтага часу ўцякае ад жандараў у паданні М.Гайдука.

Сугучнае пафаснаму ўсхваленню герояў Вялікага Пачыну (паводле М.Гайдука) апавяданне У.Арлова "Пяць мужчын у лесніčоўцы", дзе адлюстраваны паўстанцкі рух на ўсходзе нашага краю. Тут ён таксама не меў шырокай падтрымкі сярод простага люду. Сяляне, разлічваючы на прызначаную царом грашовую ўзнагароду, палявалі на мяцежнікаў. А вось дух апошніх, як і ў герояў быліцы і апавядання М.Гайдука, вылучаецца гэткай жа нязломнасцю. "Ідэалы жывыя, пакуль яны жывуць у сэрцах. ...Каб ідэалы жылі, трэба, каб за іх нехта гінуў. Такі закон"(с.267), – пераканаsuccessfully творца.

Усё, што змаглі, зрабілі персанажы апавядання У.Арлова. Ім, пераможаным удзельнікам паўстання 1863—1864 гадоў, спявае сваю славу аўтар. Палеміка, што вядуць між сабою чацвёра паўстанцаў і палонны капітан Крыніцкі, дае пісьменніку цудоўную магчымасць выказаць афарыстычна адточаныя думкі: "Народ, які пануе над іншымі, не можа быць свабодным" (с.264); "народ. У яго ўжо ёсць імя і калі-небудзь з'явіцца годнасць"(с.267).

Гэтая ж тэма, але па-за асноўным планам дзеяння, прысутнічае ў апавяданні "Рандэву на манеўрах", пабудаваным па прынцыпе аднабаковага дыялога. Другой удзельніцы размовы мы не чуем, але дакладна ўяўляем змест яе магчымых рэплік па рэакцыі і заўвагах расійскага афіцэра, які вядзе гаворку. З развіццём сюжэтнага дзеяння ў творы з'яўляецца яшчэ адна адсутная асоба – штабс-капітан Пішчыкаў, якога вельмі часта ўзгадвае герой, а таксама выразна вымалёўваюцца постаці траіх расстраляных афіцэраў-мяцежнікаў з мясцовых дваран. Адзін з іх – муж пані Людвікі. Адметная форма падачы матэрыялу выяўляецца праз абрывы, умаўчанні, пропускі, нечаканыя стылёвыя і тэматычныя пераходы, паэтычныя і празаічныя цытаты, разнастайны інтанацыйны малюнак.






Аб'ектывізаванай манерай пісьма, эпічным ходам развіцця дзеяння вылучаецца апавяданне "Місія папскага нунцыя", прысвечанае берасцейскаму падсудку Лышчынскаму і яго атэістычнаму вучэнню. Разбіўка тэксту на асобныя падраздзелы апраўдвае пропускі ў развіцці дзеяння, занатоўваючы найбольш вяршынныя яго праяўленні. У.Арлоў не робіць акцэнту на бязбожніцтве Лышчынскага. Для яго больш істотна сцвердзіць вуснамі свайго героя думку аб неўміручасці народа, якую аспрэчвае папскі нунцый. Адстойваючы ідэю несмяротнасці беларускай зямлі, нягледзячы на шматлікія намаганні яе ворагаў, Казімір Лышчынскі выказвае ўпэўненасць: "Але мая зямля заўсёды падымалася, і яна яшчэ выпрастаецца, каб скінуць са сваіх рамёнаў усю набрыдзь..." (с.161).

Трэба сказаць, што пісьменнік, пры ўсёй разнастайнасці паэтычных прыёмаў і сродкаў увасаблення мастацкай задумы (асабліва ўдаюцца яму шматстайныя стылізацыі), з зайздросцяй настойлівасцю адстойвае пададзеную вышэй думку ў большасці сваіх апавяданняў, кожны раз даказваючы тым самым невыпадковасць звароту да гістарычнай тэматыкі, выяўляючы шчырую захопленасць багатым і слаўным мінулым роднага краю, якім варта і неабходна ганарыцца.

Яшчэ больш пераконваюць у слушнасці зробленых высноў гістарычныя аповесці празаіка. Якраз у гэтай эпічнай форме здолеў У.Арлоў асабліва арганічна паяднаць сваю нязменную ўвагу да даўніны, да роздумнага разгляду выключнай асобы ў яе складаных перыпетыях няпростага часу і яго выпрабаванняў з майстэрскім увасабленнем задумы ў архітэктоніцы і вобразнастылёвым плане твора. Так, у аповесці "Дзень, калі ўпала страла" (1987) разгорнуты эпічны пачатак з апісаннем канца паводкі, з'яўлення на самай строме князя-вершніка цалкам адпавядае тым важным, лёсавызначальным у гісторыі Полаччыны падзеям, сведкам якіх вельмі хутка стане чытач. Іх значнасць, як і няпростасць, пры адначасовым адчуванні ўпэўненасці Валодшы ў сабе, у сваім святым абавязку перад роднай зямлёй, перадаецца праз урачыста-трывожнае гучанне званоў сямівярховай Сафіі, падхопленае Спас-Ефрасіннняй і Бельчыцамі: "Шматгалосая размова званоў нараджала ў душы князя дзіўнае пачуццё, у якім спакойная вера, што гэты крывіцкі горад

будзе стаяць над Дзвіною давеку, спляталася з адчуваннем незвычайнай дужасці, з юначым жаданнем зліцца з канём і мчаць па далёкіх дарогах, чуць вецер у вушах, спаць адным вокам каля лясных вогнішчаў... Пачуццё было такое моцнае, што князь радасна разгубіўся".

Няпростую задачу, што бярэцца вырашыць Уладзімір, неадступныя і нялёгкія думкі яго падкрэслівае і ўвесь аналітычны стыль аповесці, дзе многа развагаў, душэўных пакут, перададзеных праз афарыстычна адточаныя біблейскія ці народныя выслоўі, і разам з тым — рамантычнай сімволікі, псіхалагічных паралелізмаў, выніклых з іх перыфразаў, параўнанняў і іншых сродкаў мастацкай вобразнасці.

У некаторых месцах гучанне твора па сваім вобразна-экспрэсіўным напружанні, інтанацыйна-сінтаксічным складзе набліжаецца да былінна-сказавага: "Князю не спіцца, і, відаць, сон ягоны заблукаў недзе надоўга. Думна ў князевай галаве, неспакойна на сэрцы. Уваччу яшчэ стаіць гаворка з пасламі, у зацішнай пачывальні гучаць іхнія галасы..." (с.13).

І ўсё ж Валодша ўпэўнены, што выйсце са становішча — вяртанне Полаччыне, усёй Дзвіне незалежнасці — магчымы толькі ў аб'яднанай барацьбе. У ёй ён бачыць святую справу ачышчэння роднага краю ад захопнікаў, бо недарэмна ж кажуць: "Хто, рабуючы чужое, будуе на тым дом свой, той складае яго на лёдзе. Прыйдзе вясна, і сплыве дом за мора" (с.14); "хто многім страшны, той будзе многіх баяцца" (с.34); "як ад аскоміны пакасць зубам і ад дыму вачам, так і ад беззаконня — тым, хто творыць яго" (с.35).

Упэўненасць у неабходнасці змагацца з нямецкім ордэнам і біскупам Альбертам Валодша перадае і прадстаўнікам суседніх з Полацкай зямляў, якія ўжо нямала пацярпелі ад ворагаў. Многае з набалелага, шматлікія крыўды Чудзі зняшчае ў сабе пабудаванае ў форме разгорнутага антанімічнага рада выказванне гатовага на лютую сечу з апрыклымі прыгнятальнікамі сівога старэйшыны. Ён гаворыць: "Наша неба *не сіняе*, як мора і азёры, а *чорнае* ад хаўтурных вогнішчаў. Крыжакі забілі столькі воінаў, што я ўжо не памятаю, *хто жывы, а хто склаў галаву*. Нашы жанчыны выплакалі вочы, а мужчынам ад частых трызнаў *мёд здаецца горкім, а піва салодкім*" (с.13).






Нястрымнае выспяванне прынятага рашэння, бясконцыя развагі князя аб выбары правільнай тактыкі, здаецца, не маюць часу для арганічнага, спакойнага іх уладкавання. Адсюль узнікае ў пэўным сэнсе звыклая, за выключэннем хіба толькі жанру хронікі, для гістарычнага твора сканцэнтраванасць, празмерная насычанасць дзеяння фактамі, паведамленнямі, асацыяцыямі ў адносна вузкіх межах канкрэтнага часу. Досыць паказальны ў гэтым плане трэці раздзел аповесці, які ахоплівае адну-адзіную, поўную бяссонніцы і трывог героя ноч, але значна багацейшы па змесце і глыбіні пададзенага матэрыялу, яго прасторава-часавай ахопленасці. Тут і згадкі ад размовы з чудскімі пасламі, і перажыванне нанова ўласнай віны трыццацігадовай даўніны за тое, што некалі дазволіў лацінскаму манаху асесці на зямлі ліваў, і неспакойныя думкі пра "пугача з чалавечым аблічччам" рыжскага біскупа Альберта, і ўспаміны пра ганьбу полацкага войска пад Гольмам, і вяртанне да дзён і праблем, яму блізкіх, і, у рэшце рэшт, нараджэнне такога неабходнага перад бітвай пачуцця ўпэўненасці: "Ён, князь Валодша з роду Рагвалодавічаў, не пусціў і не пусціць немцаў на крывіцкія землі. Не пусціць, пакуль за ягонымі плячыма веча, а яно стаіць за яго ўжо трыццаць летаў і будзе стаяць, пакуль жывы"(с.17); "Еўфрасіння жыла, каб сеяць зерне кніжнае навукі. А ён прыйшоў абараніць Полацкую зямлю. Настане пара, і крыжакі зломяць свой хрыбет" (с.22).

Пры гэтым плынь унутранага дзеяння ў раздзеле, перадача раскіданых думак, што ткуцца-праносяцца ў свядомасці князя, знешне выяўляюцца праз сціслыя сказы-заўвагі, якія занатоўваюць зрухі часу, пераход ночы ў дзень. Гэтак жа, як і пагрозлівае вухканне пугача знадворку, "за блізкай сцяной цёмнага бору" (с.15), яго здзеклівае рагатанне ў нечым увасабляюць паводзіны і ўчынкі біскупа, нагадваюць Валодшу пра пагрозу яго змаганню з крыжакамі, якое ім самім параўноўваецца з барацьбой ракі з каменнымі валамі, парогамі. Малюнкі поўні, якую нечакана закрые хмара, вогнішча з чорнымі постацямі замяняюцца іншымі, пададзенымі праз сказы-паведамленні, што канстатуюць надыход новага дня. Цытуем: "*Поўня* скацілася з неба, дзесьці далёка за лесам пачынала разгарацца *вогнішча дзянніцы*" (с.20); "гаслі апошнія, самыя *яркія зоркі*" (с.21);

“над борам падымаўся *пунсовы сонечны шчыт*” (с.22). Усе згаданыя астральныя вобразы з іх узвышанай эмацыянальнай афарбоўкай як бы адцяняюць, падкрэсліваюць светланоснасць рашэння князя.

Ёсць у гэтым жа раздзеле яшчэ адно выказванне, на якое нельга не звярнуць увагу. І таму, што ў ім своеасаблівае тлумачэнне лёсу чалавека, яго наканаванасці, прызначэння, і таму, што яно ўтрымлівае ў сабе падказку назвы твора, тлумачэнне яе. Як вынікае з тэксту аповесці, не ад стралы, а ад атруты памірае князь Валодша. “Дзень, калі ўпала страла”, – дзень гвалтоўнага перарыву яго жыццёвай лініі, “той *невідочнай стралы*, што ляціць праз дні і гады, пазначаючы кожнаму ягоны шлях” (с.21–22). На думку героя, які не прагне ўвекавечання, а толькі справядлівай помсты, гэтая страла лёсу “ляціць, пакуль не ўпадзе долу. Тады застанецца толькі памяць аб чалавеку. Аб адным – на год, аб другім – на векі вечныя” (с.22).

Трэба сказаць, што для Тэадорыха, ён жа і лучнік з Оршы Богуш, чалавечы лёс, працягласць яго не атаясамліваюцца з вобразам імклівай стралы. Адпраўлены, каб забіць князя Вальдэмара, ён гаворыць кастаправу Данілу-Дзітрыху: “Я прыйшоў, каб абарваць *чорную нітку* ягонага *жыцця*” (с.24). Толькі адно гэтае супастаўленне метафарычных вобразных малюнкаў даволі выразна высвятляе кантрастнасць двух антаганістычных характараў, адрозную розніцу ў іх светабачанні.

Прыведзены прыклад – далёка не адзінкавая з’ява ў паказе супрацьлегласці пазіцый і поглядаў герояў, нават іх знешнасці. Узгадайма паглядны твар князя, яго густыя кучаравыя валасы, дапытлівы позірк шэрых вачэй, каляныя, бо звыклыя да ваярскай справы, далоні, тое, як перад паходам яго “душу прасвятліла радасць” (с.36). З другога боку — рыцар Альберт з “круглай галавой і вялікімі слепаватымі вачыма” (с.15), неаднаразовыя параўнанні яго з пугачом, што іншы раз падаюцца як перыфразы. Праўда, згадваецца і розум біскупа, а таксама тое, што не першы год ён “і ордэн грызуцца, як злыя сабакі за смачную костку” (с.19). Ужо ў самім параўнанні ўтрымліваецца эмацыянальна-экспрэсіўная адмоўная ацэнка, якая лёгка прачытваецца.

Такая адрознасць характарыстык вынікае з супрацьлегласці



задач, якія ставяць перад сабой Валодша-абаронца і Альберт-рабаўнік. Вышыню ідэалу першага добра асвятляюць наступныя словы: “Прыспеў час забыць старыя крыўды і стаяць за свае рубяжы плячо ў плячо, іначай палягуць паасобку, як дружына князя Ігара ў Палавецкім стэпе” (с.19). У іх – выпакутаванасць і мудрасць рашэння, здольнасць узваліць цяжар адказнасці на сябе і заціснуць уласныя амбіцыі ў кулак, вострае адчуванне таго, што “праўда – за ім, а не за крыжакамі” (с.18).

У залежнасці ад таго, які вобраз характарызуюць, да якой з’явы адносяцца, назіраюцца адрозненні і ў экспрэсіўнай афарбоўцы параўнанняў. Так, п’яны Дзітрых “робіцца *балбатлівы, як жанчына*” (с.32); Тэадорых, па словах князя, “*прыйшоў* у... горад, *які нань*” (с.35); твар яго “*белы, як сала*” (с.35). Кепскае прадчуванне Валодшы перадаецца пісьменнікам праз разгорнутае параўнанне. Напрыклад, “ягоную *душу* на імгненне *кранула нейкі цень, як быццам над ім праляцела вялікая злая птушка*” (с.35). У некаторых выпадках ролю параўнальных зваротаў выконваюць прымаўкі або іншыя формы ўстойлівых выразаў. Як, напрыклад, у такіх сказах: “Кастапраў *закруціўся, нібы сеў на гарачае*” (с.23); “ужо трыццаць год полацкі кароль *як бяльмо на* нашым *воку*” (с.24). Часта пісьменнік звяртаецца да прыёму ампліфікацыі, г.зн. заведама згушчанага выкарыстання ў сказе ці некалькіх суседніх фразах самых розных мастацкіх сродкаў з пэўнай характаралагічнай ці стылістычнай мэтай. Так, незайздросны выгляд першага лацінскага манаха перадаецца аўтарам праз цэлы шэраг азначэнняў і параўнанняў: “Быў ён у *падшытай ветрам лапленай сутане* і выгляд меў такі, *быццам ніколі не еў уволю хлеба. У княжым хораме заморскі госць трымаўся ніжэй за халопа...*” (с.14).

Да месца будзе нагадаць, што У.Арлоў наогул больш схільны да разгорнутага параўнання – вобраза, як і да развітага мастацкага азначэння. Да прыкладу, “мураваная царква пад свінцовым крыццём і выцягнутыя ўсцяж частаколу дахі жылых клецяў”; “падлетак, з дзіцячым румянцам на бязвусым і безбародым твары, але ўжо з шырокімі па-мужчынску плячамі, якім было цеснавата ў зялёным аксамітавым каптане” (с.27). Але і простыя параўнанні, і адзінкавыя эпітэты гэтак жа шырока выкарыстоўваюцца ім. Прывядзём некалькі прыкладаў так зва-

ных метафарычных эпітэтаў, якія надаюць стылю аповесці рамантычна-ўзвышанае гучанне. Гэта – тая ж "шматгалосая размова званоў" (с.4), "узбунтаваныя ветрам бялявыя валасы" (с.9), "цёмнае воблака лютасці" (с.16), "звітыя з жыл рукі" (с.29).

Такую ж ролю выконваюць пашыраныя ў тэксце твора антонімы, якія адлюстроўваюць сабою не толькі ідэйныя разыходжанні герояў, але і падкрэсліваюць катэгарычнасць іх меркаванняў, гранічную ступень упэўненасці ці адмаўлення. "*Не забіваць* жадаю, *а гутарыць* з табою" (с.33), – гаворыць Богушу Валодша.

Сустракаюцца выпадкі, калі антанімія перадаецца не толькі праз асобныя словы, але і праз сэнсава закончаныя часткі сказа. У фразе – "*Ні воўк ваўка, ні змяя змяю не губіць,* а *чалавек чалавека губіць* і *радасць* з гэтага *мае*" (с.12) – у супрацьлеглым значэнні выступаюць не толькі назоўнікі, але і дзеясловы. Прычым антанімія назіраецца і ўнутры другой часткі складаназлучанага сказа, як бы падкрэсліваючы абсалютную абсурднасць з'явы.

Іншы раз у антанімічнай пары замест слова ў яго прамым значэнні выкарыстоўваецца перыфраза ці іншы мастацкі троп. І тады ў тэксце можна сустрэць выразы тыпу: "п'е *не віно, а чорную лютасць*" (с.20), "*змрочнае здаваленне*" (с.12), "*змрочная радасць*" (с.24).

Прыведзеныя назіранні дазваляюць зрабіць наступнае заключэнне. Як афарыстычнасць, адточанасць фраз у мове князя Валодшы выдаюць у ім мудрасць, начытанасць, пэўную прыўзнятасць над будзённай хваляй жыцця, а ўчынкі і паводзіны выяўляюць самаахвярную сутнасць і рашучасць яго натуры, гэтыя асноўныя рысы рамантычнага героя, так і кожны мастацкі прыём у паэтыцы аповесці, пачынаючы ад складаных вобразаў-сімвалаў і заканчваючы звыклымі эпітэтамі, кожная лексічная адзінка мовы, а ў цэлым яна багатая на самыя розныя адценні экспрэсіўнасці, дазваляюць гаварыць пра ярка выражаную рамантычную адметнасць гэтага гістарычнага твора.

Асноўная мэта аповесці "Час чумы" (1986), сфармуляваная пісьменнікам як "сказаць свету слова праўды пра сваю зямлю" (с.39), зямлю, "якая завецца "Радзіма" (с.68) і не прадаецца, пранізвае ўсе вобразна-тэматычныя і эмацыянальна-стылёвыя ўзроўні твора, надае яму адчувальны патрыятычны пафас, напаўняе вострым клопатам за Айчыну. А тое, што яна ў небяспецы, што ёй пагражае бяда, вынікае са слоў Міколы Гусоўскага, пра якога ў далейшым і будзе весціся аповед, вынесеных у эпіграф: "Мы пад сякерай..." (с.38).

У "Снах імператара" (1990) асноўны змест патрыятычнай ідэі заключаюць у сабе словы Напалеона пра тое, што "любоў да Айчыны – галоўная дабрачыннасць адукаванага чалавека" (с.109). Але ў дадзеным выпадку нас хвалюе не самаадданасць Банапарта Францыі, не яго прага да славы і нават не маральна-этычны аспект "дабрачыннасцей" гэтага чалавека, а звязаная з ім у тагачаснай сітуацыі надзея на вызваленне Беларусі, так горача выказаная таямнічай безыменнай жанчынай і адразу ўспрынятая ўважлівым чытачом (не Напалеонам) як пагрозлівае папярэджанне, як наступнае праследаванне: "Мой імператар, калі вы і цяпер не падтрымаеце імкнення маёй краіны да волі, калі не дасцё згоды на федэрацыю Княства і Кароны, вы здратуеце не толькі нашы надзеі. Вы перакрэсліце і свае" (с.132).

Невядома, як склаўся б лёс Беларусі, калі б парыванні асобных патрыётаў на той момант спраўдзіліся. Пісьменніку ж найважней паказаць, што яны былі, што ў розныя часы няволі, прыгнёту не знікала, а то і нечакана нараджалася нанова ў народзе мара пра вызваленне, пра незалежнасць радзімы. Думка гэтая аднолькава блізкая У.Арлову і тады, калі ён кранае пачатак XIII ст. на Полаччыне, гады кіравання князя Уладзіміра ("Дзень, калі ўпала страла"), і калі даследуе першую трэць XVI ст. і асобу паэта-лацініста Гусоўскага ("Час чумы"), і калі апісвае падзеі вайны 1812 года, выкладае сваю версію апошніх дзён сасланага на пустэльны востраў французскага палкаводца ("Сны імператара").

Па перакананні пісьменніка, а яно досыць адчувальна праступае праз тэкст кожнага з пералічаных твораў, кожны чалавек мусіць спраўдзіць сваё высокае прызначэнне, у любым выпадку – імкнуцца да гэтага. Інакш яму не будзе даравання, не дачакацца спакою: "Бласлаўёны той, чый лёс уплывае на лёс Айчыны" (с.50). І не мае значэння, на якія сферы жыцця, аб'ём яго можа паўплываць, паўздзейнічаць асоба, наколькі кардынальна здолее змяніць іх.

Розныя магчымасці, розныя задачы, розныя шляхі сцвярджэння свайго "Я" ў Гусоўскага і Напалеона. У першага яно адбываецца праз творчы акт, праз напісанне мастацкага твора, які ўзнясе яго на недасяжную вышыню. У другога – праз канкрэтныя знешнія дзеянні і наступнае асэнсаванне іх пасля паразы, пасля звяржэння, калі ён вымушаны не па ўласнай волі спусціцца з вяршыняў светаўладальніка на грэшную зямлю, што для яго славалюбства і бязмежнага гонару горш за бездань.

Адрозненні існуюць і ў знешніх фактарах, прычынах неспакою нагаданых герояў. Для Гусоўскага – гэта сама рэчаіснасць, тая размаітая эпоха сярэднявечча, што праславілася не толькі асветай, здабыткамі культуры, але і войнамі, страшэннымі хваробамі, рэлігійнымі спрэчкамі, інквізіцыяй. Трагедыю спачатку нібы прадвяшчае, а затым цалкам адпавядае ёй падараваная мецэнатам Віталіусам карціна Гіераніма Босха з адлюстраванымі на ёй крывавым хаосам, непамыснымі жахамі, што хутка стануць явай, ажывуць для паэта, які страціў дарагіх яму людзей, пакутуе бязмернымі пакутамі іншых. І ўжо не пад уздзеяннем карціны, а на самай справе ён адчуе: "Свет вакол яго рушыўся. У гэтым свеце панавалі пачвары" (с.93).

Развярэджанасць думак Напалеона, загадкавы сэнс яго дзіўных сноў-успамінаў не адразу спасцігаецца ім самім. Аказваецца, жанчына, якой ён некалі паабяцаў вызваліць з рабства яе родны край і не стрымаў слова, прыходзіць у яго трызненні, каб помсціць, помсціць успамінамі. "З дна памяці выплылі і насунуліся на яго барадатыя сялянскія твары" (с.134), яе словы, характво, пахі, уласная былая веліч і сённяшняе вязнякука, якога кожны момант могуць загрызці-атруціць прыстаўленыя для аховы мурашкі – былыя верныя падданыя, мізэрнае існаванне.

Пры аналізе аповесці "Дзень, калі ўпала страла" намі ўжо адзначалася схільнасць празаіка да супастаўлення той ці іншай з'явы прыроды з унутраным станам чалавека, г.зн. да псіхалагічнага паралелізму. Бадай, толькі ў фінале твора светлы малюнак сонечнай раніцы даецца як кантрастны, не сумяшчальны са смерцю галоўнага героя ў такі вырашальны для княства момант. У дзвюх наступных аповесцях У.Арлоў таксама часта звяртаецца да названых прыёмаў.






У творы пра Міколу Гусоўскага прырода наогул выступае як самастойная дзеючая асоба, гэтак жа, як і ў яго паэме "Песня пра зубра". Абвостранае ўспрыманне яе хараства, тонкае адчуванне яго абумоўлена паэтычнасцю натуры героя, балючай тугой па Радзіме, жаданнем данесці ўсяму свету непаўторнасць цудаў яе пушчы, зуброў, бояззю ператварэння беларусаў у янычараў і той высокай мэтай ("...сказаць сваё слова пра свой народ і сваю краіну. Сказаць так, каб потым не страшна было і памерці" (с.53), напамін пра якую ў такой жа афарыстычнай форме прагучаў у пачатку аповесці.

У "Снах імператара" малюнкі прыроды ў начных мроях-успамінах галоўнага героя прыводзяцца толькі ў сувязі з яго былой веліччу, падкрэсліваючы ці дапамагаючы ўзнавіць некалі перажытае. Нават сабор Святой Ганны, гэтае "маленькае дзіва з чырвонае цэглы" (с.112), успрымаецца ім той рэдкай з'явай, якой маглі б ганарыцца і французы. І толькі любаванне ім "яшчэ можа супакоіць ягоную душу Боскім хараством" (с.113), калі імператар вымушаны затрымацца ў Вільні, спадзеючыся як след падрыхтаваць да выступлення ў паход сваё войска. Нібы дар святой Ганны, з'яўляецца ў жыцці тады яшчэ непераможнага палкаводца таямнічая незнаёмка, а разам з ёю – паэзія вясны, ночы, старажытнага паганскага Купалля, музыка вачэй, што нагадваюць зялёны бурштын з чорнымі іскрынкамі, палон хвалюючага пачуцця, "салодкае бездані" (с.119).

Сюжэтная лінія выгнання Напалеона дазваляе бачыць яго якраз сам-насам з прыродай, з рознымі праявамі яе, адчуць у ім зусім іншага чалавека. Менавіта: чалавека, што шукае спакою пад ніцымі вербамі ля крыніцы, задумваецца над незваротнай плынню часу, міжвольна праводзіць аналогіі між лёсам жука, з'едзенага мурашамі, і сваім незайздросным лёсам палоннага, параўноўвае крынічную глыб са студняю ўласнай душы, паверхня якой незварушная: "Але там, на невідочным дне, таксама ідзе жыццё..." (с.125). Назіраючы за гэтым імператарам, не тое што даруеш, але неяк стараешся не памятаць пра пасеяныя ім смерць, разбурэнне, гора; хочаш зразумець яго, спачуваеш. Вось ужо, сапраўды: "Ад вялікага да смешнага – толькі крок" (с.141). Праўда, сам Напалеон спяшаецца дадаць да гэ-

тых слоў і іншыя: “Але толькі крок і ад смешнага да вялікага” (с.141). Аднак нам ужо зразумела, што спадзяванні яго марныя, што ў жыцці немагчыма нешта перайграць, як збіраецца зрабіць гэта імператар, бо тут няма рэпетыцый, чарнавікоў. Тут адразу ўсё пішацца на чыставік.

Л.Шэстаў, разважаючы аб паняцці адказнасці, пісаў: “І Дастаеўскі, і Талстой доўга і пакутліва разважалі пра Напалеона. Ім усё хацелася зразумець, як мог Напалеон прыняць на сябе адказнасць за ўсе тыя бядоты, якія ён прынёс у свет... Ім здавалася, што ўсе людзі аднолькава арганізаваны, што калі сумленне ім не дае спакою, то яно павінна мучыць і Напалеона. Але людзі зусім не аднолькава арганізаваны, і сумленне не заўсёды і не для ўсіх існуе. ...Для Напалеона ж пытання аб адказнасці зусім і не было. Ён дзейнічаў і жыў “згодна прыродзе...”. І далей філосаф прыходзіць да наступнага катэгарычнага заключэння: “Большасць, калі не ўсе, гістарычныя дзеячы былі безадказныя, бо ўсякі, хто бярэ на сябе адказнасць, – калі ён чалавек, а не Бог, – паралізуе гэтым у сабе нерв дзейнасці і асуджае сябе на марнасць і роздумы”.

У творы беларускага празаіка Напалеон прысутнічае не ў гады сваіх пераможных шэсцяў, а на сыходзе жыцця, калі ад падвядзення рахункаў з ім, ад пачуцця адказнасці за зробленае некалі нікуды не дзецца. І нават калі герой раней не прызнаваў ці не лічыўся з законамі сумлення, маралі, той жа адказнасці, зараз ён вымушаны з’явіцца перад іх судом, духоўна спустошаны, абрабаваны жабрак, якому боязна, неспакойна.

Асобнай увагі заслугоўвае рытмічная арганізацыя апавесцей У.Арлова. Кідаецца ў вочы раўнамернасць чаргавання ў іх вобразных малюнкаў, што абумоўлена двухпланавасцю сюжэтна-кампазіцыйнай структуры, заснаванай на непарыўнасці непасрэдных у дачыненні герояў падзей і ўспамінаў. У адносінах да Міколы Гусоўскага гэтыя планы можна акрэсліць як Радзіма, што недзе далёка і заўсёды ў сэрцы, і каханне, пакуты творчасці, народжаныя ўжо тут, у Італіі. Акрамя таго, герой павінен спасцігнуць для сябе сэнс яшчэ некалькіх ісцін. Адна з іх: каханне і ўдзячнасць за выратаванае жыццё – не адно і тое ж. Зразумець гэта – значыць зразумець “з бязлітаснай яснасцю..., што ніякага шчасця не было” (с.89). Але найбольш уражвае, прыгнятае Гусоўскага бездапаможнасць чалавека перад тварам смерці, бязмежная ўлада якой так выразна перададзена на карціне Босха і якая выклікае “адчуванне, што ён трапіў у вялізныя цяжкія жорны, якія з кожным новым імгненнем усё глыбей зацягваюць яго ў сваё каменнае чэрава” (с.92).



З Напалеонам, здаецца, усё інакш. Ён так ганарыцца здольнасцю кіраваць сабой, сваёй воляй, нават снамі, уменнем спрасоўваць раку часу ці пры патрэбе вырываць з яе неабходнае для канкрэтнага моманту, што адразу цяжка прызнаць у ім скоранага. Але ява, якую даводзіцца перажываць Банапартувыгнанніку, такая сумная, невыносная ў параўнанні з ранейшымі адчуваннямі, што ўласны мозг, свядомасць пачынаюць ратаваць яго ўспамінамі аб ранейшай магутнасці. Як потым вытлумачыцца, на самай справе яны раняць, катуюць болей, чым сапраўдная рэчаіснасць. Пранікаючы ўсюды, гэтыя трызненні прыносяць з сабою новыя перажыванні, нябачна атручваюць.

Выходзіць, што і геній духу, і геній вайны – аднолькавыя пакутнікі. Але Гусоўскі – вершатворца, а “паэзія мусіць дапамагчы чалавеку будаваць храм сваёй душы” (с.78). І ў апошнія хвіліны ён жыве верай, просіць паратунку ў Божай Маці:

*О, заступіся за нас! Праз любоў к чалавеку*
*Бацька наш Бог і абраў цябе сам, і паставіў*
*Першай заступніцай люду, і ты заступіся!..” (с.93).*

Імператар-заваёўнік ні аб чым і нікога не просіць. Не таму, што не верыць, а таму, што ўзносіць сябе да нябесных вяршыняў. Слова для яго не ўяўляе асаблівага значэння, а тым больш каштоўнасці. Ён можа лёгка адступіцца ад яго, як гэта рабіў безліч разоў, як не стрымаў яго і перад той загадкавай жанчынай з Беларусі. І вось надышоў час расплаты. Жахлівасць і неадступнасць яе перадаецца пісьменнікам праз нагнятанне анафары “яна”, што скрозь праходзіць праз поўныя два абзацы і сваёй напружанасцю рыхтуе развязку-фінал, якая і наступае літаральна праз некалькі сказаў. Звернемся для пераканаўчасці хоць бы да невялікага ўрыўка з тэксту: *“Яна* (тая

жанчына. – *В.Ш.*) вярнула яму сілу, зрабіла здаровым, каб потым катаваць яшчэ страшней. *Яна* прыйшла судзіць яго ад імя свайго і ўсіх іншых народаў. *Яна* перашкодзіла яму вярнуцца ў Еўропу, але *ёй* гэтага мала" (с.143).

Толькі наіўны чытач звяжа надыход суровай кары палкаводцу з-за дадзенага некалі і не вытрыманага слова сумлення. Насамрэч існуе куды больш істотная, аб'ектыўная прычына вінаватасці Банапарта. Невымернасць яе перадаецца У.Арловым праз градацыйна выпісаны, абагулены малюнак смерці. *"Трупы, трупы...* Заваленыя *трупамі* палі бітваў. *Заледзянелыя, прыцярушаныя снегам трупы* на ўзбочынах гасцінцаў. *Трупы* ля чорных плямін пагаслых вогнішчаў на прыдарожных лясных галявінах. *Азызлыя, пачварна вялікія трупы* на дне Бярэзіны... Свет, у якім *мёртвых* болей, чым жывых" (с.140).

Такога не даруюць. І ні далеч, ні час, ні адданыя двайнікі не ў стане выратаваць генія смерці ад кары, канчатковага краху, пра які папярэджвалі і дзіўная незнаёмка, і працяжная, тужлівая песня плытагонаў, і праклёны палоннага мужыка-партызана, і ўчарнелы ветразь фрэгата з прарочага сну, і "тысячы і тысячы галодных абмарожаных істотаў, што праз дзень ці праз тыдзень таксама ператворацца ў *трупы*" (с.140).

Увогуле пісьменнік даволі часта выкарыстоўвае самыя розныя формы паўтораў. І калі ўлічыць, што "паўтор у структуры мастацкага твора звязаны з назапашваннем якасці, трансфармацыяй сэнсу, а таму ён не таўталагічны, больш таго — ён непаўторны", то становіцца зразумелым зварот празаіка да гэтай паэтычнай фігуры, плённай як у фармальных, так і ў сэнсаўтваральных адносінах.

Так, на стыку сёмага і заключнага, восьмага, раздзелаў аповесці "Сны імператара" ім ужываецца з нязначнай варыяцыяй прыём эпанастрафы, які дазваляе звязаць у адзінае цэлае непрыемную для палкаводца карціну ўцёкаў ад уласнай арміі з разрабаванай краіны, што ўзнаўляецца ў яго снах, і не менш непрыемнае абуджэнне-яву: "Ён выходзіць на ганак, і *начны марозны вецер наводліў б'е яго па твары ... Калючы марозны вецер наводліў б'е яго па твары,* і ён прачынаецца" (с.142).







Іншы раз паўторы акаймоўваюць асобныя сюжэтныя эпізоды, асабліва вылучаючы іх з агульнай плыні апавядання. Напрыклад, "пах дыму, пах суніцаў..." (с.118) у любоўнай гісторыі Банапарта. Неаднаразовае выкарыстанне часціц "так" і "няхай" пасля пакутлівага абдумвання прычын пройгрышу слаўна распачатага і, здавалася б, непераможнага маршу да сусветнай славы (с.128—129) заключае ў сабе толькі частковае прызнанне імператарам свайго паражэння (тут больш самаапраўдання) і як бы настройвае на яго абавязковы рэванш у хуткім часе.

У аповесці "Час чумы" таксама сустракаюцца анафары (скажам, у развагах пра янычара, дзе кожны раз паўтор слова *гэта* ўзмацняе боль паэта за сваю зямлю), скразныя вобразы (карціна Босха, камяніцы Вечнага горада і інш.), афарыстычна афармленыя думкі-падагульненні, вершаваныя цытаты з паэмы, якая "апраўдае ягоныя (Гусоўскага. – *В.Ш.*) пакуты на зямлі" (с.74). Усе яны разам ствараюць уражанне жывога дыхання твора, яго ўдыхаў-выдыхаў, рытмічнай змены нарастання эмоцый самапаглыбленымі развагамі, зрухамі ў дзеяннях і настроях герояў. І калі ў аповесці "Дзень, калі ўпала страла" пераважае выніковая з галоўнай ідэі высокая гераічная інтанацыя, то тэма кахання, смела заяўлены матыў "Моцарт — Сальеры", дарэчы, так да канца і не раскрыты, праблема генія і мастацтва ў "Часе чумы", выразны прыгодніцкі элемент, пакуты грэшнай душы ў "Снах імператара" робяць іх рытміка-інтанацыйны малюнак у значна большай ступені разнастайным, гнуткім.

Пералічаныя якасці разам з багатай гістарычнай канкрэтыкай, уменнем спалучыць храналагічны і рэтраспектыўны планы адлюстравання, а таксама іншыя адзнакі творчага росту сведчаць пра актыўныя мастацкія пошукі аўтара, які, у свой час прыкметна адштурхоўваючыся ад вобразна-паэтычнага ладу пісьма У.Караткевіча, яго насычанай фарбамі і гукамі рамантычнай стылёвай манеры, здолеў адшукаць уласныя шляхі самавыяўлення і, магчыма, блізкі да заваёвы буйной і арыгінальнай эпічнай формы. Да гэтай думкі падводзіць і небеспадстаў-

нае назіранне А.Сідарэвіча: "Аповесць У.Арлова паказвае, што пісьменнік пачынае спакваля ўпісваць гістарычных асоб у "кантэкст", у "панараму". Гэты шлях, думаю, найбольш перспектыў-ны і плённы".

Як бачым, кожны мастацкі твор ёсць рухомая (у плане эмацыянальнага і эстэтычнага ўздзеяння) і адначасова застылая, замкнёная (у плане сюжэтна-кампазіцыйнай завершанасці, вобразна-моўнага выяўлення) сістэма, дзе ўсе ўзроўні, усе састаўныя элементы ў той ці іншай ступені адлюстроўваюць, утрымліваюць у сабе адзнакі агульнай цэласнай арганізацыі, яе паэтычныя стыхіі. У роўнай меры зазначанае адносіцца і да асобнай моўнай адзінкі – слова, якое, і тут варта ўзгадаць адзін з вядучых тэзісаў "Тэарэтычнай паэтыкі" А.Патабні, "толькі таму ёсць орган думкі і абавязковая ўмова ўсяго пазнейшага развіцця разумення свету і сябе, што першапачаткова ёсць сімвал, ідэал і мае ўсе якасці мастацкага твора".

Разгляд аповесцей У.Арлова дазволіў яшчэ раз пераканацца ў слушнасці думкі даследчыка, а таксама выявіць шырокія магчымасці слова-вобраза ў таямніча вытканым узоры мастацкага твора, жанр якога заўсёды варта ўспрымаць "як інстытут традыцыі для стасункаў пісьменніка з чытачом", як абагульняльную катэгорыю, "што заключае ў сабе пэўны змест у самім характары суадносін зместу і паэтыкі".

Творчая і грамадская актыўнасць чалавека, які добра ведае і працягвае свой радавод, імкнецца занатаваць, узнаўляе фауну сноў, складае рэквіем бензапіле, здольны заўважыць божую кароўку на Пятай авеню, дазваляе спадзявацца на здзяйсненне яго высокіх мараў аб адраджэнні Беларусі:

*Буду шукаць: і аднойчы*
*твае далёкія храмы адновяць стра-*
*чаныя абліччы, твае выпрастаныя рэкі зробяцца*
*пакручастыя, як лініі лёсаў,*
*твае прахожыя загавораць на мо-*
*ве, якой цэлае стагоддзе не чуў я.*

**Вольга ШЫНКАРЭНКА**







# ЁН ЯШЧЭ ВЕРНЕЦЦА

**У** сярэдзіне 1980-х я меў тры любімыя беларускія кнігі: "Вандроўнік" Леаніда Дранько-Майсюка, "Сурма" Алега Мінкіна і "Добры дзень, мая шыпшына" Уладзіміра Арлова. У той час я быў студэнтам наргаса і рабіў першыя крокі ў літаратуры. Са свайго чытацкага захаплення я не збіраўся ствараць таямніцы і паўсюль прапагандаваў любімыя кнігі і іх аўтараў. Прапаганду здзяйсняў трыма метадамі: 1) наладжваннем калектыўных чытанняў у студэнцкім інтэрнаце; 2) арганізацыяй сустрэчаў з маладымі пісьменнікамі; 3) напісаннем рэцэнзій на любімыя кнігі для інстытуцкай газеты "Экономист". Рабіць гэта было складана і няўдзячна. Усе мае "прамацыйныя" спробы не дасягалі патрэбнага выніку. На сустрэчы прыходзіла не больш за 10—15 студэнтаў, пераважна дзяўчаты з маёй групы, а на калектыўных чытаннях той-сёй засынаў на другой-трэцяй старонцы. Да таго ж, праводзячы сваю прапагандысцкую кампанію і друкуючы свае вершы ў інстытуцкай газеце, я набыў сур'ёзных ідэалагічных апанентаў — каманду КВЗ з фінансавага факультэта, якую ўзначальваў Жэня Краўцоў (будучы кіраўнік "Мінсккомплексбанка" і стваральнік тэлеперадачы "Банка комиксов"). "Краўцоўцы" абралі мяне мішэнню для сваіх "кавээнаўскіх" жартаў, нават стварылі адмысловы вусны часопіс "Антикозик" (на той час Алеся Аркуша яшчэ не існавала). "Краўцовец" Андрэй Важнік праз знаёмых на перадапошнім курсе перадаў мне на памяць свой першы верш пад назваю "Александру Козику (карандашный вариант)". Здзівілі такія радкі:

*Прости за то, что был я грешен,*
*Прости за едкость и за злость,*
*Прости за то, что так небрежно*
*Кусал твои усищи строк.*

Было гэта прабачэннем ці чарговым жартам — засталося для мяне невядомым. Успамінаю гэтыя студэнцкія гісторыі, каб нагадаць (ці не сабе самому?) той час, акунуцца ў яго.

На сустрэчу з чытачамі ў наргас прыходзілі Леанід Драньday-Майсюк (дарэчы, ён пакінуў тады на “Вандроўніку” наступны аўтограф: “Дарагі Саша! Мне здаецца, што народная гаспадарка — гэта таксама паэзія”), Адам Глобус, Анатоль Сыс, Уладзімір Сіўчыкаў. Запрасіць Уладзіміра Арлова не выпадала. Той жыў у далёкім паўночным Наваполацку. Таму я сам быў вымушаны па заканчэнні ВНУ браць размеркаванне ў Наваполацк і ехаць да Арлова на дзвінскія берагі. Жарт, вядома. Але ў кожным жарце ёсць каліва праўды.

У Наваполацку я заспеў апошнія "зорныя" гады літаб’яднання “Крыніцы”, якое пад кіраўніцтвам Уладзіміра Арлова працавала пры гарадской газеце “Хімік”. Падчас навучання ў Мінску я наведваў розныя літаратурныя хаўрусы, таму магу праўдзіва засведчыць — лепшага літаб’яднання ў сталіцы не было. Арлоў, на пасадзе “адміністратара” наваполацкага літаратурнага жыцця, дэманстраваў неверагодныя здольнасці. Кожнае мерапрыемства, што ладзілася пад шыльдаю “Крыніцаў”, ператваралася ў нешта значнае, важкае, аўтарытэтнае — ці то выступ перад навучэнцамі ПТУ, ці то ўдзел у археалагічных раскопах у Полацку, ці то звычайнае пасяджэнне “крынічанаў”. Бадай, на кожнае пасяджэнне прыязджаў іншагародні госць, віталі і прымалі ўсіх — ад класікаў беларускай літаратуры (Янка Брыль, Рыгор Барадулін) да "зялёных" пачаткоўцаў з усіх куткоў Беларусі. Прыязджалі таксама мастакі, рэжысёры тэатра, акторы, навукоўцы, гісторыкі і г.д. Карацей, культурнае жыццё ў горадзе бруіла шчодрай, нястомнай крыніцай. Пашчасціла мне і з часам. У Наваполацк я патрапіў у самы вясёлы, аптымістычны і спрыяльны для творчасці перыяд — пачатак перабудовы, калі кантроль з боку КДБ за нацыянальна-культурным жыццём у рэспубліцы пачаў слабець. Сяржук Сокалаў-Воюш вольна спяваў свае касінерскія





песні па школах і працоўных калектывах. На галоўнай плошчы горада наладжваліся шматлюдныя палітычныя і экалагічныя мітынгі. А створаны ў Наваполацку перадвыбарчы блок “Дэмакратычны форум” атрымліваў перамогу за перамогай (“крынічанін” Лявон Баршчэўскі нават выйграў парламенцкія выбары). Уладзімір Арлоў паспяваў паўсюль і ўсё больш ператвараўся ў грамадскага дзеяча. Памятаю, як у лістападзе 1988 года ў наваполацкай краме “Дом кнігі” была наладжана прэзентацыя другога зборніка прозы Арлова “Дзень, калі ўпала страла”. Вёў прэзентацыю Навум Гальпяровіч. Як прынята на такіх мерапрыемствах, вядучы прадставіў аўтара, некалькі слоў сказаў пра новую кнігу і даў слова герою сустрэчы. Нечакана для вядучага (зразумела, і для слухачоў) Арлоў у сваім эмацыянальным выступленні амаль не крануў тэму літаратуры — пісьменнік пачаў распавядаць пра ўтварэнне ў Мінску “Мартыралога Беларусі” і заснаванне Народнага фронту... Не ведаю, ці паўстаў пасля той прэзентацыі які-небудзь скандал, але розгалас у горадзе стаяў. Сваю другую кнігу Арлоў мне падпісаў наступным чынам: “Таццяне, Алесю і Антону ў трывожную восень 1988 г. з вераю і надзеяй, што Беларусь будзе жыць”. Майму Антосю на той час было ўсяго 10 дзён.

Мне цяжка дакладна вызначыць, якім чынам адбівалася грамадская дзейнасць Арлова на яго творчасці. Але, відавочна, уплыў быў моцны. Нехта сцвярджае (напрыклад, Глобус), што грамадска-палітычнае адбілася на творчасці празаіка адмоўна. Іншыя кажуць адваротнае: маўляў, грамадскае сталася для пісьменніка творчым палівам, своеасаблівым каталізатарам. Пакінем гэтае пытанне літаратуразнаўцам.

Напрыканцы 1980-х Арлоў канчаткова вырашыў перабрацца ў эпіцэнтр культурнага і палітычнага жыцця Беларусі — у Мінск. Спачатку ён з’ехаў адзін, а калі вырашылася пытанне з жытлом, забраў сям’ю. 8 лютага 1990 года ў наваполацкай кватэры пісьменніка адбыўся вечар-праводзіны Арловых у сталіцу. Сабраўся ўвесь прыдзвінскі бамонд. З гэтага ад’езду пачаўся працэс культурнага заняпаду Наваполацка. Хутка стала відавочным, што менавіта Арлоў быў той воссю, вакол якой круцілася тутэйшае літаратурна-мастацкае жыццё. Замены яму не знайшлося. Неўзабаве наваполацкія пісьменнікі пачалі раз’яз-

джацца па ўсім свеце. З творчых людзей, якія прысутнічалі на згаданых праводзінах сям'і Арловых, засталіся на Полаччыне толькі я, мастачка Таццяна Козік, журналістка Ларыса Малашэня і пісьменніца Ірына Жарнасек. Вінцэсь Мудроў на той час знаходзіўся на расійскай Поўначы, куда з'ехаў па ўласным жаданні разам з Алегам Мінкіным у заробкі.

У Мінску Арлоў тварыў гэтак жа апантана і працавіта і паспяваў паўсюль. Таму сталася нечаканасцю, калі праз пару гадоў пісьменнік імкліва адышоў ад актыўных заняткаў палітыкай. Сваё рашэнне ён патлумачыў наступным чынам: прыйшоў час выбіраць — або палітыка, або літаратура. Літаратура перамагла. Але ненадоўга. Неўзабаве ўмяшалася муза Кліо. Ад гістарычнай белетрыстыкі пісьменнік пераходзіць да асветніцкіх артыкулаў. Арлоў робіцца галоўным папулярызатарам айчыннай гісторыі.

Апошні зборнік прозы Арлова "Рэквіем для бензапілы" пабачыў свет у 1998 годзе. Пасля яго выходзілі выключна кнігі па гісторыі. Мне, прынамсі, тое не вельмі падабаецца. Добрых гісторыкаў на Беларусі, дзякуй Богу, цяпер хапае. Горш з пісьменнікамі. Камусьці ў наргасе зноў цяжка прапагандаваць беларускую літаратуру.

А мне па-ранейшаму падабаецца першы, як аўтар яго называе, вучнёўскі зборнік "Добры дзень, мая шыпшына". Або я непапраўны рамантык, або застаўся ў тым часе, калі ў інтэрнацкім студэнцкім пакоі натхнёна чытаў аднакурсніцам шчымлівае арлоўскае апавяданне "Трое над Атлантыдай".

**Алесь АРКУШ**

# РАНДЭВУ З ГІСТОРЫЯЙ І СУЧАСНАСЦЮ. З ПОЗІРКАМ – НА ВЕЧНЫЯ СЭНСЫ

...Збіраючыся пісаць пра Уладзіміра Арлова — буду згадваць толькі і выключна свае асабістыя ўражанні і думкі, не ставячы перад сабою літмісіянерскіх мэт.





...У сваю пару, як і многім іншым, пад увагу мне трапіліся апавяданні Уладзіміра Арлова. Найперш — "Пяць мужчын у леснічоўцы". Падумалася: калі быць вельмі прыдзірлівым, згадваючы "93-ці год" Гюго, незабыўны Уладзімір Караткевіч. Аднак я з тых, хто спавядае тую ісціну, што ўсе сюжэты скарыстаныя яшчэ ў Біблії, і звяртаю больш увагі на тое, як зроблена. А зроблена было — рукою ўпэўненай і майстравітай.

Тым часам выходзіла і першая кніга пісьменніка — "Добры дзень, мая шыпшына". Як гэта часта ў нас здараецца, аўтар даўно ўжо перарос тую кніжачку, але яна была заўважана — лаўрэацтва (прэмія Ленінскага камсамола, потым шматлікія выданні — прэмія імя Ф. Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтра, пераклады на іншыя мовы, шырокая прэса, выступленні аўтара па радыё і тэлебачанні).

...Стос кніг Уладзіміра Арлова. Проза сучасная, проза гістарычная, вершы ў прозе, вершы, эсэ, гістарыяграфічныя і гістарычныя нарысы, сцэнарыі, артыкулы...

Сур'ёзны момант — У. Арлоў умее не толькі пісаць, ён спрактыкавана друкуецца ў самых розных выдавецкіх структурах у сённяшні няпросты і амаль фантастычна непрадказальны час. Кажу гэта, канстатую — з выключна староўчага боку, не маючы тут ані ценю дакору. Ёсць і такая здольнасць. Выдатная. Бо талент і практыцызм не так часта сустракаюцца ў адным чалавеку. Ёсць у яго і здольнасць папулярызатара. Некаторыя іранізуюць — самога сябе. Зазначу: беларускай літаратуры, культуры, гісторыі — праз свае творы, найперш.

...За гады творчай працы У. Арлоў зазнаў і водар рамантыкі, і выпрабаванне эзатэрычнымі варыяцыямі на розныя тэмы, і кшталт "празаізаванай рэальнасці", і прастору гістарычнага часу. Зазнаў і ауру містычных уплываў, і смак змены шырот і мерыдыянаў, і асаблівы настрой вяртання да звычнага і знаёмага — пасля прыгод на Пятай авеню ці ў берберскай вёсцы.

...Гартаючы кнігі У. Арлова, узяла і перачытала яго апавяданне з першай кнігі "Клён".

Не магу сцвярджаць, што я такі ўжо сентыментальны чалавек, аднак ёсць з'явы, якія заўсёды вяртаюць нейкую свежасць душы. Ну, скажам, мройныя карункі вясновых бяроз,

водарна-кароткае хараство бэзу, урачыстае святло вясновых каштанаў, развітальная, уладарная, яркая краса восеньскіх клёнаў... А знікненне гэтага хараства — заўсёды балючае, заўсёды ўспрымаецца як уласная страта, асабістая драма... Не ў сэнсе вокамгненнасці гэтых з'яў — але ў тым разбуральным, знішчальным, што так часта нясе з сабою чалавек.

А драма асуджанага на пагібель клёна ў апавяданні У. Арлова — пранізлівая, безвыходная... І — бессэнсоўная. Вось проста захацелася "ўладару прыроды" — чалавеку — і суседзям насаліць, і самому дурнотную сваю натуру выявіць. Гісторыя вярэдзіць розум яшчэ і таму, што ненавязліва падсвечваецца драмай іншай: быў у клёна адзін гаспадар, другі... А трэцяга не прадбачыцца... І тут — клён: сімвал, знак... Адыходзіць у вёсцы сапраўднае, карэннае, існае, прыгожае... Што застанецца?

Апавяданне гэтае — у тых традыцыях, якімі моцная беларуская проза. Іван Пташнікаў, Віктар Карамазаў, Алесь Жук... А Хрысціна Лялько!

Для творчай манеры У. Арлова гэтае апавяданне хутчэй выключэнне, не правіла. І справа не ў тым, што выключэнні падцвярджаюць правілы. Гаворка пра тое, што ёсць і вось гэты матыў — пэўнага сэнсу і пэўнай мастацкай формы, пэўнай лірычнай канцэпцыі ў творчасці У. Арлова. Калі ўзяць больш высокую танальнасць — ёсць такая струна душы. Нездарма пісьменнік уключаў апавяданне ў многія свае кнігі прозы, змешчана яно і ў выданні 2001 года ў серыі "Беларуская проза XX стагоддзя". Значыць, і сённяшняму У. Арлову, вядомаму аўтару мноства кніг, дзе стаіць яго прозвішча, нечым важны гэты матыў, ён хоча, каб той прагучаў у шматгалоссі яго цяперашняга творчага існавання: самадастатковасць і вызначальнасць прыроды ў кожнай яе праяве, значнасць бескарыслівага жыццёвага ладу, рытму зямлі, рытму існавання.

Рытму існавання ўвогуле. І рытму існавання творчага. І ў тым пульсуючым заканамерным чаргаванні сэнсаў, гукаў, вызначэнняў, самарэфлексій, звычак, містэрыяльных дзействаў, ушчыльненых фантазій, эсхаталагічных бачанняў, "арфічных" прасвятленняў і дакладнасцяў эзатэрычных мэт — неабходна пабачыць, адчуць, прадвызначыць у лірыка-філасофскіх штудыях кніг "Там, за дзвярыма" і "Фаўна сноў", многае з таго, што канкрэтызавалася ў творчасці ў розных жанравых і сэнсавых увасабленнях і што толькі шукае выйсця, фармуецца ў нейкія мастацкія вопыты... Ці знойдзе?

*Пачынаю чуць чужыя думкі —*
*яны ўрываюцца ў маю свядомасць,*
*як ластаўкі ў разнасцежаныя вокны.*
*Пачынаю бачыць чужыя сны —*
*раніцою гляджу ў люстэрка: хто*
*гэта?*
. . . . . . . . . . . . . . . . .
*Думаю неадчэпна: да чаго рыхтуе*
*мяне Ён?*

Да чаго? Усё — няпроста, размаіта, недзе перанасычана знешнімі эфектамі, недзе пераважаюць вонкавая вастрыня і кідкасць, а недзе — намацваецца сутнасць, існасць, выпрацоўваецца сістэма ідэй.

*Малюю сястру маю яблыню...*
. . . . . . . . . . . . . .
*Малюю каханку маю яблыню...*
. . . . . . . . . . . . . .
*Малюю варагіню маю яблыню...*
. . . . . . . . . . . . . .
*Малюю душу маю — яблыню.*

Сэнсы-перадумовы, якія знаходзяцца па-за полем будзённай свядомасці, даканцэптуальныя сэнсы, фантастычныя здагадкі, каштоўныя знакі, за якімі вымалёўваюцца адзінасутнасныя непрадухільнасці, нязменнасці...

Запаветна-асабістае, спробы вызначыць корань рэалій, немудрагелісты, як быццам лірычны "рэквізіт" — і парадоксы, анамаліі сэнсаў з простым, ясным і значным, выніковым і ледзь не справаздачным.

Што раптам абарочваецца — саркастычным, двухсэнсоўным і адназначным адначасова, калі вокамгненнае і, здавалася б, з прыцэлам на вечнае аказваюцца аднолькава ўяўнымі і нядзейснымі.

*Помнік,*
*"глухі, невідушчы, глядзіць ён на*
*горад, у якім нарадзіўся...*
*. . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Яны прыносяць яму кветкі, не ве-*
*даючы, хто ён;*
*яны прысягаюць імем яго́ным, за-*
*быўшы сапраўднае імя яго;*
*яны славяць яго, не ведаючы, чаму*
*вучыў ён.*

*Ці тут нарадзіўся я? — у роспачы*
*думае ён.*

...Вось тут я бачу і чую сваіх апанентаў — пра што гаворка? Не тым вядомы, не з-за таго вядомы Уладзімір Арлоў.

Вядомасць яму далі, і сапраўды, іншыя творы. Аднак свядомасны, псіхалагічны, канцэптуальны код яго творчасці — тут. Мне здаецца, тут і адбітак пошукаў У. Арлова — на творчым раздарожжы — у дадзеным выпадку, да таго ж, пад уплывам Алеся Разанава, Міхася Стральцова, больш далёкіх і шматлікіх аўтараў, дзе пералічаць можна доўга: Юнга і Шпенглера, Джойса і Апалінэра, Борхеса і Маркеса... *Et cetera.* І найбольш — зноў жа, іспанамоўных аўтараў:

*Так я гутару з табою,*
*адважна здымаючы двукоссі*
*з цытатаў лацінаамерыканскіх*
*раманістаў...*

Калі я пазначаю "на раздарожжы", маю на ўвазе зусім не тое, што У. Арлоў апантана мітусіўся, кідаўся ад адной творчай плыні да другой... Не.

Ён ужо меў трывалы творчы грунт. Празаік гістарычнай і сучаснай тэматыкі, творца, што працягвае, не эпігонствуючы, а працярэбліваючы свой шлях, традыцыі Уладзіміра Караткевіча і Міхася Стральцова. Ад яго ўжо чакалі... новых твораў.







Працягу? Нечаканых паваротаў? Вось гэта і было пытаннем для самога пісьменніка. На тую пару — аўтара гістарычных апавяданняў "Пяць мужчын у леснічоўцы", "Пакуль не згасла свечка", "Міласць князя Гераніма", "Каля дзікага поля", "Рандэву на манёўрах" і г.д. Аўтара гістарычных аповесцяў "Сны імператара", "Дзень, калі ўпала страла", "Час чумы"... Аўтара эсэ, шматлікіх апавяданняў на сучасную тэматыку...

Ужо вызначыліся асноўныя дамінанты творчасці У. Арлова: нацыянальная ідэя, Беларусь у самавызначанасці сваёй і ў сувязі з іншымі народамі, гістарычныя шляхі нашай Айчыны і суайчыннікаў, гістарычныя моманты вызначальнага, гераічнага кшталту, нацыянальная свядомасць і самасвядомасць.

Ужо чытачы цвёрда ведалі, што калі піша Уладзімір Арлоў, дык ён не толькі цвёрда і ўпэўнена ведае гістарычныя факты, рэаліі рэчаіснасці і побыту, але яшчэ і мае той мастацкі зрок, што дазваляе яму вызначыць духоўныя каштоўнасці, унутраны, псіхалагічны грунт быцця ў гістарычнай прасторы, неадменную маральную тэму, дзе праглядваецца і яшчэ гэты пункт адліку — "вечны сэнс".

Хаця... пэўнае веданне рэалій побыту, фактаў — тыя "азы", без ведання якіх гістарычная проза ператвараецца ў збор недарэчнасцяў і памылак, таксама надзвычай важнае. Паводле некаторых твораў беларускай гістарычнай прозы можна выдаваць зборнікі анекдотаў: то ў аповедзе пра Францыска Скарыну згадваецца Гарвардскі універсітэт, што быў адчынены праз трыста год пасля таго часу, калі жыў беларускі першадрукар; то ў XI стагоддзі героі наедкам сваім маюць дранікі... і г.д.

Ва Уладзіміра Арлова — трывалы фактаграфічны грунт, выдатнае веданне гістарычных рэалій. Калі будзе згаданы трактат Катарыны Сфорца "Як стаць прыгожай", дык можна быць упэўненым, што тыя меркаванні шаноўнай сіньёры не з'явіліся стагоддзі праз чатыры пасля згаданых пісьменнікам дзействаў. Калі будзе весціся гаворка пра дашчатыя броні — дык так яно і ёсць: даспехі накшталт кальчугі, зробленыя з металічных пластачак. Калі герой лье ў кубак мёд-трайняк — то ўжывалі такое пітво, і г.д.

У. Арлоў адчувае і стыль, стылістыку эпохі, яе мову, лад, спосаб мыслення: "Беларусінаў прыйшло ў тым войску лікам да пяці тысяч, і ўсе біліся мужна, і многія заручыліся там з зямлёю". Або: "...дайшлі да нас чуткі, нібыта атабарыўся ў месцы гэтым вучоны немец Ёган Гутэнберг, што вымысліў варштат дзеля перапісвання кніг без пёраў і атраманту. Калі праўдзівая гэтая пагудка, падамся я да яго ў навуку, бо не пагас яшчэ ў душы лятунак паслужыць асвеце люду нашага паспалітага".

Усё пералічанае стала як бы неад'емным і безумоўным для пісьма У. Арлова, зрабілася адзнакай яго стылю.

Ужо сталі ледзь не хрэстаматыйна вядомымі героі твораў У. Арлова. Вольналюбівы пісьменнік Незабытоўскі, той самы, што паведамляе свайму пляменніку: "Адзін разумны чалавек сказаў, што ёсць у Расіі два праваднікі: язык — да Кіева, а пяро — да Шлісельбурга": "... Не кожны сачыніцель атрымлівае ў якасці ганарару дваццаць гадоў катаргі". Нарадаволец Ігнат Грынявіцкі, што ахвяруе ўласным жыццём, каб, як яму здаецца, пазначыць шляхі да светлай будучыні іншым. Асветнік і паэт Мікола Гусоўскі, што ў далёкім Рыме адстойвае годнасць чалавека з зямлі пушчаў і зуброў, выяўляе высакародства і шляхетнасць, якія зрабілі б гонар любому з самай вядомай і рыцарскай на тую пару краіны Еўропы. Уладзімір, князь зямлі Полацкай, мудры і смелы... і г.д.

Персанажы гістарычныя, з падсветкай таго рамантызму, што вызнаецца рэальнасцю рэчаіснасці. Як і тыя ідэі і ідэалы, пра якія адзін з галоўных ці, хутчэй, галоўны персанаж аповесці "Пяць мужчын у леснічоўцы" гаворыць: "Я ўпэўнены: калі б не героі Касцюшкі, калі б не паўстанне трыццатага года, не існавала б ні сённяшняга мяне, ні маіх людзей. І вас, капітан, афіцэр царскай арміі ў палоне ў інсургентаў, — таксама. ... Ідэалы жывыя, пакуль яны жывуць у сэрцах. Калі яны застануцца толькі ў старых кнігах, яны памруць. ... Каб ідэалы жылі, трэба, каб за іх нехта гінуў. Такі закон. А таму — *Gloria victis!* Хай і цяпер мы не пераможам, але ўрэшце людзі зразумеюць, што яны не статак, а народ".

*"Gloria victis!"* — слава пераможцам! Уладзімір Арлоў









сцвярджаў — за Уладзімірам Караткевічам, за іншымі беларускімі адраджэнцамі — нацыянальную ідэю, ідэю нацыянальнай годнасці.

Гэта ўжо было творчым набыткам пісьменніка.

Ужо вызначылася шмат у чым яго творчае аблічча. Адметнае, сваё. Адрознае і ад Уладзіміра Караткевіча. Пра гэта мне даводзілася пісаць. Аднак пазначу зноў.

Гістарыясофская проза Уладзіміра Караткевіча, дзе яго цікавяць дынаміка падзей, светасузіранне часу, памкненні людзей, характары, дзе разгортваюцца шматпланавыя карціны рэчаіснасці, і лірычна-камерныя, моцныя магутнай, стыхійнай хваляй думак, эмоцый, слоў, уздзеяннем характараў гераічных, яркіх, незвычайных. Уладзімір Караткевіч — увесь час у палёце, у буйным ветравароце задум, сюжэтаў, у іскрыстай плыні вобразаў, *искрометной* стыхіі слоў... Ён імкнецца паказаць рэальнасць — гістарычную ў тым ліку — шматколерна, шматпланава, шматаблічна... Часам сам захлынаючыся ў сонечнай стыхіі свайго таленту і творчага тэмпераменту, але — магічна! — уздзейнічае на іншых. На моладзь, на падлеткаў — неадбойна! І я не стаўлю мінулага часу — ён сённяшні і заўтрашні, ніякіх плюсквамперфектумаў!

Уладзіміра Арлова плынь не падхопіць. Ён кіруе сваёй творчай ладдзёй, недзе выкарыстоўваючы інерцыю плыні, недзе абмінаючы віры і бездані... Стрыманы, спакойны, іранічны, часта — саркастычны, сарданічны нават, калюча-ўшчыплівы. Ён уважліва сочыць за кампазіцыяй, архітэктонікай твора, дапасоўвае словы — што кладку цагляную кладзе. Свае перавагі. І свае страты. А інакш не бывае.

Зноў нагадаю — напачатку, у сярэдзіне 1990-х, гэта было ўжо творчым набыткам. І пачалі з'яўляцца гістарычныя постаці не рамантычнага плана (Напалеон Банапарт, Кацярына II), а героі — носьбіты нацыянальнай ідэі: мы ўспрымаем іх праз успрыманне галоўных персанажаў. Да таго ж — гэта людзі пэўнай ідэі, настраёвасці, аднак не гераізаванага кшталту. Застаўся нашчадак старажытнага роду, паляўнічы, што неаднойчы на мядзведзя хадзіў, у памяці імператрыцы як увасабленне дрымучай, неўтаймоўнай сілы; пакінуў нават ёй пярсцёнак, не

ўзяўшы прэзента ад яе; згадвае яна яго, памятае, што не назваў "зоренькай", прынамсі, ведаў — прынята... А ўсё ж... Прыйшоў да царыцы, сярод процьмы іншых... Не адхіліў увагі... Хаця... выбару не было. Аднак Незабытоўскі наўрад ці стаў бы цешыць царыцу... Можна, безумоўна, зірнуць і інакш: для мужчыны — адной кабетай менш, адной больш... І ўсё ж...

І гіпатэтычная каханка Напалеона — ліцвінка, якую ён нібыта згадвае на далёкім востраве Святой Алены... Тут таксама самаахвярнасць і высакароднасць, так бы мовіць, з чырваточчам. І патрыятычны такі ўчынак у гэтых мясцінах Еўропы ўсё ж ува ўсіх асацыіруецца з Марыяй Валеўскай, прыхільнасці якой Банапарт дабіваўся напорыста і да пэўнага моманту — беспаспяхова.

Аднак... Новыя творы У. Арлова так ці інакш уводзяць нашыя нацыянальныя турботы ў больш шырокі — еўрапейскі, і не толькі, кантэкст. Напалеон, Кацярына II. Лёсавызначальныя і, здавалася б, прыватныя моманты, што, аднак, даюць магчымасць зірнуць на гісторыю больш шырокага арэала — геаграфічнага і светапогляднага — праз светлафільтры нашага нацыянальнага ўспрымання і ўводзяць разуменне абавязку і наканаванасці, асабістай свабоды і гістарычнай прадвызначанасці, драмы бескампраміснасці і кампрамісу.

У. Арлоў па-ранейшаму аддае перавагу маналогу, унутранаму маналогу, монадзеянню і дыялогу. Ён імкнецца запаўняць пэўныя ўчасткі "контурнай мапы" гістарычнай памяці, спасцігаючы гістарычную рэальнасць, але і ствараючы свой мастацкі свет, дзе ёсць унутраная, сталая тэма, якая дэтэрмінуе, вызначае сюжэт, падпарадкоўвае сабе фактары знешнія, падзейныя.

А тым часам — ужо Беларусь становіцца асобнай дзяржавай, тут, як і на ўсёй постсавецкай прасторы, адменена цэнзура, з'явіліся прыватныя выданні і выдавецтвы, з'яўляецца такая постаць, як спонсар, мецэнат... Адным словам, нечуваныя і не бачаныя раней магчымасці. Пакаленне Уладзіміра Арлова — у найвыйгрышнай сітуацыі: атрымана адукацыя, хай сабе і з усімі хібамі савецкага часу, але бясплатная, набытыя







веды — у бясплатных бібліятэках, набытыя кнігі — у параўнанні з коштам у іншых краінах свету, дармавыя, прачытваецца перыёдыка, надзвычай насычаная зместам у гады перабудовы, ды і з цікавымі прарывамі — да таго. Пакаленне У. Арлова досыць сур'ёзна і адважна абвясціла пра сябе і многае паспела ўжо спраўдзіць.

Час адкрывае неверагодныя магчымасці. Нечаканыя свабоды. Неймаверныя спакусы. Мажлівасць не толькі існаваць у сітуацыяй, але і фарміраваць яе. Можна выявіць сваё "Я" ў якіх сабе хочаш іпастасях. Якія заўгодна ролі і антыролі, якія заўгодна вандроўкі — у знешнім свеце і ў глыбінях самасвядомасці. Ідэя маналітнага субстанцыяльнага "Я", дэперсаналізаванага "Я" і канкрэтнага, у гістарычным часе і пэўнай рэчаіснасці — гэтага самага "Я".

Шматлікія карціны і вобразы персаналізаванага "Мы". Шматлікія вобразы і карціны "Я". З'яўляюцца згаданыя вышэй "Там, за дзвярыма" і "Фаўна сноў". Выходзяць у свет кніга "Рэквіем для бензапілы", дзе дарэчы, ёсць і аднайменнае апавяданне, і "Сібірская аповесць", і "Краявід з ментолавым пахам". Друкуюцца шматлікія эсэ паводле вандровак: Англія, Нямеччына, ЗША, Беларусь...

Не атаясамліваю герояў і аўтара, аднак, якая б ні была дыстанцыя, ёсць пазіцыя, ракурс бачання. І ў гэтым ракурсе — герой. На фоне, у экстэр'ерах і інтэр'ерах, у часе і прасторы. З тым гранічным адкідваннем усіх недамоўленасцей, вуаляў, эўфемізмаў, з нечаканай грубаватасцю і зрываннем усіх заслон.

Гэта агульны павеў. Калі не забаронена, значыць, дазволена. І чаму б не пагарэзаваць? Памятаю, у "Крыніцы" практыкавалі вёрстку допісаў пра чарговую гераіню альбо героя — падвёрсткай, падвальчыкам. І якія толькі тэксты ні даводзілася сустракаць над сваімі радкамі! Шчыра радавалася новай вёрстцы, хаця ў ёй ёсць свае выдаткі, — але ж затое дыстанцыяванасць тых, хто піша пра пэўную асобу, і напісанага гэтай асобай. Няма "падвярстанага крытыка" — і гэта справядліва, бо чалавек часам піша не толькі пра аўтара, а і пра час, свядомасныя арыенціры, вызначальныя сутнасці... І ўвогуле — дыстанцыя абумоўлівае многае...

... Нейкія плыні свядомасці і падсвядомасці Уладзіміра Арлова гэтыя рэчы пазначаюць... Што яны дадаюць у агульнакультурным еўрапейскім кантэксце? Цяжка вызначыць. Гісторыя дахрысціянскага і хрысціянскага свету бачыла ўжо ўсё: і суцэльную дазволенасць ва ўсім, і суцэльныя забароны... І тое, і другое мела зусім не радасную афарбоўку... Асабіста ж я, хутчэй за ўсё, проста апусціла б у гаворцы гэтыя творы, каб не адзін выпадак.

У аўтобусе, што доўга ехаў па еўрапейскіх магістралях, на мяжы тысячагоддзя ішлі размовы пра рознае, у тым ліку беларускую літаратуру. А згадала — з павагай і радасным імпэтам — прозвішча сённяшняга героя “Крыніцы”. Адзін з суразмоўцаў — малады чалавек з фундаментальнай еўрапейскаю адукацыяй (толькі што скончыў курс навук у адной з самых паважаных навучальных устаноў Еўропы), з тых, што нарадзіліся, як пісаў нам у рэдакцыю “Нёмана” адзін карэспандэнт, "у далёкім 1975 годзе", нешта прамармытаў. “Рэквіем для бензапілы”? Не ведаю, ці ён выпадкова пачаў знаёмства з пісьменнікам з гэтай кнігі, ці нехта вырашыў так прадставіць яму Уладзіміра Арлова, аднак... Я з місіянерскім (усё ж!) хваляваннем даводзіла, прыводзіла, цытавала... Хачу спадзявацца, што не дарэмна... Тым больш што ў аўтобусе ехаў чалавек, які меў вялікі ўплыў на гэтага ў пэўным сэнсе неафіта, творы Уладзіміра Арлова ведаў не з чужых слоў...

А я задумалася...

...Нейкія павароты ў творчасці час ад часу непазбежныя. Інакш не бывае. Асабіста я не здзівілася б гісторыка-філасофскаму, накшталт пісьма Томаса Мана, раману. Але займеўшы вядомасць і, мабыць, адчуваючы асабістую адказнасць за нашыя мінулае і будучыню, У. Арлоў стварыў шэраг гістарычных эсэ — “Таямніцы Полацкай гісторыі”, шмат у чым выкарыстоўваючы знойдзеныя для гэтай кнігі матэрыялы, а шмат у чым знаходзячы новае, стварыў кнігу гістарычных апавяданняў “Адкуль наш род?” і — сумесна з навукоўцам Генадзем Сагановічам — кнігу “Дзесяць вякоў беларускай гісторыі”.

Тут быў і культурны, высокі прыцэл. Асветніцтва — яно







ў нас патрэбнае, як нідзе, у нашай культурнай і грамадзянскай сітуацыі. Тут меўся, мабыць, і больш практычны момант. Ну, дзе ты знойдзеш спонсараў на інтэлектуальны, філасофскі раман, хай сабе нават геніяльны? А вось “Падзеі. Даты. Ілюстрацыі” — зусім іншая рэч. Тым больш калі гэта не нудотная “сухотка” — пералік, а вобразна, белетрызавана падсвечаныя празаікам і гісторыкам Уладзімірам Арловым гістарычныя сюжэты...

Кнігі, дзякуючы фінансавай падтрымцы, выдадзены шыкоўна і з густам. Попыт на іх вялікі. Сам Уладзімір Арлоў не шкадуе ні сіл, ні часу на выступленні, вандроўкі — дзеля асветніцкіх мэт.

Асветніцтва, культурны, паэтычны, літаратурны кшталт — у традыцыі ўсёй сям'і Арловых, з той няпростай, мабыць, жыццёва-сюжэтнай лініяй, якая пазначае звычайна шлюбныя саюзы самадастатковых творчых асоб, у дадзеным выпадку: вядомай паэтэсы і журналісткі Валянціны Аксак і пісьменніка Уладзіміра Арлова.

...А вяртаючыся да гаворкі пра тыя кнігі па гісторыі Беларусі, можна дадаць, што ў іх колькі прыхільнікаў, столькі і ворагаў. Асобнікі выданняў набываюць і тыя, і другія. Мабыць, паводле гамбургскага рахунку, у сур'ёзных даследчыкаў ёсць і пярэчанні, і нязгода.

Я не гісторык, таму нешта мне здаецца, чыста суб'ектыўна, больш доказным, нешта — менш. Але ўсё — чытаецца!

Галоўнае, што беларус Уладзімір Арлоў выйшаў на Рандэву з Гісторыяй і Сучаснасцю ва ўзбраенні таленту, ведаў, інтэлекту. Не спрачаючыся з Часам і не аспрэчваючы яго — занятак марны, — а спрабуючы спасцігнуць розныя бакі Быцця. У фактах і паміж імі, у падзеях і ў тых высновах, што ўзнікаюць неабвержна і мройна мігцяць недзе на даляглядах...

Ён розны, і розны ў яго чытач... Адно бясспрэчна — сённяшняя літаратурная і культурная рэальнасць нашай Бацькаўшчыны не ўяўляецца без постаці Уладзіміра Арлова.

**Ала СЯМЁНАВА**

Уладзімір АРЛОЎ

# ВЕЧНЫЯ ДЗЕЦІ БЕЛАРУСІ

На адной з прэзентацый кнігі Уладзіміра Арлова "Таямніцы Полацкай зямлі" я выступіў з гняўлівай прамовай:

— Спадар Арлоў,— сувора сказаў я,— якраз таму, што Вашы кнігі пра Полацак напісаныя таленавітым літаратарам, яны робяць вялікую шкоду, бо засланяюць сабой усю размаітую і разнастайную гісторыю Беларусі як поліфанічна складанага універсуму. На Вашых кнігах выгадавалася ўжо цэлае пакаленне беларусаў, перакананае, што гісторыя Полацка — гэта і ёсць гісторыя Беларусі, хіба адно з невялікім дамешкам сякой-такой драбязы з іншых рэгіёнаў і эпох... Дык ці не пара вам,— грубы, як Саванарола, запытаўся я наастачу,— апамятацца, дзеля цэласнасці нашае шматпакутнай Бацькаўшчыны, і перастаць пісаць (ды перавыдаваць) свае інтрыганскія кнігі пра Полацак?

Не ведаю, як пераказ той сітуацыі выглядае цяпер на паперы, толькі тады, у зале, я быў упэўнены, што, паколькі на прэзентацыю сабраліся людзі адукаваныя і дасціпныя, то яны добра разумеюць маю прамову, як камплімент не абы-якому белетрыстычнаму таленту Уладзіміра Арлова, парадыйна прыхаваны за гняўлівым пафасам. Дарэчы, гэты камплімент недалёка сягаў, як мне здаецца, ад рэальнасці. За апошнія паўтара дзесяцігоддзі чаго толькі ні панапісана ў архіў рэтраспектывы Беларусі, але бальшыня з усёй той пісанкі ўвачавідкі блякне побач з гістарычнымі кнігамі Арлова, і адсюль старажытны Полацак апынуўся наперадзе (ва ўсіх сэнсах) іншых падзеяў





Уладзімір АРЛОЎ

мінуўшчыны і добра-такі адсланіў і адсунуў ад нас усю астатнюю гісторыю Беларусі.

Зрэшты, зусім магчыма, што я тут нешта залішне перабольшваю, але гэта неістотна для майго далейшага расповеду. Істотна тое, што пасля прэзентацыі некалькі інтэлігентнага выгляду жанчын літаральна кінуліся да мяне біцца, а яшчэ колькі, — відаць, больш абачлівыя, — адхіснуўшыся ад мяне як ад зачумленага, напрамілы бог пачалі ўпрошваць Арлова не слухацца вядомага гіцля Акудовіча — гэта значыць працягваць пісаць свае чароўныя казкі пра Полацак.

Пасля таго выпадку, на іншых сустрэчах пісьменніка Арлова з ягонымі чытачамі, я ўжо лішне не высоўваўся на людзі, сядзеў як мыша пад венікам. Але, можа, і дарэмна не высоўваўся, бо, калі сядзіш насцярожана, дык спакваля пачынаеш заўважаць тое, чаго за гармідарам ніколі б не прыкмеціў. І так пакрысе я дазаўважаўся да таго, пра што мушу (менавіта "мушу", бо радасці з гэтага ніякай) сказаць далей. Але наперадзе згадаю яшчэ прэзентацыю кнігі Уладзіміра Арлова для дзяцей "Адкуль наш род", бо на той вечарыне я маўчаў як наймацней, і нават не столькі таму, што ўжо надта бярог свой каршэнь ад жаночых кухталёў, колькі заінтрыгаваны складам публікі. У паўнюткай зале амаль не было ні бабулек з дзядкамі, ні іхніх унукаў ды ўнучак, для якіх і стваралася гэтая кніга, — зала поўнілася разнаўзроставым, але ўвогуле звычайным для "дарослых" вечарын народам.

"Што яны тут робяць?"— дзівіўся я ды з гэтага дзіва ўпотайкі зіркаў па тварах аматараў прыгожага беларускага пісьменства, пакуль неўзабаве не зразумеў: тут адбываецца не сустрэча пісьменніка з чытачамі, а казань першасвятара да набожных вернікаў.

Якая містычна напружаная цішыня панавала ў зале, як аднолькава натхнёна свяціліся вочы прысутных самага рознага веку, як малітоўна варушыліся іхнія вусны, замацоўваючы словы казані ў памяці! Але найбольш мяне ўразілі тыя моманты, калі Арлоў выказваўся пра нейкую падзею (гістарычную ці сучасную) такім чынам, што абуджаў патрыятычны гонар (альбо

патрыятычны гнеў) у ягоных слухачоў. Тады яны прасветлена-радасна пачыналі пераглядацца паміж сабой (не парушаючы трапяткой цішыні — крый божа!) і ўзнагароджвалі адзін аднаго ўсмешкамі ціхіх вар'ятаў...

У адну з такіх хвілін ціхага калектыўнага псіхозу мой твар таксама асвятліла ўсмешка ідыёта, бо я раптам зразумеў, чаму гэтыя людзі не выправілі сюды сваіх дзяцей і ўнукаў...

Яны самі — дзеці. І гэта не для малалеткаў, а для іх Уладзімір Арлоў стварыў нацыянальны Катэхізіс пад назовам “Адкуль наш род”, па якім яны будуць жыць, любіць і маліцца за Беларусь.

Мне зрабілася млосна.

Яны ўжо не паспеюць вырасці,— скрушна падумаў я,— яны ніколі не вырастуць у дарослых. Гэта вечныя дзеці Беларусі!

***

Чалавецтва стварала міфы ў сваім дзяціным веку — у такую ж пару іх і натуральна чытаць асобнаму чалавеку. Малалетак экзістэнцыйна тоесны гераізаваным версіям жыццяпісаў Ефрасінні Полацкай, Вітаўта Вялікага, Кастуся Каліноўскага... *Message* у выглядзе патрыятычна міфалагізаваных сюжэтаў ён успрымае як чаканы выклік быцця, на покліч якога яму немагчыма не адгукнуцца. І ён рушыць у накірунку покліча — але чым болей прыспешвае хаду, тым далей адыходзіць ад мэты...

Міф — феномен статычнага, нерухомага свету. Таму ўсялякі рух — гэта тое, што аддаляе ад міфа, нават калі ты рухаешся яму насустрач. (Гэтаксама праз рух у сваю пару маладое чалавецтва пераступіла эру Міфа, каб апынуцца ў эры Тэксту.)... Сталеючы ў сваёй хадзе, за дзівосамі новых даляглядаў малады чалавек нават не заўважае, як покліч міфа неўпрыкмет ператвараецца ў ягонае рэха, якое адно зрэдзьчас падымаецца на паверхню з глыбіняў падсвядомасці, дзе міфу толькі і ёсць належнае месца.

Дзіцячыя кніжкі трэба чытаць у дзяцінстве. Іх небяспечна чытаць тады, калі ты прайшоў ладную частку адмеранага табе шляху і патэнцыялу засталага руху ўжо не заўсёды хапае, каб, патрапіўшы ў царства міфаў, напружыцца і выслізнуць з іх вечна статычных прыцемкаў у рэальнае, жывое і заўсёды дынамічнае жыццё...

Праблема сістэмнага заняпаду беларускіх Адраджэнняў (паслядоўна — кожнага наступнага па чарзе) знаходзіць сябе яшчэ і ў тым, што беларусы прачытваюць нацыянальны міф у дарослых гадах і таму не паспяваюць адтуль вырасці, гэта значыць давеку застаюцца (тыя, што там застаюцца) знерухомленымі ў яго *a priori* татальнай нерухомасці. Адсюль дыскурс нацыянальнага міфа, месца якому ў *падсвядомасці* дарослага чалавека, замацоўваецца для “шчырага” беларуса ў значэннях *уласна свядомасці*, якая ў гэтым выпадку, зразумела, ніякім чынам не тоесніцца са знадворным дыскурсам наяўнага бытнага.

Разрыў паміж дыскурсамі міфа і рэальнасці па азначэнні — непераадольны. Гэта навідавоку — але толькі не для вечных дзяцей Беларусі. Яны і на калІўца не маюць сумневу ў магчымасці перайначвання явы пад жаданыя формы намысленай уявы. Трэба адно задзіночыцца і добра пастарацца, гэта значыць улегчыся ў штукаванне запрудаў, каб запыніць жывое жыццё ў нерухомую фігуру таго міфа, пра які яны даведаліся з дзіцячых кніжак. Натуральна, нічога вартага з гэтай забаўкі дарослых дзяцей ніколі не атрымаецца. Бо імклівая плынь жыцця як размывала, так і надалей будзе размываць усе штучныя запруды ды сплываць удалячынь, а дзецюкам, зацятым на ідэі супраціву жыццю, не застанецца нічога іншага, як запускаць папяровыя караблікі патрыятычных улётак у нерухомыя лужыны, што пакінула пасля сябе бурапенная веснавая паводка дзевяностых гадоў...

Нядобра ў дарослыя гады чытаць дзіцячыя кніжкі. Але што рабіць, калі ў нашым дзяцінстве ў нас не было *нашых* дзіцячых кніжак?

Не ведаю. Не ведаю цяпер, не ведаў і тады, калі на прэзентацыі кнігі Уладзіміра Арлова “Адкуль наш род”, уражаны ўласным здумленнем пра “вечных дзяцей Беларусі”, пачаў згадваць сваіх сяброў, прыяцеляў, знаёмых, якія таксама толькі ў дарослым веку ўпершыню прачыталі кніжку пра

нацыянальны міф, але надоўга не замарудзіліся ў ягонай нерухомасці, неяк здолелі атрэсці сваё дарослае дзяцінства ў спраты падсвядомасці, каб рушыць далей, напярэймы заўсёды юрліваму і шматстайнаму жыццю.

На вялікі жаль, мне хапіла пальцаў на руках, каб пералічыць усіх, хто не запыніўся настала ў спаконвечнай статыцы рамантычнай уявы, — і яшчэ пальцаў нават трохі засталося...

Пытаецеся, ці быў сярод "пералічаных" Уладзімір Арлоў?

***

Не бывае дакладных адказаў, бываюць толькі актуальныя пытанні. Актуальныя (ці сапраўдныя) пытанні спараджае не цікаўнасць, не патрэба, а трывога (найсапраўдныя — вусціш). Гэтае эсэ запачаткаванае трывожным здумленнем пра вечных дзяцей Беларусі... Іх няшмат, але яны ёсць усюды: у Мінску і Стоўбцах, Мсціславе і Полацку, Гомелі і Вілейцы, Старых Дарогах і Копылі... Яны стаяць у пікетах і ходзяць на мітынгі, ладзяць шэсці і запісваюцца ў сябры ТБМ, малююць на платах "Жыве Беларусь" і носяць ля сэрца значкі з "Пагоняй". Яны зусім не падобныя адзін да аднаго, належаць да розных партый і рухаў (альбо толькі да саміх сябе і зміфалагізаванай Бацькаўшчыны), жывуць у неабсяжнай разбэрсанасці па ўсёй Беларусі, але ці не ўсім ім аднолькава карціць сустрэцца з Уладзімірам Арловым, каб праз таінства наўпроставага задзіночання, нечым падобнага да таінства святой еўхарыстыі, трохі падужэць ад ягоных "плоці ды крыві" і тым самым здабыць хвіліну ўцялесненай у рэальнасць нацыянальнай мроі...

І Уладзімір Арлоў выпраўляецца ў Друцк і Вільню, Ружаны і Плешчаніцы, Бабруйск і Нясвіж... Рухомы, як місіянер, і чаканы, як месія (адначасова яго можна параўнаць і з гандляром уласнымі кніжкамі Францішкам Скарынам), ён увесь час у дарозе да тых, каго навярнуў у нацыянальны міф сваім казанямі.

Што ім рухае? Адказнасць за таго, каго прыручыў (Сент-Экзюперы)? Беларуская справа? Перапоўненыя залы ўдзячных слухачоў? Маліто ўны экстаз вернікаў Адраджэння? Прагматычны разлік? Валацужная натура? Усё гэта разам ці нешта зусім іншае?

Не бывае дакладных адказаў, бываюць адно актуальныя пытанні. Але нават калі б тут дакладны адказ быў магчымы, то і ў сваёй дакладнасці ён мяне б зусім не цікавіў. Бо незалежна ад таго, што выпраўляе Уладзіміра Арлова ў бясконцыя вандроўкі па выспах нацыянальнага архіпелага, кожны раз гэта — выправа з рухомага жыцця ў нерухомасць міфа, куды настойліва і нецярпліва клічуць свайго чаканага вечныя дзеці Беларусі...

Дзяцей натуральна любіць. Усялякіх і заўсёды. — Грэшны. Адзін раз не любіў і нейкі момант нават ненавідзеў. Адбылося тое прыкрае здарэнне напрыканцы неаднойчы ўжо згаданай прэзентацыі, калі ў малітоўнай цішыні залы я здагадаўся пра сумнае — валхвец з ахвяравальніка ўласнага лёсу, які ён кінуў у вечна ненажэрную пашчу малоха Адраджэння,ператварыўся ў ахвяру нацыянальных пераросткаў, што зацуглялі яго жалеззем сваіх любові і веры, каб займець сабе алібі жытва ў прыцемках міфа, дзе спрэс пануе нежытво.

Дык што атрымліваецца: я зненавідзеў гэтых, самім *творцам* створаных, адэптаў беларушчыны за іхнія любоў і павагу да свайго стваральніка? Нейкае дурноцце! Ці адмысловая (а мо і самая звычайная) рэўнасць?

Бадай, што апошняе — рэўнасць. І яшчэ — крыўда. Бо гэта яны, вечныя дзеці Беларусі, адабралі ў мяне майго пісьменніка, які з сярэдзіны васьмідзесятых да сярэдзіны дзевяностых (і трохі яшчэ пазней) пісаў менавіта для мяне, з якім я прамінуў ягоны (як свой) шлях ад гістарычнай белетрыстыкі і папулярызатарскай гістарыяграфіі да вытанчанай эсэістыкі, сучасна актуальнай прозы ды гэткага ж эстэтычнага кшталту паэзіі. А потым з'явіліся *яны,* тыя, каму ўжо непатрэбныя былі ні адмысловая стылістыка, ні складаныя культуралагічныя алюзіі, ні, тым болей, вольнае мысленне — даволі было адно граматыкі ў дзесяці параграфах Вячоркі і Катэхізіса ў дзесяці гераізаваных міфах Арлова...

Яны неўпрыкмет падраслі і потым выраслі ў сваім мностве — з гэтага мноства іхняя любоў зрабілася эгаістычнай і агрэсіўнай. Цяпер яны ўжо ведаюць, што хочуць ведаць, і таму

патрабуюць ад свайго Настаўніка не новых ведаў, а толькі легітымізацыі аднойчы імі здабытага.

— Заставайся з намі, трымайся нас,— кажуць яны.— Выяўляйся гэткім самым, як мы, і табе будуць гарантаваныя любоў, слава, поспех. І не слухайся розных акудовічаў, колькі іх там — адзін, два, а нас сціжмы і сціжмы. Ты патрэбен нам, мы патрэбныя табе. Разам мы — трываліўшча, на якім паўстане і расквітнее Нацыянальны Міф...

Натуральна адсланіцца ад нядобразычліўца, лагічна забыцца на няўдачу, абачліва размінуцца з дурнем, але як сысці ў ростань ад таго, хто цябе любіць за тваю справу ды яшчэ сваёй любоўю гарантуе твае прафесійны поспех і грамадзянскі чын? Дый увогуле, пра якую ростань можа ісці гаворка, калі наперадзе ўсіх нас разам чакае агульная мэта — вольная і незалежная Беларусь...

Творчасць — гэта вечны сыход упрочкі ад тых, хто цябе любіць. У гэтым сэнсе творца радыкальна супрацьлеглы палітыку, шлях якога заўсёды наадварот — да тых, хто яго любіць. І рэч тут вось у чым: творца застаецца творцай, пакуль ён кажа тое, што хоча сказаць сам, палітык застаецца палітыкам, пакуль ён кажа тое, што ад яго хочуць пачуць іншыя... Поспех і любоў неўпрыкмет ператвараюць пісьменніка ў палітыка, калі ў пісьменніка не атрымліваецца пераадолець цягу любові чытача. Вось чаму я зненавідзеў вечных дзяцей Беларусі, якія, бы трэску, зацягнулі ў магутны вір сваёй любові Уладзіміра Арлова і ўжо колькі часу не выпускаюць яго са сваіх пругкіх абдымкаў...

... Не выпускаюць найперш да самога сябе, а значыць, і да мяне, паколькі “мой Арлоў” каштоўны для мяне не ў статычным падабенстве са мной, а ў кінетычным разрозненні — бо, чым далей ён аддаляецца ад мяне ў тую краіну, дзе ніхто, акрамя яго, не жыве, тым болей паміж намі прасторы, памерамі якой, уласна, і вызначаецца мая прысутнасць у быцці. Зрэшты, у чым яшчэ для нас можа быць сэнс творчасці іншых, як не ў бясконцым павелічэнні дыскурсу быцця за кошт сыходу творцы “наўзбоч шасці тысяч футаў чалавека і часу” (Ніцшэ). Гэта значыць — наўзбоч мяне, вечных дзяцей Беларусі і, калі атрымаецца, самой Беларусі.

**Валянцін АКУДОВІЧ**








# Аляксей Белы

*Гісторыя нас жорстка падманула,*
*Няма ні веры болей тут, ні меры.*
*Сувораўцаў пачэсным каравулам*
*Мы ставім да магілаў касінераў.*

# ВАДОХРЫШЧА

Белы студзень да шкла, быццам прывід, прынік.
Завіруха над выстылым полем.
Чорны лес.
Бель зімы.
Дарагі легкавік
Несцярпіма-чырвонага колеру.
Скінем вопратку, цела ахопіць мароз
(Вось бы зараз па кубачку кавы!),
Птушкі ўздымуцца ў неба са стромкіх бяроз,
Перасядуць бліжэй — ім цікава.
Басанож напрасткі мы ідзём да вады,
Нібы ў сне альбо ў дзіўнай імпрэзе.
І ляжаць, быццам пацеркі, нашы сляды
На світальным няспляжаным снезе.
Вольхі ў рэчку глядзяцца і ссохлы палын
(Як улетку мы тут балявалі!),
І абгортвае цела сцюдзёная плынь,
Б'юцца ў грудзі халодныя хвалі.
А табе — хоць бы што, ты гарыш галышом,
Аплываеш вадою, як свечка,
І такая вада, быццам срэбным крыжом
Асвяцілі і гэтую рэчку...

***

*Венанцы Бутрыму*

Тут гадоў пяцьдзесят не іграе гармонь,
Горад скрусе аддадзены і стронцыю...
Праз лістоту чарэшні праб'ецца агонь
Векавечнага Сонца.
Захад.
Колер чырвоны — нібыта гарым,
У прыроды свае фанабэрыі.
Шчодра нас пачастуе Венанцы Бутрым
Вінаградам і бэрамі.
А гарэлка халодная — грэй ці не грэй.
Восень.
Грушы ужо ападаюць...
Ды не возьмеш, пакуль раскалмачаны Грэй
За сваіх не прызнае.
Седзімо-ўспамінаем, амаль спарышы,
Пра Бічэль і пра Геніюш...
П'ём гарэлку, і хораша так на душы.
Непрызнаныя геніі...







***

Я веру: каханне яшчэ ажыве
Пад гэтым бязлітасным небам.
Зялёныя вочы ў зялёнай траве?
І болей нічога не трэба.

Жыцця мітусня і гадзінніка бег
Цябе ці ўратуюць ад болю?
А гэты нервовы, нястрыманы смех —
Як выжах маланкі над полем...

Як быццам вярнуліся тыя часы,
Калі не зважаеш на восень.
І зноў шапацяць над табой валасы
Жанчыны, нібыта калоссе...

***

Не сочым за чужымі накірункамі
І не стаім ні за якой цаною
Там, дзе падушка пахне пацалункамі,
Дзе мы — паміж зімою і вясною.

Пакойчык мой тваім цяплом сагрэты,
Не трэба больш ні ў поле, ні на вёску.

I лёгкі пах замежнай цыгарэты
Змяшаўся з водарам віна і воску.

...Зноў у руках жанчына — быццам птушка,
I твой пакойчык — болей не турма.
I пахне пацалункамі падушка
Тады, калі жанчыны ўжо няма.

## ЯК СТО ГАДОЎ ТАМУ...

Дзве мовы ў нас. Дай Бог, каб не навек,
Бо толькі на адной заўжды прамовы...
Чаму, скажы, дзяржаўны чалавек
Дзяржаўнае не хоча ведаць мовы?!

Нас выдушаць усіх па аднаму,
Прыбіліся яны да ўлады лоўка,
I ведаць ім “ну просто ни к чему”,
Што ёсць у нас патэльня і рыдлёўка.

Улезлі ў крэслы (гэта ж не гужы),
I што ні год — то болей на папраўку.
Прыйшоў дзядок: “Паночку, памажы...”
Яму ў адказ: “А предъявите справку!”

Што можа быць за мову даражэй,
А гэтыя — бы на другой планеце.
Ім ёю авалодаць шмат цяжэй,
Чым сакратаркаю — у кабінеце.

Не, мову не адолеюць яны,
Хоць з выгляду і важныя мужчыны.
Цікава, гэта ўсё ад тупізны,
Ці ёсць яшчэ больш важкія прычыны?!







## АБЛОГА

I стухне дзень, бы памінальны звон,
Ні грошай, ні кахання і ні хаты.
Зламаны стол, пабіты тэлефон,
I ложак у пакоі інтэрната,
...I пхнуцца ад сцяжка і да сцяжка,
I чуць, як сэрца у грудзях нямее...
I голас, бы з труны, вербаўшчыка:
"Стра-ляць у-ме-еш?"

## ГЭТАК, ЯК ЁСЦЬ

Вып’еш проста з бутэлькі віно,
Да парога правёўшы знаёмых,
I завесіш нарэшце акно,
Сёння — дома!

Сёння будуць шчаслівымі сны,
Бы ў Вялікдзень над плошчаю звоны.
А пакуль з адчуваннем віны
Адстаўляеш фатэль ад сцяны,
Каб дайсці да іконы.

***

"Ну адумайся, хлопча, заўчасна згарыш..."
Я закіну ўсе тлумныя справы,
Бо дзяўчынка мая адлятае ў Парыж
Праз Варшаву.

I душа мая болей ужо не пяе,
Па каханай сумуе і плача.

Тыдняў з пяць, нават болей не будзе Яе.
Не пачую, не стрэну, не ўбачу.

Так мне хочацца кінуць сваё рамяство ·
І пазбыцца сяброў і суседзяў.
Тыдняў пяць... І настане Хрыстова Раство.
І тады ты прыедзеш!

***

Калі сумны хор адпяе —
Грахі адпусці мае, Ойча,
Зялёныя вочы яе
Я ўбачыць паспеў толькі двойчы.
Прыгожы ў жанчыны быў строй,
І так калыхаліся цені...
А потым змяніўся настрой,
І вочы змянілі адценне.
Даруй мяне, Ойча, ізноў...

***

Калі аркестр вясёлы адыграе,
Заўважыш, як няўмольна час бяжыць...
Але ніхто нічога не параіць
І не падкажа — як жа трэба жыць?

Вядома, быць у любае ў палоне,
Дарыць пярсцёнкі і дарыць букеты.
Кранаць ледзь чутна вуснамі далоні,
Яны і ў снежні пахнуць летам.

Для суму болей не шукаць прычыну,
А лепш прыстойны адшукаць заробак.
І на світанні цалаваць жанчыну
Так, каб было ёй гэта даспадобы.









# Мікола Купрэеў

*І бачым: з-пад высокіх белых аблокаў паўстае прасветлая душа Ісуса Хрыста. З боку Мекі да Яго прыплыла прасветлая душа Мухамеда. Іх душы — побач. Ісус Хрыстос і Мухамед з нябёсаў глядзяць у бок Ерусаліма і — глыбока маўчаць і думу думаюць глыбокую.*

Мікола КУПРЭЕЎ

# ПАСТУХ У КОСМАСЕ

*(Нешта)*

Старэнькі "Ікарус" падскоквае колішняй "варшаўкай", праплывае па мосце Шчару і цяжкавата і самотна, пад веццем ужо даўно не кацярынінскіх бяроз збочвае шасейкай на поўдзень — між высокіх траў і алешнікаў, жоўтага святаянніку і ружовага чабору. Яшчэ вельмі рана, і на лісці кустоў, на травах свеціцца буйная раса, мокрыя птушкі лянотна пералятаюць цераз дарогу перад самым аўтобусам, народ у салоне пацiху дрэмле. Еду-шукаю глухую вёсачку, дзе можна было б на які час спыніцца, дзе былі б поблізу лес, рачулка, над ёю алешнік, і ў ім — сырая высокая трава з вужакамі і жабамі, а ўскрай кустоў задуменна і мудра стаялі б бусел з буслiхаю... Ці засталіся хоць дзе яшчэ не асушаныя балотцы ды не выпрамленыя рачулкі, — і я гляджу, дзе мне сысці з аўтобуса...

Вёска Альхоўка. Адчыняю веснічкі ў двор. Жанчына сыпле курам зерне. Спыніла руку ў фартуху, глядзіць на мяне наўздзіў вялікімі блакітнымі вачыма. Прывіталіся. Пытаюся, дзе жыве настаўнік беларускай мовы.

— Дык гэта ж мой чалавек. А во і ён...

Высокі сівавалосы мужчына нясе кошык з гарода, ставіць яго на траву ля мяне — дыхнула маладымі гуркамі, кропам. Знаёмімся.

— А я — Іван Пятровіч. То зойдзем у хату.

— Ага, — кажа і жанчына, — калі ласка, заходзьце.

Мы з Іванам Пятровічам сядаем у святліцы на канапу, гамонім пра тое-сёе — наша, беларускае. Ён касавурыцца па баках — што, помніцца лёс настаўнікаў роднай мовы ў трыццатыя гады?

Ніна Сымонаўна (яна, аказваецца, былая настаўніца пачатковых класаў) кліча за стол. Іван Пятровіч, калі мы ўстаём з канапы, шэпча мне на вуха:

— Як жонка прапануе... — ён міргае мне вокам, — не адмаўляйцеся, тады і мне перападзе...

Сядаем за стол — яечня, гуркі, хлеб. Гаспадыня ўсміхаецца ад дзвярэй:

— То, можа, пачастуемся?

Гаспадар зноў непрыкметна міргае мне. І я ніякавата пацiскаю плячыма.

— А то мой вунь, толькі пакажы.

Выйшла ў сенцы, вярнулася, паставіла на стол чаркі і чацвярцінку, мусіць, самагону, ды глечык бярозавіку.

— Снедайце, а я пайду ўходжвацца.

Яна выйшла з хаты. Іван Пятровіч адразу ж наліў у чаркі. Чокнуліся, выпілі. Напраўду, самагон, але вельмі чысты, хлебны. Іван Пятровіч крэкнуў.

Пакуль снедалі, я сказаў яму, што мне тут трэба.

— Хутарок? Ёсць. З паўкіламетра ад вёскі. У добрым месцы. Людзі адтуль перабраліся да нас. Тут, у вёсцы, шмат хат пустуе. Дык во — Альхавец, пастух калгасны... Цяпер ён яшчэ будзе непадалёк, паша з раніцы блізка, вунь за гародамі і алешнікам, — ён паказаў рукой за акно. Зараз...

Выходзім у двор. Ніна Сымонаўна налівае ў шырокую патэльню малака — куранятам, жоўценькім ціўкунам. Я дзякую ёй за пачастунак.

— Калі ласка, чым багатыя...

А мне падумалася: толькі на вёсцы яшчэ могуць, асабліва настаўнікі, так сустрэць прышлага. І нястрымна-шчырая слязіна, я ажно схамянуўся, скацілася з майго вока на шчаку, калі яшчэ падумаў-уявіў: колькі вас, настаўнікаў, на нашай зямлі, добрых, разумных, спагадлівых, і ўсё вы ўмееце рабіць ладна і хараша — у школе на ўроку, дома ў гародзе, толькі аднаго не ўмееце, ці не хочаце, ці чаго баіцеся — рабіць школу нацыянальнай, каб дзеці ў ёй раслі добрымі і разумнымі...

Двор зарослы зялёнай, яшчэ не падпаленай сонцам, муравой. Ад хлява — добра ўбітая сцежка. Хата драўляная — з шырокіх сасновых бярвенняў. Рамы вокнаў — у вясёлай светла-зялёнай фарбе.

Іван Пятровіч ідзе баразной у канец гарода і далей — праз бульбяныя рады, стаў і голасна гукнуў у бок густога алешніку:

— Іллюк!

Адтуль адразу азваліся:

— Бягу-у!

З кустоўя выскоквае чалавек і ляціць па-над гародам, узмахвае рукамі, як крыллем, галавою ўперад — пеўнік, дый годзе. У двары аддыхваецца. Ніна Сымонаўна выносіць яму са склепа кубак бярозавіку. Іллюк п'е нагбом, ажно па барадзе цячэ. Гаспадыня па-добрамуківае яму пальцам. Ён адварочвае ад яе зморшчаны, загарэлы, ажно чорны, твар, схіляе галаву набок, глядзіць на нас знізу ўверх і слухае, здаецца, не вушамі, а маленькімі зялёнымі вочкамі, потым бяжыць дахаты па ключ. Іван Пятровіч ідзе за алешнік — падмяніць на якую гадзіну пастуха. А яго жонка дае мне цяжкаваты пакет. Пакуль Іллюка няма, яна гаворыць:

— Гаротнік ён, гэты Іллюк. Пісаў некалі сачыненні ў школе на "выдатна". Думаў паступіць на журфак. І сачыненне ўступнае напісаў лепш за ўсіх. І іншыя экзамены добра здаў. А не паступіў. І — больш нікуды... Яго дзед Язэп два месяцы служыў пры немцах ва ўправе, пасля, праўда, у лес уцёк, два гады партызаніў, быў цяжка паранены, а вайна скончылася — на Калыму яго, там і загінуў...

Вярнуўся Іллюк з ключом.

— Прыходзьце, — кажа Ніна Сымонаўна, — калі ласка, прыходзьце да нас.

Ці зможа калі сысці ласка з гэтых добрых, блакітных беларускіх вачэй?

Мы (цяпер ён не скача, бо цягне па зямлі пакет) ідзём ад мосціка берагам вузкай канаўкі, якая прыводзіць да рачулкі; берагі яе, здаецца, не чапаныя экскаватарам, вада чыстая, струменіць, свежа зеляненюць чарот, аер; на вадзе, там, дзе шырэй і







струмень аціхае, гойдаюцца жоўтыя і белыя гарлачыкі. Ідзём берагам рачулкі, ля яе падымаемся па сцежцы на невысокі ўзгорак — на ім пад дзвюма тоўстымі, высокімі соснамі, між старога вішанніку стаіць хатка — пад чырвонай паразбіванай чарапіцай, бярвенне сцен смалістае, ажно жоўтае — крыху прысела ў вуглу ніжнім вянцом, з невялікімі, але здаровымі вокнамі. Пад дзвярыма сенцаў — вялізны пляскаты камень. Іллюк адмыкае дзверы, яны рыпяць, калі расчыняюцца насцеж. У сенцах складзены наколатыя дровы, яны пахнуць смалой. У хаце — адзін вялікі пакой з печчу ў кутку. Лямпачкі Ільіча, вядома, няма. Ёсць лямпа і каністра з газай. (Як ведаў: узяў з сабою два дзесяткі парафінавых свечак.) На вокнах — пажаўцелыя фіранкі. У куце, у бліскучай залацістай рамцы, — абраз святога Юр'я на кані. Хата пахне сырою зямлёй. Ля сцяны стаіць аблезлы драўляны ложак, і на ім — падраны матрац, з якога тхне спарахнелаю саломай. Паміж ложкам і печчу — высокі, размаляваны некалі ў кветкі стары куфар.

— Калодзеж, — кажа Іллюк, — за хатай. — Ён схіляе галаву набок, глядзіць знізу ўверх. — Але ж вады ў ім даўно няма. Будзеце браць ваду ў рэчцы. Толькі трэба варыць яе. Вунь, вядро на ўслончыку. Посуд сякі-такі — у шкапчыку. Ну, Анатоль Хведаравіч, я паляцеў.

Праз акно бачу, як ён скача берагам рачулкі.

Куфар быў не замкнуты. Мне закарцела — і я адчыніў яго. О, Госпадзе! На дне куфра ляжалі акуратна складзеныя камплекты "Нашай Нівы". Даўно зжаўцелыя газеты, спарахнелыя па краях, на сярэдзіне перавязаныя зліНялымі, а некалі, відаць, ружовымі, стужкамі. Баюся дакткнуцца да газеты — каб не рассыпалася пад рукамі. Да сценкі куфра прымацаваная скрыначка, а ў ёй — адразу адчуў — з маленства знаёмы рыштунак майго ямнаўскага дзеда, і асцярожна бяру яго ў рукі: крэсіва...

Так-так, гэты куфар — таксама пакуль што яшчэ Беларусь, праўда — аскялепак яе, можа, апошні напамін пра старую Беларусь.

Але хто бярог "Нашу Ніву"? Іллюкоў дзед? Прадзед? І кім яны былі? Напэўна, настаўнікамі царкоўнапрыходскага

вучылішча. Бо і ў мове сённяшняга іх нашчадка прабіваецца інтэлігентнасць — ці не спадчыннасць? Што ж, хіба на Іллюку род сапсеў? Калі ішлі з ім на хутар, ён прызнаўся мне, што некалі (як і я, у сярэдзіне пяцідзесятых) скончыў дзесяцігодку, але назаўжды застаўся дома, на сваёй зямлі. Пастухом ужо — гадоў сорак. Сказаў: "А як жа? Пахне травой і малаком, каровы рыкаюць, даяркі любяць". У яго з жонкаю — два сыны, даўно ў горадзе жывуць, дык нявесткі прыязджаюць па бульбу ды сала. Свёкру прывозяць з дзесятак пачкаў "Прымы", свякрусе — вафлі. Унукі ўсё лета бавяцца ў бабы з дзедам, яны і цяпер тут. А сыны, скрушна сказаў Іллюк, п'юць, як не ў сабе...

Выходжу ў двор — збіраю ў траве пераспелыя чорныя вішні. Успамінаецца маленства каля Дняпра. Мусіць, усе, хто ў сталыя гады, у старасці каштуе вішні, успамінаюць недаспелыя — на веццi ружовыя, і пераспелыя — у траве, вішні маленства.

За хатай — драўляны калодзеж, сценкі яго параслі карычневым мохам, над ім — баддзя высахлая, патрэсканая, абабітая іржавымі, палопанымі, жалезнымі стужкамі-абручамі. Хвост жураўля ўрос у зямлю. Побач — былы гарод, цяпер парослы густым бадыллем, чорным і белым палыном. За рэчкай, за алешнікам, паўстае цёмны лес. Бачу ўскрай яго сосны, елкі, бярозы. Ля калодзежа стаіць счарнелая, але яшчэ крэпкая дубовая калода. На яе ставілі вёдры. У калодзежы — цёмна і суха. Сядаю на калоду. Гляджу сабе пад ногі, у траву, — і паціху ўспамінаюцца іншыя рэчкі, травы, палыны, лясы, калодзежы...

На тым баку хаты бразнула клямка. Іду. Іллюк скача мне насустрач. На камені-ганку стаіць бітончык у пацёках малака — Іллюк жа прынёс мне малако ў бітончыку не проста, а з прыскокам.

— Дзякуй, Ілья Гаўрылавіч.

— Будзем насіць малако ранічкай. То я сам, як адарвуся ад кароў, то мае ўнукі. І хлеб з крамы — цераз дзень. Добра?

І паляцеў, узмахваючы рукамі і белым бітончыкам, уніз да рэчкі.







Раптам падзьмуў вецер, ды такі, што сосны захісталіся, у небе сабраліся хмары, і сцямнела над хутарам. Нізка бліснула маланка, і яшчэ ніжэй грымнуў гром — з трэскам, у вокнах зазвінела, і ўпаў на хутар лівень. Я стаю ў сенцах, дзверы расчыненыя, хаця іх трэ' было б зачыніць. Ад хутара бягуць раўчукі ў рэчку. Гэта добра, думаю я, нябесная вада асвяжыць, падчысціць рачную. Але чыстая вада з Паўночнага Палесся гэтаю рэчкай не прыйдзе ў Выганашчанскае возера, адтуль якнебудзь не пральецца па закінутым Агінскім канале ў Ясельду, далей — не ўпадзе ў Прыпяць. Тутэйшыя рэчкі імкнуцца ў Шчару, а з ёй — у Нёман.

Маланкі рэжуць, грамы аж захлынаюцца, нябесная вада падае ў зямныя рэкі. І раптам усё сціхае. Разуваюся ў сенцах, іду басанож па траве ў двары. Вада ў лужынах, трава — халодныя. Некалі, у маленстве, ішлі цёплыя дажджы, і дзеці босыя бегалі па лужынах, адчайна білі падэшвамі ваду... Некалі хмары, дажджы былі свае...

Сосны аціхлі. Іду ў хату.

Раніцай прынёс малако Саша — высокі шаснаццацігадовы юнак, негаваркі, калі што кажа — трымцяць доўгія, як у дзяўчыны, вейкі над зялёнымі вачыма, саромеецца. Гэта ўжо зусім не па-гарадскому — то і добра. У хаце, калі я пераліваю малако, хлопец пераступае з нагі на нагу, потым ціха кажа:

— Анатоль Хведаравіч, можа, у вас ёсць што цікавага пачытаць па-беларуску?

— Ёсць, ёсць, Саша, ёсць, даражэнькі!

— Я не Саша. Я — Алесь.

Хлопец мяне прыемна ўразіў, і я кладу руку яму на плячо.

— Алесем заве мая настаўніца. Яна ў нас цікавая, добрая. Школа наша руская, але Ларыса Васілеўна хоча, каб мы заставаліся беларусамі.

— Дзякуй вашай настаўніцы, дзякуй табе, Алесь. А чытаць я табе дам.

Бяру на стале "Полымя" з "Ваўчынаю ямай" Васіля Быкава, даю часопіс хлопцу.

— Прачытаеш, Алесь, — яшчэ дам. — А цяпер бяры

крэсла, сядай ля куфра, там убачыш... Пра “Нашу Ніву” помніш з урокаў?

— Помню.

— Ну, то глядзі там. А я прайдуся крыху.

Ведаю: дзецям, якія нечым цікавяцца, не трэба замінаць сваёй прысутнасцю. Хай Алесь сам сустрэнецца ў “Нашай Ніве” з Купалам, Багдановічам, Гарэцкім...

Выходжу ў двор. Раса ўжо апала з травы і лісця. Іду ўніз да рачулкі. Сядаю на высокім беражку. Стракозы ўзвіліся ўгору і ў бакі. Жабы з-пад берага скокнулі ў рэчку, потым вытыркнулі з вады лупатыя вочы на мяне, а пасля паўскараскаліся на шырокае лісце гарлачыкаў, пагойдваюцца на ім. Ну, во так, а то — уцякаць. Вярнуліся і стракозы на свае чараціны, трымцяць бліскучымі сіне-ружовымі крылцамі. Хацелася, як даўнодаўно некалі, апусціць з берага босыя ногі ў рэчку...

Праседзеў на беразе, можа, з гадзіну, іду на хутар. Алесь разгарнуў на ложку “Нашу Ніву” ды так у нешта ўчытаўся, што і не пачуў, як я ўвайшоў у хату. Потым згарнуў газету, паклаў на дно куфра, сказаў:

— Дзякуй, Анатоль Хведаравіч. Пайду. Дзякуй.

І пайшоў — прыгожы, дужы, высокі.

Наступным ранкам малако прынёс Зміцер — худзенькі чатырнаццацігадовы падлетак. Мяне ўразіла ў ім пакуль што адно: не глядзіць у вочы, яны ў яго вёртка бегаюць па баках. Кажа:

— Дедушка, может, у вас пустые бутылки есть?

Пытанне мяне ніколькі не здзівіла — ведаю... Бутэлек у мяне няма. Ён дадае:

— На сигареты.

Маўчу. Павучанні тут, парады — пустое.

— Зміцер, дзе тут бліжэй кладка ці масток цераз рэчку? Хачу ў лес схадзіць.

— А-а, метров двести влево по берегу...

Ён яшчэ раз спадылба, быццам неўпрыкмет, кідае позіркам па хаце, бярэ бітончык, збягае па сцежцы ўніз...

Вяртаюся праз дзве гадзіны. Стаміўся — цяжкавата хадзіць па лесе з кульбаю. Хату я не замыкаў. Жывучы ў вёсках, не меў такое звычкі, дый патрэбы не было. А тут адразу адчуў: хтосьці тут пабываў. Рыўся нехта ў саквояжы, але там усё цэлае, толькі перавернутае. Як на тое, ранне было пасля ўчарашняй навальніцы прахалоднае, і ў лес я хадзіў у куртцы, а дакументы і грошы былі ў ёй. Ну што ж, даруй Божа, такому госцю — бо ён неразумны. Што ён такі — вінаватыя мы ўсе... Не даруй нам, Божа...

Яшчэ адна ноч, зорная, месяцовая. Чую, як за вокнамі паціху шумяць сосны, ціўкаюць спрасоння птушкі ў вішанніку. Крумкаюць жабы на рэчцы. Апранаюся, выходжу ў цёплы двор. Падыходжу да сасны, кранаюся яе шчакой, кара густа пахне смалой. Пахне і трава. Іду за хату — там доўга дыхаю даўкім, горкім палыном. За лес упала знічка...

Ранічкай Алесь прынёс малако, буханку хлеба, “Полымя”.

— Дзякуй, Анатоль Хведаравіч.

І маўчыць, у вачах — самота. Потым кажа:

— Трэба ехаць дамоў, у горад. Пазваніла мама — захварэла.

Не пытаюся ні пра тату яго, ні пра Зміцера. Адчуваю: памочнікі маме з іх слабыя. Даў яму яшчэ адзін нумар часопіса.

— Вернешся, Алесь, у вёску — прыходзь. Пасядзім разам ля куфра.

На развітанне я моцна цісну яму руку. Яго рука таксама дужая.

Была нядзеля. Днём на хутар прыйшлі Іван Пятровіч, з пакетам у руцэ, Іллюк і малады здаравенны міліцыянер у камуфляжнай форме. Селі на лаўку пад сцяной хаты. Выходжу да іх у двор. Вітаемся. Іван Пятровіч кажа:

— Во гэты лейтэнант, бугай гэты, — смяецца, — наш участковы і мой пляменнік. Захацеў пазнаёміцца з вамі.

Мы з маладзёнам рукаемся, зваць яго Антон, ну, хай яшчэ і Антон Паўлавіч. Кулакі ў яго — як тыя вузлы на верхавым карэнні пад сасной, і лаўка пад ім парыпвае, вось-вось рыпне апошні раз, таму ён сядзіць — не варушыцца. Антон усміхаецца:

— Буду, Анатоль Хведаравіч, пільнавацца хутара. Цяжкая часіна цяпер...

Гаворыць Антон па-беларуску — рэдкая з'ява ў міліцыі.

Іллюк нецярпліва, збоку і знізу ўверх, паглядае на Івана Пятровіча. Той адразу разумее, паказвае на траву, бярэ пакет:

— Прысядзем, мужыкі, ці што? Святая ж нядзелька!

Ён расцілае на траве газету, выкладвае з пакета хатнюю крывянку, добры шмат сала, некалькі яек, гуркі, хлеб, соль, чаркі...

Антон выпівае адным дыхам. Іллюк доўга смокча, папярхаецца, моршчыцца, шукае ў траве кіслую вішню. А гарэлка ж цудоўная — хлебная.

Патроху разгаварыліся. Пытаюся ў кампаніі, якія там навіны па тэлевізары паказваюць.

Іван Пятровіч:

— Ат, усё адно і тое ж: аварыі, паводкі, заложнікі, забойствы...

Антон:

— Гэта ўсё далекавата ад нас. А во што здарылася за суткі ў нашым родным раёне. Сын забіў бацьку: пілі разам дома, не падзялілі гарэлку. Жонка пырнула нажом мужа: прыйшоў ад палюбоўніцы дахаты толькі пад раніцу. Падлеткі ўлезлі праз выбітае акно ў хату адзінокай бабулі, яна жыве наводшыбе вёскі, аглушылі яе паленам, забралі грошы з-пад падушкі, нехта з дарослых купіў ім віна, пайшлі піць на возера, пачалі п'яныя купацца, адзін утапіўся. Хлопцы былі гарадскія, адзін з іх — сын немалога раённага начальніка. Бяда, мужыкі, бяда!

Я маўчу пра візіт невядомага ў хату, пра саквояж — няёмка было б за сваю Альхоўку.

Іллюк таксама маўчыць, толькі скоса пазірае на дно апусцелай бутэлькі. Дзякаваць Богу, мой нечаканы візіцёр не здагадаўся глянуць у старэнькі патрэсканы шкапчык — таму я іду ў хату, выношу бутэльку "Старопесковской". Кажу, што Старыя Пяскі — гэта вёска ля Белаазёрска. І яшчэ я кажу пра Алеся.

Іллюк заўсміхаўся, ажно падскочыў на траве.

Іван Пятровіч:

— Гэткі ж быў і мой вучань Антон. Казаў яму, як ён







канчаў адзінаццаты клас, каб пастпаў на беларускае аддзяленне філфака. А ён мне, — бачыце, усміхаецца, — а ён мне кажа: я здаровы хлопец і хачу стаяць на варце здаровай Беларусі. Што ж, вып'ем за здаровую Беларусь.

І налівае ў чаркі. Іллюк выпіў ужо трохі, закусіў — цяплее вачыма.

Антон таксама ўспомніў Алеся. Кажа:

— Як толькі гарадскі хлопец гаворыць на роднай мове, дык ён расце добрым чалавекам...

Іллюк схіліў галаву долу, смачна задрамаў — а калі ачомаўся, азірнуўся вакол, лыпнуў вачыма, спуджана спытаўся:

— А дзе-та я?!

Антон:

— На вашым, Ілья Гаўрылавіч, хутары.

— І вы ўсе — альхоўцы?!

— Усе альхоўцы.

— А дзе мае каровы?

Іван Пятровіч:

— Спяць у кароўніку пасля дзённай дойкі. Выгане кароў твой напарнік Максім. А ты, Іллюк, яшчэ паспі трохі. Пасля пойдзеш на пашу.

— А мне, людцы, здалося, што я дзесьці далёка-далёка ад нашай Альхоўкі...

Мы смяёмся, а Антон па-здароваму рагоча, выцірае рукавом слёзы і кажа:

— Некалі я чытаў у газеце, што нашы ве-ельмі далёкія продкі мільёны гадоў таму былі закінутыя на гэтую планету, на Зямлю, з іншай планеты, нават з іншай Галактыкі. За што закінутыя? Ды за тое, што род будучых людзей Зямлі правініўся дужа — біліся, ваявалі, кралі, хлусілі... Ну, і іхнія суседзі з іншага роду ўзялі іх і на вялізных караблях звезлі сюды, выкінулі на берагах акіянаў, нічога ім не даўшы з сабою — выжывайце, калі зможаце, калі здольныя. Выжывеце, выправіцеся, станеце дабрадзейнымі — забяром назад. Людзі выжылі. На поўначы — пабялелі, ля экватара — пачарнелі, у тропіках — пажаўцелі, у прэрыях — пачырванелі... Мільёны гадоў з радзіннай планеты аблятаюць гэтую, нашу цяпер, планету, на-

ват садзяцца тут — прышэльцы мільёны гадоў правяраюць, глядзяць, ці змяніліся, нарэшце, у лепшы бок зямляне — каб перасяліць іх назад, у сваю родную Галактыку. I во — правяраюць, правяраюць і — не забіраюць...

— Ціка-ава, — сказаў Іллюк і лыпнуў вачыма на бутэльку.

Антон — рашуча:

— Усё, дзядзька Іллюк, больш вам няможна...

Іван Пятровіч:

— Іллюк, паспі тут, зямля цёплая. Праспішся — і на пашу.

Іллюк слухаецца, зноў кладзе галаву долу, заплюшчвае вочы, я выношу яму яго ж старую ватоўку, але доўга ён не ўлежаў — ускоквае з зямлі:

— Ну, людцы, я — на кароўнік.

I пабег, паскакаў, хоць і спатыкаючыся, сцежкай да рэчкі.

Неўзабаве разышліся з хутара і ўсе астатнія. Тады я сам улёгся на ватоўку, падклаўшы рукі пад галаву. На мяне падалі пераспелыя вішні, і мне было лёгка і добра...

А праз два дні Іллюк прапаў.

Антон сабраў дзесяткі тры пенсіянераў і падлеткаў. Праверылі алешнікі, гароды, завуголлі, потым — лес, агледзелі на лодцы рэчку — няма Іллюка. На другі дзень паўтарылі тое ж — няма, як скрозь зямлю праваліўся.

Праз трое сутак Іллюк аб’явіўся сам. Ён прыйшоў да мяне на хутар. Так, прыйшоў. Сяджу я на лаўцы ў двары, гляджу — падымаецца па сцежцы ад рэчкі Іллюк, не Іллюк. Той Іллюк скакаў ідучы, размахваў рукамі, а гэты ідзе спаважна, заклаўшы рукі за спіну. Прыпыніўся ў двары, вітаецца бадзёрым мужчынскім голасам, а не пісклявым, як раней, галаском. I з твару пачысцеў і нават, здаецца, падрос. Стаіць, усміхаецца. Іду яму насустрач, абдымаемся. Ён і кажа:

— Я вольны да вечара. Калі хочаце, магу вам расказаць гісторыю тых сваіх трох сутак.

Мы сядаем на лаўку, і ён распавядае...

Я адразу разумею: неверагодная гісторыя, неверагодныя прыгоды. I перапыняю яго:






— Не, Ілья Гаўрылавіч! Вы лепей напішыце пра гэта. А напішаце — пакажаце.

— Ну што вы, Анатоль Хведаравіч! Які з мяне пісака?!

— Не-не, Гаўрылавіч! Я чуў, што ў школе вы пісалі цудоўныя сачыненні, хацелі стаць журналістам.

Гэты напамін пра колішнія мроі так лёг на душу Іллюку, што ён некалькі хвілін шчасліва маўчаў, потым выдыхнуў:

— Добра, згодны. Але ўжо як змагу, так і напішу.

— Дваццаць дзён, Ілья Гаўрылавіч.

Выношу яму з хаты пачак паперы, самапіску і запасны стрыжань. Ён падымаецца з лаўкі ісці. Мы ціснем адно аднаму рукі. Яго рука стала крапчэйшая, чым яшчэ нядаўна.

— Ну, з Богам, Ілья Гаўрылавіч.

I ён кіруецца сцежкай да рэчкі. Адною рукой трымае паперу пад пахай, другую заклаў за спіну, галаву трымае проста, крок спакойны, упэўнены. I нешта было ў яго новых паходцы і паставе, як і ў голасе пры размове са мной, інтэлігентнае.

Я ж, пакуль альхоўскі пастух Ілья Гаўрылавіч піша пра свае прыгоды, прапаную табе, шаноўны чытач, нешта з таго, што напісалася мною тут, на Іллюковым хутары.

## *ВАЎКІ І ЛЮДЗІ 45-га*

У той дзень бацька яшчэ не прыехаў веласіпедам з работы са Свержані, мог там і заначаваць, мачыха яшчэ не паспела прыйсці з Рагачова. Мы з сястрою Галяй даўно стаміліся вуліцай. А на вуліцы стаяў ціхі надвячорак бабінага лета, павуцінне апусцілася долу, на палын, аднекуль пахла прыгаркам печанае бульбы.

Мы сядзім у хаце, на ложку ля акна, я даўно парабіў урокі — хаджу ў другі клас — і чытаю ўголас “Беларускія народныя казкі”, Галя слухае і здрыганулася ручкамі, калі я стаў чытаць пра нахабнага, жорсткага ваўка. I во, чуем: галосіць, галосіць Беднічыха.

Я сказаў сястры, каб была ў хаце, а сам выскокваю ў двор. Беднічыха сядзіць на бульбянішчы, пасярод гарода,

адной рукою ўперлася ў зямлю, другой схавала вочы і галосіць. А людзей нікога, усе яшчэ далёка — на работах у полі, і я адзін іду да Беднічыхі: можа, чым памагу. Ісці баюся, але ісці трэба.

Яна пачула мяне, сціхла, апусціла руку з вачэй, глядзіць на мяне скрозь слёзы і быццам не бачыць мяне. А перад ёю ў крыві, змяшанай з пяском, ляжыць парася; у яго парваная ці перарэзаная гарлянка. Ветрык раскідаў чорныя збітыя валасы па зморшчаным худзенькім твары Беднічыхі, яна адхінае іх убок і выцягвае руку ўперад, паказвае:

— Ву-унь!

Гляджу туды, куды паказвае рука. Там, ля Барысавай лазні, на высокім беразе канавы сядзіць на задніх лапах шэры сабака.

— Во-оўк! — кажа Беднічыха. — Гэта ж уведаў, што мужыкоў па хатах няма, што тутака адны мае малыя ды вы, дзеткі, дык ён — пад самую хату... А гэтае дурное тут рылася ў зямлі. Чую з двара: вішчыць, так вішчыць, быццам яго хто рэжа. Схапіла вілы, і за хлеў. А яны — клубком, пыл стаўбом стаіць, у клубку мільгае белае парася і ўжо перастае вішчаць, ужо той мерыць яго на спіну, а я не баюся, як здурнела, вілы наставіла і — на іх. Воўк зусім аслабелы, мусіць, стары, бо не здужае ўзяць парася. Лыпнуў на мяне вачмі, а яны — у крыві, і пабег. І ву-унь сядзіць. Каб на яго трасца!

Яна ўстае з зямлі, высокая і худая, бярэ парася за заднюю нагу, зноў плача і кажа:

— Наеліся мае дзеткі, наеліся мае Ванечка і Волечка! О-ох, Госпадзе, наеліся! Во вам, дзеткі, і крывяначка з печы, во вам і пячоначка, во вам і ўсё...

А воўк сядзіць на высокім беразе канавы. Беднічыха махае ў ягоны бок кулаком і паказвае яму кукіш:

— Во табе, крыважэр! Ідзі адсюль!

Воўк разявіў чорную пашчу, клацнуў клыкамі — ажно тут было чутно. Беднічыха ўжо была панесла парася, але яшчэ павярнула галаву:

— Я т-табе!

Воўк устаў на чатыры лапы, пераскочыў цераз канаву — цяжкавата пераскочыў, ледзь зачапіўшы лапамі за той бераг, і пайшоў берагам у сутонне густога алешніку.

Беднічыха кажа мне:

— Вунь мае малыя, за вуглом. Гэта ж так баяцца, калі я плачу, а тут яшчэ і галасіла. Ідзіце, дзеткі, у хату. Во ўжо і людзі з поля ідуць.

Падыходзіць дзед Барыс, прыйшлі яшчэ людзі.

— Воўк! — глуха буркае Беднічыха.

— Трэба закапаць, — кажа дзед Барыс, — між ваўкоў, я чуў, шаленства пайшло.

— Ведаю, Барыска, я ж і хачу закапаць.

— Вынесі, Марута, рыдлёўку, сам пайду як далей закапаю...

Людзі прыйшлі з бульбы. Але ў кошыках іхніх — ні бульбінкі. Старшыня як зловіць — да крыві збіць можа. Людзі разышліся. Пайшла і Беднічыха з малымі ў хату. У хаце яна зноў плача, і я ведаю: малыя абшчапілі ручкамі матчыны калені... Іду праз яе гарод да канавы. Во тут ён сядзеў. Во адсюль скокнуў цераз канаву. Каля лазні пераходжу праз канаву па кладцы. Іду паціху, іду і іду. Беднічыха шкадуе не толькі сваіх Ванечку і Волечку, але і нас з Галяй. Галі яна кожны дзень заплятае ў белыя коскі ружовую стужку. Беднічыха працуе прыбіральшчыцай у нашай пачатковай школе. Школа блізка, і Беднічыха паміж зменамі прыходзіць дахаты, каб даглядзець малых, пакарміць іх — супам з крапівы і бульбы... Іду берагам канавы. Звечарэла... Мы жывём багацей — тата атрымлівае грошы і амерыканскія пасылкі на нас з Галяй. Пасылкі нячастыя, але ў іх бываюць кансервы, пернікі, цукеркі, аднойчы быў нават шакалад. Галіну долю мы дзелім папалам, а сваю я нясу Ванечку і Волечцы. Тады яны такія радыя, што і есці той гасцінец баяцца. Волечка была раз паднесла да роціка кавалачак шакаладкі і заплакала... Іду берагам канавы. Наперадзе чарнее алешнік, за ім будзе лес. Іду. Чую з вуліцы голас мачыхі:

— То-оля! То-оля!

Але я іду берагам канавы да алешніку. Мачыху мы з Галяй завём мамай — хоць наша мама ўжо два гады ляжыць у

зямлі на кладаўі, недалёка тут — на ўскрайку лесу па той бок вуліцы: яе паранілі немцы, а паліцаі закапалі яшчэ жывою ў зямлю; яна бегла за нашым татам, ён уцякаў праз кусты ў лес; выскачыў з машыны, якая павезла яго ў горад на допыт — за сувязь з партызанамі; ноччу дзед з дзядзькам Васілём выкапалі маму з зямлі, на калёсах прывезлі ў двор. На хаўтурах галасіла Беднічыха... Іду берагам канавы. Пачаўся алешнік. У ім ужо цёмна. Але — іду.

Голас дзядзькі Васіля:

— То-оля! То-оля!

Іду... Бачу Беднічыху ў хаце, на лаўцы ля акна. Трымае ў руках фотакартку, ціха плача, шэпча:

— А мой ты Сцёпачка, а мой ты родненькі...

Яе Сцёпачка загінуў у Берліне. Узялі ў армію год назад...

Іду. І раптам здранцвела супыняюся. Гляджу наперад па канаве і бачу: перада мною ў цемры гараць вочы ваўка. Азіраюся назад па канаве: ззаду таксама гараць вочы — ваўкоў, гляджу зноў наперад — і там вочы... І кажу сабе: гэта не вочы ваўкоў — гэта зоркі гараць у вадзе канавы. А майго ваўка няма. Чую: нехта цяжка ідзе берагам канавы. Ведаю: гэта дзядзька Васіль. Яго паранiла ў нагу ў нейкай Літве. Бярэ мяне за руку, другою сваёй рукой абапіраецца на кіёк.

Ідзём цёмным берагам зорнай канавы. Услед нам, з алешніку, ён — той! — клацнуў зубамі. Дзядзька Васіль трымае мяне за руку, а я іду і думаю: ну добра, мы, людзі, нешта ў сваіх хатах ямо, раслiннае і мясное, а ваўкі ж толькі мясам жывяцца, таму яны і жывуць у лесе, у глухіх хмызняках. А гэты — мой! — воўк, можа, ваўчыца? І яна гадуе ваўчанят, ім таксама трэба есці. Што робіцца на свеце!.. Мы з дзядзькам Васілём ідзём цёмным берагам зорнай канавы, дзядзька зусім яшчэ малады — дзевятнаццаць гадоў — і кульгае. Нехта ж падстрэліў яго ў нейкай Літве, за што? Мой дзядзька Васіль нікому нічога дрэннага не зрабіў...

Бульбы ў той год людзі маёй вёскі ля Рагачова, над Дняпром, пасадзілі зусім мала. У нашым гародзе — сем ці восем баразён, у гародзе ў Беднічыхі — чатыры баразны. Насеннай






леташняй бульбы было зусім мала — таму што бульбу сорак трэцяга паспелі з'есці немцы і партызаны. Партызанам — трэба, яны адпомсцілі за нашу маму. А навошта было фрыцам есці нашу бульбу? Хай бы елі сваю, нямецкую. Мала было бульбы і на калгасным полі. Таму брыгадзіры, вартаўнікі, сам старшыня сачылі за жанчынамі — пад вечар.

Яшчэ горай было з хлебам. Таму летам, як паспела зерне ў жытнёвых каласах, старшыня калгаса Іваноў, былы камандзір партызанскага атрада, злавіў Беднічыху — несла ў прыполе жменю каласоў — і крэпка біў яе кулаком па галаве.

На другі дзень пасля ваўка пайшла ў калгас, на бульбу, і Беднічыха — была нядзеля. Пад вечар вярталася яна з жанчынамі з поля. Насустрач — старшыня Іваноў вярхом на кані. Саскочыў з каня перад Беднічыхай, памацаў у яе на жываце, вырваў са спадніцы блузку — упала на зямлю пяць-шэсць бульбін. Іваноў стаў біць Беднічыху кулаком па галаве і спакойна казаць:

— За кражу колхозного имущества.

Жанчыны крычаць-плачуць. Беднічыха ляжыць на зямлі. Іваноў ускочыў на каня і сказаў з сядла:

— За кр-ражу колхозного имущества!

Беднічыха два дні ляжала з галавою ў хаце. Дагледзець яе малых хадзіла наша мачыха.

Крыху пасля Іваноў цяжка ішоў нашай вуліцай, хістаўся, трымаўся за плот. Ля хаты Беднічыхі плот быў даўно гнілы, і старшыня паляцеў разам з плотам на бульбянішча, у гарод Беднічыхі. Я гэта бачыў, бо стаяў у сваім двары. Ужо добра звечарэла, на вуліцы блізка нікога не было. Падыходжу асцярожна да паваленага плоту. Іваноў ляжыць на бульбянішчы, у гародзе Беднічыхі, намагаецца ўстаць. Ён — у белай кашулі. Абцасы бліскучых высокіх ботаў падбітыя жалезкамі. Бразнула клямка, і з хаты выйшла на ганак Беднічыха, доўга глядзела на Іванова, паківала галавой, падышла да яго і ціха сказала:

— Уставайце, прадсядацель, памагу, давай руку...

Старшыня падае ёй руку, другою ўпіраецца ў зямлю, хістаецца, Беднічыха падхоплівае яго пад пахі, ён устае на ногі,

глядзіць мутнымі вачыма на жанчыну, ківае ёй пальцам і кажа:

— Смотри, за кр-ражу колхозного имущества…

Беднічыха змаўчала. Махнуўшы рукой, пайшла ў хату. Іваноў цяжка пасунуўся далей змрочнаю вечароваю вуліцай. Іду следам за ім. Шкада, што ён п'яны, а то даў бы я тут яму кулаком па галаве, р-раз даў бы, але даў бы — за Беднічыху, хай бы ён тут жа мяне ботамі змяшаў з зямлёю, але р-раз даў бы — за Беднічыху. І я іду доўгаю вуліцай за Івановым — можа, працверазее, і тады можна будзе выцяць яго кулаком па галаве, хоць р-раз.

Наша вуліца канчаецца, уваходзіць у другую, направа гэтая вуліца вядзе на кладаўе, налева — на Гусоўку, там кантора і там жыве Іваноў. З вуліцы — помніць, чорт — ён зварочвае на сцежку праз алешнік, так карацей. Во, тут бы ўдарыць Іванова кулаком па галаве, але ён яшчэ дужа п'яны, і біць такога — нельга. Во на горцы, пад піхтамі, і дом старшыні, дом з чырвонай цэглы, дзе да вайны і яшчэ да нядаўняй пары жыў каваль Шлёма Бярковіч з жонкай, цёткаю Сарай, і хворым сынком Зямам. Старшыня выгнаў сям'ю ў старэнькую пустую хату, ля рагачоўскай шашы. Цяпер Іваноў стаіць на Шлёмавым ганку і кажа камусьці ў цемру, махаючы кулаком:

— За кражу колхозного имущества!

Мяне ён не бачыць, доўга мочыцца з мокрага прарэха долу, і мне ўсё няма як ударыць яго кулаком па галаве. І я бягу, бягу цёмным вечарам між піхтаў, праз алешнік, на сваю вуліцу, міма дзедавай хаты, а там ля варотаў стаіць дзядзька Васіль, ён бярэ мяне за руку, вядзе па вуліцы…

Казалі людзі: ваўкі недзе напалі на чалавека. І яшчэ казалі, што ля воўчай нары людзі пабілі малых ваўчанят, ваўчыца пасля жаласна-жалобна выла, потым з двара вечарам прапала дзіцятка, а калі пахаладала, раніцай знайшлі дзіцятка на ганку таго двара — голае, ссінелае, замерзлае.

Той жа позняй восенню Беднічыха, цётка Марута, памерла. З галавы, казалі. Малых яе, Ванечку і Волечку, забралі ў дзіцячы дом…

Праз дваццаць гадоў здалёк еду ў Вікоўку. Іду на кладаўе з рыдлёўкаю і кашом (узяў у людзей), папраўляю, пасыпаю жоўтым жвірам магілы — маміну, дзедаву, бабіну, дзядзькі Васіля… А дзе магіла Беднічыхі — не ведаю.







Потым іду на Гусоўку, на горку пад піхтамі. Там некалі стаяла калгасная кантора, а за ёй — чырвоны дом Шлёмы Бярковіча. Канторы няма, дом стаіць. Той ганак… Пад'язджае белая "Волга". З яе выходзіць высокі плячысты мужчына. На ганак выносяць худзенькага лысенькага дзеда, нешта крычаць яму ў вуха, ён не чуе, слаба махае рукой… Уцягнулі, нягеглага, у легкавік, высокі мужчына сеў за руль, машына ўзяла хуткасць з месца.

Цэнтр калгаса даўно — у суседняй вёсцы, але старшыня жыве тут, у Вікоўцы, паставіў драўляны дом на месцы хаткі бацькоў. І гэта ён, старшыня калгаса Беднікаў Іван Сцяпанавіч, павёз у рагачоўскую бальніцу колішняга бравага паслявеннага старшыню Іванова…

Стаю ў двары хутара. Прайшло дваццаць дзён, і я чакаю Іллюка. І во, ён ідзе берагам рэчкі, падымаецца сцежкай на хутар, ідзе спаважна і, калі набліжаецца, бачу — ідзе задуменна. Пад пахай трымае блакітную папку, другая рука — за спіною. Не пастух, а прафесар!

Мы вітаемся з ім. Колішні, як я зваў яго, пеўнік сядае на лаўку. Я прыладжваюся побач. Развязвае папку, паказвае спісаны стос паперы:

— Во, Анатоль Хведаравіч, бярыце, чытайце. А я — да сваіх кароў…

Ён падымаецца з лаўкі. Следам устаю і я. А Іллюк — і сапраўды, падрос, і ў вачах — нешта мудрае: не тутэйшае, не альхоўскае. Мы развітваемся, ён спаважна і бадзёра кіруецца сцежкай да рэчкі.

У хаце сядаю за стол, адкрываю блакітную папку…

*(Падаю ўспаміны Іллюка з нязначнымі стылістычнымі і фанетычнымі праўкамі.)*

Мікола КУПРЭЕЎ

# ШТО СА МНОЮ АДБЫЛОСЯ

Прачынаюся ў сене ад холаду, вылажу з капіцы. Цемнавата, у небе яшчэ гараць зоркі. Адна з іх міргае ружовым святлом, ляціць. Вартаўнік сапе на абярэмку сена пад варотамі кароўніка. Каровы яшчэ не рыкаюць. Мне ў галаве мутарна. Стаю, пісаю. Раптам мяне ахінае ружовае святло. Падымаю галаву — і жахаюся, сэрца ў грудзях перастае біцца. Проста над галавою стаіць у паветры нейкае аграмаднае ружовае страшыдла, знізу яно падобнае да вялізнай талеркі. Я не паспеў і прарэх зашморгнуць, як у страшыдле ўтварылася збоку вялікая дзірка, і ў ёй стаіць ружовая Істота. Істота навяла на мяне нейкую трубку, канец трубкі свеціцца. І я падымаюся ў паветра, Істота саступае мне дарогу ў тую дзірку, хачу на ляту дарэшты зашморгнуць прарэх у портках, а ўжо няма калі — стаю ў страшыдле, дзірка зачыняецца, Істота прападае, нешта недзе піскнула, святло знікае, целам адчуваю: імгненна падымаюся, плыву да шыбіны ў сцяне страшыдлы, а яно імчыць на зоркі. Пасняваю, здаецца, убачыць на імгненне: далёка ўнізе ідуць вуліцай Альхоўкі на кароўнік даяркі, стаіць на ганку роднае хаты мая жонка Вулляна з даёнкаю ў руцэ, вузее сіняя Шчара, рассыпаюцца агні вялікага горада... І тады кажу ў акно — а-а, гэта ж ілюмінатар:

— Бывай, мая родная жонка Вулляна, даруй, што сёння табе не будзе каго біць паленам па спіне, бывайце, унукі мае, бывайце, сыны-алкаголікі, бывай, родная Альхоўка, — калгасны пастух Іллюк знікае ў невядомым кірунку, бывайце...

Яшчэ гляджу ў ілюмінатар: прамільгнула пад караблём чырвоная зорка Крамля, прапаўзла чорным ценем тайга, а неўзабаве — і белыя ільды акіяна. Над Ледавітым акіянам я зусім працверазеў. Тады нада мною ў столі нешта шчоўкнула і зашчоўкнулася, і ля мяне, пад ілюмінатар, апусцілася крэсла са спінкай. Сядаю, бо стаміліся ўжо і душа, і мае ножанькі. Абшыўка крэсла — з нейкага невядомага мне матэрыялу: нешта падобнае на альхоўскую дзяружку. Мацаў-шчупаў пальцамі гэтую дзяружку, так і не зразумеў, з чаго яна. Перад гэтым я быў ужо агледзеў-абмацаў ілюмінатар — не, не шкло, нешта іншае. Мой жа вялікі палец правай рукі вельмі чуйны — у далёкай маладосці збяромся, бывала, хлопцы і дзеўкі цёмным вечарам у кутку вуліцы, дык я сваю дзеўку знаходзіў у дзявочым гурце гэтым сваім пальцам — намацваў па грудзях ці, як казалі ў Альхоўцы, па цыцках. А ў маёй дзеўкі яны былі цвёрдыя, як вымя ў маладых цёлак.

Сяджу ў крэсле, гляджу ў ілюмінатар, зямля ўжо стала планетай. Бачу пеністыя хвалі акіяна паміж Паўночнай Амерыкай і Еўропай. Я ж фізічную і палітычную карты таго ўжо свету ведаю добра — у класе па геаграфіі выдатнікам быў.

Ну, думаю сабе ў крэсле, нейкі ты, Іллюк, дужа смелы тут, у гэтай машыне. А вось куды ты ляціш, і што гэта за машына, і хто ў ёй жывы, апроч тае Істоты, — невядома. Ну, думаю, Іллюк, патрасіся ад страху. І я стаў трэсціся ад страху, нават вочы заплюшчыў. Але перастаў трэсціся, расплюшчыў вочы: перада мною стаіць Істота ў бліскучым ружовым адзенні. У руцэ (на ёй, як і ў мяне таксама, — пяць пальцаў) яна трымае тую самую трубку — з мноствам кнопак. Істота стаіць перада мной, як нежывая, як слуп. Ага, думаю, хоча, каб я яе добра агледзеў з усіх бакоў. Я ўстаю з крэсла — Істота нічога не мае супраць. Перш я агледзеў яе спераду. Яна нашмат вышэйшая за мяне ростам. Галава без валасоў і надта ж круглая, як гарбуз у гародзе маёй ужо, мусіць, былой жонкі Вулляны. Галава вялікая, амаль на ўсю шырыню плячэй, а вось плечы якраз і вузкаватыя паводле нашых, вочы лупатыя ружовыя, над імі няма ні броваў, ні веек, лоб пукаты, нос шырокі, з ноздрамі, рот маленькі, вуснаў няма — проста вузенькая шчыліна. Гляджу ніжэй — на грудзі. Яны ў Істоты невыразныя, але нешта пад ружовым камбінезонам тырчыць. Хачу, нарэшце, упэўніцца: хто яна, Істота, — ён ці яна? І я асцярожна мацаю пальцам грудзі — нешта ёсць. Істота ўсміхаецца. Ага, Істота гэтая, значыць, Яна. У Яе прыгожыя белыя зубы — як некалі ў маёй той дзеўкі ў цёмным кутку альхоўскай вуліцы. Гляджу ніжэй — жывот злёгку дыхае. Ніжэй жывата — бугарок. Я мацаю яго пальцам — мякка, Яна зноў усміхаецца. Але ж, ведзьма, стаіць

— не зварухнецца. Вяду пальцам паміж ног — яны, ногі, крыху растуліліся, потым хутка сашчапіліся, зацяснулі паміж сабою мой палец, а ногі, халера, цвёрдыя, як сталёвыя. Гляджу: Яна зноў усміхаецца і стаіць сабе, не зварухнецца. Нарэшцетакі адпускае мой палец. Заходжу ззаду. Усё, здаецца, нармальна, як і ў альхоўскіх баб. Мацаю рукою задніцу — нешта ёсць. Ведаю: Яна зноў усміхнулася. Усё — агледзіны скончаны, і Яна ні разу не выказала незадавальнення. Добра, праверым яшчэ на злосць: пальцамі казычу Ёй пад пахай. Яна не толькі ўсміхнулася, а і зарагатала, але рогатам не нашым, не альхоўскім:

— Гу-гу-гу-гу-гу!

Сядаю ў крэсла. Яна стаіць перада мной, і мы ляцім: Яна ведае, куды, а я — не. Злёгку адштурхнула мае ногі, бо былі блізка да Яе. Раптам Яна адкрывае свой маленькі рот і кажа чыста па-беларуску, выразна, як жалезна, выдзяляючы кожнае слова:

— Ілья Гаўрылавіч Альхавец, снедаць хочаце?

Я сцепануўся, як ад моцнага грому: адкуль Яна ведае мяне? Але ж трэба адказваць, і я кажу — чамусьці па-руску, бо руская мова — адна з міжнародных:

— Нет, дорогая Ева, не хочу.

— Я не Ева. Я — Ло. Мы з вамі зробім некалькі аблётаў планеты Зямля, некалькі разоў сядзем на яе. Гаварыце са мной на сваёй роднай беларуска-альхоўскай мове. Беларусь — сябра Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, і мы ведаем мовы ўсіх краін — членаў гэтай арганізацыі.

Мне робіцца трошкі сорамна, я чырванею, але ўжо хутка бялею. Нехаця варушу свае ногі ўперад, упёрся імі ў Яе наскі. Яна паківала мне ружовым пальцам і злёгку адштурхнула іх. І я зноў то чырванею, то бялею...

Яна кажа:

— Ілья Гаўрылавіч, паводзьце сябе прыстойна. Мой муж По вядзе наш карабель. Дапамагаюць яму Со і То. Гляньце ў ілюмінатар. Што вы бачыце?

Гляджу. Зямля надта далёка, але выразна выдзяляюцца астравы, моры, вялікія рэкі, нават егіпецкія піраміды, а







неўзабаве — і Вялікая Кітайская сцяна. Яна паўтарае пытанне:

— Што бачыце?

Кажу:

— Чукотку.

— Правільна.

Карабель імгненна зніжаецца, апускаецца над самаю тундрай, ля берага мора; плойма спуджаных цюленяў баўтыхаецца ў ваду, спалохана азіраюцца белыя мядзведзі. Карабель завісае над самай зямлёю, пад ім збіраюцца валасатыя чукчы, шчоўкаюць пальцамі па горле — просяць гарэлкі. Ло цісне кнопку на трубцы — з-пад карабля на чукчаў падае ружовая вада, чукчы глытаюць яе шырокімі ратамі яшчэ ў паветры, потым падаюць на зямлю, дрыгаюць уверх нагамі ва унтах. Ло цісне кнопку на трубцы, і з шырока разяўленых ратоў чукчаў вырхваюць языкі ружовага агню. Калі гэты агонь скончыўся, яны ўскочылі на ногі і пабеглі ўслед за белымі мядзведзямі. Ло кажа:

— Піць гарэлку і брыдка лаяцца некалі прывучылі чукчаў расійскія купцы, а даканалі іх зялёным зміем Саветы. Гэтая вялікая сям'я чукчаў болей піць гарэлку і брыдкасловіць не будзе і іншым закажа.

Гляджу ў ілюмінатар — а мы ўжо над Аляскай. Нізка карабель не апускаецца. Ло кажа:

— Пад намі на аэрадроме — амерыканскія эскімосы. Яны сядзяць у цёплых прыгожых футрах, чытаюць кнігі, чакаюць самалёта на Дэтройт. Гэта самыя разумныя і культурныя людзі на планеце Зямля. Іх ужо можна забіраць назад, на даўнюю, за сотні мільёнаў гадоў, радзіму — у нашу Галактыку. Але хай яшчэ з тысячу гадоў пажывуць на Зямлі — можа, навучаць культуры сваіх гаспадароў-амерыканцаў. Гляньце ў ілюмінатар — дзе мы?

Гляджу і кажу Ёй:

— Над Афрыкай. Бачу джунглі і раку Конга.

— Так, Ілья Гаўрылавіч. Пайду ў кабіну да пілотаў, да свайго мужа По, а вы зараз паабедаеце.

Ло незаўважна знікла. Уверсе зноў нешта шчоўкнула і

зашчоўкнулася, я нават не паспеў зірнуць угару, і перада мной апусціўся маленькі ружовы столік. У стале зверху адчынілася вечка — у нішы ляжаць тры празрыстыя тубы. У адным тубе — нешта падобнае на цеста, у другім і трэцім — ружовая вадкасць. Хочацца есці, і я бяру ў рукі першы туб; ён мяккі, корка няма, і я асцярожна націскаю яго знізу, тады верх туба лопаецца, раскрываецца — і з яго выпаўзае нейкае цеста. Я лізнуў яго, смакую — нешта падобнае на масла з-пад альхоўскіх кароў і адначасова, як падалося, змяшанае з хлебам, але хлебам незямным, да таго ж, яно салодкае. Націскаю туб знізу смялей, ем. Раптам ачомаўся — нечага дужа захацела душа. Разумею: душа даўно ўжо, як толькі вылез з капіцы ля фермы, хоча апахмяліцца. Ах, Ло! Ах, ведзьма касмічная! Хоча справакаваць мяне адным з двух другіх тубаў? Азіраюся вакол: нідзе ў сценах кабіны, здаецца, ніякай фіраначкі, ніякага вочачка для падгляду. Даруй, кажу, Ло, апахмяліцца хачу. Цішыня. Гляджу ў ілюмінатар — пада мной Паўднёвая Амерыка з Амазонкай. Думаю: можа, Ло з По спяць? Ат, панюхаю з абодвух тубаў.

Гляджу ў ілюмінатар: Зямля аддаляецца з такою хуткасцю, што на вачах робіцца ўсё меншай і меншай. Апошняе, што заўважаю на Зямлі: у ЗША, на мысе Канаверал, узняўсяränграмадны стоўп агню: гэта, напэўна, шматразовы карабель — “Джэміні” ці “Скайбл” — паляцеў у Космас. У ім, здаецца, павінны быць расійскія касманаўты і амерыканскія астранаўты. Значыць, карабель з іншай Галактыкі нічым не хоча нашкодзіць касмічнаму караблю зямлян. Малайчыны Істоты!

І тут мяне асяніла: пакуль Істоты заклапочаныя імклівым аддаленнем ад Зямлі, трэба хуценька панюхаць — што ў тых двух тубах?

Зноў жа — коркаў у іх няма. Ліхаманкава, ажно рукі дрыжаць, націскаю ўнізе адзін туб, і ён зверху лопаецца. Нюхаю — нічым не пахне. Стаўлю туб у нішы ў куточак так, каб ён не перакуліўся. Націскаю другі туб — лопаецца-адкрываецца, нюхаю — пах быццам знаёмы. Унюхваюся глыбей — пахне нібыта гарэлкай, але не альхоўскай. Ло, чорт вазьмі! Што ў гэтым тубе?! Не муч мяне! Хачу апахмяліцца! Ат, што будзе —






тое будзе! П’ю. З першых глыткоў унутры робіцца прыемна і горка. Добра. Яшчэ п’ю. Але да дна не змог. Альхоўцы ж п’юць толькі да дна, і мне стала сорамна за сябе. Што ж рабіць? У нішы туб можа праліцца. Здымаю з нагі гумовы бот, выліваю ў яго рэшту напою, стаўлю бот пад крэсла. Ло, чорт вазьмі! Касмічная ведзьма! Я захмялеў, і мне дужа добра.

Рашаюся паспрабаваць выпіць і з другога туба. Прыемны кіслы напой, таксама да дна выпіць не даў рады. Выліваю рэшту ў бот — альхоўцы любяць пойла. Закусваю з першага туба. О-го-го, як мне добра, дарагая Ло! Зачыняю вечка століка, хілюся на яго захмеленаю галавой — а перада мной паўстае мая Вулляна. Ну, думаю, зараз паленам... Асавела азіраюся — нідзе ніякага палена. Адна толькі Вулляна ў ружовым камбінезоне — дык гэта ж Ло! І я ёй кажу:

— Мілая Ло! Я п’яны. Прашу: выкіньце мяне адсюль на Зямлю.

А Яна стаіць і, касмічная ведзьма, усміхаецца. Ага, здзекуешся, Ло! Тады я бяру столік, падымаю яго над галавой — хачу па-альхоўску бразнуць ім аб падлогу. Ло імгненна націскае кнопку ў сваёй трубцы — столік вырываецца з маіх рук, плыве ўгару. Уверсе нешта шчоўкае-зашчоўкваецца — не паспяваю і згледзець. Але перада мною апускаецца ружовы ўслончык з ружовай маленькаю падушачкай. І Ло рашуча паказвае рукою на ўслончык. Я хістаюся, хапаюся за спінку крэсла, але яно вырываецца з маіх рук. Паспяваю толькі ўвобмірг глянуць у ілюмінатар: далёка пада мною Зямля — як жоўты гарбуз у гародзе маёй Вулляны. Чапляюся рукамі за ўслончык, здымаю з нагі другі бот, кладуся галавою на падушачку. Яна цвёрдая, як жалеза. Га-а, успомніў: на падлозе кабіны — няма майго гумовага бота! І галава зноў схіляецца на падушачку. Ло стаіць, як старажытная каменная паганская баба на альхоўскім узмежку, і ўжо не ўсміхаецца. І во — незаўважна знікае, як растае. Святло гасне. Я засынаю, і хоць бота майго з напоем няма, мне добра і лёгка. Добрай ночы, дарагая Ло, добрай ночы, касмічная ведзьма! Добрай ночы, Вуллянка! Жуйце жуйку, мае кароўкі!

Прачынаюся ад яркага святла. Расплюшчваю вочы. Уверсе

шчоўкнула-зашчоўкнулася — на падлогу апусціўся мой бот. Мацаю яго дно — суха. Сядаю ў крэсла. Перада мною стаіць Ло. Хачу падняцца — яна рашуча кажа:

— Сядзіце, Ільля Гаўрылавіч!

Думаю сабе: ну, зараз нешта будзе.

— Ільля Гаўрылавіч! Даўно п'яце?

— Даўно, з дзяцінства.

— Дзе напіліся перад нашым прылётам на Зямлю?

— Не памятаю.

— Дзе спалі?

— У капіцы сена.

— Кладзіцеся на падлогу.

Кладуся. Ло ціснe кнопку ў трубцы — уверсе шчоўкае-зашчоўкваецца, і каля мяне паўстае адчынены туб.

— Піце, Ільля Гаўрылавіч!

П'ю, пахне быццам спіртам. Меруся выпіць да дна, але тут Ло кажа мне:

— Хопіць.

Туб узмывае ўверх.

— Адкрыйце, калі ласка, рот, Ільля Гаўрылавіч.

Але рот я не адкрываю — заўпарціўся: успомніў пра агонь з ратоў бедных чукчаў. Ло нешта шэпча — і мой рот самахоць разяўляецца. Яна націскае кнопку — і з майго рота шугае полымя, ногі самі задзіраюцца ўгару і пачынаюць дрыжэць. Ло яшчэ раз націскае кнопку — агонь прападае. Аддыхваюся. У роце пячэ.

— Уставайце, Ільля Гаўрылавіч. Піць гарэлку цяпер вы ніколі не будзеце. Сядайце ў крэсла.

Эх, дарагая касмічная ведзьма, піў і буду піць! Але ў крэсла сядаю. Ло знікае. Гляджу ў ілюмінатар: пада мною Зямля памерам з Месяц, на ёй, між сініх акіянаў, чарнее Афрыка. Уверсе шчоўкнула-зашчоўкнулася — апускаецца на падлогу ўчарашні столік-паднос. Адчыняю ў ім вечка. Ем з туба — тлуста, хлебна, смачна. Ляжаць у нішы яшчэ два тубы з вадкасцю. Адчыняю адзін наўздагад — кісла-салодкі напой, добра. А што ў другім? Э-э не, дарагая Ло! Запіхваю туб у гумовы бот нанач, а там пабачым...







Столік знікае ўверсе.

Гляджу ў ілюмінатар: Зямля імкліва набліжаецца. Гэтак жа імкліва карабель страляе ўгору, але я паспяваю на момант убачыць панараму роднай Альхоўкі, а пасярод яе — родную хату з Вуллянай на ганку. Яна чамусьці глядзіць з-пад рукі ў неба. Я ашалела махаю ёй рукой, але яна мяне, вядома, не бачыць, бачу родных каровак на выпасе... І раптам гэта ўсё імгненна знікае.

Успамінаю, што Анатоль Хведаравіч неяк пад добрую закусь расказваў мне пра сваю маці, пра Беднічыху, пра Іванова... Аднак перада мной з'яўляецца Ло, і я прашу Яе — апусціцца над Дняпром, па-над Вікоўкай. Ло знікае гэтак жа загадкава, як і ўзнікла, нічога не адказаўшы. Гляджу ў ілюмінатар: карабель завісае над Дняпром, над Вікоўкай. Шчыліна (а ўсёткі гэта люк) рассоўваецца, і ў кабіну ўплываюць два светлыя воблачкі і адно разбэрсанае, шэрае, воблака-здань. Яны апускаюцца ў кутку.

Адно — светлае — воблачка шэпча:

— Я — душа мамы Толі Кухарава.

Другое — таксама светлае — шэпча ўслед:

— А я — душа Маруты, Беднічыхі.

Разбэрсанае шэрае воблака-здань кажа:

— Іваноў я.

Душа маці Кухарава шэпча:

— Перадай майму сыну. Маладая я. Мне толькі дваццаць два гады. Паранілі мяне немцы, засыпалі зямлёй у алешніку паліцаі. Адзін з іх, Махлюд, — з нашага сяла. Перадай іхнім нямецкім і вікоўскім дзецям: я даравала з магілы іхнім бацькам — была вайна. А як на гэтым свеце мае дзеткі, Тőля і Галя?

Ціха кажу ў светлую палову кутка:

— Жывуць.

Душа маці:

— Добра. Хай жывуць.

Душа Беднічыхі шэпча:

— Галоўка мая даўно не баліць ад кулакоў Іванова.

Здань Іванова кажа:

— Быў дурны і спраўны бальшавік. Даруй мне, Беднічыха. Хачу ўпасці перад табою.

Душа Беднічыхі шэпча:

— Не трэба, Іваноў. Я табе даўно даравала з магілы.

І тры воблачкі выплываюць праз прыадчынены люк карабля. Люк зачыняецца.

Карабель узмывае ў глыбіні Космасу. Сяджу ў крэсле, адыходжу ад нядаўняга спаткання. Праз ілюмінатар нешта бліснула — мусіць, касмічны карабель вяртаецца на Зямлю. Вочы мае стомлена заплюшчваюцца. Сілай волі прыадкрываю вейкі: перада мною стаіць Ло з сур'ёзнымі ружовымі вачыма і з трубкай у руцэ.

— Ілья Гаўрылавіч, піць будзеце? Кажыце шчыра.

Баюся Ло — баюся ёй хлусіць, кажу:

— Не ведаю.

— У роце пячэ?

— Пячэ.

Ло:

— Кралі?

— Краў.

— Што?

— Сена на кароўніку, камбікорм...

— Яшчэ красці будзеце?

Баюся схлусіць, кажу:

— Не ведаю.

Ло націскае кнопку на сваёй трубцы — у мяне імгненна адсыхаюць рукі. Крычу:

— Не буду! Ніколі не буду красці!

Рукі вяртаюцца да мяне.

Ло:

— Жонцы здраджвалі?

Хлусіць страшна, кажу:

— Толькі два разы.

— Яшчэ здраджваць будзеце?

Баюся хлусіць Ло, кажу:

— Стараваты я ўжо, дык хачу апошні раз — з суседкай-удавіцай...







Ло:

— Адрэжу.

Крычу:

— Не трэба, напрамілы бог, не буду, не буду!

Ло:

— Жонку білі?

Баюся Ло хлусіць, кажу:

— Яна мяне за п'янку — паленам па спіне, а я яе — чапялою па азадку...

Ло націскае адну з кнопак — уверсе шчоўкнула, і нешта мяне балюча ўдарыла ззаду, ажно іскры з вачэй пасыпаліся. Крычма крычу:

— Не буду больш біць Вулляну!

Уверсе зашчоўкнулася.

Ло:

— Стукачом у КДБ былі?

Баюся хлусіць, кажу:

— Аднойчы даводзілася.

— Будзеце яшчэ пры выпадку?

Не ведаю, што казаць, але кажу:

— На старасці, магчыма, яшчэ здурнею.

Ло ціснe кнопку — мой рот разяўляецца, з яго вылятае і недзе прападае мой грэшны язык. Бачу праз ілюмінатар: ссінелы язык ляціць па той бок карабля. Хачу закрычаць, ды не магу: без'языкі. Паказваю Ло рукамі: не буду, не буду!

Ло націскае кнопку — і мой пасінелы доўгі язык залятае на сваё законнае месца. Думаю сабе: ах ты Ло, касмічная ведзьма, мацъ тваю!

Але Ло, нарэшце, усміхаецца:

— Пачула па вашых жэстах. Дарую.

Ружовыя вочы Ло робяцца зноў сур'ёзнымі.

— Кароў адных на пашы пакідалі?

Баюся схлусіць, кажу:

— Пакідаў з-за гарэлкі.

— Яшчэ пакідаць будзеце?

Баюся Ло хлусіць, кажу:

— Не ведаю.

Ло націскае на кнопку пульта — уверсе шчоўкнула, перада мною тапырацца каровіны рогі, балюча ўторкваюцца мне ў грудзі. Крычу:

— Не бу-уду!

Ло зноў націскае кнопку — рогі знікаюць, уверсе нешта зашчоўкваецца.

Ло:

— Слабых людзей баранілі?

— Хоць я і сам слабы, але па магчымасці бараніў.

— Апошні раз каго?

— Суседку-ўдавіцу.

— Ад каго?

— Ад свайго напарніка-пастуха. Ён паваліў яе ў алешніку, задраў на ёй спадніцу, дык я яго — пугаю, пугаю...

— Добра, Ілья Гаўрылавіч, а вось, скажыце, на вашым хутары пасяліўся Кухараў Анатоль Хведаравіч, што ён піша?

Кажу:

— Нешта.

— Перадайце яму: хай піша толькі праўду пра сябе і пра людзей.

— Перадам.

Ло:

— Вечарам я спушчу вас на Зямлю, каля вашага хутара. Што рабіць там — буду сігналіць... Вы стаміліся — адпачніце.

Ло знікае.

Сяджу, гляджу ў ілюмінатар: далёка ўнізе — лёд Антарктыды; заплюшчваю вочы, адпачываю. Праз гадзіны дзве ўверсе шчоўкнула — туб вынырнуў з майго гумовага бота, знік уверсе ў расколіне, там зашчоўкнулася. Перада мною паўстае Ло, доўга глядзіць на мяне вельмі сур'ёзнымі ружовымі вачыма, маўчыць. Курчуся ў крэсле пад Яе позіркам, хачу ўстаць і — не магу падняцца.

Нарэшце Ло кажа:

— Ілья Гаўрылавіч, вы не толькі сена і камбікорм ля кароўніка кралі, але і ў Космасе... У тубе, дарэчы, быў здаровы лекавы напой.

Курчуся ў крэсле, хачу ўпасці да Яе ног і — не магу, ведаю: ужо ніколі-ніколі нічога не ўкраду. Гэткі касмічны сорам паражыць! Шапчу:

— Даруйце, Ло.

І яна шэпча:

— Хай жа не адсохне вам правая рука. Дарую.

І па-добраму ўсміхаецца мне, злыдню, прапашчаму альхоўцу. Не-е, дарагая Ло, я не зусім прапашчы!

Ло знікае.

Карабель ціха плыве над шашой, па ёй свецяць фарамі аўтамашыны. Ведаю: гэта Варшаўскі шлях. З шашы на Быцень, у цемру, бяжыць чалавек, за ім скача белы сабачка.

З'яўляецца Ло, кажа:

— Гэтага чалавека, Ілья Гаўрылавіч, на гадзіну возьмем на борт, будзеце з ім гаварыць. Вы ж хацелі быць журналістам.

Карабель завісае над чалавекам з сабачкам, тыя спрабуюць схавацца ў лесе. Ло ідзе да адчыненага люка, цэліць на іх трубку — яны ўзмахваюць усімі сваімі канечнасцямі, плывуць на люк. Ло знікае. Чалавек вельмі малога росту ўплывае ў кабіну, сабачка — за ім, люк зачыняецца. Карабель узмывае ўверх. Госці плывуць да мяне, сталі, ад перапуду ў іх шырока раскрытыя раты, яны не могуць іх закрыць. У чалавека — доўгі нос, а ў сабачкі адно вока — блакітнае. Устаю з крэсла, сашчэпліваю ім сківіцы. Паказваю на ўслончык. Чалавек садзіцца, вачэй маленькіх з мяне не спускае, сабачка — таксама. Кажу:

— Я — Альхавец.

Ён:

— Я — Чамыр.

— Адкуль, Чамыр, бяжыце сярод ночы?

— Из города от жены. Хотела целоваться, а нам уже за пятьдесят...

— Чаму не на роднай мове са мною гаворыце?

— Был в Минске, мой пожилой сосед-пассажир в троллейбусе о чем-то спросил меня по-белорусски. Услышали его какие-то здоровенные стриженые молодчики, избили — лицо в крови, выбросили на остановке на улицу. Люди в троллейбусе отвернули головы, отвели глаза. Кто-то сказал: "Наверное, бэнээфовец", — про бывшего моего соседа-пассажира. Думаю:

хорошо, что я не успел ответить ему по-нашему. К тому же я действительно "сябра БНФ". Но — боюсь говорить на родном языке...

Я:

— Вы, Чамыр, цяпер у Космасе, таму не бойцеся — гаварыце па-быценску, па-беларуску, на мове бацькоў сваіх!

Чамыр асцярожна зыркае праз ілюмінатар за борт карабля, углядаецца ў куткі кабіны. Вочы яго адтайваюць, спакайнеюць.

Я:

— Вы, Чамыр, лёгкі на ногі. Адкуль і куды вы бегалі ў сваім жыцці?

Чамыр:

— З вясковай быценскай хаты прыбег у райкам камсамола, адтуль — у Вышэйшую партыйную школу, пасля — у рэдакцыю раённай газеты, потым — у райкам КПБ, а як партыя развалілася — я прыбег у кацельню. У мяне быў сябра Радзюк, журналіст, дык ён яшчэ ў васьмідзесятым годзе ўцёк у магілу, яму абрыдла пісаць пра сацспаборніцтвы ў гонар чырвоных святаў і партыйных з'ездаў — лічы, жывы ў зямлю закапаўся. Дый мне ўсё гэта абрыдла — збег у кацельню. Мой сябра Кухараў дваццаць пяць гадоў блукаў па Палессі, хаваючыся ад пераследу за напісаны крытычны ліст на імя Мікіты Хрушчова.

Я:

— Цяпер ён на маім хутары. Піша нешта. Скажыце, Чамыр, а дзе ваш партбілет?

— Запіхнуў у трубу кацельні.

— А калі вернуцца камуністы?

Чамыр шкрабе патыліцу, маўчыць.

Я:

— І партбілет ваш ушчэнт пракапціўся. Гарэлку п'яце, Чамыр?

Ён:

— Піў і буду піць.

— Чаму?

— Весялей жыць.







Думаю: кал-лега! Пераходжу на "ты":

— Краў?

— Краў, а як жа.

— Што?

— Краў грошы ў жонкі на гарэлку. Краў рыбу са Шчары нератам.

— А жонцы здраджваў?

— Хацеў аднойчы на беразе ўтаптаць маладую сакратарку-машыністку, але членства ў партыі ахалодзіла мае памкненні.

— У кацельні здраджваць будзеш?

— Не ведаю.

— Адрэжу!

Ён крычыць:

— Не буду!

Я:

— Прабач.

Ён:

— Бэла, змоўкні!

Ага, думаю, значыць, сабачка — Бэла.

— Хлусіў?

— Хлусіў, у газеце працуючы.

Думаю: ні Радзюк у магіле, ні Чамыр у кацельні, ні Кухараў на хутары, ні я за алешнікам, ля кароў, не хлусім.

Я:

— Беларусь любіш?

— Не.

— Чаму гэта?

— Некалі я любіў Радзіму, крычаў на плошчах: жыве Беларусь! Потым у гарадах шмат хто пабег, як і я. У Беларусі ўсё робіцца ціхма, асабліва ў гарадах. Людзі паціху хлусяць адзін аднаму, паціху здраджваюць адзін аднаму, паціху крадуць адзін у аднаго.

Уверсе нешта піскнула. Здагадваюся: гэта сігнал.

Карабель завісае над хатаю Чамыра ў Быцені (хата ягоных бацькоў-нябожчыкаў). Люк адчыняецца, Чамыр перадае прывітанне Кухараву, і яны з Бэлай плывуць у ноч. Стаю на краі люка, бачу: Чамыр адмыкае драўляную хатку, Бэла ра-

дасна скача ў сенцы. А ў цёмным завулку, бліз Чамыровай хаткі, спыняюцца двое мужчын, абдымаюцца, цалуюцца, размахваюць рукамі, б'юцца, зноў абдымаюцца, зноў пускаюць у ход рукі, зноў б'юцца... Да іх бягуць з сенцаў Чамыр з сабачкам. Бэла хапае мужчын за порткі, Чамыр разбараняе іх, але яму і самому перападае, і яны з Бэлай хаваюцца ў сенцах... Чамыр з-за вушака адным вокам пазірае ў неба — але карабля ён не бачыць. Бэла ж нешта адчула — гаўкае ў выш, задраўшы галаву. Ціха бразгае клямка, святло ў хатцы не ўключаецца.

Люк зачыняецца. Ло кажа:

— Ілья Гаўрылавіч, ужо глыбокая ноч, спіце.

І знікае. Вячэраю, кладуся на ўслончык, засынаю...

Прачынаюся, мыюся (усё туалетнае ўжо чакала мяне побач), сядаю ў крэсла, снедаю. За ілюмінатарам, далёка нада мной, — Зямля ў блакітным ззянні. Карабель хутка набліжаецца да нашай планеты.

З'яўляецца Ло, кажа:

— Зараз у карабель уплывуць тры чорныя воблакі-душы. І адно — сіняе. Пераклад з французскай мовы пачуеце ў сваім правым вуху.

Люк адчыняецца. У кабіну ўзапар уплываюць адно сіняе і тры чорныя воблакі. Яны праплываюць міма Ло і мяне ў цёмны кут. Ло называе іх — адно за адным:

— Напалеон. Сталін. Гітлер. Берыя.

Апошняе воблака прыпыняецца насупраць нас, шыпіць:

— Ваши документы! Шпионы! На Лубянку! На Колы...

Чорная душа Берыя плыве-куляецца ў цёмны кут.

Ло знікае.

Воблакі-душы Сталіна і Гітлера растваряюцца адно ў адным, ціха спяваюць: Сталін — "Суліко", Гітлер — "Хорста Весэля"...

Неўзабаве Гітлер крычыць:

— *Drang nach Osten!*

Сталін:

— Наше дело правое — мы победим!

Душы Сталіна і Гітлера счапляюцца — кавалкі чорных воблакаў ляцяць мне пад ногі.







Сіняя душа Напалеона:

— Дзе мой маршал Мюрат?!

Сталін:

— А где Зюков?!

Чорныя душы расчапляюцца.

Берыя — Напалеону:

— Документы! На Лубянку! На Колы...

Сталін:

— Лаврэнтий, нэ надо. Наполеон — отличный грузын.

Чорнае воблака-душа Берыя плыве-куляецца да мяне, шыпіць:

— Подслушиваешь?! На Колыму!

Я:

— Ты майго дзеда Язэпа, Іосіфа, знішчыў на Калыме...

Гляджу праз ілюмінатар: пада мною — Калыма. Люк адчыняецца, у кабіну ўплывае светлае воблачка (чую ў вуху шэпт Ло) — душа майго дзеда Язэпа. Люк зачыняецца. Чорны Берыя імгненна ляціць у кут — хаваецца за чорнага Сталіна, а разам яны — за сіняга Напалеона. Душа дзеда паўз мяне плыве ў кут: не пазнае ўнука. У куце сіняя душа Напалеона адхіляецца ўбок. Чорныя душы Сталіна і Берыя — перад светлаю душой майго дзеда Язэпа.

Дзед — Сталіну:

— Я беларус, Язэп Альхавец. Мае косткі — у вечнай мерзлаце. Мы з вамі цёзкі.

Берыя:

— Неужели колымские души еше живут? На Лубянку!

Сталін:

— Лаврэнтий, нэ горачись. Товарищ тёзка, холодно на Колыме? Я когда-то удрал из сибирского мороза. А вы что, нэ могли удрать?

Дзед:

— Пры царах, кажуць, яшчэ можна было ўцячы, а пры вас і пасля — не.

Берыя:

— Хор-рошая работа ГУЛАГа!

Сталін:

— Товарищ Ольховец, если ваша душа там мэрзнет, товарищ Сталин возьмёт её с собой в тёплую Грузыю.

Берыя:

— Товарищ Сталин, он займётся там пропагандой и агитацией.

Сталін:

— А-а-а, тогда — нэт. А поч-чаму молчыт товарищ Наполеон?

Напалеон:

— Мяне ссылалі на цёплы востраў Эльба і на гэткі ж цёплы востраў Святой Алены.

Потым душы Напалеона і майго дзеда плывуць да мяне. Дзед, вядома, не пазнае мяне — мне ж у сорак чацвёртым было толькі сем гадкоў. І я не азываюся: баюся, што горка-горка і балюча расплачамся; не трэба вярэдзіць бядотную душу дзеда! Але ўсё-ткі пяшчотна дакранаюся рукой да светлага воблачка-душы дзеда — рука патанае ў холадзе.

Дзед:

— Чую нечую цёплую родную руку.

Я разгубіўся.

Ляцім над Беларуссю, і дзедава душа няўцешна плача...

Тады я кажу:

— Згнаілі і саслалі ў трыццатыя і пасляваенныя гады лепшых людзей Беларусі.

Берыя — з кута:

— На Лубянку!

Сталін:

— Нэ надо, Лаврэнтий. С меня хватыт. Моё забальзамированное тело в гробу у Кремлёвской стены переворачивается. Лаврэнтий, опустись над Белоруссией — узнай, можно ли мне, душе Сталина, отдохнуть над Белоруссией. Думаю, что можно.

Дзедава душа плача. Плачу і я. Тады адчыняецца люк, і дзедава светлая душа вылятае з кабіны — над Калымой.

Гляджу праз ілюмінатар: пада мной — Нёман. Берыя плыве да адчыненага люка. Я закрываю выхад сваімі рукамі, кажу:

— Не пушчу над Беларуссю!



Люк нечакана для ўсіх зачыняецца сам.

Але праз колькі часу ён зноў адчыняецца, і я выпіхваю з карабля воблака-Берыю — ён агрызаецца на мяне за бортам з чорнае бездані. Нешта дыхае мне ў патыліцу — азіраюся: чорнае воблака-душа Сталіна.

Ён кажа:

— А поч-чаму молчыт товарищ Наполеон? Лаврэнтия уже нет?

І душа Сталіна падае над Грузіяй..

Люк зачыняецца. Вяртаюся ў крэсла. Перада мной паўстае сіняе воблака-душа Напалеона. Я скрыжоўваю на грудзях рукі, як некалі вялікі Напалеон. Гляджу ў ягоную душу. Ён кажа — галантна, як сапраўдны француз:

— Мсьё Альхавец! Прабачце, але вашы продкі ў тысяча васемсот дванаццатым слаба мне памаглі. Прабачце, мсьё Альхавец, вашы продкі нават біліся са мной, хлеб хавалі ад мяне. Ну што ж, сэ ля ві...

— А цяпер — па сакрэту, — сіняе воблака наплывае мне на самае вуха, Напалеон шэпча: — Калі беларусы будуць сябраваць з французамі, я адкрыю таямніцу — дзе схаваны мой маскоўскі залаты скарб...

Ён паказвае ў ілюмінатар пальцам:

— Там.

Думаю сабе: хітры француз — тыцкае з Космасу пальцам у неба.

Кажу:

— Беларусы — народ дружалюбны. А вы, французы, узялі ды падкінулі нам пранцы. Старыя альхоўцы і цяпер яшчэ сварацца не па-руску — на “мацьˮ, — а “каб цябе пранцы ўзялі”!

Напалеон смяецца:

— Гэта мае грэнадзёры вашых дзевак валаклі ў кусты. Французы не могуць без гэтага. Во нават душы Напалеона ўжо карціць. Ах, мая прыгажуня-полька!

І люк адчыняецца над Польшчай. Сіняе воблака-душа шэпча мне:

— Адзью, мсьё Альхавец!..

І я нязлосна адказваю ўслед:

— Ідзі ты да прансцаў, мсьё Напалеон...

Сіняе воблака вылятае праз люк. Люк тут жа зачыняецца. Вяртаюся ў сваё крэсла. І адчуваю: нешта ў цёмным кутку капошыцца. Тое "нешта" — чорнае воблака — нізка над падлогай плыве да мяне. Гэта душа Гітлера.

Ад яе смярдзіць гарэлым.

Кажу:

— Маці Толі Кухарава даравала табе — я не дарую. Вон адсюль, смурод!

Чорнае воблака плыве па-над падлогай у расчынены люк, прападае ў цемрыве за караблём.

Люк зачыняецца.

Пада мною — Паўночны полюс, а мне цёпла, бо недзе ў Альхоўцы дыхае мая Вулляна. Заплюшчваю вочы, драмлю ў крэсле. Як лёгка дрэмлецца ў Космасе!

Неўзабаве паўстае перада мной столік з абедам. А мне не хочацца есці — бо недзе ў Альхоўцы плача мая Вулляна. Зноў заплюшчваю вочы, ды тут узнікае "мая" Ло.

— Ільля Гаўрылавіч, ешце. Сёння ў вас будзе шмат працы.

Ло знікае. Есці не хочацца. Тады вечка століка адчыняецца, мой рот разяўляецца, і ў яго з тубаў цячэ тлуста-салодкахлебная паста, льецца прыемны пахучы напой. Вечка століка зачыняецца. Уверсе шчоўкае, столік падымаецца, уверсе зашчоўкваецца.

Перада мною стаіць Ло. Яна кажа:

— Сотні тысяч гадоў назад продкі цяперашніх зямлян жылі на нашай планеце Ві. Гэта быў шматлікі род Істот. Наш род Істот жыў па другі бок планеты. Роды між сабой сябравалі. Ды ўсё ж аднойчы роды на тысячы гадоў раз'ядналіся, адмежаваўшыся адзін ад аднаго. На нашым баку Ві прырода, жывёліны, Істоты развіваліся прыгожа — былі здаровыя, а жылі Істоты, як і цяпер жывуць, да двухсот гадоў. Істоты, якія жылі на нашым баку планеты, не ведалі і не ведаюць, што такое хлусіць, біцца, красці, здраджваць. З нашага боку Ві мільёны гадоў таму ўжо ўзляталі міжзорныя караблі. І вось, хоць і вельмівельмі запознена, нашы Істоты зазірнулі на той бок планеты Ві






і жахнуліся. Істоты на тым баку планеты пачалі — праўда, толькі яшчэ пачалі — хлусіць, біцца, красці, хварэць і нядоўга жыць. Навука і тэхніка не развіваліся. Ніякія ўгаворы, просьбы, павучанні, ніякая дапамога нашых Істот ніяк не ўплывалі ўжо на *паў-Істот* з другога боку Ві. Неўпрыкмет уся тая зараза стала пранікаць і на наш бок планеты. Тады нашы Істоты вырашылі рашуча пакараць іх і адначасова дапамагчы ім: пасадзілі *паў-Істот* у велізарныя міжзорныя караблі, доўга шукалі ў Сусвеце прыдатную для развіцця жывых арганізмаў планету і знайшлі — Зямлю вашу цяперашнюю, высадзілі іх там, наказаўшы: выжывеце — добра, не выжывеце — таксама добра. На Зямлі былыя *паў-Істоты* па часе сталі розніцца ў колеры твару і ў разрэзе вачэй — у залежнасці ад прыродных і кліматычных умоў. Мільёны гадоў нашы Істоты наведваюць Зямлю — глядзяць, як развіваюцца нашчадкі Істот нашай планеты, ці можна забраць іх назад на планету Ві. І не могуць забраць. Зямляне прайшлі стадыю развіцця ад першабытнага чалавека да *Homo sapiens.* Пабудавалі аграмады-гарады, пачалі асвойваць ваколземны Космас, зрабілі высадку нават на Месяц. Але, наведваючы Зямлю, нашы Істоты зразумелі: на планеце Ві продкі цяперашніх зямлян толькі пачалі не быць Істотамі. На Зямлі ж яны зусім перасталі быць імі. Усе дзяржаўныя і незалежныя сродкі масавай інфармацыі Зямлі хлусяць. Хлусня стала прычынай усіх зямных бядот. Мы, Істоты планеты Ві, усё ж будзем чакаць, няхай і тысячы гадоў, перамен у псіхіцы зямлян, чакаць і спадзявацца. Але ж і Зямля — прыгожая, багатая планета. Як добра можна было б жыць на ёй! Можна! На жаль, пакуль што толькі эскімосы Аляскі — тут адзіныя *Homo sapiens.*

Ло знікае.

Што яшчэ сёння прыдумае Яна для мяне? Ах ты, Ло, дарагая касмічная ведзьма...

Гляджу праз ілюмінатар (помню фізічную карту) — пада мной сінеюць Дняпро, Сож, зелянее сумежжа Беларусі, Расіі, Украіны.

Карабель завісае якраз над гэтым месцам. Люк адчыняецца — і я выплываю праз яго, мякка ступаю на зямлю. Рэчка

ціхая між буйной травы і кустоўя... Сядаю на беразе, здымаю з ног гумовыя боты і шкарпэткі, апускаю ненадоўга ногі ў родную свежую ваду. Чую шамаценне ў кустоўі, гляджу: справа і злева выглядаюць на мяне з густога вецця вочы. Міргаю ім сваімі вачыма. Выходзяць двое мужыкоў майго веку. Сядаюць ля мяне. Усе мы пахнем славянскім духам — хоць кожны з нас мае прымесь іншага духу. Працягваем адно аднаму рукі — знаёмімся: босы маскавіт Іван, чаркас Тэрэнь у шырачэзных чырвоных шараварах і я, ліцвін-беларус, у гумовых ботах. Іван дастае з-за пазухі бутэльку “Московской”, чаркас з шараварах — кавалак сала, лусту белага хлеба, цыбулю, соль. Я вырываю з дна пад берагам рэчкі тры аерыны, расхінаю іх з кораня, дастаю светла-зялёную мякаць. Маскавіт шчарбатымі зубамі адкаркоўвае бутэльку, працягвае мне. Махаю рукой — маўляў, не п’ю.

Ён кажа:

— Не похож на истинного белоруса.

Чаркас:

— Що це за білорус?!

Усходнія браты-славяне вылупілі на мяне вочы, але ўрэшце махнулі рукамі — маўляў, якое толькі дурноцце не ўваб’ецца ў славянскую галаву. П’юць сабе з бутэлечнага гарла, гарэлка з ратоў праліваецца, закусваюць найперш цыбуляй з соллю.

Пытаю:

— Як цяпер жывецца ў Расіі, ва Украіне?

Маскавіт:

— Хорошо.

Чаркас:

— Гарно.

Ну, і я кажу:

— І ў Беларусі — добра.

П’юць, п’янеюць. Дзіўлюся з іх і з сябе: чаму ніхто з нас тут, на сумежжы Гомельскай, Чарнігаўскай і Бранскай абласцей, не ўпамінае пра блізкую адсюль Чарнобыльскую АЭС?

Маскавіт хрыпіць пра Севастопаль і НАТО і драпае кіпцюрамі чаркасу вуха, той робіць тое ж самае. Тады я цягну іх за ногі ў халаднаватую ваду расійска-беларуска-ўкраінскай рэчкі.






Выныраюць з вады, фыркаюць шалёна, хапаюцца дрыжачымі рукамі за бераг. Сядаем зноў на траву, яны выпіваюць рэшту гарэлкі, закусваюць аерам, салам з хлебам, цалуюць мяне, абдымаюцца, разыходзяцца ў розныя бакі па кустоўі, але хутка вяртаюцца назад. Чаркас бяжыць па “горілку” ў блізкую Чарнігаўскую вобласць. Праз хвілін дваццаць прыбягае — п’юць, паўзуць у кустоўе ў розныя бакі, дзесьці там, у кустоўі, чую, зноў сыходзяцца ці спаўзаюцца...

Плыву праз люк у карабель. Люк зачыняецца. Сядаю ў крэсла. Адчуваю стомленасць.

Карабель завісае над Крамлём. Люк адчыняецца — адна за адной уплываюць у кабіну дзве здані — Гарбачова і Слюнькова, а следам — бясколернае воблака-душа Андропава і светлае воблачка-душа акадэміка Лягасава. Люк зачыняецца. Гарбачоў шэпча на вуха Слюнькову:

— Хорошо мы тогда, было, утаили Чернобыль, Слюньков?

— Особенно постарался я, Михаил Сергеевич. Но перестарался: не могу быть гостем своей родины — Гомельщины.

Гарбачоў:

— Выкручивайтесь, товарищ Слюньков.

Светлая душа Лягасава:

— У меня остались кое-какие записи.

Бясколерная душа Андропава:

— Где, товарищ Легасов?

Лягасаў:

— Пока спрятаны в надежном месте.

Андропаў:

— Лубянка найдёт, разберётся.

Люк адчыняецца, здані і душы адна за адной плывуць да выхаду. Здані Гарбачова і Слюнькова калышуцца ў рытме “Танца маленькіх лебедзяў”. Люк зачыняецца.

Карабель завісае над Паўночным Каўказам, над горнаю далінай. Выплываю з кабіны. Камяністы бераг. Уверсе — чыста-блакітнае каўказскае неба. На супрацьлеглых берагах рэчкі стаяць двое ў аднолькавай камуфляжнай расійскай форме — рускі і чачэнец. Яны кідаюць адзін у аднаго камяні, потым

працягваюць па-над бурным патокам адзін аднаму рукі, сядаюць адзін насупраць аднаго на сваіх берагах, спакойна пра нешта гавораць, устаюць з зямлі, мірна разыходзяцца, але неўзабаве — спачатку чачэнец, потым рускі — азіраюцца, бяруць з зямлі важкія камяні ды зноў кідаюць іх адзін у аднаго, а пасля зноў працягваюць рукі над бурным патокам — і гэтак працягваецца вельмі доўга...

Плыву ў адчынены люк карабля. Люк за мною зачыняецца.

Карабель узмывае ў Касмічную бездань.

Сяджу ў крэсле, гляджу праз ілюмінатар. Бачу ўнізе сіняе Адрыятычнае мора, горы. Карабель завісае над горнай далінай, дзе стаяць войскі НАТО, бронетранспарцёры, артылерыя, ракеты... Люк адчыняецца — у кабіну ўплываюць здані серба і албанца ў камуфляжнай форме, стаяць адзін да аднаго спінамі. Люк зачыняецца. Мой столік плыве да іх, становіцца між імі. Серб і албанец паварочваюцца адзін да аднаго тварамі, перамаўляюцца між сабой, паціскаюць рукі, аддаляюцца ад століка, зноў сходзяцца, б'юцца па-над столікам, сціхаюць, пра нешта перамаўляюцца, ціснуць адзін аднаму рукі, зноў вяртаюцца, б'юцца... Тады я плыву да іх, хачу, як міратворца, спыніць іх бойку, адводжу за спіны іхнія рукі, але тут і мне перападае па альховіцкаму чарапку, грозна махаю ім рукой, плыву ў сваё крэсла. Люк адчыняецца — здані серба і албанца, праз кароткі інтэрвал, выплываюць з кабіны.

Пада мной — егіпецкія піраміды, сіні шырокі Ніл. Сінай, пустыня Негеў, Мёртвае мора... Карабель завісае над блакітнаю ракой Іярдань. Стаю ля адчыненага люка. Гляджу ўніз: цудоўная зямля абяцаная! Па берагах свяшчэннай ракі — апельсінавыя, мандарынавыя і лімонныя гаі. Воддаль — узвышшы ў блакітным мроіве, зялёныя даліны. Толькі нешта авечак не відаць. І чую: з боку Іерусаліма грыміць, грыміць, мільгаюць вогненныя хвасты ракет. Ведаю: там ліецца чалавечая кроў — кроў старажытных іудзеяў і арабаў. Ло стаіць побач са мной, разам глядзім у нябёсы над Іярданню. У тых нябёсах на імгненне спыняецца і знікае светлая душа Яна Хрысціцеля. І бачым: з-пад высокіх белых аблокаў паўстае прасветлая душа Ісуса Хрыста. З боку Меккі да Яго прыплыла прасветлая душа Мухамеда. Іх душы — побач. Ісус Хрыстос і Мухамед з нябёсаў глядзяць у бок Іерусаліма і — глыбока маўчаць і думу думаюць глыбокую.

Маўчым і мы з Ло.

Люк зачыняецца, Ло знікае, плыву ў сваё крэсла. Карабель імгненна набірае вышыню, але неўзабаве зніжаецца зноў, завісае над Зямлёй. І бачу я праз ілюмінатар: пада мной у перадсвітальным мроіве паўстаюць мая родная Альхоўка, мая хата, і стаіць у маім двары мая Вуллянка з даёнкай у руцэ, глядзіць у неба... Бачу кароўнік, хутар мой, на камяні-ганку якога сядзіць Кухараў у белай майцы, пацягваецца пасля сну... От чорт, думаю, замест таго, каб шукаць мяне, ён, як той кот на падваконні, пацягваецца на маім каменным ганку!

Плыву да люка, ён адчыняецца. Побач узнікае ружовая Ло, яна па-добраму ўсміхаецца мне і лёгка шлёпае мяне рукой па спіне...

Выплываю з карабля, ён імкліва ўзмывае ў Космас, а я плыву і ўстаю ля капіцы сена. Каля дзвярэй кароўніка на бярэмку сена сапе вартаўнік. На двары вурчыць легкавік з мігалкаю. З яго вылазяць участковы Антон з гумоваю дубінкай на баку і гарадскі капітан міліцыі. Думаў, што пасля Космасу, пасля сеансаў з Ло буду на Зямлі самавіты, спаважны, — аказваецца: перад роднай міліцыяй калені ўсё яшчэ трасуцца.

Капітан, убачыўшы мяне, грозна-здзіўлена пытае:

— Дзе ты быў трое сутак, грамадзянін Альхавец?!

— Та-ам...

— Дзе — та-ам?!

Зноў паказваю пальцам у неба:

— Та-ам...

Капітан — яшчэ больш грозна:

— Дзе ты быў, апошні раз пытаю ў цябе!

І тады я таксама крычу-хлушу (забыў на Ло!), бо на Зямлі ж не схлусіш — не пражывеш:

— Та-ам! — паказваючы на капіцу сена.

Капітан — Антону:

— Грамадзяніна Альхаўца — у Крывошынскую псіхбальніцу!

Але нешта падумаў-падумаў ды перадумаў:

— А-а, будзе ён там народныя грошы праядаць, хай далей кароў пасе...

Сядаюць у машыну, едуць ад кароўніка ў вёску. Чую: даяркі ўжо блізка языкамі менцяць. Бягу — ці іду? — цераз выган, па-за алешнікам дахаты, да сваёй Вуллянкі. Пеўні гарлаюць па ўсёй Альхоўцы. І сабакі брэшуць, хрыпла, з падвывам. Ранавата брэшуць нешта: хіба за гэтыя трое сутак яшчэ які-небудзь Саюз разваліўся?!

Вуллянка, мая родная жоначка, сустракае мяне ў родным двары, стаўляе даёнку з малаком на траву, абдымаемся з ёй, цалуемся, плачам... Напіўшыся свежага малака, выпраўляюся зноў на кароўнік.

***

Чытаю і думаю: ці тыя трое Іллюковых сутак — неверагодная ява, ці сон-вярзота ў капіцы сена ля кароўніка?..

Звечарэла. На развітанне з Іллюковым хутарам стаю над рэчкай. Да аўтобуса, позняга, падыдзе Іван Пятровіч. А пакуль што мне добра-журліва аднаму.

Рэчкаю ціха плывуць-сплываюць жоўтыя аблокі, хочуць, здаецца, сплысці адсюль і алешыны, і аерыны, і чарот — ды адно толькі пагойдваюцца, бо не могуць адарвацца ад дна, пагойдваюцца ў вадзе. І бераг з чалавекам на ім таксама пагойдваецца. І раптам убачылася мне, глыбока ў вадзе, — з-над плывучых, з-над жоўтых зорак: глядзяць на мяне нечыя вочы. І стала мне жудасна і непамысна... Але во, з берага ў ваду лёгка скокнула жаба і ўсё разбіла ў рэчцы: аблокі, зоркі, нечыя вочы і бераг са мной...









# Аксана Забужка

***Т**олькі каханне бароніць ад страху. Але хто (што) абароніць ад страху каханне?*

Аксана ЗАБУЖКА

# ПАЛЯВЫЯ ДОСЛЕДЫ ЎКРАІНСКАГА СЕКСУ

Па вечарах яна ўцякае ў бібліятэку – галоўнае дзеля таго, каб не заставацца ў хаце, дзе роспач падпільноўвае яе ў надыходзячай цемры, каб накрыць з галавою чорным мехам, – але і бібліятэка не ратуе: ніводнае з тых, больш альбо менш таленавіта выпісаных і апраўленых у фаліянты з пасціранымі карэньчыкамі чужых жыццяў, што цягнуцца і цягнуцца, шэраг за шэрагам, ад падлогі да столі, шматпавярховымі стэлажамі, пакуль яна намотвае ўздоўж іх кіламетраж у пошуках навязанага сабе самой тома, – няйнакш на сусветным цвінтары (шэрае неба, бязмежнае, да небакраю, поле аднолькавых шэрых надмагілляў, і хаця ведаеш, што пад кожным стаіўся нябожчык, гатовы, калі пагрукаюць, выскачыць навонкі, выпрастаўшы жывенькую і паўнакроўную стаць, але сама тая астранамічная колькасць зводзіць на "не" хоць-які сэнс выбару кагосьці аднаго: колькіх з іх, сапраўды, ты здолееш за свой век уваскрасіць, і колькі такім чынам уваскрашоных-прачытаных нешта для цябе азначалі? усё, што ты ў стане зрабіць – і гэта найбольшае! – далучыцца да іхных манатонных шэрагаў яшчэ адным малапрыкметным томікам, а ўклееныя на фарзацах бланкі з атрамантавымі штампікамі *data due*[1] бясстрасна рэеструюць абсурднасць цалкам усяго гэтага занятку: згодна ім, за дваццаць гадоў ты сталася *пятаю* ў Гарвардзе, хто ўзяў "Брыфінг з сыходам у пекла" Дорыс Лесінг – раман, які ўзгадваецца ва ўсіх літаратурных даведніках, і сапраўды таго варты, – і *другою*, каго зацікавіла польскае выданне Мілаша, – большасць жа распаведзеных жыццяў так і пыляцца незапатрабаванымі карткамі ў нумарных шуфлядах пад шыльдачкай "Да запатрабавання"), – ніводнае з тых жыццяў не мае да яе стасунку, ніводнае не адказвае на адзінае пытанне, якое яна ніяк не ў сілах абысці, ну ні з якога боку, куды б ні мкнулася ў мізэрнай надзеі на зачэпку: ***чаму не зараз? не цяпер? чаго чакаць?***

Прыгожыя дзеці, у нас мусілі б быць прыгожыя дзеці: элітная парода. Лепш не ўзгадваць, так? Ды не, яно неяк і не баліць ужо: памятаецца – думкамі, а не пачуццямі (і невядома, што горай!). Што праўда, дык праўда: у рабстве народ выраджаецца, – натоўпы, што напаўняюць кіеўскія аўтобусы, усе гэтыя ссутуленыя, з памятымі тварамі мужчыны на па-жакейску сагнутых у крук нагах, жанчыны, пахаваныя пад цюленістым ваганнем сырамяснага цеста, маладзёны з дэбільным смехам і воўчым прыкусам, што пруць напралом, не разглядаючы дарогі (не адступішся – саб'юць з ног і не заўважаць), і дзявулі з груба вымаляванымі паверх скуры лічынамі (счысці каламазь – і аголіцца гладзенькая яйкападобная паверхня, як на палотнах Дэ Кірыко) ды трывалаю аўраю нейкай ліпкаватае недамытасці, – гэта няйнакш рэчы, змайстраваныя без любові, абы-як, на адчэпку: гналі план у канцы квартала, патрабаваліся дзеці, каб стаць на кватэрную чаргу, або трахнуліся дзесьці ў пад'ездзе ці, па п'янай справе, у тамбуры цягніка (яна *ехала* некалі ў такім цягніку, з Кіева ў Варшаву, на фэст паэзіі, падумаць толькі! – драпежная навала тарбешнікаў, плацкартны вагон, затараны бэбахамі пад самую столь, – *тавар*, вось як яно ўсё ў іх звалася, зусім-такі па-навуковаму, на радасць Карліку Марксу, – смурод клазета, правіслыя на адной завесе дзверы ў тамбур, што раз за разам адхіляюцца пад разгон бразгацення з павольным, быццам пакуты скрыгату зубнога, рыпеннем, звычна агідлівы выраз на свежапаголенай пысцы польскага мытніка, які бярэ – па пляшцы гарэлкі ад "пшэдзялу", і гэта яшчэ *харашо*, запэўніваюць памаладзелыя на радасцях цёткі, абтрасаючыся і выцягваючы – уфф, пранесла! – з бяздонных спартовых рэйтузаў па дзве-тры цудам ўратаваныя пляшкі, кожная пацяг-

*Заканчэнне. Пачатак у № 1.*

не ў Холме па дзесяць баксаў: яно ў Ягодзіне было раз – давайце, кажуць, па бабе ад аўтобуса, дык прапусцім! – І-і, дык вы што, так і далі? – А што рабіць было? – уночы яна ляжала на верхняй паліцы, слухаючы какафонію разнатоннага храпення, і балесна любіла свой няшчасны народ, і народ – пачуў і адгукнуўся: масіўная постаць паказалася ў спёртай паўцемры, павеяла па твары цяжкім, узбуджаным выдыхам: “Мамачка... малышка... Ну хадзі сюды, чуеш? чуеш мяне? – заводзячыся дадалі мацней: Ну чо ты? Хадзем, перапіхнемся, чуеш? – рука шуганула пад прасціну: — Ну дай я твае грудкі прылашчу”, – усхапілася, сцяўшыся ў клубок, зараўла добра артыкуляваным басам: “Атстаньце, пажаллста!” – а на суседніх паліцах, сукі, як павыміралі са страху – за *тавар,* мабыць? – толькі з боку праходу трымклівым голасам азвалася старэнькая бабця: “Пакіньце яе ў спакоі, чаго вы прычапіліся да дзяўчыны?” – “Мамаша! – гыркнуў, паварочваючыся: – Не лезьце не ў сваё дзела!” – але – адваліў, збіла: спусціў-такі частку пагрозліва-шпарка нарастаючае агрэсіі, і тут яна закрычала на ўвесь вагон, і ён, таксама не збаўляючы ўжо тону, прароў, адступаючыся: “Ну ўчці, казліна, я ця вяздзе дастану! Я ця так дастану, шо будзет це в Хелме піздзец, ты мяня поняла?” – у Хелмі была перасадка, і яна, схапіўшы куртку пад паху, уцякала праз вагон у хвост састава, праваднiца, кволая, з выгляду што тое засціранае дзяўчо, па-старэчы скрушна ківаючы галавою – такое робіцца ў цягніках, што страх Божы! – выпусціла яе праз якісьці запасны выхад – падножкі не было, давялося скакаць, услед за кінутай сумкай – у едкае макроцце туманнага ранку, проста ў насыпаны між рэйкамі жвір, да крыві абдзёршы аб яго далонь, – і проста ў рукі разлютаванаму, падцягнутаму ў хадзе, як хорт, польскаму паліцыянту – *тутай нэма выйшьця, прошэ показаць документы!* – катораму ледзьве не кінулася на шыю, як роднаму брату). Нашмат пазней, у калматых эратычных фантазіях (калі расставалася з мужчынам – спачатку бо вызвалялася, замітусіўшыся, галодная цялесная прага, а пасля таго і абрынулася-пакацілася, – а дзіцячае, ці то дзявоцкае, дваццацігадовая амаль, цікаўна азіраючая свет гатоўнасць-да-новага-кахання ўключылася ўжо праз нейкі час, давяршыўшы расстанне), – вяртаючыся думкаю назад, наноў раскалупваючы ў памяці тую ноч у плацкартным вагоне, яна спрабавала пракруціць сабе не зняты ролік: як тое *магло б быць,* як там яно *ў іх* адбываецца – у тамбуры, пад грукат колаў, прыціснуўшыся спінаю да перагародкі, утробна здрыгаючыся разам з ёю? ці, мо, у клазеце, асядлаўшы унітаз, у расквашанай вакол яго вышэй за падэшвы рэдкай багніцы? *што* яны пры гэтым адчуваюць, што адчуваюць іхнія жанчыны – юрлівую раскошу прыніжэння, вычварэнскі кайф на хвілінку збыдлячыцца, ці, чаго добрага, і тое яшчэ горш, увогуле нічога не адчуваюць? а можа, чорт яго вед, можа, гэта і ёсць – здаровая сексуальнасць у чыстым выглядзе, без комплексаў, не спаралізаваная культураю з усімі яе звіхнутымі справамі, – толькі ж, хай яму гарэць, чаму ў іх атрымліваюцца такія непрыгожыя дзеці, дзеці-ліліпуты: з аблiччам маленькіх дарослых, ужо гадоў з трох-чатырох застылымі, як ахаладзелы пластык, у формах тупасці і злобы? Калісьці, і не так жа ж даўно, усяго якія тры пакаленні таму, лэдзі і джэнтльмены, дазвольце вас запэўніць, мы былі іншыя, для падцверджання чаго дастаткова высвятліць на экране – калі ў аўдыторыі знойдуцца экран і праектар – усяго некалькі кадраў – тагачасных, да зжаўцелага пабляклыя здымкі сялянскіх сем'яў, заспетых у ненатуральна знерухомленых позах: у цэнтры бацька і маці з па-шкалярску складзенымі на каленях рукамі, рэгулявання нараджальнасці, вядома, ніякай, і над імі ўзвышаецца цэлы лес постацяў – мужыкі, як дубы, адзін да аднаго, быццам волаты, аднолькава засяроджана вытрэшчыліся ў аб'ектыў з-пад нахмураных броваў, старанна, “на мокра” зачасаныя чупрыны, валовыя шыі распіраюць цесна зашпіленыя каўняры святочных кашуляў, малодшы, што, здаецца, амаль прапякае здымак агністым позіркам, звычайна ў гімназічнай форме з картузам, што каштавала цялушку ў год: дасць Бог, вывучыцца, у людзі выйдзе, такое ўжо яно змалку ўдалося хуткім на розум, – а яны потым гінулі пад Крутамі, пад Бродамі і дзе яшчэ там, тыя, з каго мелася паўстаць нашая эліта, – дзяўчаты ж збольшага ў народных строях: бразгуткая, нават на вока, правісласць завушніцаў, караляў, раскіданых па плячах косаў і стужак, касмата-страката вышываныя фартухі, бухма-

тая расхістанасць спадніцаў і гарсэтак не хавае пыхноты здаровых целаў, гатовых нарадзіць, я, аднак, спецыяльна прашу звярнуць увагу на твары, лэдзі і джэнтльмены, – тыя цудоўныя, красамоўныя твары, над якімі папрацаваў – і Божы разец, і гады цяжкога жыцця, якія, – калі толькі не шукаць прыдзірліва ў іх увесь час сэнсу, як тое здуру робім мы, а прымаць як ёсць, як надвор'е і непагадзь, – мала-памалу счэсваючы з твару другасныя наслаенні гліны, агаляючы скупую чысціню першаснага – Боскага-такі? – гарэльефу: усё лішняе прыбіраецца, падчышчаецца, акругляюцца ілбы, настаўляюцца сківіцы, і ўсё глыбей высвечваюцца – вочы, вочы, вочы, чарназём узвіўся, і пагляд яго з адлегласці часу – страшны і дапытлівы, – што з імі ўсімі потым сталася, вымерлі ў трыццаць трэцім? згінулі ў лагерах, у следчых вязніцах НКВД, ці проста надарваліся на калгасных працах? *ёлкі-палкі,* мы ж былі ўрадлівым народам, лэдзі і джэнтльмены, адкрытазорным, дужым і рослым, самаўладна-моцна ўкарэненым у зямлю, з якой нас доўга выдзіралі з мясам, пакуль нарэшце не выдзерлі, і мы разляцеліся, раструсіліся па ўсіх шыротах абтрапаным пер'ем з распоратых багнетамі падушак, нарыхтаваных, было, на пасаг, – бо мы ўсё чакалі свайго вяселля, вышывалі сабе песні, крыжыкам, слова да слова, і так на працягу ўсяе гісторыі, – ну вось і давышываліся. У рабстве народ выраджаецца, кажу яшчэ раз, пражоўваю тую думку да поўнае страты смаку, каб толькі перастала вярэдзіць, як непагадзь, як штомесячны боль пустога ўлоння, – выжыванне хутка падмяняе сабою *жыццё,* абарочваецца *выраджэннем,* дык, браты-габрэі, мілыя мае ашкеназы (калі хто з вас выпадкам апынуўся пасярод публікі), – гэта і вас тычыцца: можаце сабе колькі хочаце ганарліва пыхаць на сяброў – тупіцы, маўляў, рагулі, ці як яны там у вас пазначаюцца, – а мне назаўжды ўрэзаўся ў памяць зайздросны, знізу ўверх, пагляд калегі-кіяніна, невялічкага, юрлівага напаўкроўкі з па-жаноцку вузенькімі, высока стуленымі плечыкамі, што няўлоўна надавалі яму профільную паставу гарбуна, – мы бадзяліся з ім па Ерусаліме, праходзілі побач са станаццатым на дні патрулём, і бядак – не стрываў, зламіўся: шасцідзесяцігадовы, яшчэ брэжнеўскага разліву прафесар, хлопчык, што прагна ўтаропіўся







скрозь дзірку ў паркане на вайсковы парад, спыніўся гарбатым слупком, і вырвалася ўслед патрулю – глыбей уласных комплексаў напаўкроцы схаваны, ажно прысёрбнуў слінаю: "Якія яны... прыгожыя!" – а ваякі там і сапраўды як на падбор – міфалагічныя волаты, памылкова ўбраныя ў плямістую ўніформу з аўтаматамі праз плячо, разложыста-гарыстыя плато спінаў, рухомыя ствалы сцёгнаў, моцныя, з сіняватым адлівам, у кантрасце з аліўкавым загарам зубы, быццам сама зямля ажыла і памкнулася ў рост, ах якія мужчыны, банкет для вачэй! – ва Усходняй Еўропе хадзі пашукай такіх раскошных бардадымаў семіцкага тыпу, – нібы там, пасярод на вохру выпаленых бязводных пагоркаў, і далей трывала, ніколі не перарываючыся, біблейская гісторыя, ва ўсялякім выпадку, *тыя* – ва ўніформе і з аўтаматамі, калі прачэсвалі арабскія і хрысціянскія кварталы, пасоўваючыся па санцапёку з падманлівай лянотнай грацыяй сытых драпежнікаў, – *маглі* быць нашчадкамі Аўраама і Якаба, мой жа прафесар – ужо самымі тымі па-мярзляцку, ці тое выбачайна, скурчанымі (укрыцца, схавацца, дагаджаючы падхіхікнуць і зліцца з мэбляю) плечыкамі – адмаўляў дакладнасць Старога Запавету: з такімі плечыкамі немагчыма змагацца з анёлам, увогуле нічога немагчыма, акрамя як бегчы "па вяровачцы", што ён усё жыццё і рабіў, што рабілі, ад калена да калена ўсё глыбей ухрасаючы падбароддзем у грудную клетку, мільёны ашкеназаў, а вяровачка лопнула і жыда прыхлопнула, гай-гай! Але ў іх – у іх усё-такі ёсць выпаленыя да вохравае жаўцізны пагоркі, на якіх трывае гісторыя: хто скажа мне, дзе *наш* Ерусалім, дзе яго шукаць?

Там, у Ерусаліме, пераходзячы ад храма да храма, яна прасіла ў Бога сілы – больш нічога: год выдаўся цяжкі, самотны (шлюб, што доўгі час дагніваў пацïху, тлумячы душу, як акенца ў парка надыханым пакоі, нарэшце распаўся), а галоўнае – бяздомны, увесь у ірваных скоках ад аднаго часовага прыпыну да іншага, абы толькі не заставацца ў малюпасенькай кватэрцы разам з маці: з ёю яна пачынала ненавідзець уласнае цела, ягоную ўпартую, непераможную матэрыяльнасць – мусіла, хоць ты лясні, займаць пэўны кубічны аб'ём прасторы! –

 





начамі сніла сябе мужыком – высокім, доўгавалосым чарнявым самцом-Маўглі, што цягне ў ложак старую вядзьмарку ў абвіслых блакітнавата-сіняватых пасмах – *і не можа* яе ўзяць! Вось бы суцешыліся амерыканскія псіхааналітыкі, каб ім такое распавесці! – тады вось і стала даносіцца – промільгам, ускідам, спахопіцца і пырсне – адчуванне нейкае скразное адкрытасці ўсім-вятрам: на дабро ці на благое? Розумам запэўнівала сябе, сцяўшы зубы: хай хоць горш, абы інакш! – а вершы абяцалі: “Наступнай ноччу, пэўна, прыйдзе жах. */Гарачы шал – любоўны ці блювотны – /І прадчуваннем сувязі скажонай /Ці енку даўкага сціскае цела. /Звіняць разрывы нерваў, звязак, жыл, /Мой свет безабароннасць захлынае, /Нібы адкрыты заклік злу – Прыходзь! /Я ўжо сябе прыбачыла будынкам, /З якога ў ноч аголеным акном /Гарыць жоўтапякучы простакутнік: / Чарнеюць планкі ўпоперак грудзей /І нізу жывата – як на рэнтгене, /І камень той, які раструшчыць шыбку, /Ўжо дзесь ляжыць, чакаючы рукі*”. Во блін – што тут яшчэ скажаш... А ў Іерусаліме неяк было адпусціла, зрэшты, і сімпозіум выдаўся цікавы, так што ўпоперак-горла-ўсаджаную костку ўласнага, ужо спрафесіяналенага эксгібіцыянізму: кожны раз дэманстраваць ашчэраным заходнім інтэлектуалам, што і ўкраінцы, бач, у стане выказвацца зладжана падрадкоўнымі сказамі, – яна тады пракаўтнула параўнальна безбалесна, – адно, седзячы ў перапынках паміж сесіямі на адкрытай тэрасе за столікам, з асалодаю выпрастаўшы ногі, пасёрбваючы кавусю ўперамешку з балбатнёю – спрачаліся з-за Данцова, ды зразумейце ж вы, паньства, гэта не антысемітызм – гэта рык параненага звера: адпусціце, дайце нам жыць! – і з прыхаванаю ўсмешкаю разглядаючы суразмоўцаў скрозь залацінкі прымружаных павеяў, яна знянацку пачула рэзкае, надсаднае каўканне: невядома адкуль на тэрасе ўзяўся антрацытава-чорны кацяра, задраўшы хвост, ішоў між столікаў, скрозь агульны смех ды разнамоўныя воклічы, і страсаў паветра чырвона разяўленым каўканнем, – пырснула пад скуру лёгенькім халадком: гэта яшчэ што за дзіва? – а ён, сцерва, скіраваўся проста да іхняга гурта – выгнуўшы спіну, скокнуў ёй на калені, цёплым цяжарам скруціўся ў падоле і сцішыўся, паторгваючы натапыраным вухам, пераключыўшыся на ўтробнае вуркатанне: знайшоў, каго шукаў. Пасмяяліся тады, дый усё, – з несвядомым хваляваннем, быццам дзеля таго, каб дагадзіць, яна асцярожна пагладзіла звяругу, – кацішча расплюшчыў на яе жорстка зашклёныя залатыя вочкі з чорнымі прарэзамі зрэнкаў, як полымя ў наўсторч пастаўленых свечак, вохнула пра сябе: свят-свят-свят! – трапілася, золатца, вось калі трапілася – акурат за паўгады да таго, як – агаломшыла, закруціла віхурай, падхапіла-панесла, не даўшы схамянуцца: ратавальніцаю сябе ўявіла, жанчынаю-светланосьбіткаю, так? Ну дык маеш – прыцэльна, якраз у той светлавы простакутнік, з планкамі ўпоперак грудзей і нізу жывата, і не скуголь цяпер – ён, як-ніяк, цябе кахаў, той мужчына. Не, гэта *нешта іншае* жадала ім цябе кахаць: коцік у падоле, коцік на ўлонні, водбліск вачэй і кіпцяў, а я, распасцёртая, граю на скрыпачцы і крычу: ах, каханы, мне балюча, балюча, чуеш?

Растлумач мне адну рэч. Растлумач, бо я штосьці ніяк не ўеду. Ты што ж – *сапраўды* ўпэўнены, што калі ў цябе – стаіць, і не адразу сканчаеш, дык ты ўжо і князь, і жанчына мусіць сукаць ножкамі і пырскаць кіпенем, як толькі ты пажадаеш да яе дакрануцца – пасярод ночы, пасля таго як пазгортваеш, ахайненька так, свае малюнкі, а я тым часам буду даглядаць першы сон? Між іншым, пасля ягонага прыезду ёй перасталі сніцца сны – дакладней, яна перастала іх памятаць: клубілася нейкае ашмецце, пераважна цьмяных, брунатных і асфальтава-шызых таноў, але ніводзін *сюжэт* не праціскаўся ў дзённую ўцямленасць, быццам паміж ёю і начнымі мроямі ў імгненне абуджэння абрыналася цяжкое вечка, – усведамленне ягонай прысутнасці поруч перакрывала каналы сувязі. Ці не ўпершыню ў жыцці яна адчула сябе вязнем у клетцы голай рэчаіснасці – свет зрабіўся непразрыстым, уключылася і згасла ягонае другое дно, мільгатліва-падводная сетка неразгаданых сэнсаў, што да таго часу заўжды свяцілася ў снах і вершах, – цяпер не было ні сноў, ні, адпаведна, вершаў: яна згубіла арыентацыю, быццам пазбавілася аднаго з уяўленняў, аглухла ці аслепла. Разбамбаванае ўночы цела ўвесь час пачувалася нязграбным, нейкім азызлым усярэдзіне, нібы сапраўды была вагітнаю –

 

 

пакункам кірмашовага мяса ў крывяных пісягах, дык чаму ж гэта мне ўсё не дзякуй Богу, тупа здзіўлялася яна – і засынала на ягонай руцэ, быццам непрытомнела, а ён радасна бурбатаў над вухам: *"А ведаеш, ты, выяўляецца, можаш быць дужа нават "прыятнай жэншчынай" – толькі з сексам наладзіць трэба"*, – *"Секс,* – спрасонку мармытала павучальна: галава ўсё ж-такі вырубалася апошняй, – *гэта толькі паказчык нейкае глыбіннае нязгоды"*, – *"Сумняюся"*, – адсякаў ён – і тым закрываў тэму. Атрымліваецца, не так ужо шмат ты пра гэтую справу ведаеш, радасць мая, – насуперак усяму свайму слыннаму досведу, і хто б падумаў! *Казаць,* каб элементарна сабе дамагчыся згоды, было немагчыма – ашчэрваўся ў момант, займаючы абаронную стойку, у той час, калі спроба пасярод дня выпрастаць да яго рукі стала спараджаць у ёй успышку млоснага адчування пахіснутае раўнавагі – быццам у рэзка спыненым ліфце, або калі спяшаешся адзінока напярэймы натоўпу, што паваліў з тралейбуснага прыпынку, – бо ён "не любіў, калі яго абмацваюць", далібог нездаровую была тая неахвота да нармальнага кантакту (*"І не сорамне табе вось так,* – насмешліва прыжмурваў вока з падушкі, – *абмацваць мужчыну?"*), – на той час яна гатовая была ўжо не тое што казаць – галасіць, несупынным дваццацічатырохгадзінным маналогам (так неперастраўленая ежа прэ з атручанага арганізма ў абодва бакі), трэсці яго за плечы, каб дагукацца, ды што ж гэта такое, чувак, – а чувак, між іншым, сям'ю будаваць прыехаў, сур'ёзна, без дурніцаў, прываліў у чым стаяў, вось гэта каханне! – і ўсё нагадваў ёй, што, пакуль ён тут з ёю, у яго дома на будаўніцтве майстэрні цэглу раскрадаюць, *"Ты што,* – бралася рукамі ў бокі: вядзьмарка, зэчка-блатнячка, ад народзінаў не памятала сябе такою, – *хочаш, каб я табе няўстойку заплаціла?"* – ат халера, ну хіба магчыма, каб два недурныя чалавекі, якія нібыта кахаюць адзін аднаго, так? якія адужалі столькі перашкодаў, каб быць разам, чаго каштавала яму сама толькі віза, пасля ўсіх аўтакатастрофаў і разбітых рэбраў, чаго каштавала ёй тая зіма ў Кембрыджы, – не ў стане былі э-ле-мен-тар-на паразумецца, – на галаву не налазіць! І – быццам аб непрабіўны мур, вось у такія хвіліны, пэўна, ягоная жонка і шпурляла ў






яго нажамі, пра што раз быў абмовіўся неахвотна, – звышміленька, нічога не скажаш, сямейны спорт украінскае інтэлігенцыі: і што, свярбела спытацца, не патрапіла? Замест намагалася быць разважліваю: слухай, я ж не лялька на матузку, што ж ты так, – вызвяраўся з-пад ілба, сагнуты над сталом, быццам размотваючы дымныя колцы злобы: *"Ува мне проста зашмат рэчаў забіта!"* Дзякую табе, сэрца, – вось цяпер, здаецца, ува мне таксама. Значыцца, яна заразная, тая хвароба духу? Значыць, цяпер і мне – лепей уцякаць ад людзей, лепш не набліжацца ні да кога на адлегласць подыху? Ты навучыў маё цела – кастрыраваць гвалтаўніка: уся мая, з калена ў калена збіраная жаноцкая моц, збольшага скіраваная да святла (найдаражэйшая памяць ад мінулых каханняў – сонца ў чорным небе: такім яно бачыцца з космасу, гэта *адтуль* набіралася пад вянец струменячаю радасцю мая хісткая пасудзінка), з табою – вывернулася чорным падкладам вонкі, зрабілася знішчальнаю – смяротнаю зрабілася, калі сказаць шчыра, не загортваючы ў паперкі. *"Лямант, і енк, і брэх, /І лункі засветны смех. / Апошні смяротны грэх – /Бы збіўся ў лавіны снег /Пад сэрцам! І пад грудзьмі! /Каго ж мне маліць: Задзьмі /Той сіні, сухі пажар, /З грудзей адвалі цяжар?"* Бо я – вінаватая-такі, бо каханне маё засталося ў Кембрыджы, растала па вясне з глыбокімі снягамі, а на лета, на час твайго прыезду, застаўся ўжо толькі рубец – і надзея, што ты яго – уваскрэсіш. Павінна была раней уцяміць: уваскрашаць – не твая прафесія.

Нечаканы званок з дому – ад таварышкі, што год як пайшла ў бізнес і, адзіная сярод усіх кіеўскіх прыяцеляў-сяброў, можа сабе дазволіць тэлефанаваць у Амерыку: ці ты зараз у стане выслухаць сапраўды страшную звестку, пытае яна. Што гэта значыць? У слухаўцы кароткая паўза, потым падае, сціснутым голасам: Дарка загінула. Умомант нямеюць абсыпаныя прышчамі ногі, а за імі і ўсюткае цела дранцвее, як пры анестэзіі: не! (А дзесьці на дне свядомасці гудзе, нязлоўленым вусяком між шыбкамі, паскудная думка: шчаслівіца, адпакутавала! – бо пакутавала яна такі цяжка, прыгажуня і разумніца, вох як ёй пасавалі "па-маладзіцку" навязаныя цярновыя хусткі з вы-

пушчанымі паверх кажушка махрамі – румянец на шырокіх скулках, як яблык-цыганка, востранькі, мышкуючы носік, складзеныя сэрцайкам вусначкі, суцэльная цытата з фальклору, жывая ілюстрацыя да гогалеўскае “Ночы напярэдадні Раства”, і гумар у яе быў – таксама гогалеўскі, класічна-ўкраінскі: калі штукарыць з найпаважнаю мінаю, а слухачы хапаюцца за бакі, – і ўсю маладосць пакутавала – з дурніцаю-маці, што пазвіхала мазгі і мужу, і дзецям, са свалачнымі мужыкамі: першы муж кінуў адразу пасля дыплома, бо атрымаў сталічнае размеркаванне, дзеля якога, высветлілася, і ажаніўся, з другім скончылася перарванай цяжарнасцю, і па-аехала гінекалогія, быццам з гары долу, з трэцім, пакорным, як хлебны мякіш, і ўсё жыццё не-пры-справе, бедавала так, што і магутнаму дзядзьку хапіла б, пакуль ён, дзякуй, глядзеў малую, – рэпетытарствавала ва ўсе бакі, брала пераклады, скакала, як і ўсе мы, па арандаваных хатах, цягнучы на гарбу сям’ю, дапісвала дысертацыю, і вось, бач, знайшла ўрэшце працу ў нейкай новазаснаванай амерыканска-ўкраінскай фундацыі, тры месяцы як стала на ногі, ехалі аўтом з Барыспаля, а насустрач, па той самай паласе – у дупель п’яны “жыгуль”: чацвёра душаў, усіх, хто сядзеў у легкавіку, – на месцы, і бывайце здаровы, і толькі высокі, тонкі голас выводзіць – без слёз! – у парожняй закадравай прасторы: *ой, як би я знала, що буду вмирати, я б собі казала явора врубати, збудувати трумну на чотири боки, щоб вона стояла трийцять штири роки, стояла, стояла, та й почала гнити, та й стала до дівки труна говорити: або іспаліте, або порубайте, або порубайте – або тіло дайте...*). Стоячы пасярод кухні са слухаўкаю ў руцэ, трымаючыся за Санін голас, які каторы раз паўтарае: што цяпер будзе з Таляю, што будзе, – Талі пяты годзік, скуластая, у маці, дзяўчынка, толькі з татавым носам бульбаю, некалі, яшчэ немаўлём, яна ўразіла цябе сваім разгублена-запытальным вадзяністым позіркам, які нібы шукаў, за што зачапіцца, – Дарка перапавівала яе, і ўзнікла, быццам нябачным ветрам нашамацелае: *“Як жа дзіўна – дзеванька. Дзіцё. /Незадавальненне на аблічку: /Вы спачатку спраўдзіце жыццё – /А тады, маўляў, мяне і клічце. /Лялечка, пупышачка ў лісці, /Ты даруй, што свет наліты болем, /*



*Што бацькі укінулі – расці! /Нібы паміраць у чыстым полі”*, – стоячы так, яна выразна чуе той *іншы,* закадравы голас – не Дарчын, не, хоць Дарка – спявала, і менавіта народныя песні хораша ў яе атрымліваліся, была ў ёй, нявед-адкуль, тая прыродная, жаноцка-грудная – калодзежным правалам углыб – этнічная інтанацыя, якую фіг падробіш, і найперапітая кампанія размякала, сцішвалася флякамі ў фатэлях, як толькі Дарка, зацягнуўшыся напаслед цыгаркаю, смешнавата таргануўшы брывом: “нікацінчык-вітамінчык”, – заводзіла, на здзіўленне чыста, твар яе прасвятляўся лагодным смуткам, – асыпаліся долу пялёстачкі цярновага цвету, нечы-конь-той стаяў, чуйна наставіўшы вушы, пахітваўся ля берага човен, ды ўсё плюхплюх-плюх-плюх, шамацела трава пад нечай украдлівай хадою, і зносіла вада вярбовае лісце, і ўсё-ўсё, колькі свету, зносіла вада, жылі на той зямлі нейкія безыменныя людзі, да нечага прагнулі, кахалі і пакутавалі, і толькі адасобленыя мокрыя сляды галашэнняў засталіся пасля іхніх жыццяў – яшчэ можна напіцца з таго слядочка, яшчэ можна адчуць: твая ўласная пакута на імгненне асвятляецца познім, перадзаходнім пробліскам сэнсу, – не адзінокая, не першая і не апошняя, і тут яна ўзгадвае, што насамрэч у той баладзе труна стаяла парожняю не *трыццаць* чатыры, а *дваццаць* чатыры гады: тая жанчына, што высока і пранізліва апявала сваю смерць (*поклала б я мужа – люблю його дуже, лягла би самая – дитина малая; лягай, мила, сама, якось воно буде, малую дитину та й доглянуть люде...*), была яшчэ маладзейшаю за нас, дзяўчынка зусім, – а ты, абураецца Сана, ты што, зусім там ад’ехала, ідыётка, падумаеш, трагедыя – няўдала трахнуліся, – не, калі *так* перакруціць, дык якая ж тут трагедыя, усё залежыць ад таго, як пераказваецца, толькі Сана не ведае, і ніхто не ведае, што распавяла табе Дарка назадоўга перад тваім ад’ездам, – то быў ці не першы раз, калі яна раскрылася табе па-сапраўднаму, хаця знаёмыя вы былі яшчэ з універсітэта, год да таго Дарка пахавала бацьку – той быў музыка-лаўрэат, дэпутат і, у свой час, ледзьве не член ЦК, трохі, праўда, і яго ў свой час паскублі за нацыяналізм, і тады стаў ён граць на ўрадавых канцэртах, а звыклая да камфорту жонка поедам з’ядала яго, калі намагаўся на афіцыёзных банкетах

дэкламаваць тост на ўкраінскай мове – хай і выдурняючыся, блазнавата каламбурачы, "здоровенькі-булыкаючы", прадстаўнік ЦК – бетонная брыла ў шэрым строі – няўхвальна маўчаў: ніводзін мускул не здрыгануўся на непранікнёным, быццам набрынялым вадою твары, ай-яй-яй, што ж цяпер будзе, *"ты ж в Канаду сабрался,* – цёхкала маці, скідаючы паліто ў перадпакоі, пакуль вагітная Дарка, знемагаючы ад таксікозу, малола ў кухні каву для таты, – *ты галавой сваей саабражаеш?"* – і, выйшаўшы ў кухню, запаліўшы (пасля некалькіх абламаных запалак), стары сказаў дачцэ – таксама па-расейску, жорстка: *"Я знаю, я всего лишь общественно-политический шут"*, і гэты выраз застаўся ў ёй назаўжды, наглуха ўвагнаным цвіком – пахавалі яго на Байковых, з усімі ўшанаваннямі, ва ўсіх газетах былі некралогі, і аркестр, згодна апошняй волі нябожчыка, граў "Казака нясуць", – (кінь схіляць галаву, позняе дзіця), Дарка была познім дзіцем, бацьку на той час споўнілася сорак: прыгожы, сталы мужчына ў зеніце славы, і як яшчэ можна было яго ўтрымаць, калі не другім дзіцём? – я толькі цяпер зразумела маці – як жанчына, казала табе Дарка, балесна свецячы вачыма, я зразумела: я – той апошні, хто прыходзіць пасля банкету і за ўсё расплочваецца, – у той вечар яна не спявала, вы схаваліся ўдвох у канец стала, і ты слухала, наскрозь высцюджаная павевам яе жорсткае адвагі насупраціў жыццю, да костак праймальным працягам у адначассе ўсталяванага пасястрынства: сплочваем, дзеванькі, але ж, за ўсё сплочваем, да астатняга шэлега! – потым лавілі машыну, набіваліся селядцамі ў салон, тарабанячы металічна-жорсткім букетным цэлафанам: быў нечы дзень народзінаў, хіба ці не Санін-такі, – нехта масціўся між сядзеннямі, нехта, у груваcткай футры, прыладжваўся камусьці на калені, паехалі! – як казаў першы савецкі касманаўт, – і – паехалі, паляцелі сястрычкі-галубачкі: ты – за акіян, а Дарка – яшчэ далей, малочна-белым ценем стартаваўшы з гары перамятага ламачча на нейкую з найдалейшых зорак, – позняе дзіця, народжанае маці, каб утрымаць мужа, а не стала каго ўтрымліваць – і вычарпалася жыццё, рассунула далонь Божая дзянніца, выпускаючы на волю збалелую душу: спакою табе, пакутніца, адпачні.



Дарця. Дарця, ты чуеш мяне?

Не было на табе віны, што пакліканая ў гэты свет – не каханнем. Памаліся там, дзе ты зараз ёсць, за нас усіх – нам яшчэ жыць.

Прачынаючыся зранку (ну, і навошта было прачынацца?), яна доўга ляжыць на жываце, абхапіўшы рукамі падушку: новы дзень сыплецца на думкі градам знясільваюча-бязглуздых абавязкаў – замовіць ксераксы для студэнтаў, адштампаваць ім на факультэцкім прынтэры новую кантрольную, зайсці ў банк, у *drugstore*[2] – скончыліся вітаміны, і калготак трэба было б прыкупіць, адказаць на два лісты, патэлефанаваць у *travel agency*[3], вой, блін! – дзесьці згубіўся замоўлены ёю квіток да Нью-Йорка, які меліся даслаць поштаю, хаця, калі падумаць, на фіг ёй здаўся ўвесь той Нью-Йорк – ну выцягнецца на сцэну, ну прачытае па-англійску парачку сваіх, з такім рыпеннем перакладзеных вершаў, ну віп'е потым наўсторч келіх віна і заесць вымачанымі ў памідоравым соусе крэветкамі, пасказіцца двум-тром адпрасаваным літаратурным агентам і дзядзькам з ПЭН-клуба, мажліва, заскочыць на гадзінку-другую ў некалі любімыя музеі (*"На фіга мне тыя музеі,* – весела гарлаў у тэлефон, калі тэлефанаваў ёй у Кембрыдж, з Украіны яшчэ, – *мне ў той Амерыцы толькі адну барышню пабачыць трэба!"* – тады гэта здавалася бравадаю: ну, як так можна свядома ад нечага адмаўляцца, абсякаць сабе жыццё на пні, яно ж такое неабсяжна-цікавае! – а цяпер, бач, і ў яе знік хоць які смак пазнаваць, колішняя неспатольна-паглынальная прага адкрываць новае – *маці яго за лапу*, дык няўжо я памерла?.. Першая размова паміж імі на гэтую тэму атрымалася нейкая бязглуздая: *"Еду ў Амерыку – паехалі разам?"* – *"Ага,* – смяяўся, – *машынаю – калі толькі саляркі хопіць"*. – *"Я сур'ёзна кажу"*. – *"Што я там рабіць буду?"* Дык жа маляваць будзеш, ёлуп, – і пабачыш *Metropolitan*, і *Modern Art Museum*, і *Art Institute* у Чыкага, люстраныя актаэдры касмічна-гіганцкіх сталагмітаў, што груваcяцца на абрыве, калі пад'язджаеш да горада, выгінастыя выдыхі мастоў і віядукаў над аўтастрадамі, прастора з фантастычнага фільма ці сну, жахліва-бязмежны,

няма ж яму спыну, разгон, прэрыю без каўбояў, лёгкі прысмак вар'яцтва, што праблісквае ў начным палымненні рэкламы: розум, што лякаецца ўласнага стварэння, гэта ж бо суцэльна рукатворная цывілізацыя, і таму адгэтуль – самнамбалічна-шчымлівая, месяцовым ззяннем разлітая ў пустэльні саксафонная туга, віхляючы (п'яным мурынам пасярод тратуара) і кожным млосным вывертам выцягваючы душу голас спявачкі ў джаз-клубе: *"I'm all alone in this big city – Wilson, buddy, have some pity"*[4], калыхаюцца дымы ў прыцемку над барам, над більярднымі сталамі, дзе пагрукваюць кіі, усе мы тут самотныя, вольныя і самотныя, гэта цудоўна – ствараць сабе жыццё самаруч, гэта страшна – ствараць сабе жыццё самаруч, пабачыш жыўцом абліччы ўсіх расаў, сабраныя да купы, колеры і адценні – ад топленага шакаладу (якія бессаромна ліловыя падкладачнай галізной муслявых губ, якія па-звярынаму ашчэраныя заканурκі ноздраў!) да азійскае хімерычнае – жоўты месяц, цытрына, няспелае авакада – празелені, усё тое змешваецца ў адным тыглі, які шалёны, няма ж яму спыну, фільм, што агаломшвае вока, па-кірмашоваму стракатыя кіёскі на вуліцах, хрызалітавы водбліск вітрынаў у росквіце дня, і над усім, на прыдарожных шчытах – карамельна-яскрава (расцягнутыя ва ўсмешцы) некалькіметровыя тварыкі загінулых дзетак: ахвяры *drunk driving*[5], узнесеныя ў неба маленькія анёлы той зямной юдолі, о Дэйві, о Кевін, о Мэры Джэйн, што будзе заўтра з намі ўсімі? – пабачыш з ілюмінатара захад сонца над Атлантыкай: яно падае імклівa, на вачах, адкідаючы ўздоўж далягляду яркачырвоную сцежку, і хмарныя снягі змяркаюцца да колеру вапняка, горнай пароды ў цёмных атожылках раўкоў, а потым пачынаюць уваскрасаць, сырымі таросамі ў сцюдзёных сталёва-сініх праталінах, толькі там, дзе ўпала сонца, яшчэ бачыцца дакладна акрэслены астравок палу, і ўжо наплывае адусюль марская імгла, і лятак уваходзіць у ноч, за якую гадзіну працінаючы яе з канца ў канец, і вось ужо ізноў шарэе ў ілюмінатарах, на гэты раз світаючы, – ты пачуеш, як дыхае планета – быццам цемечка немаўляці, як блізка там, у небе, да Бога, бо, здымаючыся з месца, вырынаючы з наседжанай палонкі, мы адкрываемся яму гэтак сама, як у імгненне народзінаў або смерці,



– і ты вырвешся, о, веру, ведаю! – вырвешся з глухога тунэля, якім, па-дурному зацяўшыся, сунешся насустрач сваёй лякарні-вязніцы-лабатаміі [якога хрэна, што вы ўсе сабе дазваляеце, хлопцы, няўжо роспач – не завялікая раскоша для ўкраінцаў, упершыню ў гэтым стагоддзі ўсё ж такі надзеленых рэальным шанцам на паўнату жыцця?..], ты напішаш свае найфайнейшыя карціны, і слава – *сапраўдная* слава, такая, якой ніводзін украінец яшчэ не меў, хіба Архіпенка, – выведзе цябе – першага з-паміж нас – пад зыркі пражэктар гісторыі, бо ты варты большага, чым іхні Шэмякін ці хаця б і Неізвестны, ты ж сапраўды *such a damned good painter,* гэта *табе* мусіць заслужана належаць уласная галерэя на Сахо, недзе яна мусіць чакаць цябе, пакуль ты слепішся па начах у сваёй жабрацкай майстэраньцы без водаправода, дзе тынк сыплецца са столі на свежыя скульптуры, да чаго ж усмакталася ўжо тая класічная нацыянальная безвыходнасць – сілаў няма трываці! – сунемся тудысюды, мулімся ў пошуках *right people*[6], якія б цябе пабачылі, зараз самы зручны час, усё ж такі яна, якая ні ёсць, але Юкрэйн, і арт-менеджэры пачынаюць мышкаваць на новыя імёны, усё будзе клас, усё-ўсё атрымаецца зрабіць, Пане, як я хачу, каб мы штосьці *пабачылі,* каб нас нарэшце *пачулі,* і колькі сілаў я ўбабахала ў гэтую справу – быццам ва унітаз спусціла, падумаць страшна! цягнула на Захад з дому найадабранейшыя кніжкі і слайды, тыцкала людзям пад нос, ствараючы вакол сябе дымавую заслону нейкага прывіднага кантэксту, з якіх толькі трыбунаў ні ўзмахвала рукамі – прыгаломшаны дырэктар Кенан Інстыт'ют запэўніваў мяне пасля таго ва ўдзячным лісце, што *"if the fate of Ukrainian literature is in the hands of people like yourself, one need not fear for its future"*[7] – не падазраючы, вядома, што ў маіх *hands* хіба толькі парэнча ў аўтобусе, дый то калі не адсунуць, – нічога, братка, не журыся, прарвемся, я выцягну, вывалаку цябе на сабе, маёй патугі хопіць на ўсё: паў-Украіны з месца сарваць, паў-Амерыкі завадзіці за сабою на Украіну [і сапраўды ж была праходзіла па іхнім кантыненце, быццам гамельнскі шчуралоў з дудачкаю: студэнты ледзь не цэлым класам падавалі заявы ў Корпус Міру – *for Ukraine,* калегі з амерыканскіх універсітэтаў пачыналі штудзіраваць

украінскую мову, запускаліся ў рух махавікі дзёрзкіх праектаў – супольныя выданні, сімпозіумы, перакладныя анталогіі, *ёлкі-палкі,* колькім людзям галаву задурыла!], – на ўсе яе “гаварыла-балакала” [давала-плакала...] ён толькі стрымана ўсміхаўся: ну-ну, “Подывымось”, тое ягонае “Подывымось” з часам пачало ёй гучаць як пароль безнадзеі, спачатку яна спісвала такое малаверства на рахунак правінцыйнае закамплексаванасці: куды, маўляў, нам, са свінячым рылам, – *“Не, ты ўсё ж такі мне патлумач, як так можна было – знікнуць, каб ні гуку, ні знаку?”* – натапырваўся, ставячы вочы рогам: *“Кажу ж табе, я не верыў, што калі-небудзь сюды прыеду!”* – ну вось і прыехаў, і што табе з таго дадалося, калі наперад ведаў, што ўсё тут табе – “на фіга?” Прывёз з сабою тоўсты альбом з эскізамі, з яго і пісаў: усё тыя самыя пляшывыя і вастрарысыя мужчынкі неслі на гарбах скрозь жоўта-гарачую пустэльню на рагацінах то дык месяцова-зялёных вірлавокіх рыб, то волатаўскі ўказальны палец левае рукі [чаму – левай?], то развеяную ветрам вышываную харугву, завісалі паміж падпаленым небам і пасутанелаю зямлёю, перабіралі дзіцяча-вузкімі босымі ступакамі па зубчастых колцах тачыльнага станка: вось так, хітравата мружыў да яе вока, Бог вучыць паэтаў хадзіць – хмыкала, не згаджаючыся, ці дакладней, напаўзгаджаючыся: хтовед, мо і сапраўды – так?). Чым, *з чаго* працягвае пісаць, калі свет наўкола яму нецікавы? Няшчасны ты чалавек, Мікола: любіў машыну – разбіў, любіў жанчыну – зламаў, – у ноч апошняга разрыву ёй прыснілася (і той сон яна – запомніла-такі, вынесла з цемры наверх), як ён павольна выходзіць ад яе, павернуты спінаю – такая ж родная стрыжаная патыліца, схіленая галава, шорты і жорстка накрухмаленая белая кашуля з наўсторчанымі кароткімі рукавамі: пацан пацаном! – па вузенькай кладачцы, нахіленай некуды *ў дол,* куды – не разгледзела, і спакойна (упершыню за ўвесь час з ім – спакойна!), разважна-зразумела сцвердзілася скрозь сон: не ўратуецца, не, не ўратуецца.

А хранова ты, падруга, выглядаеш – вох, хранова: на поўны саракоўнік, дарма што схадзіла пастрыглася (на гераічны надрыў намагалася, бо стан такі, асабліва вечарамі, што раз была амаль заснула апранутаю, і толькі дзіўна прытомны, скрозь клейкую імглу пацяжэлага мозгу, укольчык страху: ды што ж гэта я, да ручкі ўжо дакацілася?! – змусіў-такі спусціць ногі долу, намацаць халат, пераапрануцца і пасунуцца да ванны: і касметыку змый, так, ваткаю, ласьёнчыкам змочанаю, пратры пад вачыма, і зубкі пачысці, спачатку “Лістэрынчыкам” прапаласкаўшы, дужа добра, малайчына, а зараз пад душ! – а цяпер усё, ручніком расцерлася, а затым начны *“Oil of Iulay”*, яно вунь чарнее на палічцы, спярша на шыю, тады на твар, цяп-цяп, кончыкамі пальцаў, памасажыруй трошкі, ну вось, гатова, і слоічак закрыць не забудзь – а цяпер ужо і кладзіся ў ложак, як Бог загадаў), – і ўсё тое, як мёртваму прыпарка: неспадзявана выдыбаючы сабе насустрач з выпадковых, на поўны рост, люстраў, вулічных і крамных, яна ў першае імгненне не пазнае тае бабішчы ў знаёмых элегантных строях, і справа нават не ў страхотлівай скуры, адразу на некалькі гадоў змарнелай (трэба б меней паліць...) і паплямленай слядамі ад прышчоў, і не ў азызлым, нейкім задумліва-брыдлівым, быццам спушчаны мячык, абрысе ніжняй паловы твару (таго і чакай: як раскрые пашчу, адразу скуголіць пачне!), а вось – нешта няўлоўна змянілася ва ўсёй постаці, у рухах, у хадзе: знікла тая нястрымная разгоністасць летака перад узлётам, што заўжды ў ёй была, і – зняўшы дымчата-напыленыя акуляры, дужа здзіўлялася: так, згаснуў позірк – не сляпілі болей вочы з твару пражэктарамі, а хаваліся ў яго з такою заплаканаю пакутаю, што самой хочацца перавесці пагляд на што-небудзь іншае. Кажуць, згодна статыстыцы сярэдні чалавек глядзіцца ў люстэрка сорак тры разы штодзённа, – сорак тры разы штодзённа ты, са сціскannем утробнага страху, усё яшчэ не даючы веры, вытрэшчваешся на тую мегеру: дык гэта я? Ад сёння і назаўсёды? (І зараз жа збіраецца на плач, ужо ад безнадзейнасці: пачуццё, забытае з падлеткавага ўзросту). М-да, ні фіга сабе. Не, каб слушнае асвятленне, зверху і трошкі пад кутом, дык яшчэ б туды-сюды, яшчэ нешта з тае былой атрымліваецца пазнаць... Вой, я цябе прашу! – каго ты дурыш? Яшчэ ўзімку, пад час таго пералёту, у Франкфурце, дзе сядзела згорбіўшыся пад сцяною і шпарка

шрубавала ў нататнік, нябачаным болем напаўняючыся, – прахожыя хлапечыя чароды цікаўна ўтаропліваліся ў яе, прыгамоўваючы на хаду: *"Hi, girl!"*, яшчэ паўгады таму, у Кембрыджы, да яе заляцаўся звышмужычышча, прыгажун і атлет, шэсць футаў два дзюймы, і ў плячах столькі ж, ласкавы, як зайка, са скураю, быццам смуглявы шоўк, і чыстым пахам здаровага маладога мужчыны, ах, які з яго мусіў быць палюбоўнік – грызі цяпер сабе костачкі, грызі! – і на яе *"I'm ten years older than you are"* адказваў, пасля паўзы, трошкі зніякавела: *"You're lying"*[8] – яна і для яго была, шчыра і не прыкідаючыся, проста *girl,* якая яму падабалася, – а яе, замест прываблівання, ужо прытоена раздражняў той непераможны націск дурнога здароўя, вясёлая і самаўпэўненая *нябітасць,* бо яна была "паэтка востратрагічнага светаадчування", як некалі пісаў пра яе адзін прыбацаны крытык, ая, яна атрымала гэта ў спадчыну, як вось групу крыві, і ў той краіне, з яе кодэксам прымусовага шчасця, які, зразумела, покатам тыражуе неўротыкаў і псіхапатаў, насіла сваё істэрычнае пакутаванне з выклікам, няйнакш пародзісты сабака медаль з выставы, – ледзь-ледзь ганарліва ўсміхаючыся, казала ў даверліва раскрытыя раты (словы падалі ў падстаўлены келіх з вінoм і разгойдвалі бляскам паверхню): у вашай культуры гора – выключна асабістага характару, самотнасць, любоўныя драмы, тыя клінічныя інцэсты, якія саракагадовыя цёткі нібыта пачынаюць адрыдлёўваць на псіхатэрапеўтычных сеансах з дзіцячае памяці і ў якія я, напраўду, не вельмі веру – пачасціўшы годзік-другі да псіхіятра, яшчэ і не такое ўзгадаеш, – але вам невядомая падуладнасць неадольнаму, метафізічнаму злу, дзе ад вас ні халеры не залежыць, – калі гадуешся ў кватэры, якая пастаянна праслухоўваецца, і ты пра гэта ведаеш, дык таму і вучышся гаварыць – адразу на нябачную публіку: дзе ўголас, дзе на мігах, а дзе і змаўчаць, ці калі першае тваё дзявочае захапленне выяўляецца прыстаўленым да цябе стукачом, які за год даволі халтурна адбытае службы – пераважна балбатання ў кавярнях і валацужання па кінах – возьме дый закахаецца ў цябе насамрэч, без дурніцаў, і адкрыецца – прызнаючыся ў сваёй кагэбэшніцкай місіі (раты разяўляліся яшчэ шырэй, круглей: вось гэта жыццё, зайздросна думалася ім, вось гэта *real life!*), і яшчэ, яшчэ – аднак пра гэта яна ўжо лічыць за лепшае прамаўчаць, – калі ў трыццаць гадоў упершыню шугаеш у ложак з чужаземцам, навальнае рамантычнае захапленне (з надзіва прыемным пахам дарагога дэзіку!), да якога ён, тым часам, паставіўся паважна і стаў мармытаць пра жаніцьбу, – і фарціла ж табе, дзеўка, у жыцці на сур'ёзных чувакоў, каго ні вазьмі – усім адразу карцела ажаніцца, хвароба такая, ці што? тлумная пошасць, або, можа, мода на паэтэс? – і той духмяны (і пяшчотны, а як жа!) мужчына спрабаваў справіць табе гардэроб, бо твой уласны складаўся са старых джынсаў і некалькіх, нават не багемных – жабрацкіх ужо, кафцінаў, – ён набыў табе дзве *сапраўдныя* сукні з тонкае воўны, і срэбнаблістую шаўковую блузку з падкладнымі плячыма, і шыкоўны, колеру чырвонага віна строй, у якім ты ў момант успыхнула цалкам ужо заморскаю пародаю (басейны, шэзлонгі, яхты, белыя гоначныя аўтамабілі...), і некалькі параў чаравічак (прывітанне ад гогалеўскага Вакулы – італьянскія, мяккусенькае скуры стодаляравыя "лодачкі" ты даношваеш і дагэтуль), і яшчэ кучу ўсялякіх прыбамбашак, кайстрачку, і матыльковы рой стракатых шалікаў, і касметыку, і звонкія цыганскія бразготкі, гадзіннікавая бранзалетка наноў выкрасліла артыстычную вузкасць запясця, а даўгушчыя дармавыя завушніцы – высокую безабаронную шыю, усё было дарагое, падабранае любоўна і з густам – і, упершыню ў жыцці затавараная па самае далей няма куды, упершыню па-часопіснаму прыбраная, аж самой ад сябе заняло дух перад люстэркам (і так сорак тры разы!), – апанавалася нясцерпным, з'ядаючым *сорамам,* ты адчула сябе тыповаю саўковаю прастытуткаю, што трахаецца ў гатэлі за пару майткаў, і хаця *не прыняць* усё тое дабро ў цябе не хапіла духу, але раман на тым і абарваўся – ты проста перастала адказваць на яго амстэрдамскія званкі (а ён тым часам спехам афармляў развод і такі, здаецца, амаль што аформіў), бо, зрэшты, што б мусіла рабіць у Амстэрдаме? – і вярнулася да мужа, вазіць яму джынсы і запальнічкі з закардонных камандзіровак, і была не тое каб задаволеная, але – *чыстая*: якія там ні ёсць, але *людскія* стасункі, не заражоныя загадзя прыніжальнаю няроўнасцю краінаў і абставінаў, суп-

раць якой – не пасунешся-такі (і таму цябе зусім не даставала, што ў Амерыцы тваё вялікае каханне жыло на тваім утрыманні: падумаеш, збег абставінаў, заробіш – аддасі, – але зрэшты дастала, і зусім не жартам – вось калі зламілася, забегала па хаце, абрынуўшыся на некалькі гадзінаў у яму чорнай, вогненна-пякельнае нянавісці, гатовая, як колішняя ягоная жонка, і сама, каб трапіўся пад руку, увагнаць у яго ўсе наяўныя нажы і іншыя колюча-рэжучыя прадметы, каб паваліўся, выблядак, сцякаючы крывёю, каб зайшоўся крывёю, каб сканчаў ёю! – у-уу, жах, дзякую дужа за такое паражыццё, жадала б ніколі сябе такою не ведаць! – толькі тады, калі з хамскаю непарушнасцю – мужчына ж бо! крэмень! – заявіў, ужо па тэлефоне, што нічога ёй не вінен – што гэта якраз наадварот, яна яшчэ з ім не разлічылася, – не інакш як няўстойку сабе налічыў – за цэглу, Божа, за цэглу! – хаця гучала як пагроза, засмяялася хрыпла, такі не даючы веры: *"Слухай, мне што – рэкет на цябе навесці?"* – але ён ужо паклаў трубку – маладзец баец, душка-пупсік! – ашалелую ад злобы, быццам прытрымала за плячо промільгам думкі: а як жа яно мусіць быць хх...ранова, так жыць – паўсюдна выклікаючы ў людзей, і не ў адных толькі жанчын, вось такія на сябе рэакцыі! – як жа ж яно дрэнна, нешчасліва – і не каецца...). Ці ведаеце вы ўкраінскую ноч, лэдзі і джэнтльмены? Ні чорта вы не ведаеце, дый на халеру яно вам, у вас свае, не менш моташныя ночы, вы скарачаеце сабе жыццё ў хісткіх буданчыках у сабербіі, аплеценых плюшчам, бо няма з кім есці індыка на *Thanksgiving*[9], толькі я ўжо замахалася ад уласнай усёабдымнай спачувальнасці, замахалася бачыць, куды ні кінуся, – толькі гора, гора і гора, – ці то я так наладкавая, ці то *маё* "востратрагічнае светаадчуванне", як антэна мурашынага вусіка, паўсюль вылоўлівае пах гора, і наракаючы ўвесь час на яго, замест таго, каб весела трахацца з маладым здаровым бычанём (які, збіты мною са шляху, пачаў, о дзіва, чытаць – ужо адолеў "Хаціну дзядзькі Тома", нешта з Джэйн Остын і спыніўся на "Прыгодах Тома Сойера", а пасля неяк, аднойчы ўвечары, п'ючы гарбату ў мяне на кухні, – прыехаў пасля трэніроўкі, расчырванелы, сцягваў куртку праз галаву, шпурляў яе на ложак, смешна, па-шчанячаму, нюхаў сабе











перадплечча: толькі што з басейна, яшчэ пахну хлоркаю, – жыццём ад яго патыхала, блін, жыццём! – захоплена распавядаючы, што ўжо навучыўся *ўяўляць* апісаны ў кніжцы краявід або пакой, знянацку перапыніў сябе і спытаўся прастадушна: толькі дзе ж я цяпер знайду такую дзяўчыну, каб пра ўсё гэта з ёю размаўляць? – ах, разумнік, прасёк, на першых-такі кроках: шлях, які яна яму адкрывала, абяцае – самоту, – малатнула, як поўхаю: стоп, ідыётка, *гамуй,* – спыніся, нарэшце, укручваць нармальным мужыкам замарокі і піхаць іх на блудныя агеньчыкі нейкага патаемнага сэнсу, у якім і сама ж ні халеры не цяміш, а пасля кідаць на паўдарозе на некалькігадовае залізванне ранаў, – і ўжо ведала, што спаць з ім не будзе, што толькі такога ачмурэлага, як сама, ды не, яшчэ ачмурэлейшага – у лякарным гіпсе, у драконаўскіх пазыках і хвастах міліцыянтаўскіх позваў, браце мой чарнакніжнік, мы аднае крыві, ты і я, – здолее не выламаць з уласнай, Богам прызначанай каляіны, – ай, як шляхетна з твайго боку, золатцэ, ну памілуйся, памілуйся на сябе – кругом файна атрымліваешся, так?). У псіхіятрыі тое, здаецца, называецца віктымнымі паводзінамі, але нічога не магу зрабіць, мяне так вучылі; увогуле ўсё, што ўкраінцы здатныя пра сябе распавесці, – гэта як, і колькі, і якім чынам іх *білі*: інфармацыя, што і казаць, малацікавая для чужаніцаў, аднак, калі болей нічога ні ў сямейнай, ні ў нацыянальнай гісторыі не нашкрэбці, дык мала-памалу прызвычайваешся фанабэрыцца таксама і гэтым – ах, паглядзіце, як нас білі, а мы яшчэ не памерлі, – кембрыджскія прыяцелі клаліся са смеху, калі ты пераклала ім пачатак нацыянальнага гімна, *Ukraine has not died yet, – "What kind of anthem is that?"* [10] – а і сапраўды, ні фіга сабе запеў – якраз з такім "турка ваяваці" (лаянка, няйнакш)! – і таму, таму, даражэнькая, калі так, дык – радуйся і весяліся, што не памерла, бядотная сексуальная ахвяра нацыянальнай ідэі, хаця, калі добра ўзважыць, дык што тут такога ўжо вясёлага, і на якую трасцу яно здалося, жыццё без кахання, і ці не лепш было, лепш было памерці, а яшчэ файней, а яшчэ файней дык і не нараджацца, чым цяпер, чым цяпер так катавацца (некалі мела адну, таксама не абы-як патрыятычна перапалоханую, таварышку, каторая ўсё наракала –

маўляў, мы закаханыя не ў мужчыну, а ў нацыянальную ідэю, – і скончыла тым, што прайшлася некалькігадовым дэмаршам па ложках заморскіх дзядуляў, пакуль у нейкім не асела-такі, падчапіўшы бэбі, – якое, не выключана, як вырасце, магчыма, нават вывучыць украінскую мову, калі, вядома, захоча, а тым часам ягоная маці падзарабляе таннымі рэпартажамі на ўкраінскай "Свабодзе", якую Клінтан усё ніяк не збярэцца закрыць, – наварочвае некалі роднаю моваю з тымі, быццам спружыны з матраца, выпінаючымі чужынскімі інтанацыямі, якія павінны засведчыць, што яна ўжо – бяры вышэй! – не з нашае вёскі: ***вырвалася!***): я да таго вяду, лэдзі і джэнтльмены, што не Бог вед які тое кайф – належаць да бітага народа, як прыгаворвала фальклорная лісічка, біты нябітага вязе, – і так яму, бітаму, і трэба, бяда ў тым, што пры гэтым ён мае дурноту спяваць, ну скажам, думу пра бесталанных зняволеных, і тым – пераконвае чужаніцу ў справядлівасці таго жыцця, якое яго спарадзіла, і таму ягонае мастацтва – вя-ялікі падман. Лацінскае *ars,* што прасмакталася ў большасць еўрапейскіх моваў, нардычнае *Kunst,* што адрыкашэціла ў заходніх славянаў "штукаю", – вось дзе сапраўды здаровы падыход, ажно чуваць бюргерскую пасляпалудную кіслакапустную адрыжку: штука, забаўка, нявіннае трукацтва, акрабатычнае сальта на канаце, меладыйны падызвон барокавых гадзіннікаў і мудрагеліста разьбаваная табакерка, наша "мыстэцьтво"-мастацтва той жа прыроды, толькі так – абыякава-паблажлівым пазяханнем: ну-ну, чым там *мастакі* нас сягоння пацешаць? – і абяскшоджваецца, расчапляецца прыхаваная пастка, і, здаецца, толькі царкоўнаславяншчына марна выпроствае засцерагальны сухі перст: "ізкусство" – ад "ізкусаў", спакуса, тая самая, у якую малітва просіць не ўвесці.

Толькі вось адно, кажа яна сабе, у чатырыста-сорак-трэці (гэта што ж, ужо да скону?) разглядаючы ў люстэрку – мутным, у плеснева-зеленкаватых прачэпінах (што ты хочаш, танная кватэра ва ўбогім квартале!) – свой груба адрэтушаваны блізкаю старасцю (трыццаць чатыры гады, *ё-маё!*) твар. Толькі адно. Нас не вучылі, уся наша літаратура з яе культам трагічнага кахання – Іванка і Марычка, Лукаш і Маўка, мае студэнты былі ў захапленні і заявілі, што "Лясная песня" лепшая за



Шэкспіраву *"Midsummer Night Dream"*, эге ж, – неяк забылася нас папярэдзіць, што ў рэчаіснасці трагедыі выглядаюць *непрыгожа.* Што смерць, у якой заўгодна форме, гэта найперш справа брудная. А там, дзе няма прыгажосці, – якая ж там ісціна?

Крыўдна, блін. Крыўдна. Пайсці на ганак перапаліць усю гэтую справу?..

Адкрыццё: вось так успрымаюць свет фрыгідныя жанчыны! Быў час – у апошніх днях супольнага пражывання і адразу пасля разрыву, – калі, убачыўшы па тэлевізары эратычную сцэну, яна пачынала плакаць. Цяпер глядзіць спакойна, як заолаг на спарванне яшчарак (а цікава, як спарваюцца яшчаркі?): двое напаўаголеных людзей у ложку, мужчына кладзе жанчыне руку на сцягно, пасоўвае вышэй, яна паварочваецца да яго, рассоўваючы сагнутыя ў каленях ногі, абхоплівае яго за шыю, абодва, стогнучы і валтузячыся, зліваюцца ў пацалунку... Дзякуй Богу, змена кадра.

Ляпнула была, што аперазала, даверліва падзялілася цікавым, так бы мовіць, назіраннем: *"Ведаеш, што мне здаецца? Толькі зразумей мяне слушна, не абражайся: што ты адкрыты да зла"*. То быў трэці ці чацвёрты дзень па яго прыездзе – у пенсільванскую глухмень, дзе пане-дабрадзею Марк, гатовы запрасіць, за кошт кіруемага ім факультэта, усіх паэтаў і мастакоў свету разам, абы толькі дапамаглі яму на гадзінку высунуць нос з хмары хатняга пекла (кожны раз, тэлефануючы ў Кембрыдж, даводзіў да ведама – галаском, да якога пасавала б па-птушынаму нахіленая набок галоўка, ку-ку: "А я сёння пазнаёміўся з гарненькаю расіяначкаю", "А тут адна мурыначка мною цікавіцца", – хто б ім, небаракам, цікавіўся, нехлямяжным саракагадовым шкаляром-выдатнікам, па-качынаму раскірачаным у хадзе, з чэраўцам машыстовага мядзведзіка, вытыркнутымі з ноздраў валаскамі і рэдзенькім пушком на лысаватым цемечку, – і зноў збіваўся на хатняе, з дзіцячых пакрыўджаных інтанацый: сёння перамыў увесь посуд, з-за чаго на працу спазніўся, а *яна* толькі і сказала, маўляў, ты дрэнна

вычысціў патэльню, – пырскаючы вісклІва-істэрычна: калі, вычарпаўшы ўсе магчымыя разрады, бухнуўшыся ілбом у глухі мур чужой безвыходнасці, пыталася ў яго прама – Марк, ну калі ўсё так безнадзейна, дык чаго ж вы не разыходзіцеся? – *"Because the fucking bitch couldn't survive!"* [11] – ага, утрымліваць дом, плаціць *mortgage, insurance*[12] і ўсе іншыя рахункі, добра, што мы на Украіне пазбаўленыя тых праблемаў, нам прасцей – спакаваў валізку, грукнуў дзвярыма, і гуд бай, май лаў: жабрацтва – гэта свабода), – Марк паспрыяў яму з майстэрняй на час летніх вакацый: куток у вялізнай, падобнай на сюррэалістычна застаўленую мальбертамі спортзалу стайні з матавым, як у клазеце, акном на ўсю сцяну, – скажы, чувак, дзякуй і на тым, *beggance can't be choosers*[13], – яна ж прыехала ў тое абязлюднелае універсітэцкае мястэчка толькі дзеля яго, дзеля яго пакінула Кембрыдж – і, як толькі пакінула, – быццам абваліўся пратаранены мур, усё пасыпалася з усталяваных месцаў: ужо ў бостанскім аэрапорце *Logan,* толькі вылезла з таксоўкі, – парваўся басаножак – цягнучы нагу, падышла з квітком да стойкі, і высветлілася: усе рэйсы *"United"* затрыманыя, у Вашынгтоне, дзе павінна была перасесці на калечнага пенсільванскага "кукурузніка", лютавала навальніца, – замітусілася ад аднаго службоўца да другога, усе знай выстрэльвалі лыпаннем пустых усмешак, што рабіць, яна абавязкова мусіла паспець сёння ўвечары да Марка, заўтра зранку яны планавалі выправіцца аўтом да Нью-Йорка, у Кенэдзі, сустракаць геніяльнага ўкраінскага мастака, што не ведае ж (ідыёт!) ні слова па-англійску, так класна быў падагнаны сцэнар, і вось на табе! – мяняла квіток на іншы рэйс, сорак хвілінаў прэла ў салоне пад бурболенне музыкі ў навушніках (якую штопяць хвілінаў перапынялі бадзёрыя абяцанкі ўзляцець, як толькі атрымаюць дазвол), у Вашынгтонскім *Dulles* было так, быццам за хвілю перад тым абвясцілі ваеннае становішча: людзі грукаталі калідорам, матляючы перакінутымі праз плячо сумкамі, вішчэлі вазочкі, скрыгаталі колцы, усё калідорнае скляпенне запаўняў роў нябачнага немаўляці, і яна і сама гналася за іншымі, з паверха на паверх, пятляючы, як ува сне ці ў хорар-фільме, ад гейта да гейта, і, дабегшы, сапучы, як сабака-хорт, да заканурка са сваім "кукурузнікам", разбілася з лёту аб штосьці-тая-скаланепарушнага, прафесійна стрыманага клерка за стойкаю: *"Your plane has just left, ma'am"* [14] – а наступны ж калі? – а наступны заўтра апоўдні – бліснуў зубамі: *"Have a good night!"* [15] – мацюкнулася, кінулася тэлефанаваць Марку, усе тэлефонныя "буты" былі перапоўненыя, аўтамат з'еў манету, каля стоек *"United"* беснаваўся, *качаючы правы* (вось дзе розніца паміж намі і амерыканцамі!), развярэджаны натоўп, мужчына з чамусьці мокраю чупрынаю, відавочна на мяжы эпілептычнага прыступу, трос за грудкі такога ж мокра-бліскучага тварам мурына ў *"United"* скай форме: *"You're a jerk? You hear me, man? You go and bring me your boss right now, you hear? Right now!"* [16] – той, з бела вытарашчанымі вачыма, вырываўся, цвыркаючы слінаю: *"You just don't call me names!"* [17] – і, фокусніцкім, ці то афіцыянтаўскім, элегантным жэстам выхапіўшы з кішэні рацыю, клікаў, замест запатрабаванага боса, паліцыю, ну, так і ў Саўдэпіі б адбылося, – Розі заскуголіла ў трубку, што Марк ужо выехаў – у аэрапорт, ёй насустрач, — за шклянымі дзвярыма, у жаўтавата падсвечанай цемры, ізноў закасіў дождж, пашкандыбала да багажных канвеераў – забраць валізкі, зразумела ўжо, што начаваць давядзецца ў Вашынгтоне, маленькі насільшчык з пабітым ямкамі, быццам з іншага твару перанесеным носам, толькі глянуўшы на яе квітанцыю, радасна апавясціў, што яны паспелі перакінуць багаж з бостанскага рэйса на д'ябальскі "кукурузнік" – дужа спяшаліся, мэм, усяго дзесяць хвілінаў мелі, але – паспелі, Богу дзякаваць, *don't worry, ma'am*[18], – стаяў, распрамянены сваім здзяйсненнем, і чакаў пахвалы, ажно шкада было яго разачароўваць: значыцца, багаж выправілі, а мяне не? І стаю я ў аэрапорце *Dulles*, у горадзе Вашынгтоне, на Паўночнаамерыканскім кантыненце, на планеце Зямля, праз правае плячо дамская сумачка, у левай руцэ тэчка з камп'ютэрам, ані зубной шчоткі, ані пары бялізны, ляціць у гэты самы час дзесьці над Атлантыкаю мужчына, дзеля якога я ўсё гэта распачала, і вось тут і ёсць – адзіная мая адрэса: трохі пачаўшы цяміць, выпаліўшы запар дзве цыгаркі, пераштампавала квіток – на Кенэдзі: хай ужо, калі такая справа, Марк заўтра сустракае там нас абодвух – паасобку, неяк ужо

сустрэнемся; патэлефанавала вашынгтонскім знаёмым, што здаўна клікалі яе ў госці, хаця, мабыць-такі, не апоўначы, – драстуйце вам, я тута, у *Dulles,* дайце вады напіцца, бо так есці хачу, што пераначаваць няма дзе, – вось ужо сапраўды, даслоўна; з запісанаю на лапіку паперы адрэсаю – *it's fifteen minutes drive, we're waiting for you*[19], уфф, дзякуй, не без добрых людзей свет, – адчуваючы на вуснах, ад звышстомы, неадліпную ўсмешку разумова адсталага дзецюка, пакульгала на прыпынак таксі, але і гэта яшчэ быў не канец: за рулём трапіўся маленькі пакістанец, у чыёй шчыльнай, раскоцістай тарабаршчыне не адразу ўгадвалася англійская, – смела рушыўшы ў ноч, дзесьці акурат на пятнаццатай хвіліне ён павярнуў да яе галаву ў цемры аўтасалона, павольна, як на шарнірах, святло сустрэчных ліхтароў наплывала і знікала, ценямі велічэзных нябачных рыбаў, чырвонае табло лічыльніка мігцела, быццам кардыяграма ў пакінутым лекарамі аперацыйным пакоі, – і спытаў, ці ведае яна дарогу, – перапрашаю, але дарогу належыць ведаць таксісту, не? – галізна пустых загарадніх аўтастрад, ані агеньчыка па абодва бакі трасы, дзе я, Божа, хто я, чаму я тут? – яшчэ праз чвэрць гадзіны ўехалі ў мястэчка, пагналіся высветленымі месяцам вулачкамі – у адзін бок, потым, развярнуўшыся, у другі, як доўга вы ў Амерыцы? – крычала яна з задняга сядзення, быццам глухому, – пяць гадоў, адказваў ён, гэтак жа нерухома трымаючы галаву, – і спыняў кэб, і ўключаў святло, і выцягваў з-пад сядзення змятую прасціну мапы, абедзвюма рукамі трымаючыся за яе, быццам за казачны кілім-самалёт, што мусіць цудам вывезці, і нечага чакаў, утаропіўшыся ў яе, ёй тупа падумалася, што гаротнік, мабыць, не ўмее чытаць, – як, вы сказалі, называецца вуліца? – перакочваў у роце каменьчыкі непаслухмяных гукаў, не ў стане вымавіць "Руперт стрыт", альбо паўтарыць за ёю, бо ж яна *таксама* гаварыла з акцэнтам, хай і не такім вытыркальным, "куд ю кол дэрэ?" – што-што? ага, *could you call there*[20], гэта значыць туды, куды мы едзем, ужо другую гадзіну без супынку, мае сябры там, напэўна, у поўнай разгубленасці, патэлефанавала і знікла! – добра, давайце сюды трубку, – раз, і другі, і трэці, спачатку не было сувязі, потым знерваваны Рон, які ўжо,






высвятляецца, тэлефанаваў у кампанію таксі, даваў пакістанцу, каторы ўсё не выходзіў са сваёй атараксіі, нейкія шматпавярховыя інструкцыі, і зноў пачыналася загнанае мітусенне ў хімерычным спляценні бязлюдных вулачак, нібы кіроўца перадаў усе свае рэакцыі машыне: кэб адчайна тузаўся, спыняўся, чмыхаў, чухаў патыліцу, пытаў у сябе: а калі туды? – лаяўся (віскнуўшы шынамі), ламаў рукі, а ў поцемках салона знай шырыўся маўклівы пакістанцавы *страх,* яна адчувала яго фізічна – да нудоты, у мужчыны выслізгвала з бездапаможных рук, як лінька, ягоная праца, ягоная нетрывалая зачэпка за гэты прывідны край, і дзядзька б прыхапіў тую лэдзі з дзіўным акцэнтам, якой узбярэдзіла невяд-куды перціся сярод ночы, – ёй было ніякавата, хацелася ўсё менш займаць месца на заднім сядзенні, пасля чацвёртага (!!!) званка "дэрэ" Рон загадаў у трубку: дзе вы знаходзіцеся? стойце на месцы, *just don't move, man, o'key?*[21] – праз пяць хвілін з-за рога вылецела белае аўто, выскачыла Ронава постаць, рванула на сябе дзверцы кэба, лёгкія запоўніў вільготны пах летняе ночы, а аўтасалон – Ронаў раззлаваны клыгат (*it's fifteen minutes drive, man, you just don't know your business!*[22] – і, вылазячы на свабоду, пахістваючыся на абцасах (левы басаножак такі распаўзаўся, не трымаючыся формы), яна адчула макротны пробульк у майтках: пачаліся месячныя. Абзац.

І ахапіў ужо жаль да пакістанца – грошай ён, з перапуду, не ўзяў, ані цэнта, што ж, не толькі яму выпаў цяжкі дзень... Так і заснула дома ў Рона і Марты з той прыклеенай да вуснаў, як лузга, ідыёцкай усмешкай: ну-ну, падумалася перад сном, ляціць, такі дакладна ляціць маё золата – ужо пасыпаліся катастрофы! І чаго ж здзіўляцца, што першай рэакцыяй у Кенэдзі пры выглядзе каханага мужчыны – стаяў пад сценачкаю, сціпленька балакаючы са спадарожнікамі з кіеўскага рэйса, джынсавая куртка, знаёмы сівы "вожык", яна ўгледзела яго раней, чым ён яе, колькі разоў пракручвала сабе ва ўяўленні тую сцэну! – быў міжвольны ўкол непрыязні – а ён, бач які, разагнаўся жыўчыкам, чмокнуў у шчочку, быццам бы нічога і не здарылася, быццам і не было таго паўгады спусташаючага чакання, бессэнсоўнага выгарання алею ў чарапку, і тлумачэн-

няў ніякіх не патрабавалася, за спінаю, як паслухмяны пінгвін, натапырыўшы жывоцік, вытыркаўся Марк, ну ўжо ж, не да тлумачэнняў, знаёмцеся, паньства, – як усё па-дурному і не да ладу, скамечана атрымліваецца, я проста спакутавалася, трэба адпачыць, адаспацца, дый у яго была цяжкая дарога, потым разбяруцца, потым, – а "потым", ужо на месцы, ужо сам-насам, на напаўраспакаваных валізках, і з'явілася – выбурбуліла быццам здалёк, не зачапіўшы ўсё яшчэ агаломшаных, зашчымленых ныючых інстынктаў, – тая думка, якую з лёту яму чыстасардэчна і выдала, прынесла і паклала да ног, як сабака закінутую палку, – *ведаеш, мне здаецца, ты адкрыты да зла.* Здрыгануўся, быццам ад нажа, дзіўным быў той нядобры сполах у вачах, ужо калісьці бачаны ёю раней, – на мяжы ашчэранай усмешкі з нахабна выпнутымі з-пад верхняй губы ікламі, быццам *нешта іншае* на імгненне прарэзалася скрозь ягоныя абведзеныя бяссонна запаленымі беражкамі павекі, – быў позні вечар, і яны ўпершыню выйшлі на шпацыр, агледзець ваколіцы, якія таямніча мігцелі каляровымі ліхтарыкамі па дварах і гародчыках, з прыадчыненых дзвярэй аднапавярховых будыначкаў раз-пораз вырываліся выбухі музыкі і смеху, бялелі ў лагоднай карычневай цемры, знікаючы ў яе глыбіні, сустрэчныя футболкі, мястэчка не спала, ахопленае маладзёвым прадчуваннем свята: набліжаўся штогадовы мастацкі фестываль, бач, якая андэрсанаўская хатка, які цікавы спічак! – усё спачатку, усё ў нас пачынаецца спачатку, *я яшчэ мушу пайсці ў царкву і паставіць свечку – што Бог дапамог мне да цябе прыехаць,* так-так, ківала яна, усе страхоцці мінулі, усе тыя пажары, раструшчванні аўта і цела, вар'яцкія пералёты, ні фіга сабе гісторыйка! адно толькі, на будучыню – *ведаеш, што мне здаецца? Толькі зразумей мяне слушна, не крыўдуй: што ты адкрыты да зла.* Намервалася, са звычкаю прафесійнага выкладчыцкага занудства, растлумачыць дакладней: не тое, каб яно было ў табе самім, але ты яго, нейкім там чынам, прыцягваў, – але нічога патлумачыць не атрымалася: ён дзіка, пазасветна бліснуў вокам, а выйшлі якраз на скрыжаванне – азірнуўся і рашуча ўскінуў галавою і *перстом указующим:* туды!

І з той хвіліны на іх напаў блуд.






Перад тым яны з гадзіну кружлялі вакол свайго, яшчэ не абжытага прыстання (ён казаў – *наша хатка,* і яе напаўняла пры гэтым цяплом унутранай усмешкі) – раз за разам вяртаючыся і наноў раскручваючы маршрут у іншым напрамку, – і знянацку ўся ваколіца зрабілася аднолькава нераспазнавальнаю, і незразумела было, у які бок дадому. Збітыя з глузду, міналі скрыжаванне за скрыжаваннем, светлафор за светлафорам, усе арыенціры – псеўдагатычная спічастая званіца, жываплот, невялічкі пляц са смеццевымі бакамі, які кожны раз міналі, – зніклі, быццам праваліліся ў іншае вымярэнне, і праз нейкі час яна пачала кідацца з роспытамі – адрас усё ж такі памятала – напярэймы прахожым, каторыя трапляліся чым далей, дык радзей, бо ўжо, напэўна, павярнула за поўнач, падпітыя студэнты паціскалі плячыма, пікнікуючая на траве *вечарынка* ў адным двары нічога ўцямнага не здолела адказаць, затым тут-такі, паспрачаўшыся, леваруч ці праваруч, перасварыліся між сабою, і яшчэ доўга пасля таго, як яны, дурнавата-ўсміхаючыся-*sorry*-выбачаючыся, пацягнуліся прэч, трашчаў ім наў-здагон у начной цішы, нецвяроза коўзаючы на спалучэнні зычных, дзявочы голас – накідваліся на нейкага Джэры, бо той, як заўжды, "ні дэм" не цяміў і меў на ўвазе не тую вуліцу, – яны відавочна заблукалі надта далёка, ну і смяхоцце, – разгаварыўшыся, яна перакладала яму дзявочыя румзанні, бедны Джэры, – ён, аднак, замкнуўся, не выяўляў такога ж шчанячага энтузіязму, трэба, пацяшалася, было мяне слухаць, мяне прастаравая арыентацыя яшчэ ніколі не падводзіла, – эге ж, што праўда, тое праўда, толькі тым разам, золатца, падвяла цябе іншая арыентацыя, ку-уды істотнейшая за прастаравую. Яшчэ і як падвяла.

Дзесьці з гадзіну так было – а пасля ён, стаўшы як укапаны, паказаў: жываплот! Яны цэлую гадзіну тузаліся за некалькі дзесяткаў ярдаў ад яго. Ізноў "уключылася" ваколіца, паказалася знаёмымі абрысамі. Як можна было быць такімі сляпымі, здзіўлялася яна. Во-ось, *good question*[23], як у іх кажуць. Як можна было быць такою сляпою, бядотная дурніца? Заслепленаю такою – у час, калі ўсё казала, раўло, галасіла табе адкрытым тэкстам? Ну і падумаеш, ганарліва ўскінула б

ты галаву, не-е, цябе б не спыніла – нават калі б вогненная рука, што вылунала з паветра, накрэсліла табе перад носам на сцяне пісьмовае папярэджанне, ты была закаханая, ая, ты ўпэўнена была, што *здолееш* ("Я ўсё магу!") зрабіць тое, што адзін чалавек для іншага самастойна зрабіць – не ў стане, рыбка. Не ў стане. Хіба – і тут, як гаворыцца ў газетных аб'явах, магчымы варыянты – хіба адкупіўшы яго сваім уласным жыццём: памяняцца лёсам. Вялікі дзякуй, у мяне былі, як да майго жыцця, крыху іншыя планы.

Шкада толькі, што ўсе яны неяк разам згубілі сэнс...

У першую іхнюю ноч, тую вар'яцкую – фэставую! – ноч з шалёным гонам насустрач мігатлівай лавіне адлюстраваных у калюжынах ліхтароў, з пералётамі ад адной начной кнайпы да іншай, а ўрэшце да цалкам недвухсэнсоўнага, хто б падумаў, што такое існуе ў правінцыі, загарадняга бардэльчыка (непрыкметны звонку – хіба па прыпаркаваных іншамарках магнатэрыі – будыначак на два пакоі "праз сенцы", у адным, шоргаючы падэшвамі па дашчатай падлозе, совалася ў танцы цесна скупенае п'янае стойла, у другім, куды ім падалі каву з лікёрам, стаялі два, чулліва прыкрытыя блакітненькімі пледзікамі ложкі, над імі віселі нейкія пахабнаватыя літаграфіі, – "Купрын! Чысты табе Купрын!" – зарагатала яна, насуперак фізічнай стоме – пераваліла на другія бяссонныя суткі! – усё-такі востра, па-шампанску ўзбуджаная вартай жалю паказушнаю тэатральнасцю тае атмасферы таннага граху, страсаннямі музыкі за тонкаю сценкай, нейкім амаль што прысаромленым паглядам жанчыны, каторая ўнесла паднос з напоямі, – у закуточку для прастытутак запомнілася маладзюсенькая, мусіць, ці не васемнаццацігадовая прастытутка з распушчанымі каштанавымі валасамі, прыгожая тою да вільготнасці яскраваю, неўскаламучана-песеннаю прыгажосцю, якая яшчэ трапляецца між дзяўчат на Валыні і Подоллі, – і, гаротнічка, п'яная як бэля: "Слухай, – чаплялася, пачуўшы нешта незвычайнае, – як цябе завуць? А мяне Мая. Вы такая гожая пара. Не, сур'ёзна", – а на пададзены, па яе просьбе, агонь адгукалася ўважлівай дзяўчынкаю: *"Подякувала"* , – тое дыялектнае *"Подякувала"* – як вучылі дома! – чамусьці працяло да слёз шчымліваю, жаласнаю пяшчотаю: *"Яна ж яшчэ дзіця зусім, яшчэ і не цяміць, што з ёю"*, – дзялілася з ім на адваротным шляху ў аўце, – пацiснуў плячыма: *"А каго тое хвалюе? Прамакашка, дый усё"*, – але, аднак, "прамакашка" была першаю, хто ўгледзеў між імі прысутнасць нарастаючага, саманароджанага кахання, бо любое каханне напачатку патрабуе сведкаў, патрабуе – па-бацькоўску расчуленае ўсхваляванасці светам новаўзніклага ў ім саюза двух, і свет ніколі не скнарыцца на абвяшчэнні благаславення, на вільготныя позіркі, на ўсмешкі, з якімі абарочваліся на нас дзядзькі ў прывакзальным буфеце, куды мы ўносілі з вуліцы, у лятучым танцавальным рытме, свежы павеў нябачнага карнавала, атмасферу хітраватых пераглядванняў, маленькіх розыгрышаў, змоўніцкіх чмыханняў над чым-небудзь страх камедыйным, незаўважным для іншых, – прамяністыя бліскавіцы, густа рассыпанае шчаслівае канфеці, што, ападаючы, павольна кружыцца ў паветры яшчэ і пасля таго, як за прасветленаю парачкай зачыняюцца дзверы, *"Якую запальнічку хоч'?"* – *"Чырвоную"*, – да бармена, з камічна-бязрадасна рассунутымі рукамі: *"Яна сказала – чырвоную"*, – і ўжо бармен сочыцца, як спелы персік, разлітым па твары ўсмехам хаўрусніка і, напаўняючы лямпы смаліста-цягучаю, быццам растоплены бурштын, вадкасцю, пералівае праз верх, – о, свет любіць закаханых, бо толькі яны ў дурным манатоннi будзённасці яшчэ даюць яму згадку, што сапраўды ён іншы, лепшы, чым прызвычаіўся пра сябе думаць, што досыць толькі працягнуць руку, крутануць кантакт – і ўсё наўкол зайграе, замігціць каляровымі шкельцамі з дзіцячага калейдаскопа, засмяецца ад паўнаты сілаў і пусціцца ў танец! – старэнькі вулічны фатограф на паркавай лаўцы, каля яго нерухомаю скіфскаю бабаю цётка ў суконнай кацавейцы: "Сфатаграфуйце воно маладых!" – "Ды ну, – кідае ён працягла, амаль што летуценна, – ім не да таго, у іх – Каханне", – апошняе слова вымаўляецца з вялікай літары, і вы, пераглянуўшыся, дружна кідаецеся фатаграфавацца, кідаецеся ці тое абрадаваць старых сабою, ці, наадварот, дзякаваць ім за неспадзяванае, як мокры пацалунак упалага на чало лістка, благаславенне, – потым ён забірае тыя здымкі, і болей ты ніколі іх не

пабачыш, не выключана, што ён падраў іх на дробныя лапікі, укінуў у папяльнічку і падпаліў – напрыканцы грэбліва падгробшы попел у купку скурчаным мезенцам, – што ж, сэрца маё, я не ў прэтэнзіі, адпакутуй трохі і ты: час быў і табе, пасля саракоўніка, адкрыць, што не ўсе мы "прамакаткі" або, у лепшым выпадку, "мышачыя каханні", выбачай, але я ўмею граць – толькі па-буйному, і калі ўжо не каханнем – не-мышачым: сапраўдным! – дык, ва ўсялякім разе, ніколі і ні ў чым – не "прамакаткаю": жадаю быць наждачком-с), – у тую першую ноч, ці не тады, на нарынутай хвалі ўзнясення, зарадзіўся ў ёй дзесьці ў сярэдзіне глыбока схаваны трохі іранічны, усмешлівы халадок: *блядка* і *блядка*, з усімі адпаведнымі атрыбутамі, быццам нейкі староннi сцэнарыст загадзя парупіўся пра жанравую чысціню сюжэта (ды яшчэ і, як хутка высветлілася, няўдалая блядка!), – але ж мы, блін, такі недарма рабяты з крутым творчым патэнцыялам, нам раз плюнуць – ператварыць няўдалую блядку ў трагічнае каханне, давёўшы сябе, па дарозе, да цалкам суіцыдальнага стану, – толькі пасля дзевяці (а то ж, дзевяці!) месяцаў, у іншай краіне і на іншым кантыненце, у ноч апошняе сваркі ў пакоі закінутага ў міжгор'і матэля, – спярша тупацелі, па-курынаму, на драўлянай галерэі, барукаліся сцішанымі, каб нікога не пабудзіць, галасамі, далей неўпрыкмет пераходзячы – ужо на поўную гучнасць, нібы падвышэнне голасу аўтаматычна запускала ў ход і ногі, – праз паркінг-лот, між бліскучых насупраць месяца цюленячымі бакамі аўтамабіляў, супынак – супроцьстаянне, вочы ў вочы – успышка! – шабельны ўдар! – і вось, развярнуўшыся, ён бяжыць праз усе надворкі назад у пакой пакаваць рэчы, маленькая, шпарка перабіраючая голымі, у шортах, ножкамі, быццам васковая, фігурка, – у ім ужо вінтом ускручвалася пыха, спальваючы страх, абы, крый Божа, "людзі не сказалі" (эх, матухна правінцыя, як уздыхаў быў Хвылёвы!), што гэта *яна* яго пакінула, выдрала з роднае глебы, перанесла праз акіян і пакінула, вось гэта, скажуць, кабета! і таму, закінуўшы на плечы спехам напханы трантамі дарожны мех (*"На губачку сваю не забудзься"*, – падавала яна, падаспеўшы, з-за спіны), гаўкнуўшы вось тым асаблівым брутальным, звадлівым тонам, якім толькі і размаўляў з ёю напрыканцы: *"Заўтра лячу дадому! Дзякую за Амерыку"* (хіхікнула ў душы, хоць і не да смешачкаў было, цудоўна ведаючы, што нікуды ён не паляціць, што да заўтра-пазаўтра – творчая ж асоба! – вынайдзе сабе якуюсь новую, не звязаную з ёю версію свайго тут знаходжання, і так яно і сталася), – ён папёр у ноч – дзве з паловаю мілі! з рэчамі! – да тае абрыдлае майстэрні (ці ж яна хоць адчынена ўночы, ці так пад кусцікам там, прыдурак, і праседзіць да раніцы?), – вось тады, зачыніўшы за ім дзверы са змешаным адчуваннем не-да-канца-сыгранага спектакля, вогненнага стрыжня "як-жа-яно-жыць-далей", усаджанага ў мозг, і тымі расцярушанымі па целе ліхаманкава-нудотнымі дрыжыкамі, што не супыняліся ўжо болей за тыдзень, – нібы і сапраўды была механічнаю лялькаю, у якой усе колцы-шрубкі павыязджалі з пазоў, так што каўтаць магла толькі рэдкую страву, а спаць некалькі ночаў запар не магла ўвогуле, – азірнулася да люстэрка, убачыла ў ім – прагледзеўся, падступіўся да паверхні, карцінна скрывіўшы вусны ў рэштках з'едзенай памады! – той самы зімнавата-іранічны (*блядка* і *блядка*...), адчужаны посміх: вось гэта сюжэт! – прачыталася ў тым посміху, – *маць яго за лапу*, ну і сюжэт...

І той жа ноччу, толькі засталася сама (адлягло!), ёй, упершыню за ўвесь час яго прыезду, прысніўся *сапраўдны* сон: спачатку, яшчэ на пераходзе між сном і яваю – як ён вось так выходзіць ад яе пахіленай кладкаю ў дол, потым наваліўся цесны эратычны кашмар: нябачныя рукі, багата рук песцілі яе адусюль – настойліва, горача, задушліва, і трэба было сабраць усе сілы, каб выслабаніцца, – і апынуцца ў велічэзнай, з высокімі, як опернае закулiссе, скляпеннямі, звонка-парожняй залы, сям-там па-канструктывісцку пазастаўленай, няйнакш таксама тэатральным рэквізітам, – нядбайна задрапаванымі тумбамі, пастаментамі з пап'е-машэ, нейкімі драбінамі, у падобным на цёмную пячору нэфе ўзвышаўся подыум, і адусюль зляталася, са свісцячым шамаценнем крылаў і плашчоў, і ўзмошчвалася па ўсіх тых узвышэннях Шляхта Імглы, – мільгацелі чарнастроі, бакавым позіркам яна разгледзела парослыя кашлатаю рудою поўсцю лапкі з курынымі кіпцюрамі, учэпленымі ў вы-

ступ сцяны, але асноўную яе ўвагу прыцягнула высачэнная — ажно твару не ўгледзець! — убраная ў чорную сутану постаць на подыуме: ці не сам Князь, падумалася, аб'явіўся? Было анікolечкі не страшна — за знешняй эфектнасцю, дэманічнае зборышча не несла ніякай выразнай пагрозы, хутчэй спраўляла рытуал, нечым нагадваючы партсходкі брэжнеўскае пары, і да яе ставілася цалкам прыязна, брала ў кола, прымаючы за сваю, — і, праходжваючыся па запоўненай імі зале з канца ў канец, яна стала, рашуча жагнаючыся, чытаць уголас "Ойча наш", а яны паслухмяна ператвараліся ў клубы неонава-сіняе пары і адляталі прэч з піратэхнічным шыпеннем, — толькі здаравенны кот, абярнуўшыся неонава-сінім ценем ката, яшчэ скакаў нейкі час з пастамента на пастамент, покуль урэшце не задыміў, ды яшчэ адзін захуканы гном — з чорнымі крыламі, у лыжнай шапачцы каўпачком і з прасцецкі-скуластаю (нос бульбаю!) круглаю фізіяноміяй — прыляцеў спазніўшыся, не ўцяміўшы, што да чаго, ірвануў да яе: "Што, яшчэ не пачыналася?" — спецыяльна для яго яна яшчэ раз паўтарыла "Ойча наш", і ён трохі, праўда, паўхіляўся, быццам толькі дзеля захавання гонару, і таксама неяк *нястрашна* панаскокваў быў на яе, але ўрэшце мусіў, нічога не зробіш, і сам ператварыцца ў неонава-сіні клубок і, зухавата свіснуўшы, адляцець. У тым сне ўпершыню дыхнула *палёгкаю* — яна нібы вярнулася да сябе, і, сама-насам у апусцелай зале, не падумала — зразумела: значыць, несур'ёзна гэта ўсё — наконт самагубства. ***Пакуль*** несур'ёзна.

Лэдзі і джэнтльмены, мне трохі няёмка закранаць гэтую тэму, — зразумела, яна прыдатная хутчэй для пропаведзі, чым для паважнага навуковага выступу, і я ўжо бачу, як, адзін за адным, вы пакідаеце аўдыторыю, саркастычна стуліўшы вусны: *crazy stuff*[24], тыповы *Slavic mysticism*, грукаючы адкідныя крэслы, — адну хвіліначку, я прашу яшчэ толькі хвіліначку ўвагі, у мяне нават, камільфотнасці дзеля, цытата вось падрыхтаваная — перапрашаю, што не з Дэрыда, Фуко ці Лакана, а якраз наадварот, з Якаба Бёмэ: калі д'ябла спыталіся, чаму ён пакінуў нябёсы, той адказаў, што хацеў быць *аўтарам.*






Лэдзі і джэнтльмены, у той краіне, якая ад пачатку была людскім тварэннем і дзе аўтарства кожнага чалавека над уласным лёсам з'яўляецца падмуркавым пастулатам выхавання (разгортваю газетную вытрымку: пажылая пара мільянераў, Браўны — Рычард, 79 гадоў, і Гэлен, 76 гадоў, — атруціліся чадным газам у сябе ў гаражы, папярэдне адпісаўшы ўвесь набытак — 10 мільёнаў даляраў, не абы што! — на хрысціянскую дабрачыннасць, а сябрам разаслаўшы тлумачальныя лісты: абодва цяжка хварэлі, таму, узважыўшы цвяроза, вырашылі, замест таго, каб бессэнсоўна раздрынькваць ашчаджаны цягам жыцця дастатак на лекараў і медычную абслугу, лепш дапамагчы маладым людзям стаць на ногі, — ці іх таксама пахаваюць за царкоўнаю агароджаю, а ці тыя, хто скарыстае з іхніх мільёнаў, адмоляць-такі ў Бога іхнія душы? Цёмная гэта справа — так распараджацца сабою: быў у Асвенцыме такі пастар Кольбэ, які пад час чарговай "чысткі" прапанаваў расстраляць яго замест аднаго паляка, бо ў таго засталіся дома двое сыноў, — эсэсавец, хмыкнуўшы, прыняў замену, і той чалавек выжыў і вярнуўся да сябе ў Варшаву — каб даведацца: абодва ягоныя сыны загінулі пад час бамбёжкі, вось табе і маеш! — ах, пастар Кольбэ, Вы ўблыталіся не ў сваю справу, Вы пажадалі стаць аўтарам — і парушылі правілы гульні, бо той чалавек такі мусіў загінуць, і хто вед, можа, каб не ўлезлі Вы, яго хлопцы засталіся б жыць, і я шчыра гарую, так-так, не смейцеся — гарую за лёс браўнаўскіх мільёнаў — ці сапраўды яны прынясуць каму-небудзь шчаслівае жэрабя, а ці, крый Божа, які-небудзь браўнаўскі стыпендыят згарыць жыўцом пад час пажару ў хімічнай лабараторыі, да якой дайшлі тыя грошы, а яшчэ іншы, вывучыўшыся ў Італіі на спевака, пасля гадоў поспеху і славы перарэжа сабе гарляк, калі страціць голас? Шкада, што ваша краіна, уласна, не ведала ладнае вайны — вайна дае магчымасць багата чаго зразумець пра жыццё і смерць, бо асобныя лёсы, хоць нейкія бываюць вельмі красамоўнымі, звычайна ніколі нічому не вучаць, прыгадваю, у апошніх навінах мільганула найкамедыйная, калі дазволіце так мовіць, гісторыя: у Нью-Йорку нейкі мужык выкінуўся з акна хмарачоса, але прызямліўся на дах

прыпаркаванага аўтамабіля цэлым і непашкоджаным, дык вось, не скарыўшы з наўдачы – мабыць, таксама быў навучаны змалку дамагацца свайго, хоць хай бы там што, – пасунуўся назад на той самы станаццаты паверх і, уявіце, скінуўся паўторна, на гэты раз зламаўшы руку, нагу і яшчэ нешта там сабе пашкодзіўшы, але так і не здолеўшы, небарака, паквітацца з жыццём, – прызнаемся, лэдзі і джэнтльмены, што ў глыбіні душы мы трохі кранутыя непасрэднасцю таго нахабы – ці то рабаўніка, што намагаўся высадзіць дзверы, ад якіх не меў ключа, ці разбэшчанага дзіцёнка, каторы, тупаючы ножкаю, верашчыць: "Дай!" – ну і атрымаў гарбуза, і добра яму так), – у гэтай краіне, лэдзі і джэнтльмены, з яе што далей, дык усё шырэйшым памнажэннем па падполлях сатанісцкіх сектаў, а на паверхні – псіхіятрычных кабінетаў, ці не час добранька задумацца над пытаннем *аўтарскіх правоў* – над тым, што мы сапраўды *можам,* а чаго нам нельга?

Жадаеце быць аўтарам – стварайце – замахнуўшыся на выключную прэрагатыву Бога. Бо ніхто з нас насамрэч не стварае, пані і панове, – усе мы памятаем прыклад творчага мыслення са школьнага падручніка псіхалогіі – русалка, напаўжанчына-напаўрыба, – якое ўбоства, калі ўдумацца, якая забойная фантазія – кавалак адтуль, кавалак адтуль, зляпілі да купы – і напышыліся: куды ж там, творцы! А *ex nihilo* – не спрабавалі? Слабо? Вось жа тое і ах... Усё, што нам дадзена – як дзецям на забаву – дык гатовыя адасобленыя аскепкі рэчаіснасці, фрагменты, дэталі, каляровыя фішкі нейкай вялікай, неабсяжнай галаваломкі, па якіх гарбацімся, не ўзнімаючы вачэй, абмацваем, аблізваем, абнюхваем сабе ў кайф, цалкам бясшкодны і прыемны занятак, – толькі рэч у тым, што фішкі часам (го, яшчэ і як часта, і колькім, і нават не толькі геніям!) удаецца скласці згодна невядома-адкуль-узятым, нікому-няўзброеным-вокам-нябачным *планам,* у якім пазнаецца пульсацыя самастойнага, амаль ужо і арганічнага жыцця. Тады і *ўрубаецца* наша аўтарская (ха-ха!) пыха: надзьмухваемся, мітусімся і ўяўляем сябе творцамі, – а то быў проста паказаўся нам у шчылінку акрайчык першаснага *генеральнага* плана, таго самага, згодна з якім быў некалі *створаны* свет – з нічога, суцэльным і цудоўным, і ад якога чалавецтва (калі? на якім дагістарычным павароце? у якой пірэнейскай пячоры?) – адступілася, і памяць (такая крохкая! такая бянтэжна-спанталычаная! але аднак – як жыць, калі не стане і такой?) пра тую пачатковую асляпляльную цэльнасць зберагаюць, апроч рэлігіі, толькі мастацтва і каханне.

(Я гадаю, ці мелі рацыю ўсе тыя клерыкальныя рыгарысты – абразапакладальнікі, пурытане дый іжэ з імі, – што сама ідэя абраза ці храмавай скульптуры *прафануе* бажаство, – зліццё рэлігіі з мастацтвам, натуральна, ёсць з боку рэлігіі кампраміс, немінучае саступленне – ад знямогі – ужо! – усталяваць прамы кантакт, не пераймаючы падсунутых наўмысна, вульгарна-наглядных фішак-фіфішак: аблупленая пазалота на дошцы, згрызены непагаддзю нос анёла, груба расцыцкаваная статуэтка ў пярэстым рыззі. Верагодна, некалі прамы кантакт – быў, але што ўжо цяпер з-за яго журыцца... Рэлігія, зрабіўшыся сацыяльным інстытутам, сышла на *псі,* – у царкве, куды я павалаклася аднаго дня ў надзеі трошкі рассеяць абложную цёмную хмару, што з дня ў дзень знай выпякала галаву, не прапускаючы ніводнае прахалоднае думкі, панаваў выразны дух замкнёнае суполкі: цікаўныя позіркі на чужыну, таварыскія пастойванні гуртамі на ганку пасля службы, аглядкі, смяшкі, перагаворванні, абмен навінамі – людзі прыходзілі быццам на свайго кшталту вячоркі – *to socialize*[25], і маліцца ў іх перад вачыма было неяк непрыстойна). *Допуск да плана* за намі яшчэ захоўваецца, – індывідуальны допуск, бо ад самога плана чалавецтва за апошнія некалькі стагоддзяў рашучым крокам адкачоўвае ўсё далей і далей (ці не з эпохі Адраджэння пачаўшы, з таго Мірандолінага дзёрзкага: "Чалавеча! Адаме! Я паставіў цябе ў цэнтр Сусвету", – ну і стой, слупом быццам цябе паставіла, і кожны сухарукі камплексант пнецца ў Адамы, а мы потым чухаем патыліцу, не ў стане падлічыць мільёны забітых: ці то дваццаць, ці сорак, ці ўсе шэсцьдзесят?), – а памяць пра страчаную Боскую чысціню дра-ажніць, вой, дражніць, раз-пораз праблісківаючы прынадаю, але дзе там, як толькі падступаемся бліжэй, булык – а пры ўваходзе нас ужо падпільноўвае, пацiраючы лапы, Той, хто хацеў быць аўтарам, – яму карціць

туды, уклініцца і завалодаць, а самому яму слабо, толькі на нашым карку, на карку *дапушчаных* ён і ў стане туды патрапіць, і стакроць бяспечней для нас – нікуды не сунуцца, забыцца на ўсялякі допуск ды грэбціся сабе далікатненька ў фішках, ствараючы з іх усё новыя і новыя бестурботныя камбінацыі, – вышыхтоўваючы ў шэраг бляшанкі з-пад супу "Кэмпбел", выстаўляючы на б'енале гумовыя зэдлікі, абутыя ў жаночыя чаравікі, выдзьмухваючы на старонкі часопісаў шчодрыя россыпы паветраных бульбашак – аднолькавых пазбаўленых вагі словаў, часам атрымліваецца забаўна, кіламетры *тэкстаў* (эге ж, ужо не вершаў – тэкстаў) пра першую паездку на ровары, пра першыя месячныя, а ці і ўвогуле ні пра што, – нічога, *interesting*[26], лапоча, ківаючы галовамі, гусіны статак крытыкаў, універсітэцкіх прафесароў, дактароў літаратуры, перапрашаю, калі абразіла каго з прысутных, – кажуць, калі пасадзіць тры малпы за друкарскімі машынкамі, дык у вечнасці яны маюць шанцы выкласці "Гамлета", лэдзі і джэнтльмены, адкрыю вам страшную таямніцу: мастацтва ў нашым стагоддзі таксама паціху сыходзіць на *псі* – таму што *баіцца.*

Толькі каханне бароніць ад страху, толькі яно адзінае здатнае нас захінуць, і калі мы не нясём яго ў сабе, тады... Тады... (Я сапраўды не ведаю, *што* тады, я не ведаю, што будзе далей з тым мужчынам, якія *яшчэ* руйнаванні ўчыніць чорны смерч, у сярэдзіне якога матлашыць яго счэпленую крамянёвым ціскам фасфарычна-бледную дробненькую постаць, – "чортава вяселле" на курных асенніх дарогах, казала мне малой бабуся: пабачыш – адступіся, сама яна яшчэ ведала, як кінуць у віхор нажом накрыж, і на нажы паказвалася кроў, а мы цяпер у стане хіба засвінячыць кухонным разаком у любімага мужчыну, – жэст яно нібы той самы – жэст-копія, жэст-імітацыя, рэфлекс радавой памяці з забітым усярэдзіне сэнсам, – жэст, якім, замест каб адгарадзіцца, штурхаеш сябе з размаху ў самы вір "чортавага вяселля"). Не трэба б, вох, не трэба гнацца на халодны зорны бляск *бескаханае* прыгажосці: не тых спадарожнікаў сабе на той дарозе збіраем.

*Дзіўнай зоркай плыві пад павекі, /Лiся музыкай, спей у агні, /Мкні да мора нябачныя рэкі – /Толькі ж, – Госпадзе! – не падмані. /Не асунься з-пад ног сухастоем, /Агаліўшы гранітную грань. /Размініся з цяжкой пустатою. /Застаялым паветрам не стань. /(Скарб закляты пад чортавай вартай / У апромеці зыркай на дне.) /Жабраваць нам, напэўна, не варта – /Дзён марнотных да схочу ўжо мне. /Мы пакуты прымаем спрадвеку, /Наша казка з чаканым канцом – /Украінскае ціхае пекла, /Векавое тамленне жыўцом. /Без надзеі, без дзеі, без часу /У нямотнай пустэльні расцём, /Прыхаваўшы ля сэрца паразу, /Што ціхмяна завецца жыццём. /Схамянуцца, рвануцца за дзверы, /Змерзлай клямкай звярэдзіць далонь, /Бессмяротнай душой – пад сякеру, /На нязгасны, лятучы агонь"*, – вось так я пісала, дапрасілася, называецца, бач, знайшоўся мне – Дантэ ў спадніцы! Але ж у Дантэ быў – не толькі Вергілій, у яго была – Беатрычэ. І калі не жыве ў нас пастаянна каханне, дык, замест пашырэння, чым далей вузее тунэль, якім утрапёна гонімся, і ўсё цяжэй робіцца працаскацца, і ўжо не ляцім, як здавалася спачатку, а паўзём натужна, выкашліваючы ашмецце ўласных лёгкіх і таго, што калісьці называлася талентам, дый, Божа мой, і *было* ж талентам! – і сочымся на палотны, як расціснутыя казюлькі, фарбавымі плямамі ўласнае атруты, і давімся дохлымі словамі, што патыхаюць гніллю і лякарнаю карболкаю, і пачынаюць з намі чыніцца ўсялякія прыкрыя рэчы, мільгацяць клінікі і турмы (гэта ўжо, як каму пашчасціць!), і вось ужо толькі і застаецца, што – скочыць з моста (Паўль Цэлян), зашмаргнуць сабе горла ў сенях чужога дома (Марына Цветаева), сунуць галаву ў газавую пліту (Сільвія Плас), зачыніцца ў гаражы, запусціўшы на поўную моц выхлапную трубу аўтамабіля (Эн Сэкстан), заплыць у мора як мага далей (Інгрыд Йонкер), пералік працягваецца, *to be continued*[27], вы што ж, думаеце, гэта нармальна, так з імі, піітамі і іншымі, і павінна быць? Але ж з імі чым далей, дык горш, ніхто ўжо *не дажывае* да свайго "Фаўста", што ж вы думаеце, гэта выпадковасць, думаеце – ім проста таленту менш дадзена?.. Зменшаюцца іхнія шанцы – зменшаюцца шанцы кожнага з вас.

Толькі каханне бароніць ад страху. Але хто (што) абароніць ад страху каханне?

(І ўсё большае, большае з году ў год – секс-шопаў, механічных прычындалаў, о, перавагі тэхналагічнае цывілізацыі, секс па тэлефоне, мяне таксама калісьці так мелі – дома, у сябе ў хаце, не дзе-небудзь: падставілі, як дзяўчынку, так і не даведалася, хто, – спачатку зменены на шэпт жаночы голас – прыняла за таварышку, таксама з добрымі мухамі ў галаве дзеўку, "Волька? Ты?" – ніякая то была не Волька, як аказалася потым, хоць тады нібы падцвердзіла: эге, я, – і стала *шаптаць:* уляпалася, тэлефаную з чужой кватэры, тут двое, хочуць мяне згвалтаваць, кажуць – або ў попу, або ў рот, вось ён ужо ідзе, я баюся, "Дзе ты ёсць? Я выклічу міліцыю, скажы адрэсу!" – але не-Волька [хоць тое высветлілася толькі потым] ужо знікла, замест яе азваўся, дыхаючы пагрозаю, малады мужчынскі голас: "Ты ей подруга, да? Ты хочешь, чтобы я ее не трогал? Так постони мне", – чаго толькі ні зробіш для дарагой сяброўкі, фу, гідота, – спрабавала ўрубаць пачуццё гумару, нічога, дапамагло, усё адно што песеньку папрасілі б заспяваць, але калі, на ўсё ж такі бездапаможна-балесным стогне прыніжэння [ты крычыш – ад здзеку, а яны думаюць – тое ад асалоды, а можа, і не думаюць, можа, якраз ад твайго болю яны і скančаюць?], голас рэзка кінуў: *"Всьо"* і ў слухаўцы закропалі, як з крана, кароткія гудкі, дык, выціраючы змакрэлы лоб, пачувалася-такі, смешкі смешачкамі, але згвалтаванаю, – малады ж мужык, *ёлкі-палкі*, ён што, таксама *баяўся* жывой жанчыны?).

Страх пачынаўся рана. Страх перадаваўся ў спадчыну – баяцца належала ўсіх чужых (кожны, хто выяўляў да цябе цікавасць, быў насамрэч падасланы КДБ, каб выведаць, пра што ў вас размаўляюць дома, а потым зноў прыйдуць тыя дзядзькі і пасадзяць татку ў турму, – асабліва падазронымі былі тыя, хто заводзіў вальнадумную балбатню: класе ў дзявятым на гарадской алімпіядзе па літаратуры пазнаёмілася з акулярыстым выдатнікам з матэматычнае школы – ён меў рэдкую для падлетка скуру – як толькі што ачышчаны персік, і, пад ненармальна тоўстымі акулярамі, бачна было ў профіль, – цёмныя і густыя, быццам шоўк, дзявочыя веі, а смеючыся, напружваўся ўсім целам, як тое бывае з дужа нервовымі інтэлігентнымі хлопчыкамі, каторых не пускаюць у двор гуляць самі, а выводзяць на шпацыр на папружцы саначак, заматаўшы вышэй носа ваўняным кашнэ, – такія хлопчыкі заўжды ў цябе ўлюбляліся, на тое не было рады, а тым часам яны шмат чыталі і любілі абмяркоўваць прачытаныя кніжкі, і выдатнік з матэматычнае школы, няўмела-старамодна, быццам пратэзам, падтрымліваючы цябе на коўзанках пад локаць – была зіма, і заснежаныя сходы штокрок паблісквалі каварна выслізганым чарноццем, – меў неасцярожнасць згадаць пра "украинского писателя Винниченко – не читала?" – табе імгненна стала горача: гэта ж і ёсць тое, пра што папярэджвалі тата і маці! – з ленінскаю хітрынкаю ў вачах [галоўнае, што сама адчувала яе як ленінскую!], з адцягам такім лянотным, маўляў, ну-ну, давай далей, я цябе ўсё роўна навылет бачу, – адказала, што "нет, не читала", і, дачакаўшыся, пакуль выдатнік выдаў усё, што ведаў, – і пра УНР, і пра эміграцыю [слухала ўжо не сумняваючыся, *хто* перад ёю, салодка абміраючы ад блізкае небяспекі], – прымарозіла яго хіба ж так – чаканячы склады, барабанным піянерважацкім голасам ["Атряд! Рравняйсь! Смір-на!"], апавясціўшы, што яе не цікавяць усялякія там эміgranцкія адкіды, што ў час, калі міжнароднае становішча такое складанае і напружанае, і што яе заўжды абурала моладзь, якая слухае розныя радыёгаласы, – ён вытрашчыўся на яе абедзвюма парамі шкляных вачэй і, здавалася, забыўся дыхаць: ішоў вожык па лесе, забыўся як дыхаць і здох, – а каб ведаў! Задаволеная была сабою, як ніколі: першы іспыт на дарослаcць – не паслізнулася!). Не, яна заўжды казала, што не хацела б яшчэ раз перажыць сваю падлеткавасць, – тыя натужныя, несвядомыя спробы ***вырвацца*** – з наглуха забетаніраванага, сціснутага ўсярэдзіне сямейнага гнязда, за мурамі якога едка клубіўся страх, балотная імжака, дзе толькі саступіся, выдай сябе – і боўтнешся ў смяротную твань (па радыё, якое бацька слухаў вечарамі, прыпаўшы вухам, шчыльна ўціскаючыся ў прыёмнік, што аглушальна хрыпеў, часам прарываючыся рэзкім, небяспечна нарастаючым металічным свістам, перадавалі мемуары паміраю-

чага Снегірова, пералічваліся аперыраваныя вантробы, адбітыя ныркі і лёгкія, інсулінавыя шокі, гвалтам устаўленыя зонды, калюжыны крыві і ванітаў на цэментных падлогах – звесткі з бойні, рассяканне мясных туш: Марчанка, Стус, Пападзюк, колькі штотыдняў новыя імёны, маладыя і прыгожыя, не нашмат і старэйшыя за цябе буйначупрынавыя хлопцы, ты мроіла пра іх, як равесніцы пра кінаактораў, вось ён выйдзе на волю, пашнараваны і мужны, і мы сустрэнемся, – толькі яны ніколі не выходзілі, эфір поўніўся іхнім сканаеннем, тата сядзеў па гэты бок і слухаў, з году ў год, з таго часу, як стаў беспрацоўным, сядзеў у хаце і слухаў радыё), – вырывацца не было куды, паўсюдна былі камсамольскія *зборкі*, палітзаняткі і чужая мова, туды – як чатырохгадовую на зэдлік пасярод пакоя, расказаць дзядзям і цёцям вершык, – можна было выходзіць толькі дзеля таго, каб звонкім магнітафонам выдаць ім ад іх жа і навучанае, і толькі ў гэтым быў гарант *бяспекі* – залаты медаль, чырвоны дыплом, прасоўванне "па вяровачцы", *маці яго за лапу*, колькі непатрэбшчыны прапусціла праз галаву! – а ў пятнаццаць гадоў звалілася з дэпрэсіяй, скардзілася на таямнічыя болі ў страўніку, татка збіўся з ног, цягаючы па лекарах, якія нічога не знаходзілі, цэлымі днямі валялася ў ложку і істэрычна плакала ад нядобрага слова – таткава дзяўчынка, вочка ў ілбе, гэта ён адчуваў, распрастаўшы крылы, над яе першаю менструацыяй, разважна апавядаў ёй, што гэта дужа добра, так мае быць з усімі дзяўчынкамі, ляжы, не ўставай, – падаваў у пасцель, як хворай, парэзаны кавалачкамі яблык на сподачку, і яна ляжала – сцяўшыся і сцішыўшыся, напалоханая новым адчуваннем, калі – і сорамна ад *адкрытасці* сваёй таямніцы – ну але якія ж таямніцы могуць быць ад таткі? – і, і – неяк шчымліва-насцярожана, безабаронна-няпэўна: адчуванне, што паўторыцца са стратаю дзявоцтва (ад якога прыйдзецца аддыхвацца аж пасля таткавай смерці!), і потым, кожны раз, – тое самае адчуванне навечнае дачкоўскага *скарэння*, рэштквасці родавага падпарадкавання, ад чаго мужыкі, не ўехаўшы, да чаго яно, зразумела, шалеюць (*"Вох, як ты класна даеш!"*), а потым ты іх кідаеш. Рвалася, а як жа рвалася, яшчэ і як! – уся ў вострых локцях самачыннага разрастання, да слёз









спакутаваны ўласнаю паспешлівасцю прышчаты падлетак, адзіныя калготкі, вечна ў бурых рубцах ніцяных швоў, і адна сукенка – школьная форменная, пялёсткава-белавата выцертая на локцях, на школьныя вечарыны хадзіла – а хадзіла раўніва, як мусульманін да мячэці! – у пазычанай блузцы і куцанькай, піянерскай яшчэ, белы-верх-чорны-ніз, спаднічцы, і поедам з'ядалася горкім чэмерам, разглядаючы цалкам ужо "па-дарослому" прыкінутых, у "дарослых" цырульнях падстрыжаных, набрынялых поўным цветам, як садок вішнёвы каля хаты, аднакласніц – у бляску маціцовае памады і чорных махаонах "ланкомаўскіх" веяў – дзесяць кэрэбэ каштаваў сіне-блакітны набойчык такой тушы, а маміна зарплата, на якую жылі ўтрох, была сто пяцьдзесят, ну і што было рабіць, як не *скрасці* – у распранальцы, з легкадумна раскрытага партфеля каралевы старэйшых класаў, – праўда, танны цюбік, польскі, і напалову ўжыты, заспакойвала сябе, што для тае гэта не страта, і так яно і было, а ўсё адно дзевятнаццатае стагоддзе, усё адно Жан-Вальжанаўская класічная булка і Казета пад вітрынаю лялечнай крамкі, і сорам, і страх, і таямніца, ганебна і салодка, як эксгібіцыяністкія практыкаванні ў адзіноце перад люстэркам, – няўмела фарбавалася ў школьнай прыбіральні, развозячы пад вачыма чорныя пасмачкі, а пасля вечара там-такі змывала, люта аддзірала туш халоднаю вадою з пачырванелых павек: страшна падумаць, што было б, каб татка пабачыў, – татка, які так баяўся за яе, які збіраў па людзях дасье на кожную яе сяброўку, усе былі разбэшчаныя, палілі і цалаваліся з хлопцамі, татка верашчаў, буракавеючы з выгляду, і яна, варта аддаць ёй належнае, таксама верашчала ў водпаведзь, і рыдала ў ванным пакоі – асабліва пасля таго памятнага разу, калі ён ударыў яе па твары проста на вуліцы, на трамвайным прыпынку, бо яна дзесьці трохі затрымалася, і ён вырашыў, што яна ад яго ўцякае, – але яна вярнулася, яна заўжды паслухмяна вярталася, бо ўцякаць не было куды, і ён, не сказаўшы ні слова, з размаху ўпёк яе па шчацэ, – зразумела, потым былі абдоймы-абсмоктванні, пацалункі-перапрашэнні, "маё маленькае", "дачушка мая залатая", – пасля некалькіх, распаленых у вачах на чырвань гадзін ляманту, рыданняў, груканняў дзвярыма, суправаджае-

мых шамканнем бессэнсоўнага мамінага ўблытвання, – бо мамы за тым усім не праглядалася, мама ўвогуле была фрыгідная, ясная справа, заэкранаваная, быццам чорнае люстраное шкло (потым, у першыя месяцы твайго шлюбу, яна ўсунецца аднойчы ўранку ў пакой маладых з весела бразгаючым будзільнікам: уставайце, сняданак гатовы! – акурат у хвіліну-калі, і пасля выбухлага скандалу будзе плакаць сіроткаю на кухні, спалохана і бездапаможна: хацела ж як лепш! – так што, суняўшыся і аддрыжаўшы перапалоханым целам, ты ж яе, у рэшце рэшт, і будзеш суцяшаць), а *якая,* цікава, яна магла быць, як не фрыгідная, – дзіця голаду (у трыццаць трэцім, трохгадоваю ўжо, перастала хадзіць, і бабуля ездзіла на перакладных таварняках у Маскву, мяняць сваё вяно – дзве густыя нізкі міжземнаморскіх перлінаў – на дзве тарбіны сухароў), дзіця, узгадаванае на падабраных у полі каласках, за якія калгасны цівун, аднойчы заспеўшы, хвастануў бізуном па шчацэ – да гэтага часу бачна тонкая нітачка бялёсага рубчыка, і на тым, Богу дзякаваць, скончылася, бо бацька, твой, значыцца, дзед, ужо мыў золата дзесьці між сопак, праз якія паўтара дзесяткі гадоў і *твой* бацька, а яе будучы муж, будзе рабіць тое ж самае, а ёй – нічога, мінуліся тыя каласочкі, і наелася з часам усмак, гадочкаў гэтак праз дваццаць, ужо калі, скончыўшы універсітэт, пачала працаваць, – а амерыканскія саветазнаўцы здалёк усё ніяк не дадурацца, чаму ў гэтым пакаленні столькі бяспола-гладкіх жанчын, мусіць, Фрома з Юнгам між радкоў на святло перачытваюць, – жэрці ім у дваццаць хацелася, жэрці і больш нічога! – давіцца студэнцкім пайковым хлебам, напіхаць у рот у абедзве жмені, падбіраючы акрышыны, што такое клітар, яны за ўсё жыццё так і не даведаліся (упершыню ты задумалася над іхнім лёсам аднойчы ў аптэцы: выкінулі жаночыя пакункі, чарга, цалкам з маладых дзевак, шапатліва напакоўвала торбы, а бабулькі, падыходзячы, сціпла перапытвалі: "Дзевачкі, а што ў еціх пакетах?" – "Жэнскіе пакеты, жэнскіе!" – зняважліва агрызаліся дзяўчаткі: не для вас, маўляў, – бабулькі збянтэжана лыпалі вачыма: не разумелі), – так што мама была цнатлівая, акі агнец, ці, хутчэй, дзева Марыя (нешта ў ёй сапраўды адчувалася мадоністае, на фотаздымках канца пяцідзесятых – час, калі нарэшце *наеліся,* – так і прамянее пяшчотная дзяўчынка ў буклях, вачэй не адвесці! – тварык далікатны, даўгаваты, з вастранькім носікам – згублены, лагодны, быццам унутранай усмешкай прасветлены тып прыгажосці, казацкі барокавы партрэт на працягу трох стагоддзяў: Раксалана – Барбара Апостал – Барбара Лангішаўна, – эх, была некалі Гетманшчына, а цяпер знікла! – круглатвара-пышнавейкавыя, ой-пад-вішняю-падчарэшняю кралі яшчэ водзяцца, а ад іх, Бог дасць, ужо і твая нешчаслівая парода, на два парадкі грубейшая, вульгарнейшая – не забывай дадаць: была!), – маці, птах спявучы, анёлак эфірны, дысертацыю па паэтыцы дапісвала ў камунальнай "хрушчоўцы", пакуль ёй на кухні суседка – кухарка з рабочай сталоўкі, тая, што павінна была "управлять государством" (маціадзіночка – пяцёра дзяцей ад пяці мужчынаў), падкідала ў каструлю з баршчом анучы і вырваныя зубы (напэўна, малочныя – каго-небудзь з нашчадкаў?), – але дысертацыю дапісала-такі, акурат на семдзесят трэці год з ёю падаспела, калі яе, як жонку *неблаганадзёжнага,* з дысертацыяй пад пахай з аспірантуры і засвісталі казачэнькі, так што дзень *тваёй* абароны (на халеру яна табе была здалася!) быў *яе* святам, цешылася, як дзіця, "вось каб толькі татка быў жывы!" – а як, на ласку Божую, *чым* ён мог бы быць жывы – выкінуты на самае дно студні і па дарозе спазматычна ўчэплены за зруб: абы толькі не назад на зону! – жыўцом замураваны ў чатырохсценні – слухаць радыё, паліць у фортку і з жахам назіраць, як незваротна сплывае з-пад яго, прэ з-пад накрыўкі, самою сілаю арганічнага росту штурханая, адзіная жанчына ў ягоным жыцці – тая, каторую сам парадзіў? *"Задзяры кашулечку, я хачу пагледзець, як ты фармуешся"* (і ці не тая самая заклапочана-распараджальная інтанацыя – *"Павярніся, я цябе хачу яшчэ ззаду ўзяць"*, – праз дваццаць гадоў, толькі пачутае, ускаланецца ў табе даўно страчанае пачуццё дома?), – і ўжо не істотна, што ніколі не любіла ззаду, не істотна, што ў першае імгненне адмовілася была задзіраць кашулю, успыхнуўшы недзіцячай крыўдаю, – насустрач ціхай і па-новаму глыбокай, вільготнай расчуленасці: дзіця маё, гэта ж я, твой тата! – у выніку чаго кашуля, нікуды не падзенешся, задзіралася – сарамліва-збянтэжаная пастава,

першы досвед, куды мацнейшы, чым нейкія там прыцісканні каленкамі ў класе пад партаю, — аднак імкнулася, Божа, як імкнулася, — як страчаная душа з-пад сякеры, але – куды? Да равеснікаў, танцы-шманцы, рок-ансамблі, спартовыя спаборніцтвы і першыя сляпыя абмацванні ў цемрадзі спартзалы, – смешна, нікому з іх нават распавесці немагчыма было, як, на трэці год, *тыя* такі прыйшлі, спраўдзіўся нарэшце бацькаў страх, бо страх, ён заўжды спраўджваецца, – урэзаным у чатырохсценне віхорам сакавітага скуранога парыпвання партупеяў, бадзёрага вулічнага холаду, адчуваннем нахабнай *запоўненасці* пакоя – тройка румяных з марозу, здаровых самцоў, ляпання пасведчаннямі, "собирайтесь", татка мітусліва шукаў нейкія паперы, нешта перакладаючы на стале трымцячымі рукамі, прыгнечаны і варты жалю, і ты выскачыла на іх з кутка, выпростваючы спіну прышчатай бледна-зялёнай падлеткавасці, – прыдушана-крыклівая, са звіслай праз пысачку пасмаю, і залямантавала: "как вы смеете, по какому праву", – атрымалася не вельмі ўдала, дый увогуле няўдала, абрэзалі цябе тыя (афіцэрык маладзесенькі, з вусікамі нітачкаю, рупіўся, падла, *мацъ,* першае адказнае заданне атрымаў, а як жа – арышт антысаветчыка!) – быццам нагою адпіхнулі ("не ваше дело, вы еще слишком молоды"), і бацькі (з тварамі аднолькава мурынавымі, быццам пад скуру фотапаперу падклалі) таксама, толькі ты ўскочыла, з жахам зашыпелі-замахалі-зацыкалі, – але першая няўдача цябе не спыніла, ты, сапраўды-такі, добра той казаў, – адважная жанчына, золатца: з часам, ужо студэнткаю, годзе недзе ў васьмідзесятым, выправіўшыся з зайчыкам-заляцальнікам у вялікай кампашцы ў тэатр, на нейкую хітовую маскоўскую гастроль, – наўздагад, бо квіткоў не мелі, рагочучы на ўсё горла, перакідаючыся снежкамі рэплік, штурмуючы знадворку касу з натоўпам такіх, як самі: пераднавагодні вечар, маладосць, ніхто не хацеў разыходзіцца, і таму з'явіліся мянты, – прываліла зграя варанкоў, уварваліся ў гурму сырыя шынялі, захадзілі, уздымаючы над ёю буруны, і чорт яго вед, як яно так здарылася: яшчэ за хвілю да таго ўсё было нібыта – прыгода, жарт, ну, не патрапілі б усярэдзіну, дык паехалі б на Хрэшчацік каву піць, падумаеш, вялікая справа! – а ўжо зайчыкавага сябра –







самага ўвішнага з кампаніі, невялічкага і вяртлявага, як вінт, такога, што крыху нападдаўшы, мо і пралез бы! – засёкшы і вылавіўшы са сціснутага ў купу разбітнога статка, валаклі пад пахі двое жлабоў ва ўніформе, і ён не даставаў да асфальту нагамі, рэшткі сяброў разгублена пасунуліся следам, не ведаючы, што рабіць, а ён ужо плакаўся да тамтэйшых жаласна: "Рабяты, ну кіньце, ну адпусціце, рабяты", ногі дрыгаліся, тузаючыся ў паветры асобна ад тулава, твой зайчык, шафа двухметровая, цягнуўся як самнамбула і адно мармытаў – ды не, ды дзе, ды нічога яны яму не зробяць, – а варанок ужо стаяў падрыхтаваны, з растуленымі заднімі дзверцамі, і ты зноў – адважная жанчына! – кінулася пад колы, пантэрыным рыўком на гэты раз ужо прыгожага і дужага цела, даўганогая ўспышка ў кароткім кажушку, аж тамтэйшых у абодва бакі раскідала – а ўжо ўпіхнулі чувака ў машыну: "Мальчыкі, – крэсанула наводліў голасам, ажно зазвінела, – ды што ж вы ета, в самам дзеле, а?!" – і вырвала хлопца: "мальчыкі", бугаякі, разамкнулі шэраг, нейк абмяклі, адступіліся, забубнелі нешта апраўдальнае накшталт "а чаво ён", – ага, упіраўся, яшчэ і, мабыць, штосьці здзеклівае ляпнуў, – падаспеў зайчык, згрэблі пацярпелага ў абарэмак, давай, Божа, ногі! (і ў першую вашу ноч з тым мужчынам, калі ён зухавата ўсунецца пад "цагліну" і яго спыняць мянты – маленькі і сагнуты, ва ў момант звіслай ужытым прэзерватывам расхрыстанай скуранцы, пачне нешта тлумачыць ім на вуліцы, разводзячы рукамі, ды хлопцы, ды я што, я ж нічога, – ты, пасядзеўшы трошкі ў аўце, рашуча адчыніш дзверцы, выйдзеш, зацокаеш абцасамі па бруку, трасянеш кудзеляю, перацягнуўшы на сябе хціва асветленыя пагляды аперазаных партупеямі самцоў, засмяешся, хоць прыпальвай ад тваёй усмешкі: "Што здарылася, хлопцы? Мы нічога не парушылі", – і замнецца мянцяра, нейк адразу адсунецца, разввеецца ў паветры, ну добра ўжо, язджайце, толькі будзьце ўважлівымі надалей, – а раніцай, усмоктваючыся ў цябе разыскранымі вачыма, калі ты будзеш ляжаць на тапчанчыку, напаўпрыкрытая пледам, ён прамовіць, павольна, з прычмокам смакуючы трыумфальную ўсмешку: *"А ты крутая баба – адразу выскачыла мянтам пысу біць... З табою можна ў разведку*

*ісці"*, – і цябе захлыне дзіцячаю паводкаю фанабэрыстасці: нарэшце, нарэшце тое адзначана – бо ён сам з *такіх*, – быццам выйшаў на волю, пасля ўсіх тых гадоў, і вы сустрэліся, – бо болей, чым брат, бо айчына і дом...). Страх упаўзаў знадворку скрозь сцены даўкім скразняком, а дома было цёпла, ажно задушліва, юнацкая дэпрэсія, не, неўрастэнія, нейкія дурныя таблеткі, вечныя "трыццаць сем і два" і плач па некалькі разоў у суткі, лекарка загадала ёй распранацца, а татку выйсці – "Девочка уже большая", – яе спанталычыла, што татка, замест таго, каб адстойваць свае правы – бо гэта ж *ягонае* дзіця меліся аглядаць! – прыніжана цягнуўся да выхаду, збянтэжаны і змяншэлы, быццам заспеты на гарачым (найцікавейшае, са спакоем хірурга мяркуе яна пра сябе, што ён жа быў прыгожы мужык, гаваркі і дасціпны, прагны да жыцця, і жанчынам падабаўся, і цудоўна знайшлося б дзе аскароміцца і па-за домам, што ж ён цноту сваю так рупліва зберагаў, як галіцкая старая панна, ці не таму, што мама выйшла за яго, яшчэ ***не*** рэабілітаванага, а ён усё жыццё ўнутрана курчыўся, баючыся пачуць ад яе ўголас тое, чым употай і так выядаў сабе думкі, – што абрабаваў яе жыццё, а застацца самому, без яе – зноў-такі, баяўся?), – а судзілі яго, тым разам, усяго толькі за туняядства (усяго толькі суткі пратрымаўшы ў КПЗ), паслалі ўсяго толькі на будоўлю вахцёрам, ён сядзеў у зашклёным будане, адчыняў браму перад самазваламі, а рэшту часу чытаў Бруна Шульца, пра якога некалі намагаўся напісаць кніжку, ды так і не напісаў (меў добры густ да літаратуры, адно эротыкі не пераносіў на дух, як каталіцкі цэнзар!), – яго панічны страх перад яе неўтаймаваным ростам – "ку-уды?!" – угнязджаўся ў целе і памаленьку падпільваў вантробы тупою пілкаю, але рак выявілі ажно тады, калі і аперыраваць, як высветлілася, было запозна, уся палавая сістэма была паражоная, і прастата, і семянюкі (мама штодня драла моркву яму на сок і выціскала ўручную, згарнуўшы сечку ў марлевы вузлік, яе пальцы колішняе гітарысткі набылі неадмыўна-жаўтаваты колер і праз сілу разгіналіся, а дочык бегаў начамі ў аўтамат на рагу выклікаць "хуткую", і калі мама, з белымі ад жаху вачыма, прыйшоўшы раз з лякарні, апавясціла ёй дыягназ, які ад таткі ўжо належала хаваць, дык першым рухам думкі [якога з таго часу ніколі сабе не даравацьl, было бязлітаснае і зімнае, як скрозь счэпленыя зубы: дзякуй Богу!), – па сутнасці, гэта было не што іншае, як вайна – вайна, у якой не можа быць пераможцаў, бо, вычарпаўшы ўсе спосабы дамагчыся свайго (прыціснуць каленам, упіхнуці ў люлю, "яна ў нас яшчэ зусім дзіцёнак", хацелася хлопчыка, але нічога, і дзяўчынка атрымалася на славу, вось яна ім усім за нас і пакажа!), – мужчына звяртаецца да апошняга спосабу – смерці, і гэта, нікуды не падзенешся, пераконвае: ты нарэшце канчаткова становішся на ягоны бок. І твая падлеткавасць, ад якой адхрышчвалася, нізашто не хацела б яшчэ раз перажыць, даганяе цябе праз дваццаць гадоў, выпускае з найглушэйшых сутарэнных закануркаў тваёй істоты заплаканую і зацкаваную дзяўчынку-падлетка, што запаўняе цябе цалкам, і гучна, раскаціста рагоча: ну што, уцякла?..

Можа, і сапраўды – *рабы не павінны нараджаць дзяцей*, пытаецца яна ў сябе, млява ўтаропіўшыся ў акно: уначы выпаў першы снег, але цяпер растаў, і толькі ветравыя шыбы прыпаркаваных уздоўж сходаў аўто бялеюць цялячымі лысінкамі. Па сходах, прытанцоўваючы, шыбуе мурын у палка-чырвонай куртцы і сінім бейсбольным брылі, схаваўшы рукі ў кішэні: пахаладала. Бо што ёсць рабства, як не інфіцыраванасць страхам, – яна падсоўвае пад локаць разгорнуты нататнік, напаўспісаны такога гатунку афарызмамі, ад якіх – ні цёпла, ні халодна, як у падручніку фармальнай логікі. Рабства ёсць інфіцыраванасць страхам. А страх забівае каханне. А без кахання – і дзеці, і вершы, і карціны – усё робіцца вагітным смерцю. Пяць балаў, дзяўчо. *You have completed your research*[28].

Лэдзі і джэнтльмены – не, зараз толькі лэдзі, дакладней, адна лэдзі: Дона з усходнееўрапейскіх штудыяў, адна з нешматлікіх, з кім ты за гэты час пасябравала, рослая напаўірландсканапаўславянская мяшанка, досыць прыемнае для вока паяднанне: пшанічнае валоссе, цёплыя карыя вочы, высокія сцёгны, скура,

прыцярушаная дробным зернем рабацiння, як добра прапечаная булка з кменам, – ва унiверсiтэцкiм буфеце, дзе вы дамовiлiся на ланч, палiць забаронена, i Дона, дапiўшы з папяровага кубка тую гарачую цёмна-брунатую жыжку, якую амерыканцы чамусьцi называюць каваю, адразу ж запiхвае ў рот жуйку: сублiмацыя палiва. Тая жвачка ў яе выглядае цалкам сiмпатычна, можа, таму, што Дона шмат i шчыра смяецца, i ад таго ўражання, быццам увесь час рассмоктвае нешта смешнае. Дысертацыю яна пiша пра гендэрызм у посткамунiстычнай палiтыцы: яе не на жарт цiкавiць, чаму ў той палiтыцы не было i няма жанчын, – пытанне, якое нязменна заганяе цябе ў глухi кут, колькi б табе яго нi ставiлi заходнiя iнтэлектуалы (блiн, ну адкуль мне ведаць?). Здаецца, Дона падазрае, што тут корань усiх нашых праблем: як усе фемiнiсткi, яна ўпэўненая, што *men are full of shit*[29], толькi дай iм волю – пачынаюцца войны, канцлагеры, голад, разруха, адключаюць гарачую ваду i электраэнергiю, а факультэту iзноў абразаюць фiнансаванне на гэты год, i справа з яе дактаратам зацягваецца. Гэтую ж тваю гiсторыю Дона прымае – не тое, што да сэрца, але, здаецца, адразу сабе да тэчкi. Лэдзi i джэнтльмены, я працягваю.

Што-о?! – iмклiва падаецца наперад Дона, ажно яе пшанiчныя патлы, ускалануўшыся, ападаюць у глыбокi выраз швэдра.

Як?! – абураецца Дона, – як такое можа быць? Як увогуле можна так паводзiць сябе з жывою жанчынаю?!

*О, май!* – скрушна пахiтвае галавою Дона, з цалкам неўласцiваю ёй гаспадарлiвасцю распрасоўваючы далонямi па стальнiцы нябачную абрусiну: жэст, што выдае суцэльную разгубленасць, брак каментароў. Не, яна таксама мела праблемы са сваiм апошнiм бойфрэндам, але каб такiя!..

Слухай, – кажа Дона, i твар яе лагаднее спакоем знойдзенага рашэння: *looks like the guy is severely sick, don't think so?*[30]

Кароткi курс псiхааналiзу, шлях да душэўнага здароўя: знайсцi прычыну, i праблема здымецца сама па сабе. Чаму так нiкому i не прыйшло ў галаву, што тое ж самае можна выраб-







ляць i з народамi: прапсiхааналiзаваўшы цудоўненька ўсю нацыянальную гiсторыю – i адпусцiць, як рукою здыме. Лiтаратура як форма нацыянальнае тэрапii. А што, *not a bad idea*[31]. Шкада, што ў нас, уласна, няма лiтаратуры.

Я толькi аднаго не разумею, – асуджальна кажа Дона: тут ужо вiдавочна зачэпленыя падмуркi яе светагляду. – Я не разумею, чаму ты ўсё гэта трывала? *I mean,* у ложку? Чаму адразу не сказала: не?

Канцэптуальны падыход: барацьба жанчын за свае правы.

Што я магу табе на гэта адказаць, Донця? Што нас расцiлi мужыкi, *обйобанi* як-толькi-магчыма з усiх канцоў, што потым такiя ж самыя мужыкi нас трахалi, i што ў абодвух выпадках яны рабiлi з намi тое, што iншыя, *чужыя* мужыкi зрабiлi з iмi? I што мы прымалi i любiлi iх такiмi, якiя яны ёсць, бо не прыняць iх – азначала б стаць на бок тых, чужых? Што адзiны наш выбар, вось так, быў i застаецца – памiж ахвяраю i катам: памiж небыццём i быццём-якое-забiвае?

Выкiнуўшы ў смеццезборнiк посуд пасля ланчу – пластыкавыя падносы з ужытым папяровым начыннем, кубкамi i талеркамi ў густых соусных плямах – соя, кетчуп, гарчыца, слiвовы джэм (цынобра, кармiн, вохра, умбра), – як дэкаратыўныя палiтры з тэатральнага рэквiзiту (месца першай дзеi – майстэрня мастака, месца другой дзеi – кватэра ў *student dorm*[32], – яны кiруюць да выхаду, Дона штурхае шкляныя дзверы, кароткi сполах марознага паветра радасна асляпляе лёгкiя, коцяцца аўто, праходзяць, смеючыся, хлопцы ў спартовых куртках з эмблемаю унiверсiтэта, гарыць уверсе трывожнае, электрычна-сiняе неба, i высокi, падобны на захутанага акалелага Леанарда да Вiнчы, у развеяных сiвых пасмах жабрак на рагу працягвае да iх пластыкавы кубак з-пад кока-колы, пабразгваючы драбязою: *"Help homeless, ma'am!" – "I'm homeless myself"*[33], хiстае яна галавою: не яму – у прастору.

— А ведаеш, – кажа раптам Дона, павярнуўшыся да яе, нацягваючы аўтамабiльныя пальчаткi i весела жуючы нейкую новую думку, – усё ж такi тыя вашыя ўсходнееўрапейскiя муж-

чыны, яны сапраўды бываюць брутальнымі, але ў іх хаця б страсць ёсць, а ў нашых што?..

...І разглядаеш у ілюмінатар, як паўзуць валізкі па стужцы грузавога канвеера, каб знікнуць у чэраве летака, адна за адной, і вось ужо – плыве пусты прамежак, і негр-грузчык у форменным брылі з надпісам *"USAir"* ускоквае ў чорнае нутро фургончыка, і той рушыць з месца, а пакуль ты будзеш праводзіць яго паглядам, канвеер прыбяруць, замест яго на шэрым бетоне застанецца цямнець праталіна падсохлай калюжкі: "Усё", – адаб'ецца табе ў галаве, быццам стогн у пустым храме, усё – гэта значыць, задраеныя люкі, зараз пачуецца сухі трэск мікрафона, "Лэдзі і джэнтльмены", – завуркоча сцюардэса, і лятак задрыжыць, праграваючы маторы, і тое ўжо будзе іншай рэчаіснасцю, іншым жыццём, а горка-шчымлівы боль няспраўджанасці да сённяшняга (*qu'as tu fait, qu'as tu fait de ta vie?*[34] – дапытваецца голас аднекуль здалёк, – ах пакіньце, гэтай тэме столькі ж гадоў, колькі чалавецтву: усё чагосьці чакаеш, марыш і валтузішся, спадзеючыся на нешта наперадзе, а тады аднойчы высвятляецца, што гэта і было жыццём) – лепей бы таму болю заткнуцца і не высоўвацца болей.

Дайце мне мікрафон, і я скажу: лэдзі і джэнтльмены, мы стварылі найцудоўнешы свет, і прыміце, калі ласка, з гэтае нагоды вітанні ад *"USAir"*, і ад Сі-Эн-Эн, і ад Сі-Ай-Эй, і уругвайскай наркамафіі, і румынскай сікурытатэ, і ад ЦК кампартыі Кітая, і ад мільёнаў забойцаў ва ўсіх турмах свету, і дзесяткаў мільёнаў, што ходзяць на волі, і ад пяці тысячаў зачатых гвалтам сараеўскіх байструкоў, якія калі ж небудзь павырастаюць, і – квітней, цудоўны свеце, вось, уласна, і ўсё, што я хацела сказаць, дзякую за ўвагу, лэдзі і джэнтльмены, прыемнага вам палёту.

У юнацтве я марыла пра такую смерць: авіякатастрофа над Атлантыкаю, лятак, што рассыпаецца ў небе і моры, – ні магілы, ні следу. Цяпер я ўсім сэрцам жадаю таму летаку шчаслівага прызямлення: мне падабаецца глядзець на высокага, жылістага старога з гарбатым носам і глыбока пракладзенымі ўніз ад вачэй барознамі, як ён запіхвае ў багажны адсек нейлонавую торбу з намаляванаю на баку тэніснай ракеткаю, і на









іспаністую брунетку ў расхінутым скураным паліто – яна з двума малечамі, і пакуль, адчапіўшы ад заплечніка, уладкоўвае ў фатэлі меншае, другое – дзяўчынка гадоў пяці, вузенькі смуглявы тварык у барокавай раме аблямоўваюча-наравістых кучараў, – азіраецца ва ўсе бакі пасярод праходу асветленымі захапленнем вачанятамі і зубкамі – першае падарожжа! – і спыняецца на мне:

– Хай! – шчасліва выпальвае яна.

– Хай! – кажу я.

*Пітсбург, верасень–снежань 1994 года.*

---

[1] Data due *(англ.)* – тэрмін вяртання (кніжкі).

[2] Drugstore *(англ.)* – аптэка.

[3] Travel agency *(англ.)* – падарожнае агенцтва.

[4] I'm all alone in this big city, Wilson, buddy, have some pity *(англ.)* – Я сама-самусенька ў гэтым вялікім горадзе, Вілсан, сябра, злітуйся.

[5] Drunk driving *(англ.)* – кіраванне аўтамабілем у нецвярозым стане.

[6] Right people *(англ.)* – патрэбныя людзі.

[7] If the fate of Ukrainian literature is in the hands of people like yourself, one need not fear for its future *(англ.)* – Калі лёс украінскай літаратуры ў руках такіх людзей, як вы, дык няма чаго баяцца за яе будучыню.

[8] I'm ten years older than you are. –You're lying *(англ.)* – Я на дзесяць гадоў старэйшая за цябе. – Хлусіш.

[9] Thanksgiving *(англ.)* – Дзень Падзякі – традыцыйнае сямейнае свята.

[10] Ukraine has not died yet, – "What kind of anthem is that?" *(англ.)* – Украіна яшчэ не памерла, – "Гэта што за гімн такі?"

[11] Because the fucking bitch couldn't survive! *(англ.)* – Таму што траханая сука не здолее выжыць.

[12] Mortgage, insurance *(англ.)* – пазыка, страхоўка.

[13] Beggance can't be choosers *(англ.)* – злыдзень перабіраць не павінен.

[14] Your plane has just left, ma'am *(англ.)* – Ваш лятак ужо адляцеў, мэм.

[15] Have a good night! *(англ.)* – Добрай вам ночы!

[16] You're a jerk? You hear me, man? You go and bring me your boss right now, you hear? Right now! *(англ.)* – Падлюка ты, мужык, чуеш? Ану вядзі мне зараз сюды свайго боса, чуеш? Зараз жа!

[17] You just don't call me names! *(англ.)* – А ты падбірай выразы!

[18] Don't worry, ma'am *(англ.)* – Можаце не хвалявацца, мэм.

[19] It's fifteen minutes drive, we're waiting for you *(англ.)* – Гэта пятнаццаць хвілін язды, чакаем цябе.

[20] Could you call there *(англ.)* — Ці не маглі б вы патэлефанаваць туды?

[21] Just don't move, man, o'key? *(англ.)* — Толькі не рухайцеся, мужчына, добра?

[22] It's fifteen minutes drive, man, you just don't know your business! *(англ.)* — Гэта пятнаццаць хвілінаў язды, мужчына, вы проста нічога не цяміце ў сваёй справе!

[23] Good question *(англ.)* — добрае пытанне.

[24] Crazy stuff *(англ.)* — бязглуздзіца.

[25] To socialize *(англ.)* — гуртавацца, бавіцца ў суполцы.

[26] Interesting *(англ.)* — цікава.

[27] To be continued *(англ.)* — працяг будзе.

[28] You have completed your research *(англ.)* — ты скончыла свае доследы.

[29] Men are full of shit *(англ.)* — мужчыны перапоўненыя г..ном.

[30] Looks like the guy is severely sick, don't think so? *(англ.)* — Табе не здаецца, што мужык проста сур'ёзна хворы?

[31] Not a bad idea *(англ.)* — непаганая ідэя.

[32] Student dorm *(англ.)* — студэнцкі інтэрнат.

[33] Help homeless, ma'am! — I'm homeless myself *(англ.)* — Дапамажыце бяздомнаму, мэм! — Я сама бяздомная.

[34] Qu'as tu fait, qu'as tu fait de ta vie? *(франц.)* — Што, што зрабіў ты са сваім жыццём?

**Пераклаў з украінскай мовы**
**Алесь АСТРАЎЦОЎ.**
**Пераклады вершаў зрабіла Галіна БУЛЫКА.**









# Барыс Сачанка

*Калі думаеш пісаць —*
*старайся быць далей ад улады.*

Барыс САЧАНКА

# З ЗАПІСАК РЭДАКТАРА.
## З пісьменніцкага дзённіка

**10.XII.66 г.**

Яшчэ раз, цяпер па абавязку дзяжурнага, прачытаў "Лісткі календара" М.Танка. Калі б на падставе гэтых запісаў напісаць кнігу, як гэта зрабіў І.Эрэнбург, для Беларусі прагучала б. Прагучыць дзённік і так, бо ў ім вельмі многае перагукваецца з тым, што ёсць сёння. Часам нават не верыцца, што запісы тыя зроблены маладым чалавекам і паэтам, які не жыў у нашым часе. Пабаяўся М.Танк адкрыцца да канца, як гэта зрабіў І.Эрэнбург...

Шкода, што забіраюць яго ад нас як рэдактара. Рэдактар М.Танк быў нядрэнны. З ім можна было працаваць. Лепшае, што трапляла ў рэдакцыю, трапляла і на старонкі часопіса. Трапляла часам і тое, што не павінна б было трапляць. Але тут часткова і не рэдактарава віна: часопіс у Беларусі адзін, і тут хочаш не хочаш — даводзіцца быць дыпламатам. Інакш правае, рэакцыйнае крыло — а яно, на жаль, самае вялікае, з'ела б часопіс і ўсіх нас, яго супрацоўнікаў. У М.Танка — вельмі шырокая спіна, хаваючыся за яе, і нам можна было сёе-тое рабіць. М.Танку не мог абы-які кручок зрабіць заўвагу. А ў вялікіх-то часу не было, дык рабіць невялікую заўвагу не заўсёды зручна было.

Паглядзім, якое "Полымя" будзе без М.Танка. Калі прыйдзе чалавек адукаваны, са сваёй думкай — яно можа лепшым стаць, як было. Ёсць у

*Працяг. Пачатак у № 1 за 2002 г.*





Барыс САЧАНКА

Саюзе добрыя заступнікі, з беларускімі аўтарамі можна будзе смялей абыходзіцца. Калі ж дадуць за рэдактара выскачку, чалавека недалёкага — прапаў на нейкі час і часопіс, і ўся беларуская літаратура... Прынамсі, мне так здаецца.

Цяпер шкадую, што не рабіў запісаў з першага дня работы ў "Полымі", хаця... Час калі ж такі, што не спрыяе ані такой літаратуры, як дзённікі. І гэтыя запіскі, што пачаў рабіць, боязна трымаць у сябе. Лёс можа нечакана перакруціцца... І тое, што зроблена дзеля сябе, можа стаць супраць сябе. Ды патрошку буду папісваць. Некалі можа прыдацца, абнавіць усё па памяці будзе цяжэй.

Гаварыў з Я.Скрыганом пра Броўку. Я сказаў, што не супраць Броўкі мы на з'ездзе галасавалі, а супраць броўкаўшчыны — г.зн. яго акружэння. Таму гэта спадабалася, ён перадаў Броўку. І Броўка ўзрадаваўся: дык значыць, мяне любяць, паважаюць...

Эх, жыццё! Памрэ чалавек і ведаць не будзе, што пра яго думаюць людзі. Канечне, Броўку ва ўсім вінаваціць нельга. Час быў такі. Ён патрабаваў Бровак і нарадзіў іх. Не было б Броўкі, нехта б другі рабіў тое, што рабіў ён. Але ж ён *рабіў*, і гэтага ніхто яму не даруе. Мала таго, што ён *рабіў*, дык ён рабіў усё дзеля *сябе,* каб схапіць больш чыноў, прэмій, славы... Пра народ жа, другіх людзей ён успамінаў толькі тады, калі гэта падпірала яго аўтарытэт ці клала на яго цень. І тады... Тады ён аднаго хваліў, а другога... Прыйдзе час, і, я думаю, мы разбярэмся, што Броўка зрабіў для народа, нацыі. (...)

Яму давалі, давалі ўсё, каб падняць яго аўтарытэт, каб з дапамогай гэтага аўтарытэта глушыць, нішчыць усё лепшае, што было, што нараджалася ў народа... Надзьмулі такі пузыр! А ён узяў ды на з'ездзе ледзь-ледзь не лопнуў... Каб не Глебка, каб не ЦК — лопнуў бы! Ды з якім бы трэскам!

І гэта яшчэ раз пацвярджае тую ісціну, што вядома ўсім: нельга рабіць усё і ні за што не адказваць. Рана ці позна, а адказваць за зробленае прыйдзецца... З Броўкам адыходзіць у нябыт цэлая эпоха ў гісторыі беларускай літаратуры. Цяжка, вельмі цяжка будзе лепшаму ўзяць верх над горшым. Але ўсё ж лепшае некалі пераможа горшае. Тут не трэба быць вялікім

пракокам, проста трэба бачыць, як развівалася і развіваецца гісторыя...

***

Бог ты мой, калі мы дажывём да такога часу, каб можна было гаварыць праўду і не баяцца! Выступіў на секцыі, сказаў, што думаў і пра выдавецтва, і пра тое, што некаторыя нашыя "класікі" захапіліся выданнем сваіх шматтомнікаў... і ўсе пакрыўдзіліся. (...) А гэта — чакай непрыемнасцей. Праз дзень І.Навуменка сказаў — у трох чалавек, з якімі ён гаварыў, дрэннае ўражанне пра маю аповесць "Апошнія і першыя". Ну і што! Нібыта я пішу так, каб усім падабалася. І ніхто, відаць, так не піша, няма ніводнага, бадай, твора ў літаратуры, які падабаўся б усім. "А ларчик просто открывался" — у Навуменкі на рэцэнзіі мая аповесць. І нехта хоча адразу ж паўплываць на яе лёс...

Толькі пасля пашкадаваў, што не сказаў Навуменку, каб ён вярнуў рукапіс у выдавецтва. Нябось як пра М.Стральцова, то не слухаў нічыіх думак, напісаў рэцэнзію дадатную, хаця Ул. Дамашэвіч кнігу бракаваў... І той выдаў кнігу. А пра мяне баіцца пісаць, што думае. (...)

**16.XII.66 г.**

Колькі часу — якога дарагога часу! — некаторыя пісьменнікі трацяць на тое, каб дабіцца ўлады, дэпутацкіх значкоў, прэмій! Каб увесь час гэты яны думалі пра свае творы, сядзелі за рукапісамі — колькі б чаго цудоўнага было створана, як бы мы пабагацелі!..

І хочацца маліцца. Божа, злітуйся нада мною, не дай і мне захварэць на гэта! Паберажы мяне...

**17.XII.66 г.**

Я думаў, што ў Броўкі забіраюць уладу нашы старэйшыя, каб усё рабіць для народа, літаратуры. Аж не. Пакуль што яны робяць усё для сябе — шматтомнікі, кватэры, самазадаволенне ўладай. Уладкоўвае кожны свае справы. І толькі.

Пра народ, літаратуру ніхто не думае...





**31.XII.66 г.**

На дварэ — адліга, а ўсюды — замаразкі, самыя сапраўдныя замаразкі. З №1 "Полымя" знятая аповесць А.Васілевіч. Мяняецца час. Месяц назад аповесць гэтая не выклікала б ніякіх сумненняў. Танк жартуе — каб можна было, узяў бы падушку ды схаваўся б у "Полымя". А "Полымя" таго, былога, ужо няма. Страчана, беззваротна страчана. Казека, пры яго асцярожнасці, "Полымя" не павядзе, як трэба было б весці. Надзея на рэдкалегію. Але калі і ў яе ўвядуць двух загадчыкаў — прозы і нарыса, і рэдкалегія будзе не тая.

О, я ведаю трошкі гэтых людзей. Яны могуць усё зрабіць, абы застацца, абы ім слава была, абы не пусціць нічога лепшага за іхнія творы... Карпаў у параўнанні з імі нішто. Давядзецца змагацца некалі, давядзецца ачышчаць зноў Аўгіевы канюшні... Пакуль Я.Скрыган у рэдакцыі, яшчэ можна будзе неяк жыць, нешта рабіць. Але яму — 62 гады. А далей, далей што?

Уладу ў Саюзе ўзялі, а часопісы, выдавецтва аддаюць каму папала. Ці то не ведаюць людзей, ці то аслепленыя ўладай...

Ідзе новы, 1967 год. Пабачым, што ён наваражыць.

Пакуль жа што, хоць на дварэ адліга, на душы — холад, мароз...

**5.I.67 г.**

Барацьба вакол "Полымя" не затухае. Пакуль не зацверджаны Я.Казека, кожная групоўка хоча правесці свайго кандыдата. Былі П.Кавалёў, Н.Пашкевіч (ад ЦК) — іх, кажуць, спляжыў Я.Брыль. Кавалёў (я заходзіў да яго) як не плача — "сябра сям'і, колькі я зрабіў дзеля яго, а ён..." Няма ўжо і В.Віткі, Я.Скрыгана, А.Бачылы — іх не захацелі зверху. А.Бачыла некалькі дзён хадзіў як галоўны (ён сябра Казекі). Цяпер сціх — Казеку ніхто не заве на гутарку. А тым часам да ўлады ў "Полымя" рвецца Шамякін. Няйнакш, хоча згуртаваць сілы і на наступным з'ездзе штурмаваць Танка, Брыля.

І.Мележ у Маскве. Шамякін сядзіць дома. Панчанка таксама нешта хітрue.

А погалас ідзе — хутка здаўся Сакратарыят. Не так, не так трэба было, трэба было не аддаваць абы-каму "Полымя". "Полымя" — гэта агеньчык надзеі ўсёй Беларусі. Затушыць яго — распаліць зноў будзе нялёгка...

Пташнікаў таксама калоціцца: нехта на навагоднім вечары сказаў — не бойся, усё ў цябе будзе добра. А ён чуе — ці будзе добра. Пагаворваюць, што трэба ўзяць чалавека на пераклады — гэта значыць узяць Я.Семяжона (яны з Танкам жанатыя на сёстрах, ці што?). Семяжон партыйны, і тады ён загадчык. Адамчык таксама хоча ў "Полымя". Быў у Брыля, Танка, Панчанкі, Мележа. (...) Я.Скрыган гаварыў — не магу я раіць І.Пташнікава ў рэдкалегію. Буду раіць цябе. (Мяне.) Зноў усё пачынаецца нанова — аднойчы, вясною, мяне ўжо ставілі загадчыкам. Я адмовіўся. Ніхто зразумець мяне не хацеў, што мне не трэба ўлада, што я ўлады ніякай не хачу. Я хачу пісаць, пісаць сваё, тое, што ў мяне на душы. У "Полымі" ж я таму, што мне трэба недзе зарабляць сабе на хлеб. Мая задача — як можна далей быць ад улады, каб улада не перашкаджала працы. Я паспеў пераканацца ўжо — улада, як і п'янства, загубіла не адзін талент! Талент павінен быць незалежны, ён павінен думаць пра свае творы, а не пра штосьці другое.

Злуюся, што барацьба вакол "Полымя" займае і мае думкі. Я павінен быў думаць пра ненапісаныя старонкі. Апраўдваю сябе толькі тым, што "Полымя" вельмі важнае для справы Беларусі. Кожны куточак у ім не павінен трапляць у абы-якія рукі. Згубленага не вернеш. Але ні да каго не хаджу, нікому ні пра што не гавару. Хопіць і таго, што думаю пра ўсё. Дый куды ісці? Дзе той чалавек, да якога я пайшоў бы і пагаварыў?.. Кожны думае пра сябе... Можа, хто думае і пра справу, ды баіцца адкрыцца, як другі раз баюся адкрыцца і я. (...)

**26.І.67 г.**

Чытаю Р.Гарадзі. Гэта пасля чытання твораў Кафкі, Камю, Іянэску. Пераконвае. А раней яшчэ лепей пераканалі мяне самі творы гэтых пісьменнікаў — гэта мастацтва. Вялікае мастацтва, можа, вышэйшая нават ступень мастацтва. Сапраўды, творчасць — гэта не што іншае, як стварэнне свайго свету мастаком. Міфатворчасць, ці стварэнне, засяленне кавалачка зямлі, як гэта, напрыклад, зрабіў Фолкнер — над гэтым трэба яшчэ падумаць. Але і Кафка, і Камю, і Іянэску — гэта куды вышэй за ілюстратараў, натуралістаў, розных капіістаў. Не адлюстроўваць свет, што ты бачыш, а ствараць. Дый сапраўды, чаму я павінен пісаць толькі тое, што бачу, а не тое, што я ведаю пра тое, што бачу. Баюся толькі — гэтае высокае мастацтва астанецца для нас на некаторы час недасяжным. Вельмі ж далёка мы адсталі ад свайго часу, патрэбы дня зацямняюць і падаўляюць у нас творцаў. Мы павінны памагаць грамадству, і ўся гэтая помач, лічыцца, у тым, каб пісаць подпісы, ілюстрацыі да таго, што робіцца. Глядзець жа глыбока на ўсё — нельга, цябе не зразумеюць нават самі пісьменнікі. І яшчэ адно — каб усяму гэтаму мастацтву больш пачуццёвасці, "суперажывання". Сухаватае, завельмі "умозрительное". Камю ў "Чуме" больш пачуццёвы. У яго два светы — адзін як бы рэальны, а за ім стаіць яшчэ адзін свет, які ёсць. Ёсць усюды, дзе жывуць людзі, гэта як бы каркас, які аднолькава лажыцца, упісваецца ў любую сістэму. Тое ж у Кафкі, але ён больш стрыманы, сушэйшы. Музыкі б! Каб як на пласцінцы пішацца музыка, так за словам было запісана пачуццё "суперажывання". Уключыў "пласцінку" — і ты жывеш гэтым, хвалюешся...

Адмаўляць Кафку, Камю, Іянэску могуць толькі адпетыя дурні. Здаецца мне, што мастацтва далей будзе развівацца па дарозе, якую праклалі яны. Дый, можа, не яны, а Гогаль са сваім "Носам".

Трэба і сабе больш эксперыментаваць менавіта ў гэтым напрамку. Рэалістычнае мастацтва, як я пераканаўся, стаіць вельмі блізка да натуралізму, ілюстратарства. Ратавалі раней яго глыбіня, вобразы, тайнікі чалавечых душ. Цяпер ратуе крытыка сацыяльнага. Філасофіі ж няма. А без яе — творы бяскрылыя, аднадзёнкі. Не ўсе гэта бачылі, а эксперыменты нейкія я рабіў. І ў "Англіцкай сталі", дзе за кожным канкрэтным чалавекам і яго дзеяннем стаіць народ — Расія, Польшча, Беларусь і іншаземцы (Форстэр). Ёсць гэта і ў "Апошніх і першых", у малых апавяданнях.

**2.II.67 г.**

Глядзеў дакументальныя фільмы “Чурлёніс” і “Сезан”. І яшчэ больш пераканаўся: мастак — гэта свет, створаны яго фантазіяй. Няма свайго свету — няма і мастака. У мастака ўсё павінна быць сваё — і почырк, і манера пісьма, стыль, а галоўнае — свет, свет, свет. І пра гэта больш за ўсё трэба думаць мне цяпер. Баюся, што стварыць свой свет мне не ўдасца. Прычын на гэта многа — і тое, што ў нас разуменне мастацтва зусім іншае, чым павінна было быць на самай справе, роля мастацтва зведзена да ролі газеты, надзённасці, “прываднога паса партыі”. Ды па гэтым яшчэ можна было б жыць. Нельга жыць, не еўшы. А хлеб даюць нам толькі за тое, што лічаць патрэбным, што ў нас купляюць. І мы, ледзь толькі навучыўшыся вадзіць пяром, штампуючы, робім тое, што трэба нашым спажыўцам. Дзе там думаць аб вялікім, тым, што будзе хваляваць народ праз вякі!

І ўсё ж па меры сіл і здольнасцей трэба пра гэта думаць. Можа, прыклад Тырса дэ Маліна прыдасца: ён пісаў для царквы п’есу і п’есу для сябе, на хлеб і на вечнасць.

Не шкадую, што паглядзеў два фільмы. Можна было ісці на нараду — там нехта з тых, што кіруюць мастацтвам (сёння мастацтвам, а заўтра, можа быць, дворнікамі ці райпрамкамбінатам) — даваў нейкія ўказанні... (Ах, як падобна гэта на тыя ж дакументальныя фільмы, што я глядзеў у тым жа тэатры: у фільмах вядомыя дзеячы давалі такія ж, відаць, указанні італьянскім і нямецкім творцам... Там дзеячаў тых даўно няма, а ў нас жывуць, кіруюць... Кіруюць усім, чым можна кіраваць і чым нельга... Прыклад пакажа кіраўніцтва — артыкул у “Праўде” пра “Новый мир” і “Октябрь”.

І ўсё адно духам падаць не трэба. Трэба думаць, шукаць. А галоўнае — працаваць. Не думаць пра ўладу, прэміі, нават хлеб. Працаваць і працаваць. Толькі так нешта можна зрабіць...

**4.II.67 г.**

Учора пазваніла Сінельнікава. Адразу ж перайшла на “ты”, хаця ні яна мяне, ні я яе не ведаў. Сказала: тут, у Мінску, знаходзіцца інструктар ЦК КПСС і хоча са мной пагаварыць. Я прыйшоў. Размова не выйшла такой, як я хацеў. Калі я пра нешта адмоўнае пачынаў гаварыць, перабівала Сінельнікава. Дый што гэта за мода новая — выклікаюць і ўчыняюць новы допыт. Не саромеюцца нават спытацца, хто твой лепшы сябра, чаму ты не ў партыі і г.д. Трымаўся я ўвогуле нядрэнна, стараўся “аджартоўвацца” (“смешачкамі”). Шчыра гаварыць — толку няма, — не ведаеш, дзеля чаго ў цябе гэта пытаюць, навошта гэта трэба. У такіх выпадках лепей за ўсё, каб была бачнасць шчырасці... Што я думаю пра Броўку, пра новых сакратароў? Як моладзь жыве? Над чым працую? Аўтабіяграфічны момант у творчасці? Вельмі цікавіў я іх як асоба...

Дзень прайшоў — не магу супакоіцца. Хто падказаў ім са мною пагаварыць? Чаму менавіта са мною? Што яны хацелі выведаць? Навошта... Усе на мяне падазрона глядзяць — чаму і Мазураў мяне клікаў, і гэтыя? І кватэру мне ад ЦК далі — чаму? Сапраўды — чаму?.. І ніхто, відаць, не паверыць, што я і сам не ведаю — чаму ўсё гэта?

Адзінага баюся: каб куды-небудзь не вылучылі. Адмаўляцца — ох, як нялёгка гэта рабіць. Ісці ж — гэта развітвацца з творчасцю. А я ўсё ж хачу разабрацца, што такое літаратура, хачу нешта напісаць. Для гэтага ж патрэбныя час, незалежнасць, свабода... Дый хто я такі, каб некаму дыктаваць, некім кіраваць... Ставілі рэдактарам аддзела, я рашуча адмовіўся. І цяпер бачу — правільна зрабіў. Хоць грошай меней, затое свабоды больш, клопату менш. Часу на свае творы і так не хапае.

Калі думаеш пісаць — старайся быць далей ад улады. (...) Творы, творы трэба пісаць — вось што трэба. Гэта я ведаю. Ведаю добра.

А ў “Полымі” — хаос. Здымаем трэцюю частку рамана М.Лобана. Галоўліт. Ужо знялі аповесць А.Васілевіч. Цяпер — гэта. Не рэдактары цяпер мы, а цэнзары. Юбілейны год многім хочацца зрабіць ялейным. І бачу — зробяць.

**5.II.67 г.**

Газеты надрукавалі даклад П.Машэрава на Пленуме ЦК Беларусі. “Высокую ацэнку грамадскасці атрымалі раманы “Людзі на балоце” І.Мележа, “Вецер веку” І.Гурскага, драма-

тычныя творы і сцэнарыі К.Губарэвіча, грамадзянская паэзія П.Броўкі, М.Танка...” Вось так! Таленавітае побач з бяздарным. Колькі разоў ужо гаварылася, што кіраўнікам варта не гаварыць пра тое, чаго яны не ведаюць, калі яны толькі хочуць, каб іх паважалі. Упэўнены — калі б П.Машэраў чытаў І.Гурскага ці таго ж Губарэвіча, ён не назваў бы іх творы. А можа... Ліха ведае, усё можа быць. Далі ж прэміі Танку — разам з ім Панчанку і Няфёду. Падраўнялі... У такіх выпадках, відаць, варта сапраўдным пісьменнікам адмаўляцца ад прэмій. Пад рознымі прычынамі, калі нельга шчыра сказаць — такой прэміі я не магу браць, бо: 1) ёю ў свой час узнагароджваліся людзі, якіх я ніколі не лічыў і не магу лічыць за пісьменнікаў; 2) калі я прыняў гэтую прэмію, я зраўняўся і з тымі людзьмі, а я лічу сябе вышэй; 3) на мне і на другіх, падобных мне, Камітэт набівае сабе цану, каб даваць прэміі людзям, патрэбным дзяржаве, але недалёкім ад літаратуры і г.д. (...)

**6.II.67 г.**

Чутка прайшла: Казека рэдактарам у “Полымі” не будзе. Чавускі казаў, што бачыў у сквэрыку Танка. Ён быў сумнысумны. Выйшаў толькі з ЦК. “Хто рэдактар?” — “Відаць, Кавалёў...”

Калі гэта так, літаратуры на бліжэйшую пяцігодку не будзе. І “Полымя” таксама — Кавалёў яго “патушыць”. І так яно не надта гарэла, але хоць тлела. Я працаваў у Кавалёва ў “Вожыку”. Чалавек ён нядрэнны, жыць з ім можна. Але гэта ніякі не літаратар, нават не разумее, што такое літаратура. Творы яго — ніжэй крытыкі. І таму, відаць, іх ніхто асабліва і не крытыкаваў. А шкада. І.Гурскага не крытыкавалі, П.Кавалёва не крытыкавалі, і на іх робяць стаўку. Трэба было даваць фельетоны на іх творы, ганьбаваць — тады б сорамна было і тым, хто над намі, ставіць такіх людзей. А лепей — не друкаваць зусім іх твораў. Праўда, заўсёды стаіць пытанне — я іх хіба адкрываў, што мне трэба іх закрываць? А закрыць, не даць ходу такім — ніколі не позна. Выступіў бы Мележ, выказаўся б шчыра пра Гурскага, Кавалёва — і не трапілі б у даклад. Маўчанне, замоўчванне — не заўсёды лепшы сродак барацьбы...





Вельмі баюся, каб Кавалёў мяне не “падняў”. Рабіць тое, што ён будзе загадваць, ці змагу я. Пайсці ж з “Полымя” — куды? У “Полымі” хоць час вольны, можна сваё рабіць. У другім месцы і гэтага не будзе.

Памыліліся мы, што “пракацілі” П.Броўку. Хацелі яму хоць перад смерцю сказаць, што мы пра яго думаем. А выйшла што — няма “Маладосці”, няма і “Полымя”. Раней літаратура нейкая хоць была, часопісы былі. Цяпер — ёсць кіраўнікі, а кіраваць чым ім няма. (...) У Саюзе цяпер лепшыя пісьменнікі. А ім трэба быць ці за сваімі сталамі, ці за рэдактарскімі сталамі. З той работай, што яны робяць цяпер, справіліся б і не пісьменнікі, тэхнічныя сакратары.

Шкада “Полымя”. Шкада “Маладосці”. Шкада ўсёй беларускай літаратуры. Галоўнае — усё на ногі пачало было станавіцца. І так згубіць! Цяпер давядзецца ваяваць супраць лепшых нашых пісьменнікаў, хаця ўжо ведаем — не людзі вырашаюць усё, а месца. Трэба было, каб на месцы быў Броўка, — і ён быў. Цяпер з Танка хочуць зрабіць Броўку. І зробяць... Ужо, кажуць, ледзь вымову не далі за тое, што Саюз вылучыў на прэмію Быкава... Усе б’юць, крытыкуюць Быкава, Быкаў паводзіць сябе самастойна, а тут на́ табе — яго на прэмію.

Барацьба, што ідзе вакол “Полымя” і Саюза, захапляе і мяне. А трэба думаць пра другое — літаратуру, свае творы. А я ўжо дні чатыры нічога не пішу. А гэта — дрэнна. У галаву тады лезе абы-што. Трэба пісаць, пісаць не гледзячы ні на што...

**22.II.67 г.**

Два тыдні працаваў. Ішло някепска, увогуле davольны работай. Не так тым, што зроблена, як тым, што працаваў над прозай, а не займаўся розным глупствам.

Клікалі ў ЦК. Марцалеў. Гаварыў са мною 30 мінут. Гаворка была вельмі таварыская, сяброўская. Пытаўся пра работу ў “Полымі”, планы аддзела, пра некаторыя творы, што ёсць у партфелі. Потым даў пачытаць запіс перадачы радыёстанцыі “Свабода” па маёй апошняй аповесці. 5 старонак тэксту, хваляць мяне, з палітычнага боку адну толькі паметку зрабілі.

Заўсёды б так. А то калі палітычныя хібы знаходзяць *там*, нам нялёгка *тут*.

Развітаўся я з Марцалевым і падумаў — выклікалі не проста так, нешта трэба ад мяне, калі ўсюды завуць, выклікаюць. Перад гэтым быў на сустрэчы з фінскімі пісьменнікамі. Каб хаця падвышэння нейкага не прапанавалі! Выкручвацца будзе туга. Я хачу пісаць, толькі пісаць. Бо ў кіраўніцтве закруцішся — і бывай, проза.

Вылучылі дзве мае аповесці на прэмію. Прэміі, вядома, не дадуць, але, можа, лягчэй будзе выдаць кнігу, ганарару большага лягчэй будзе дабіцца. Каб не апошняе — зняў бы сябе з прэміі. Трэба не пра прэміі думаць, а пісаць, думаць, як лепш пісаць!.. (...)

**25.II.67 г.**

Сёння газеты надрукавалі Указ аб прысваенні званняў Героя Працы пісьменнікам. І, як заўсёды, побач з вартымі — кан'юнктуршчыкі, палітычныя прастытуткі. Карняйчук, Турсун-задэ, Тычына... Асабліва першы — што ён стварыў, астанецца пасля смерці ў яго хоць бы адзін радок? Быў бы сярод герояў і Броўка. З'езд адабраў у Броўкі гэтае званне. Забыты К.Паўстоўскі — адзін з найлепшых пісьменнікаў Расіі, жывы класік. Няма сярод узнагароджаных і Твардоўскага, Эрэнбурга. Усе яны вартыя такога звання. Некалі Горкага выкінулі з акадэмікаў Акадэміі славеснасці. Чэхаў і Караленка ў знак пратэсту выйшлі з ліку акадэмікаў. Цяпер гэтага ніхто не зробіць...

Танк казаў, што ў панядзелак вырашыцца справа з рэдактарам. У панядзелак, у 9 гадзін раніцы. Паглядзім, пачакаем — балазе, нядоўга чакаць...

**4.III.67 г.**

Зямля круціцца, падзеі адна змяняюць другую. Чутка пайшла — рэдактарам будзе І.Мележ. Больш дзвюх гадзін гаварыў са мною па тэлефоне. І хочацца, і колецца... Я на яго месцы нікуды б не пайшоў. Сядзеў бы і пісаў бы, рабіў тое, што трэба зрабіць. (...) Дый што можа быць лепшага ў пісьменніка, як праца над сваімі творамі? Улада? Але нашто яна пісьменніку — каб хіба толькі расправіцца са сваімі праціўнікамі? Слава? Але слава толькі тады будзе славай, калі яна трымаецца на нечым, калі яна не ліпавая... Вядома, для літаратуры, можа, лепей, што прыйдзе Мележ у часопіс. Траціць сябе ў імя нечага? Не напісаць свайго ў імя таго, каб нехта напісаў? (...)

На абмеркаванні прозы ў Саюзе многа было сказана добрага, разумнага. І ўсё ж багата тых, асабліва з крытыкаў, забываюць, што літаратура — гэта перш за ўсё чалавеказнаўства. Заклікаюць да праўды, смеласці, а не да глыбіні, да смелага падыходу да чалавека. У Расіі, а тым больш у Беларусі, (...) не было свабоды ў тым сэнсе, у якім яна была ў іншых краінах. Таму ролю “будзіцеляў” народных мас бралі на сябе літаратура, пісьменнікі. Цяпер таксама на літаратуру многія ўскладаюць тыя ж надзеі. Але літаратура — гэта перш за ўсё чалавек, а потым ужо грамадскія, сацыяльныя канфлікты. Ні Радзішчаў, ні Чарнышэўскі, ні Сляпцоў, Рашэтнікаў, Успенскі не сталі для свету тым, кім сталі Талстой, Дастаеўскі, Фет, Блок і г.д. (...) Не было б у Шолахава Аксінні, Наталлі, Мелехава, не было б станіцы з яе бытам, прыродай, людзьмі, не было б і “Тихого Дона”. Задача: думаць пра чалавека, пісаць чалавека. Не месца робіць чалавека, а чалавек — месца...

**11.III.67 г.**

Аналізуючы многія творы нашай літаратуры, прыходжу да высновы, што адна з прычын іх слабасці — няма гістарызму, глыбіні. Героі паяўляюцца ў творах “бязродныя” — чытач не ведае нічога ні пра іх бацьку, маці, дзеда, прадзеда, не ведае ён нічога і пра тую зямлю, дзе пасяляюцца героі, — як тут нехта жыў да яго, якая сама была тады зямля. Пісьменніку абавязкова трэба адчуваць, ведаць, што да яго жылі людзі на зямлі, што тыя людзі цяпер — косці, тлен і што ён сам будзе хутка касцямі, тленам. Мала таго — у творах павінны быць нейкія і касмічныя парывы, парывы ў будучыню, прастор, адным словам, павінна быць праекцыя і ў мінулае, і ў будучыню. Гэта ёсць ва ўсіх лепшых творах — у Чорнага, у “Ціхім Доне”, у Л.Талстога, Чэхава, Фолкнера, Лермантава, Пушкіна і г.д. Без гэтага няма добрага твора.

Глядзець калі не на пяць вякоў наперад і ўглыб, дык хаця на пяць пакаленняў!

Рэдактара ў нас няма. Ды ніхто і не гаворыць пра рэдактара. Надакучыла, абрыдла. Дый пра нішто ніхто не гаворыць. Юбілейны год. Кожны думае пра нешта сваё. З аднаго боку, гэта добра, з другога — не зусім.

**12.III.67 г.**

Гаварыў з М. Аказваецца, супраць яго павялі атакі. (...) Усё залежыць цяпер будзе ад ЦК і самога М. (...)

Няма пакуль што асобы, якая б з'яднала ўвесь Саюз. Броўка адышоў, але многа вельмі людзей, якія хочуць Броўкі. Калі не старога, то новага. (...)

*Працяг будзе.*

**Падрыхтавала да друку**
**Святлана САЧАНКА.**